N 4-5

# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН
НАРКАМАСЬВЕТЫ І САЮЗУ ПРАЦАСЬВЕТЫ БССР

БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1932

## ЗЬМЕСТ

Стар.

Задачы культурнага будаўніцтва ў 2-ой пяцігодцы (Даклад НКАсьветы БССР тав. Платуна на сэсіі ДВС НКА) . . . . . 3
Ул. Хомо. Да перабудовы працы часопісу „Кам. Выхаваньне" . . . . . 13

I

За марксыцка-ленінскую тэорыю ў пэдагогіцы

П. Панкевіч. Супроць антыленінскай тэорыі „адміраньня школы" (*працяг*) . . . 18

II

За тэхніку пэдагагічнага працэсу

М. Лазарэнка. Асноўныя прынцыпы пабудовы вучэбна-вытворчых плянаў і праграм у с.-г. ВНУ і тэхнікумах . . . . . 36
Ю. Тупяневіч. Разьвіцьцё пісьмовае мовы ў I групе сямігодкі . . . . . 41
А. Сабалеўскі. Арганізацыя палітэхнічнага навучаньня ў пачатковай школе . . 50
З. Суботіна. „Лясная школа" . . . . . 55
Д-р Цыпкін і мэтадыст Д. Лавейка. Прафіляктычная карэгіруючая гімнастыка ў палітэхнічнай школе і яе значэньне ў барацьбе са скрыўленьнямі пазваночніка . . . . . 70
В. Самцэвіч. Школы—у дасьледчы паход за сыравінай для прамысловасьці . . 75

III

Абмен вопытам працы

Войтко. Твар вясковае школы (з вопыту працы школ Хацюхоўскага с-с, Крупскага раёну) . . . . . 79
А. Сабалеўскі і М. Раецкі. Работа Менскай 20-ай ФЗС . . . . . 90
З. Сташонак. Школы Церахоўшчыны сёньня . . . . . 93

IV

За пэдагагічныя кадры

М. Кузьняцоў. Аб становішчы і якасьці выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах (*канец*) . . . . . 102
М. Лазарэнка. Аб працы Стара-Барысаўскага сьвінагадоўчага і Марына-Горскага садова-гароднага тэхнікумаў . . . . . 106

V

Крытыка і бібліяграфія

Ул. Гесэн. Супроць меншавіцка-трацкісцкай кантрабанды . . . . . 111

VI

Хроніка . . . . . 120

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ



№ 4-5 КРАСАВІК—МАЙ № 4-5

МЕНСК   БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА   1932



# Задачы культурнага будаўніцтва ў 2-ой пяцігодцы

*(Даклад Народн. Камісара Асьветы БССР тав. Платуна на 1-ай сэсіі ДВС НКА)*

Пытаньне культурнае рэвалюцыі стаіць зараз надзвычайна востра перад усёй рабочай клясай, перад усімі працоўнымі Савецкага Саюзу.

Гэтае пытаньне займае надзвычайна вялікае месца ў шэрагу партыйных дакумантаў асабліва апошняга часу, дзе пытаньне культурнае рэвалюцыі высоўваецца нашай партыяй як адно з першачарговых пытаньняў агульнага сацыялістычнага будаўніцтва.

Я вам напомню толькі некалькі дырэктыў, якія даны у гэтай галіне камуністычнай партыяй, Нядаўна адбыўся пленум ЦК і ЦКК КП(б). Вы усе напэўна чыталі і прапрацоўвалі рашэньні гэтага пленуму, які паставіў перад культасьвет працаўнікамі ў першую чаргу і перад усёй рабочай клясай надзвычайна вялікія і складаныя задачы—ажыцьцяўленьне культурнае рэвалюцыі. Для выкананьня гэтых пастаноў патрэбна мабілізацыя ўсіх працоўных Савецкай Беларусі.

Галоўнае пытаньне ў культурнай рэвалюцыі гэта—ліквідацыя няпісьменнасьці. У свой час Ленін па пытаньні аб культурнай рэвалюцыі і ліквідацыі няпісьменнасьці гаварыў наступнае: „...я магу сказаць, што пакуль у нас ёсьць у краіне такое зьявішча, як няпісьменнасьць, аб палітычнай асьвеце надта цяжка гаварыць. Гэта ня ёсьць палітычная задача, гэта ёсьць умова, без якой аб палітыцы нельга гаварыць. Няпісьменны чалавек стаіць па-за палітыкай, яго спачатку трэба навучыць азбуцы. Бяз гэтага ня можа быць палітыкі, бяз гэтага ёсьць толькі чуткі, плёткі, казкі, забабоны, але не палітыка“.

Яшчэ задоўга да нашага часу—завяршэньня фундамэнту сацыялістычнай эканомікі, калі мы ўжо ўступілі ў пэрыяд сацыялізму, Ленін ставіў пытаньне аб тым, што неабходна ў першую чаргу пачаць з рашаючага—ліквідацыі няпісьменнасьці, паказваючы нам, што толькі справіўшыся з ёю, мы зможам поўнасьцю актыўна і сьвядома ўключыць у творчы працэс сацыялістычнага будаўніцтва шматмільённыя працоўныя масы.

Апрача гэтай ленінскай дырэктывы аб усеагульнай пісьменнасьці, як вядома, была дана дырэктыва XVI Парт. зьездам калі ўвесь Савецкі Саюз, на падставе вялізарных посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва ўплатную прыступіў да справы правядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня. На гэтым зьезьдзе т. Сталін асабліва падкрэсьліў вялізарнасьць задач, стаячых перад намі ў галіне культурнае рэвалюцыі і асабліва ў справе першапачатковага навучаньня. „Галоўнае цяпер“ — гаворыць т. Сталін,—гэта перайсьці на абавязковае, першапачатковае навучаньне. Я гавару „галоўнае“, бо гэткі пераход азначаўбы рашаючы крок у справе культурнае рэвалюцыі. А перайсьці да гэтае справы даўно пара, бо мы маем цяпер усё неабходнае для арганізацыі ўсеагульнага першапачатковага навучаньня ў падаўляючай большасьці раёнаў у СССР. Да гэтага часу мы вымушаны былі эканоміць на ўсім, нават на школах „для таго, каб выратаваць, аднавіць цяжкую прамысловасьць“ (Ленін). За апошні час, аднак, мы ўжо аднавілі цяжкую прамысловасьць і рухаем яе далей. А таму настаў час, калі мы павінны ўзяцца за

арганізацыю ўсеагульнага абавязковага, першапачатковага навучаньня".

Якія-ж дасягненьні мы маем у сувязі з уступленьнем народнае асьветы у другую пяцігодку і выкананьнем тых задач, якія стаяць у галіне культурнага будаўніцтва ў сувязі з пэрспэктывамі другой пяцігодкі сацыялістычнага будаўніцтва?

Гэтыя дасягненьні вялізарнейшыя. Да 1-га мая мы ставілі сабе задачай зрабіць БССР краінай суцэльнай пісьменнасьці. У асноўным мы з гэтай задачай з посьпехам справіліся. На сёняшні дзень у нас налічваецца толькі да 50.000 няпісьменнага насельніцтва, што складае ў адносінах да ўсяго насельніцтва 50-ці гадавога узросту каля 2% няпісьменных.

Каб уявіць сабе, што гэта значыць, трэба мець на ўвазе, што Беларусь атрымала спадчыну ад царызму 70% няпісьменнага працоўнага насельніцтва, а зараз у нас засталося толькі 2%. Такім чынам, мы з поўным правам можам сказаць, што зараз БССР зьяўляецца ў асноўным краінай суцэльнай пісьменнасьці.

Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва зявязаны з уключэньнем у актыўную працу шматтысячнай масы працоўнага насельніцтва, а гэта можна было зрабіць, паставіўшы задачы культурнай рэвалюцыі,ператварыўшы ў жыцьцё ленінскую думку аб тым, што рашаючым ва ўсім працэсе культурнае рэвалюцыі зьяўляецца ліквідацыя няпісьменнасьці, і гэта зразумела, бо шырокія працоўныя масы ня могуць сьвядома і актыўна будаваць сацыялізм, будучы няпісьменнымі.

Зараз мы маем разгортваньне і пашырэньне культурнае рэвалюцыі, усё большы і большы ахоп ёю мільённых працоўных мас. У розных зьвеньнях школ і курсах зараз навучаецца каля 2-х мільёнаў чалавек. Каб уявіць сабе тое, што гаворыць гэтая лічба, трэба мець на ўвазе, што ў БССР усё насельніцтва складае 5.200.000 чалавек. Выходзіць, што з іх мы навучаем у розных школах, як па лініі НКА, так і па іншых камісарыятах (акрамя клюбных гурткоў і г.д.)-каля 40 проц. усяго насельніцтва БССР.

Такі размах працы зразумела патрабуе вялікіх бюджэтных асыгнаваньняў. Урад БССР адпускае надзвычайна вялікія выдаткі на справу нарасьветы. Каштарыс па нарасьвеце складаецца з 126 мільёнаў рублёў, што да ўсяго каштарысу дае звыш 35 проц. удзельнай вагі ува ўсім бюджэце, а калі мы возьмем нашу масавую асьвету ў раёне, дык там 47 проц. раённага бюджэту ідзе на народную асьвету. Гэта значыць, што палова ўсіх выдаткаў па раённым каштарысе ідзе на справу народнае асьветы, на справу культурнае рэвалюцыі. Калі-ж улічыць, што гэта толькі бюджэтныя асыгнаваньні, у якія ня ўключаны сродкі прамысловасьці, каапэрацыйных, прафсаюзных і іншых арганізацый, якія таксама складаюць не адзін дзесятак мільёнаў рублёў і якія таксама ідуць на справу нарасьветы, дык уявеце сабе, якія вялізарнейшыя сумы выдаткуюцца на справу нарасьветы.

У гэтым годзе заканчваецца ўсеагульнае навучаньне за першапачатковую школу. Увялі, бадай што, у палове БССР усеагульнае навучаньне за 7-мі гадовую школу. З 1932/33 году ўводзім усеагульнае навучаньне за 7-мі годку па ўсёй БССР.

Нашы культурныя мерапрыемствы забясьпечваюць абслугоўваньне культурных патрэб усіх нацыянальнасьцяй, якія жывуць у БССР на іх роднай мове, і гэта зьяўляецца стымулам, які дае магчымасьць шпаркімі тэмпамі будаваць нашу культуру і падымаць працоўныя масы пад сьцягам кампартыі на барацьбу за культурную рэвалюцыю.

Надзвычайна цікавыя лічбы я хачу прывесьці Вам аб ходзе ўсеагульнага навучаньня ў аднэй капіталістычнай краіне, нашай суседцы Польшчы. Згодна прыведзеных у газэтах „Кур'ер палескі" і „Жэч паспаліта" дадзеных, у Заходняй Беларусі і ў Палесьсі наведваюць школу толькі 30-35 проц. тых, якія павінны былі-б абавязкова яе наведваць. Аднэй з сур'ёзных прычын гэтага зьяўляецца тое, што ў Заходняй Беларусі, як вядома, не засталося ніводнай беларускай школы, дзе беларускае насельніцтва магло-б атрымліваць веды на

сваёй роднай мове. Палёнізацыя ідзе ва-ўсю і малейшыя праявы жаданьня да арганізацыі школ—беларускіх, яўрэйскіх ці іншых, душацца, як супрацьдзяржаўныя, і звычайна падводзяцца пад бальшавіцкую агітацыю. Ня прыходзіцца таксама гаварыць і аб тым, што і маючыяся ў Польшчы школы знаходзяцца ў значным матар'яльным занядзе, бо там замест асыгнаваньняў на школы, надзвычайна вялікія сродкі асыгноўваюцца, як вы ведаеце, на вайну і на падтрыманьне і ўзмацненьне рэлігійнасьці, г. зн. на зацямненьне сьвядомасьці працоўных мас.

Увогуле, на 1931 г. на падтрыманьне і разьвіцьцё рэлігіі польскім бюджэтам асыгнавана 26 мільёнаў злотых. На гэтыя 26 мільёнаў злотых утрымліваюцца толькі рымска-каталіцкія сьвяшчэньнікі ў колькасьці 14121 чал., ня кажучы аб праваслаўных, магамэтанскіх, эвангеліцкіх і г.д.

У нас, у БССР, каля 20,000 настаўнікаў сапраўды нясуць асьвету працоўным масам, вядуць актыўную барацьбу за культуру, за сац. будаўніцтва; у іх, у Польшчы, каля 20.000 чорнай сотні зацямняе сьвядомасьць працоўных мас і глушыць усякія праявы, накіраваныя да іх нацыянальнага і рэвалюцыйнага вызваленьня.

Надзвычайна вялікіх посьпехаў мы дасягнулі ў галіне падрыхтоўкі кадраў. Маем 27 вышэйшых і звыш ста сярэдніх навуч. установ з лікам студэнтаў каля 50 тыс. чал. Усяго гэтага мы дасягнулі дзякуючы Кастрычнікавай Рэвалюцыі, дзякуючы перамозе рабочае клясы над буржуазіяй, дзякуючы правільнай генэральнай лініі партыі і правільнаму правядзеньню на практыцы ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Надзвычайна вялікія пэрспэктывы ў справе культурнага будаўніцтва Народным Камісарыятам Асьветы намячаюцца ў другую пяцігодку. Пачынаючы з 1932/33 году мы ўжо можам паставіць сабе задачу ўвядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня за 7-гадовую школу і прыкладна з 1933/34 году пачаць ужо ўводзіць ўсеагульнае абавязковае навучаньне за 10-ці годку, г. зн. ужо паставіць пытаньне аб ажыцьцяўленьні праграмы партыі, аб тым, каб даць палітэхнічную асьвету дзецям да 17-ці гадовага ўзросту.

Надзвычайна вялікае пытаньне—гэта пытаньне падрыхтоўкі кадраў. XVII партканфэрэнцыя паставіла перад намі, побач з іншымі задачамі, таксама задачу падрыхтоўкі пэўнай колькасьці і якасьці кадраў. Дырэктыва XVII партканфэрэнцыі яскравая: ні ў якім разе ня толькі ня зьніжаць кваліфікацыю кадраў, а дабіцца ўсваеньня асноўных дасягненьняў сусьветнай навукі і тэхнікі. Такім чынам, перад намі стаіць надзвычайна вялікая задача падвышэньня тэмпаў падрыхтоўкі кадраў і разам з тым паляпшэньня якасьці работы нашых навучальных устаноў, якія рыхтуюць гэтыя кадры.

Той надзвычайна вялікі размах, які мы зараз маем у падрыхтоўцы кадраў на сёняшні дзень,—нас задавальняе ня больш, як на 50 проц. Ня трэба забываць, што мы ставім сваёй задачай заканчэньне тэхнічнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі ў 1937 годзе, а гэта значыць, што як Наркамасьветы, так і ўсе органы, якія рыхтуюць кадры, павінны ў сваю чаргу паставіць сваёй задачай поўнае і бесьперабойнае забесьпячэньне тэхнічнымі кадрамі гэтага працэсу рэканструкцыі народнае гаспадаркі. Бяз тэхнічных кадраў нельга, альбо ва ўсякім разе, цяжка забясьпечыць нармальны ход і разьвіцьцё тэхнічнае рэканструкцыі народнае гаспадаркі. На гэта асабліва ўказвае XVII Парт. канфэрэнцыя. „Ажыцьцяўленьне задач поўнай тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі непарыўна зьвязана са справай аўладаньня тэхнікай нашымі гаспадарчымі кадрамі, з стварэньнем шырокіх, новых кадраў уласнай тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочых і сялян і з рашучым падняцьцем культурнага ўзроўню ўсёй масы працоўных. Колькасны рост тэхнічных кадраў у Савецкім саюзе ні ў якай меры не павінен зьніжаць значэньня пытаньня аб іх навуковай кваліфікацыі, аб абавязковасьці належнага засваеньня імі ўсіх асноўных дасягненьняў сусьветнай навукі і тэхнікі. Рашэньне праблемы тэхнічных кадраў ёсьць важнейшы эле-

мэнт бальшавіцкага ажыцьцяўленьня задач культурнае рэвалюцыі і пасьпяховага будаўніцтва сацыялізму. Усямернае паскарэньне ажыцьцяўленьня ўсеагульнай пісьменнасьці насельніцтва, хутчэйшае падняцьце усёй справы тэхнічнай асьветы і ўзмоцненае матар'яльнае падтрыманьне дзяржавай разьвіцьця навукі ў СССР— такавы бліжэйшыя задачы, якія прадстаўляюць сустаўную частку агульнай задач пабудовы сацыялізму ў нашай краіне“.

Выходзячы з гэтага, пленум ЦКК і ЦК КП(б)Б, даў нам дырэктыву, каб да канца пяцігодкі поўнасьцю забясьпечыць народную гаспадарку кадрамі сярэдняй і вышэйшай кваліфікацыі. Што-ж датычыцца кадраў масавай кваліфікацыі, то мы маем дырэктыву пленуму ЦК і ЦКК КП(б) аб тым, каб дабіцца засваеньня пэўнага мінімуму тэхнічных ведаў усімі працоўнымі БССР. Гэта азначае, што мы стаім напярэдадні абявязковага тэхнічнага і агратэхнічнага навучаньня ўсіх працоўных. Задача гэта надзвычайна складаная, але без вырашэньня яе нам няжка будзе ісьці ўперад з такімі посьпехамі, якія нам патрэбны, з тымі тэмпамі, якія нам прад'яўляюцца для ажыцьцяўленьня другой пяцігодкі. А ў сувязі з гэтым, органам асьветы прад'яўлены сапраўды вялікія запатрабаваньні ў галіне падрыхтоўкі і ўзмацненьня росту пэдагагічных і нагогул культурна-асьветных кадраў, якія-б маглі з посьпехам выканаць тыя вялізарнейшыя задачы, што пастаўлены ў сучасны момант. У гэтых адносінах мы ўжо дасягнулі значных, як колькасных, так і якасных паказчыкаў. Нашы кадры выкоўваюцца ў жорсткай клясавай барацьбе з варожай ідэалёгіяй. Культурна-асьветны фронт прадстаўляе сабой адзін з франтоў жорсткай клясавай барацьбы, і ў другой 5-годцы яшчэ „няўнікнёна абвастрэньне клясавай барацьбы ў асобныя моманты і асабліва ў асобных раёнах і паасобных вучастках сацыялістычнай будоўлі“... XVII Партканфэрэнцыя, падкрэсьліваючы гэта азначае—„нямінучасьць захаваньня, а ў некаторых выпадках і ўзмацненьня буржуазных уплываў на асобныя слаі і групы працоўных, нязьбежнасьць, яшчэ на працягу доўгага часу, пранікненьня чужых пролетарыяту клясавых уплываў у асяродзьдзе рабочых і нават у партыю. У сувязі з гэтым перад партыяй стаіць задача ўзмацненьня пралетарскай дыктатуры і далейшага разгортваньня барацьбы з апартунізмам і асабліва з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе“.

Намячаючы перспэктывы разьвіцьця народнае асьветы ў другую пяцігодку у БССР, мы павінны выходзіць з гэтых дырэктыў партыі, змагацца за лінію партыі ў галіне культурнага будаўніцтва, за бальшавіцкую пільнасьць і партыйную ваяўнічасьць па ўсіх пытаньнях культурнай рэвалюцыі. Да гэтага часу ў нашых культурна-асьветных установах, як і ў іншых галінах сацыялістычнага будаўніцтва меліся і маюцца адчыненыя і завуляваныя вылазкі клясавага ворагу, які вядзе падрыўную работу супроць усеагульнага навучаньня, супроць ліквідацыі няпісьменнасьці. А хаця-б зрыў забесьпячэньня настаўніцтва нават у паасобных калгасах, ці гэта ня ёсьць пэўная форма праявы кулацкай актыўнасьці ў барацьбе супроць культурнага будаўніцтва. Урэшце, у саміх школах, маюцца варожыя вылазкі як сярод вучняў, іх бацькоў, так і настаўніцтва. Больш-менш яскрава акрэсьленыя праявы ідэолёгічнай варожасьці ідуць па лініі культываваньня ў школах розных шавіністычных настрояў. Ужо самы факт цярпімых адносін да праяў сярод настаўніцтва, ці сярод вучняў вялікадзяржаўнага расійскага ці беларускага шавінізму і нацыянал-дэмакратызму ня можа быць прызнаны нармальным зьявішчам, але-ж мы яшчэ маем выпадкі такіх адносін.

Барацьба супроць вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, павінна стаць у галіне культурнага будаўніцтва ў наш час ва ўсім сваім аб'ёме. Гэтым, зразумела, ні ў якім разе не павінна быць зьнята з парадку дню барацьба з беларускім шавінізмам, нац.дэмократызмам, а ў роўнай меры з шавінізмамі розных масьцей і колераў і ўсякімі відамі прымірэнцтва да іх. Бязумоўна, зусім памылкова было-б думаць, што з пакараньнем і раз-

громам контр-рэволюцыйнае беларускае нацдэмаўскае групы—беларускі шавінізм і нацдэмократызм ёсьць справа мінулага. Такая пастаноўка пытаньня падмяняла-б марксыцка-ленінскае разуменьне сапраўднасьці—бяспрадметным словаўбаюківаньнем. Яна хутчэй была-б да твару абыватэлю, чым бальшавікуленінцу, бо яе клясавая сьлепата мяшала-б нам бачыць сапраўдныя, сацыяльныя карэньні беларускага шавінізму... Яна, такім чынам, раззбройвала-б нас у барацьбе з ім, зацямняла-б яснасьць клясавага сузнаньня пралетарыяту, прытупляла-б яго клясавую пільнасьць, памяншала-б яго рэвалюцыйную баяздольнасьць у змаганьні, як з вялікадзяржаўным, так і з беларускім шавінізмам і нацыянал-дэмакратызмам.

Пакуль існуюць клясы, будуць пэўныя падставы да праяў шавіністычных настрояў і пэўнай варожасьці іх палітыцы Савецкай ўлады і Камуністычнай партыі. Ня дзіўна таму, што ліквідацыя кулацтва была разам з разгромам нац.-дэмакратызму. Аб гэтым вельмі яскрава заяўляе адзін з нацдэмаў Трамповіч.— „Першыя удары—гаворыць ён, па кулацтве адразу задзелі Лёсіка, Смоліча і др., пачалася нацыяналізацыя, і трывога за свае дамы зацямніла ўсе іншыя інтарэсы. Само сабой зразумела, што ў гэтай групе ніякага савецкага энтузыязму быць не магло. Спачатку шапатком, потым гучней і гучней ішлі размовы аб апошніх днях Сав. улады, аб тым, што народ ня сьцерпіць гэтых мерапрыемстваў, размовы аб інтэрвэнцыі і вайне. Тут ужо было не да беларускай культуры, не да лёсу беларускага народу. Інтарэсы ўласьнікаў аказаліся вышэй ўсяго“.

Вось яскравы прыклад, як нацдэм Трамповіч малюе нацдэмаў.

Шмат у каго яшчэ ўтрымліваюцца прадстаўленьні, што нібы-та нацдэмы вядуць і вялі барацьбу за разьвіцьцё беларускай культуры, у асаблівасьці беларусізацыі і г. д. Па сутнасьці-ж яны былі найвялікшым тормазам на шляху сапраўднага разьвіцьця беларускай культуры, цягнулі яе назад. Асабліва паказальным зьяўляецца ў гэтых адносінах тое, што ранейшая пяцігодка культурнага будаўніцтва БССР, складзеная нацдэмаўскім кіраўніцтвам НКАсьветы, яскрава вяла разьвіцьцё беларускай культуры па „патухаючай крывой“. Згодна намячаемым ёю пэрспэктывам, вышэйшая і сярэдняя асьвета забясьпечвалася толькі для заможных і буржуазных пластоў насельніцтва, з тэндэнцыёзна-зьменшаным лікам прыёмаў ў ВНУ і тэхнікумы. І толькі разьбіўшы нацыянал-дэмакратызм і жорстка змагаючыся з ім і надалей,—мы забясьпечым сапраўдны росквіт беларускай нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьмесьце культуры і сапраўдныя рэвалюцыйныя бальшавіцкія тэмпы яе росту. Толькі зламаўшы тыя перагародкі, якія ставіліся нац. дэмакратамі для разьвіцьця беларускай культуры, мы за два гады бальшавіцкіх тэмпаў пяцігодкі змаглі ажыцьцявіць тое, што „куцая“, шкодніцкая, нацдэмаўская пяцігодка намячала ажыцьцявіць за 5 год. Згодна іх пэрспэктыўных плянах заканчэньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня прыстасоўвалася да 1934 году. Мы-ж, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, няўхільна ажыцьцяўляючы яе дырэктывы, у жорсткай барацьбе з нац. дэмакратамі, за бальшавіцкія тэмпы, за сапраўднае разьвіцьцё беларус. пралетарскае культуры,—у асноўным закончылі яго, на базе 4-х гадовай пачатковай школы у 1932 годзе і цяпер ставім задачай працягваньне ўсеагульнага навучаньня на базе 7-годкі. У бязьлітасным змаганьні супроць вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе і нац. дэмакратызму, мы маглі разьвіць нячуваныя тэмпы ў працы і дасягнуць найвялікшых посьпехаў у ажыцьцяўленьні культ. рэвалюцыі.

Возьмем узрост культурна-бытавых і дашкольных установ. Да канца пяцігодкі яны павінны былі ахапіць 6 проц. дзяцей дашкольнага ўзросту, а ўжо ў гэтым годзе яны ахапляюць 50 проц. Да канца пяцігодкі мы павінны былі мець ва ўсіх рабфаках 3000 чал., а ў гэтым годзе мы маем 15.000

Відавочна цяпер, які кошт нацдэмаўскаму ратаваньню за беларускую культуру, за беларускі народ, за беларусізацыю. Іх рух не за культуру шырокіх

працоўных мас, а супроць яе. Яны ішлі за культуру, верна, але за культуру буржуазную, за культуру для кулака і нэпмана, а не за тую сапраўдную нацыянальную па форме і сацыялістычную па зьмесьце культуру, аўладаць якой імкнуцца працоўныя масы Беларусі.

Мы дасягнулі вялікіх посьпехаў па культурным будаўніцтве. Колькасныя паказчыкі нашай працы добрыя. У гэтых адносінах мы цалкам выканалі дырэктывы партыі і можам прама сказаць, што з пастаўленымі перад намі задачамі ў галіне ўсеагульнага навучаньня, усеагульнай пісьменнасьці і падрыхтоўкі кадраў, мы справіліся да канца першай пяцігодкі. Аднак, колькасныя паказчыкі неабходна яшчэ аздобіць і ўмацаваць бальшавіцкай якасьцю. У гэтых адносінах перад намі ў сучасны момант, у зьвязку з пэрспэктывамі другой пяцігодкі, намечанымі XVII парт. канфэрэнцыяй і XIV зьездам КП(б)Б,—стаяць вялізарнейшыя задачы. Нам неабходна ўзмацніць накіраванасьць культурнай-рэвалюцыі на шлях разгорнутага наступу на капіталістычныя элемэнты ў горадзе і вёсцы, на іх канчатковую ліквідацыю, на пабудову бясклясавай, сацыялістычнай грамады, на працэс ператварэньня ўсяго працоўнага насельніцтва ў сапраўдных і актыўных будаўнікоў гэтай грамады. Барацьба за якасьць нашай працы зьяўляецца цяпер аднэй з самых галоўных задач культурнага будаўніцтва. Гэта асноўная задача, аднак, не павінна паслабіць тэмпаў росту і разьвіцьця культурна-асьветных устаноў. Дзеля таго, каб абслужыць вялізарнейшыя патрэбы сацыялістычнага будаўніцтва, мы павінны барацьбу за якасьць злучыць з барацьбой за тэмпы.

Наша школа ставіць перад сабою задачу выхаваньня нятолькі здольнагапрацаўніка, але і актыўнага, сьвядомага рэвалюцыйнага барацьбіта за сацыялізм. Вы, зразумела, памятаеце адпаведны пункт праграмы камуністычнай партыі, які гаворыць, што школа павінна быць ня толькі праваднікам прынцыпаў сацыялізму наогул, але і арганізатарам выхаваньня і ўплыву пралетарыяту на поўпралетарскія і непралетарскія масы, каб выхаваць пакаленьне, якое здольна зьнішчыць капіталізм і канчаткова ўстанавіць камунізм. Да гэтага часу якасьць работы нашых школ яшчэ ня ўзвысілася на вышыню пастаўленых перад ёю задач праграмай камуністычнай партыі. Праўда, нельга сказаць, што у нас наогул усё нікуды ня варта, усё дрэнна. Мы маем значныя палепшаньні якасьці работы нашых сярэдніх школ і вышэйшых навучальных устаноў у параўнаньні з узроўнем іх працы хаць-б чатыры гады таму назад, не гаворачы ўжо аб узроўні працы старой, дарэвалюцыйнай школы, з якой мы, бязумоўна, ня можам нават параўняць нашу школу, у сувязі з яе зусім іншым прынцыповым зьместам. Аднак, сказаць, што мы ўжо дасягнулі цалкам вышэйшых якасных паказчыкаў яе працы,—нельга. Таму, зусім правільным зьяўляюцца гістарычныя рашэньні ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б) Б аб школе, якія адчыняюць новы этап у разьвіцьці нарасьветы, завастраюць увагу на якасьці работы нашых школ. Нельга забываць, што масавая школа цягне за сабой і ўсе астатнія зьвеньні школы і што, калі мы перабудоўваем масавую школу, мы адпаведным чынам павінны перабудоўваць сярэднюю і вышэйшую школу, якая рыхтуе (асабліва пэдагагічныя навучальныя установы) кадры для гэтых школ. Тут павінна быць пэўная ўвязка. Таму рашэньне ЦК аб масавай школе самым непасрэдным чынам датычыцца сярэдняй і вышэйшай школы.

Ад пытаньня аб якасьці вучобы і працы, нельга адарваць пытаньне, асабліва завостранае лістом т. Сталіна—аб партыйнасьці вучобы. Барацьба за партыйнасьць навукі павінна ўзьняць якасьць нашай вучобы на вышыню, на якую яна да гэтага часу ня ўздымалася.

Трэба сказаць, што змагаючыся за якасьць работы нашых масавых школ, органы нарасьветы, на чале з Народным Камісарыятам Асьветы, разам з тым дапусьцілі і вялікую памылку ў зьмесьце працы школы, якая павяла да зьніжэньня якасьці ведаў у сярэдняй і масавай школах і гэтым самым затармазіла падрыхтоўку кадраў, аб чым з усей яскравасьцю сказана ў пастанове ЦК аб школе. На гэтай памылцы, ужо зараз выпраў-

ленай, дастаткова завастралася ўвага, як нашым друкам, так і ўсёй пралетарскай грамадзкасьцю. Дрэнная якасьць вучобы, ва ўмовах слабай працы асобных зьвеньняў нарасьветы, асабліва масавых, а часткова сярэдніх і вышэйшых навучальных установ, прывяла да асобных выпадкаў надзвычайнай няпісьменнасьці вучняў і студэнцтва. Народным камісарыятам Асьветы зарэгістраваны рад бяспрыкладных узораў гэтай няпісьменнасьці, асабліва ў час правядзеньня ў ВНУ месячніка праверкі беларусізацыі. Прывяду некалькі прыкладаў: калі задалі аднаму студэнту пэд. установы пытаньне „Што такое карэнізацыя апарату",—ён сказаў — „Што нельга да беларускіх слоў прыстаўляць канцоўкі чужаземных слоў". Калі задалі пытаньне, як разумець ленінскую думку: „У кожнай нацыі ёсьць дзьве нацыі", — студэнт сказаў, што сэнс гэтага пытаньня заключаецца ў тым, што калі, напрыклад, калі беларус жэніцца на яўрэйцы—гэта і будзе тое, што ў кожнай нацыі ёсьць дзьве нацыі. Пры праверцы пісьмовых работ у аднаго студэнта, здаецца будаўнічага ці энэргетычнага інстытуту, добра не памятаю, на 6 радкох апынулася ня то 16, ня то 26 граматычных памылак. У мінулым годзе, у Менскім і Віцебскім пэд. інстытутах, анкетным парадкам правяраліся веды студэнтаў: некаторыя адказы атрымоўваліся анэкдатычныя: былі студэнты, якія ня ведалі, хто у нас Старшыня СНК СССР, не маглі назваць 2—3 буйных гарадоў Нямеччыны апрача Бэрліну, ня ведалі нават, дзе знаходзіцца Манчжурыя, ня гледзячы на вядомыя ўсім Манчжурскія падзеі.

Аналёгічныя выпадкі маюцца і ў сярэдняй школе і ніжэйшай школе. Нядаўна я быў у 2-х раёнах, дзе наведаў некалькі школ. Зайшоў у 4-ю групу аднэй школы, там быў якраз перапынак—стаіць група вучняў каля карты. Я запытаўся: „Пакажэце мне, дзе знаходзіцца Урал"—ніхто не знайшоў на карце месца, дзе знаходзіцца Урал. А дзе Ніжні-Ноўгарод паказала нязначная толькі частка вучняў, калі-ж я запытаўся, чым вядомы зараз Ніжні-Ноўгарод, ніводзін вучань на гэта запытаньне не адказаў, што там пабудаваны аўта-завод, аб якім надта многа пісалася нашай прэсай. Ня ведаюць таксама нічога і аб Сталінградзе. Запытаўся па канстытуцыі: колькі у нас саюзных савецкіх рэспублік—мала хто мог іх пералічыць. У другой групе вучань ня мог падзяліць 150 на 3. Праўда, апошнія прыклады я бяру са школы наогул надзвычайна адсталай, узровень вучняў якой ня можа характарызаваць пастаноўку нарасьветы ў вёсцы наогул. Гэта школа ў Тураўскім с/с. Пухавіцкага раёну, у цэнтры. Адсталасьць гэтай школы ў значнай меры абавязана надзвычайна дрэннай выкладчыцкай працы і кіраўніцтву з боку мясцовых органаў нарасьветы. Я не знайшоў там раскладу заняткаў на дэкаду. Загадчык сказаў, што ён не пасьпеў яго злажыць. Я папрасіў яго даць расклад за мінулую дэкаду,—ён стаў яго шукаць, але не знайшоў. Нарэшце, сазнаўся, што раскладаў наогул не складаў, а да чаго падрыхтуецца, тое і расказвае вучням. За апошні час я пабываў больш як у 3-х дзесятках школ і, праўду кажучы, я сустрэўся толькі з 2-ма гэткімі школамі, дзе так навучальная праца пастаўлена надзвычайна дрэнна. Як агульнае зьявішча, у большасьці школ ёсьць і праграмы, ёсьць і расклады і належнае кіраўніцтва пэдагагічным працэсам.

У большасьці школ, у галіне зьліквідаваньня асноўнага недахопу і падвышэньня якасьці вучобы маецца пэўны пералом Яшчэ досыць слабае пераключэньне адчуваецца толькі па мове і грамадазнаўству, дзе таксама маецца ўжо некаторы пералом і зрухі ў напрамку павялічэньня якасных паказчыкаў працы.

Я думаю, таварышы, што ахайваць усе школы з-за няўдалых прыкладаў 2-х 3-х школ, ці нават з-за дрэнных прыкладаў працы аднаго ці 2-х раёнаў, не патрэбна і некарысна, таму, што асноўная маса нашых школ, асабліва ў тых раёнах, дзе мы маем добры апарат, ужо зрабіла пэўны пералом у сваёй працы па асноўных дысцыплінах, як матэматыка, фізыка, хэмія,—хоць ён яшчэ і недастатковы. Асноўная маса школ мае сталы расклад, рабочыя пляны і кіраўніцтва і, зьяўляюцца ўпаўне працаздольнымі навучальнымі ўстановамі. І гэта бязумоўна

ёсьць вынік актыўнага змаганьня за якасьць працы асноўнае масы настаўніцтва.

Балючым пытаньнем нашай працы зьяўляецца выпрацоўка праграм для ўсёй сыстэмы нарасьветы, пачынаючы з ніжэйшай і канчаючы вышэйшай школай. Мы ня маем да гэтага часу праграмы па беларускай літаратуры.

Некалькі лепш абстаіць справа са складаньнем праграм па грамадазнаўчых дысцыплінах. Але выпрацоўка праграм не заўсёды сустракала актыўны ўдзел з боку асобных інстытутаў і марксыцкіх таварыстваў, а таксама і паасобных навуковых працаўнікоў. І гэта ня глядзячы на тое, што ёсьць належныя пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, завастраючыя ўвагу навакол гэтага пытаньня. У чым тут справа? А справа ў тым, што на вялікі жаль некаторыя нашы навуковыя працаўнікі нават камуністыя, калі іх у дыскусіях як сьлед „патрасьлі" і заставілі задумацца над выпускаемай імі прадукцыяй,-пакрыўдзіліся і парашылі за лепшае нічога ня пісаць. Думаюць так, што калі ён нічога ня будзе пісаць, дык гэтым ён апраўдаецца перад партыяй і рабочай клясай за свае памылкі. Якраз наадварот: трэба больш пісаць, але ня так, як пісалі ў некаторых выпадках, раней трэба пісаць тое, што патрэбна і карысна партыі і рабочай клясе.

Да гэтага часу надзвычайна слаба разгорнута праца па складаньні падручнікаў.

Нашы марксыцкія таварыствы не актывізавалі сябе ў гэтай справе, што ў роўнай меры датычыцца таксама і асобных навуковых працаўнікоў. Падручнік, які добра напісаны, які выхоўвае сотні тысяч людзей, гэта вялікі ўклад. у справу сацыялістычнага будаўніцтва. Аднак да гэтага часу нашы навуковыя працаўнікі яшчэ слаба актывізаваны ў гэтай вялікай справе. Яны ня хочуць зразумець гэтай надзвычайна-пачэснай задачы, якая выпадае на іх долю.

Мы маем надзвычайна вялікую колькасьць маладых пэдагогаў. У сувязі з шпаркімі тэмпамі разгортваньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня, ліквідацыі няпісьменнасьці мы прымушаны былі прапускаць людзей праз розныя каротка-тэрміновыя курсы і пасылаць іх пэдагогамі ў школы, ня скрываючы ад сябе іх дадатнае і адмоўнае. Маюцца ў нас таксама і старыя пэдагогі, выпушчаныя з нармальных навучальных устаноў,—у большасьці яны слабавата падрыхтаваны для таго, каб сапраўды добра наладзіць справу народнае асьветы ў нашай школе. Тут перад намі стаіць задача дапамагчы гэтым пэдагогам. А як у нас арганізавана гэта дапамога?—дрэнна. Мэтадычная работа на мясцох яшчэ надта кульгае. Між тым, маладога настаўніка, якога мы выпусьцілі з каротка-тэрміновых курсаў, трэба вучыць пачынаючы прама з азбукі мэтадычнага працэсу, магчыма нават з таго, як рассадзіць вучняў на парце, з чаго пачаць і як у клясе добра арганізаваць вучобу і наладзіць школьную дысцыпліну. Хачу прывесьці вам адзін прыклад з наведваньня аднэй школы. Зайшоў я ў другую групу гэтай школы—агідней шы скандал: вучні лаюцца між сабой, настаўніца лаецца з вучнямі, апошнія ходзяць між партамі і г. д. Відавочна, што настаўніца нядбайна адносіцца да справы: замест 9-ці гадзін яна прышла на працу 9-ць з паловай гадзін—яскрава відаць, што яна ня здольна наладзіць работу школы. Якая роля выкладчыка ў дысцыпліне самога пэдагагічнага працэсу. відаць з таго, што калі мне давялося наведаць 3-ю групу той-жа школы—я заўважыў зусім іншы парадак. Як толькі выкладчык зьявіўся на заняткі, адразу стала ціха. Бяз усякіх гвалтаў і скандалаў вучні селі за сталы, расклалі ў парадку кніжкі і сшыткі, ручкі і алоўкі і сур'ёзна прыступілі да заняткаў. А ў агульнай атмасфэры дысцыплінаванасьці пэдагагічнага працэсу кожны вучань належна дысцыплінуе сябе. Настаўнік ня крычыць, не падвышае голас, а умела кіруе вучэбным працэсам.

Я не застанаўліваюся тут на больш сур'ёзных мэтадычных паказаньнях. Ясна, што нам патрэбна многа працаваць, каб палепшыць мэтодыку выкладаньня ў школах і якасьць усяго вучэбнага працэсу. Вельмі часта бывае, што нашы настаўнікі ня чытаюць газэты, а ў нека-

торых школах нават не знаёмы з унутраным распарадкам у школе. Воргэнам нарасьветы на мясцох і нашым ДВС трэба сур'ёзна арганізаваць мэтадычную працу з настаўнікамі і стала кіраваць ёю.

Цяпер аб палітэхнізацыі нашых школ. Што мы, таварышы, маем на сёньняшні дзень у гэтай галіне? Па тых матар'ялах, якія ёсьць у Наркамасьвеце, мы яшчэ слаба спраўляемся з гэтаю справаю. Праўда, мы маем значную колькасьць павялічыўшыхся майстэрняў і рабочых пакояў. Побач з тым, што ў некаторых майстэрнях яна пастаўлена досыць добра, у іншых яна яшчэ стаіць надзвычайна нізка. Я быў у Гомельскай школе імя „Камінтэрна“. Там мне надзвычайна спадабалася пастаноўка работы. Быў і ў такой невялічкай школе, як Пухавіцкай, добра працуючай і маючай добрыя паказчыкі. Відавочна, што ёсьць добрыя прыклады. Але і ёсьць таксама і прыклады абсалютна нікуды нявартай работы. У некаторых майстэрнях ёсьць інструмант, але няма добрага памяшканьня ў другіх наадварот. Мне давялося пабываць у Людзеняўіцкай школе, Жыткавіцкага раёну, якая ня мела добрага памяшканьня для майстэрні, галоўным чынам з прычыны адсутнасьці ініцыятывы ў яе кіраўнікоў. Калі яны сталі паказваць на сваё бязвыхаднае становішча, я ім параіў перавесьці адну групу школы на другую зьмену, займаемае ёю цяпер месца адвесьці для майстэрні,—яны адказалі што гэта зрабіць было-б можна, але-ж настаўнікам прышлося-б хадзіць лішні раз у школу. У мястэчку, межы якога заўсёды ня выходзяць з поля зроку яго жыхароў, якое без асаблівых перашкод некалькі раз у дзень, прабягаючы зьмярае курыца,—у гэтым мястэчку настаўнікам занадта цяжка хадзіць другі раз у школу. Ёсьць там добрая сьвінарная фэрма, Я запытваюся: „Ці былі вы на гэтай фэрме“. Адказваюць: Не, ня былі“. Чаму вы ня былі?— „Да так, ня прышлося быць“. Відавочна, што падобная нахільнасьць гэтых выкладчыкаў да абломаўскае санлівасьці ня можа даць — ні якасьці, ні бальшавіцкіх тэмпаў работы. Я бачыў на Палесьсі, як настаўніца аднэй школы, расказваючы дзецям пра грыб, для нагляднасьці малявала яго на дошцы, замест таго, каб паказаць ім сапраўдны грыб, якіх да таго-ж многа маецца ў ваколіцах гэтай вёскі. Вось якая „палітэхнізацыя“ яшчэ маецца на мясцох.

А гэта лішні раз гаворыць аб неабходнасьці сур'ёзна паставіць мэтадычную працу ў школах і арганізаваць сталы мэтадычны інструктаж іх з боку раённых цэнтраў нарасьветы.

Нашы інструктары-мэтадысты, у поўным сэнсе гэтага слова, яшчэ не інструктары, а хутчэй інспэктары—кантралёры. За два дні такі інспэктар-кантралёр звычайна аб'яжджае школ 6.

У гэтым, як і ва усім вучэбным працэсе, зразумела, асабліва выступае роль самаго настаўніка. Ён кіраўнік вучэбнага працэсу і ад яго якаснага твару, галоўным чынам, залежыць увесь твар школы. Можна даць, зразумела выкладчыку добры матар'ял і добры падручнік, але прападнясеньне яго вучням, якасьць засваеньня імі пэўных ведаў, набыцьцё пэўных палітэхнічных навыкаў і ідэолёгічная вытрыманасьць усяго вучэбнага працэсу залежыць, галоўным чынам, ад выкладчыка. Без настаўніка—гэтай асноўнай фігуры школы,—мы ня створым добрай школы. Адгэтуль вынікае задача арганізаваць падрыхтоўку і перападрыхтоўку зараз працуючага ў школе настаўніцтва, — шляхам утварэньня спэцыяльнага інстытуту падвышэньня кваліфікацыі кадраў, пашырыць сетку завочнага навучаньня і асабліва наладзіць на мясцох сыстэматычную падрыхтоўку, самападрыхтоўку і мэтадычны інструктаж кадраў настаўніцтва.

Аднэй з умоў пасьпяховага выкананьня тых задач, якія зараз стаяць перад настаўніцтвам, зьяўляецца палепшаньне іх праўнага і матар'яльнага становішча. Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б пастанавіў: „узмацніць барацьбу з скажэньнямі лініі партыі у адносінах да настаўнікаў, рашуча зьнішчыць усякія парушэньні праўнага і матар'яльнага становішча выкладчыкаў“. Гэтая пастанова сакавіцкага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б цалкам выходзіць з той вялізарнешай ролі і ўзросшага значэньня настаўніцкіх кадраў у наш час практычнага ажыцьцяўленьня культурнай рэвалюцыі. На вялікі жаль, на

мясцох, яшчэ ня ўсюды зразумелі надзвычайна вялікую важнасьць стварэньня адпаведных умоў працы для настаўніцтва. Апошняе абсьледваньне паказала на рад недапушчальных фактаў, якія мелі месца на мясцох. Адзін раённы фінаддзел, напрыклад, паставіў умовай выплаты настаўнікам пэнсіі толькі тады, калі яны пойдуць на вёску выконваць фінплян. Райкаапсаюз гаворыць, што дамо прадукты тады, калі вы сядзеце у канцылярыі і будзеце вучотчыкамі; каапэратар таксама бярэ фонды настаўнікаў і разьмяркоўвае іх сярод другіх груп насельніцтва, ці проста нават забірае сабе, — ёсьць і такія выпадкі. А бывае і так, што настаўнік забясьпечваецца праз Сельпо у залежнасьці ад таго, добрыя ці дрэнныя адносіны яго з прыказчыкам крамы. Калі ён з прыказчыкам у добрых адносінах, дык ён атрымлівае тавары, а калі не—дык не атрымлівае. Як бачыце, прыказчык на вёсцы часта робіць палітыку.

І апошняе, — гэта інтэрнацыянальнае выхаваньне. Тут я пад інтэрнацыянальным выхаваньнем буду разумець, галоўным чынам, гэта правільнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай палітыкі, узброеньне вучняў зброяй рэвалюцыйнага вопыту рабочага руху розных капіталістычных краін у іх барацьбе за клясавую інтэрнацыянальную салідарнасьць, за дыктатуру пралетарыяту. Я хачу таксама ўключыць, як неабходны момант у разуменьні інтэрнацыянальнага выхаваньня—вайсковае выхаваньне, бо Чырвоная армія гэта інтэрнацыянальная армія сусьветнага пралетарыяту, а абарона сацыялістычнага будаўніцтва СССР ёсьць абарона бацькаўшчыны сусьветнага пралетарыяту.

Мы маем зараз вялікую небясьпеку вайсковага нападу на нас з боку імпэрыялістычных дзяржаў і мы павінны у нашай школе цяпер, як ніколі, узмацніць вайсковае выхаваньне вучняў, пры чым ня трэба, як гэта часта у нас бывае, весьці у гэтым напрамку „работу так сабе“, так сказаць, наогул. Трэба на канкрэтных фактах разбору канкрэтных артыкулаў аб вайсковай небясьпецы, разбору канкрэтных допісаў аб рэвалюцыйным русе, праводзіць адпаведную выхаваўчую работу ў нашых школах. Між тым, мы часта забываем пра гэта, калі нашу масавую працу мы яшчэ часта праводзім „наогул“. На гэтых днях я прыехаў з раёну, з пасеўнай кампаніі. Там мне расказвалі, што быў выпадак, калі адзін калгас проста прагнаў нашага агітатара які гаварыў так „наогул“, проста прагнаў са сходу адказнага раённага працаўніка, таму, што ён у сваёй прамове браў, так сказаць, „міжнародныя маштабы“, не гаворачы нічога канкрэтнага аб рабоце калгасаў.

А ў гэтым калгасе кулакі, між іншым, спайваюць калгасьнікаў і агітуюць за выхад з калгасаў. Не затрудняючы сябе такімі „дробязямі“, некаторыя нашы агітатары не вядуць работу ў напрамку клясавай барацьбы, не выступаюць супроць канкрэтных фактаў змаганьня кулака з калгасьнікамі, а гавораць наогул аб здарэньнях у Амэрыцы і рэакцыйнасьці контр-рэволюцыйнай буржуазіі, яе нянавісьці да пралетарыяту і нязьбежнасьці сацыялістычнай рэвалюцыі ва усім сьвеце. У той час, як факты бязьлітаснай клясавай барацьбы, канкрэтныя факты, напрыклад падпалу калгасу, ці забойства калгаснага каня,—праходзяць міма вачэй такога „агітатара“. Я аб'ехаў некалькі сельсаветаў Пухавіцкага раёну, пабываў у некалькіх школах, хатах-чытальнях, каапэрацыйных крамах і іншых установах і нідзе ніводнага плякату ня бачыў аб пасеўнай кампаніі, і гэта ў час разгару пасеўнай кампаніі. Маюцца плякаты аб тэхніцы, аб міжнароднай рэвалюцыі, аб усім, а вось аб сяўбе, напрыклад аб неабходнасьці хаця-б ачышчаць насеньне пры севе і г. д.—такога плякату няма.

Мы маем значную актывізацыю рабочай масы у справе культурнага будаўніцтва. Трэба умець належным чынам накіраваць гэтую актыўнасьць. А гэтага мы яшчэ цалкам не дасягнулі. Аб гэтым сьведчыць хаця-б сёньняшні пленум ДВС—НКА. Ня гледзячы на разасланую масу білетаў па фабрыках і заводах, ўсё-ж асаблівай актыўнасьці рабочых мас у справе культурнай рэвалюцыі ня відаць, калі судзіць, што тут, на сэсіі ДВС, яны прадстаўлены толькі адзінкамі.

Мы павінны арганізаваць такую актыўнасьць. Мы не павінны толькі скардзіцца што ня маем актыву, а павінны зрабіць ўсё, каб мець гэты актыў. Партыя даручыла нам вялікую справу практычнага ажыцьцяўленьня культурнай рэвалюцыі Гэта справа ня можа быць праведзена толькі сіламі вучоных і настаўнікаў, яна справа ўсяго пралетарыяту, усіх працоўных мас. Толькі пры актыўным удзеле рабочай клясы, толькі шляхам перадачы справе культурнай рэвалюцыі яго рэвалюцыйнага вопыту, магчыма пасьпяховае ажыцьцяўленьне культурнай рэвалюцыі.

Толькі тады, калі мы мабілізуем рабочыя масы навакол пытаньняў культурнай рэвалюцыі, уцягнем у гэтую справу тысячны пралетарскі актыў, разаўём яго актыўнасьць, — мы зможам справіцца з тымі задачамі, якія пастаўлены зараз перад намі партыяй і Савецкай уладай.

Ул. Хомо

# Да перабудовы працы часопісу „Кам. Выхаваньне“

Дзякуючы пасьлядоўнаму і няўхільнаму ажыцьцяўленьню генэральнай лініі партыі, у выніку надзвычайнага росту рэвалюцыйнай актыўнасьці і творчага энтузіязму шырокіх рабоча-сялянскіх мас, на аснове правільнага і цьвёрдага правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі,—дзяржава пралетарскай дыктатуры, БССР, атрымала рашаючыя посьпехі ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. З краіны адсталай, земляробскай у дарэвалюцыйныя часы, яна ператвараецца ў краіну з узрастаючай прамысловасьцю, краіну індустрыяльна-аграрную ў сучасны момант. Сацыялістычны сэктар у сельскай гаспадарцы (калгасы і саўгасы) ужо займае пануючае становішча. На базе суцэльнай калектывізацыі ліквідуюцца рэшткі капіталістычных элемэнтаў у вёсцы—кулацтва як кляса. Ствараюцца пэўныя прадпасылкі да завяршэньня рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі і пабудовы бясклясавае сацыялістычнае грамады.

Асабліва-ж вялікіх посьпехаў дамаглася рабочая кляса савецкай Беларусі ў саюзе з працоўным сялянствам у галіне культурнага будаўніцтва. Уведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне, штогодна пашыраецца сетка ФЗС і ШКМ, створана 32 ВНУ, дзесяткі тэхнікумаў і рабфакаў, маецца шэраг навукова-дасьледчых установ (БАН і інш.); урэшце,—праведзена вялікая работа па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва.

БССР становіцца краінай суцэльнай пісьменнасьці. У выніку рэалізацыі гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе і прапрацоўкі ліста т. Сталіна маюцца „наяўныя зрухі“ і ў ліквідацыі „карэннага недахопу“ школ. Так, праведзена выкладаньне на новыя праграмы, палепшылася якасьць працы ў паасобных школах, падвысілася працоўная дысцыпліна, створаны ўзорныя школы, узмацняецца мэтадычнае кіраўніцтва. Але, побач з гэтымі дасягненьнямі, ёсьць і вядомыя недахопы. Пленум ЦК і ЦКК КП(б), канстатуючы ў сваёй пастанове ад 26-28 сакавіка г. г. посьпехі нашай краіны ў справе культурнага будаўніцтва, падкрэсьліў, што „тэмпы выкананьня пастановы ЦК аб школе застаюцца зусім нездавальняючымі“, што „карэнныя недахопы школ—невыстарчальны аб'ём агульна-адукацыйных ведаў, у радзе выпадкаў фармальны характар правядзеньня палітэхнізацыі, нявыстарчальная ўвязка тэорыі з практыкай—усё яшчэ не ліквідаваны“.

Некаторыя нашы навучальныя установы (тэхнікумы і ВНУ) не перабудавалі сваей работы ў адпаведнасьці з паказаньнямі т. Сталіна аб ауладаньні тэхнікай і 6-цю ўмовамі. Пануе бясплянавасьць у працы, стаўка на самацёк, бескантрольнасьць у выкладаньні (абязь-

лічка), зьніжэньне працдысцыпліны, няўменьне арганізаваць мэтадычную работу і, як вынік,—нізкая пасьпяховасьць студэнтаў (акадэмічная прадукцыя).

XVII партыйная канфэрэнцыя паставіла ў якасьці асноўных задач на 2-е пяцігодзьдзе—завяршэньне рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, зьнішчэньне прычын, параджаючых клясавую розьніцу і эксплёатацыю, перадоленьне пе-ражыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, пeратварэньне ўсіх працоўных у сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавае сацыялістычнае грамады.

У сьвеце гэтых найвялікшых палітычна-гаспадарчых, праблем, высунутых XVII партканфэрэнцыяй, павышаецца роля школы ў агульным сацыялістычным будаўніцтве, як зброі для рэканструкцыі псыхалёгіі і сьветаразуменьня людзей, поўнага зьнішчэньня падзелу грамады на клясы. Школа павінна быць ня толькі праваднікам прынцыпаў камунізму наогул, але і праваднікам ідэёвага, арганізацыйнага і выхаваўчага ўплыву пралетарыяту на паўпралетарскія і непралетарскія пласты працоўных мас у мэтах выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм (праграма УсеКП(б).

Адсюль,—пытаньні разгортваньня масавае і народнае асьветы, усеагульнае абавязковае навучаньне на базе сямігодкі, будаўніцтва сапраўднай палітэхнічнай школы, падрыхтоўка навукова-ўзброеных і ідэалёгічна-вытрыманых кадраў—баявыя практычныя задачы культурнай рэвалюцыі на дадзеным этапе. Без належнай пастаноўкі навучальна-выхаваўчай дасьледчай работы ў нашых школах, тэхнікумах і ВНУ выканаць гэтых задач мы ня здолеем. А таму, барацьба за якасьць працы ў ніжэйшай і сярэдняй школе, зьнішчэньне яе карэнных недахопаў, барацьба за далейшую і правільную рэалізацыю пастановы ЦК УсеКП(б)—абавязак ня толькі партыйных арганізацый, органаў народнае асьветы, але і кожнага асьветніка, рабочага, калгасьніка.

Адным з важнейшых сродкаў актывізацыі працоўных мас, мабілізацыі іх творчага энтузіязму ў справе сацыялістычнага будаўніцтва, а стала быць, і культурнай рэвалюцыі, зьяўляецца друк. Пралетарскаму друку (газэта, часопісі) т. Ленін надаваў выключнае значэньне, вялізарнейшую ролю: „Газэта—ня толькі калектыўны прапагандыст і калектыўны агітатар, але таксама і калектыўны арганізатар“[1]). Між тым, пры ўсіх маючыхся калёсальных дасягненьнях у працы пралетарскага друку, можна канстатаваць выпадкі, калі роля друку асобнымі работнікамі на мясцох не даацэньваецца. Вынікам такіх адносін зьяўляецца той факт, што праца на асобных вучастках культурнага фронту (напрыклад, такія моманты, як ход барацьбы за зьнішчэньне „карэннага недахопу“ школ, вынікі навучальнага году і падрыхтоўка да новага) не знаходзіць адпаведнага адлюстраваньня на старонках пэдагічнага друку, не праламляецца належным чынам скрозь прызму крытыкі і самакрытыкі нашай савецкай грамадзкасьці.

Калегія НКА на адным з сваіх паседжаньняў канстатавала, што рэдакцыяй часопісу „Кам. Выхаваньне“ на працягу 1931 г. было дапушчана шэраг грубейшых палітычных памылак. Часопіс ня толькі не змагаўся супроць „мэтадычнага пражэкцёрства“ і тэорыі „адміраньня школы“, а наадварот,—надрукаваў шэраг артыкулаў лявацкага парадку, у якіх папулярызаваўся неправераны на вопыце так званы „мэтад праэктаў“. Часопіс не адбіваў сапраўднага вопыту масавае палітэхнічнае школы, не дапамагаў нізавому настаўніцтву ў яго штодзённай практычнай працы. Падобныя памылкі ў працы часапісу мелі месца і за апошні час. Надрукаваны артыкул А. А. Манава („Кам. Выхаваньне“ № 12 за 1931 г.) „Да пытаньня аб арганізацыі навучаньня ў сярэдняй і вышэйшай спэцыяльнай школе (тэхнікумы і ВНУ)“, у якім брыгадна-лябараторны мэтад ацэньваецца, як адзіны унівэрсальны (вядучы) мэтад; ня ўскрыта памылка ДВС, які стаў таксама на шлях шырокай папулярызацыі і ўсхваленьня гэтага мэтаду (інструкцыйна-мэтадычны ліст) і г. д. Улічваючы гэтыя прабелы і недахопы ў рабоце часопісу, а таксама неабход-

[1]) Ленін, собр. соч., т. IV, стр. 37

насьць правільнага асьвятленьня важнейшых праблем разгорнутага культурнага будаўніцтва, у прыватнасьці—пабудову новай палітэхнічнай школы,—патрэбна часопіс рэарганізаваць, паставіць справу так, каб ён сапраўды стаў баявым кіруючым органам Наркамасьветы і ЦП Саюзу Працасьветы.

А менавіта, перад часопісам „Кам. Выхаваньне“ ў сучасны момант паўстаюць надзвычайна важныя і складаныя задачы.

Адпраўным пунктам у працы часопісу павінна быць рашучая, няшчадная барацьба на два франты ў галіне пэдагогікі. Часопіс „Кам. Выхаваньне“ павінен бязьлітасна змагацца з рознымі ўхіламі і скажэньнямі, за генэральную лінію партыі ў пытаньнях тэорыі і практыкі пэдагагічнага працэсу, весьці барацьбу за хутчэйшую рэалізацыю пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе.

Разам з гэтым, у часопісу „Кам. Выхаваньне“ патрэбна асьвятляць працу раённых і цэнтральных органаў нарасьветы, прафсаюзных арганізацый і само сабой разумеецца, абагульняць вопыт масавае школы, тэхнікумаў і ВНУ.

Мэтавая ўстаноўка часопісу, такім чынам, зводзіцца да таго, каб дапамагчы настаўніку ў падвышэньні яго мэтадычнай кваліфікацыі, арганізаваць грамадзкую думку навакол важнейшых пытаньняў будаўніцтва палітэхнічнай школы. Зусім ясна, што ўсе гэтыя задачы (надзвычайна адказныя) часопіс „Кам. Выхаваньне“ сіламі аднае толькі рэдкалегіі і нязначнай колькасьці сталых карэспандэнтаў выканаць ня зможа. У працу часопісу неабходна ўцягнуць шырокія колы рабочых, калгасьнікаў, настаўнікаў, навуковых працаўнікоў. Патрэбна стварыць шырокі карэспандэнцкі актыў. Пісаць у часопіс павінны работнікі ўзорных школ, базавых установ НКА, тэхнікумы, ВНУ і асноўнае—настаўнікі масавых школ, рабочыя і калгасьнікі. Не павінен застацца бязудзельным, у баку, і камсамол—першы застрэльшчык і ініцыятар па правядзеньні ў жыцьцё мерапрыемстваў партыі і ўраду. Аднак, такога становішча на сёньняшні дзень у часопісу „Кам. Выхаваньне“ мы ня маем. Сталымі карэспандэнтамі зьяўляюцца толькі некалькі супрацоўнікаў НКА, ДВС, НДІ Камвыхаваньня, настаўнікі некаторых менскіх школ і школ пэрыфэрыі. Менш усяго пішуць аб сваёй працы Пэдтэхнікумы і Пэдінстытуты. На дадзеную акалічнасьць намі зьвяртаецца асаблівая ўвага.

Дзеля таго, каб наладзіць працу часопісу „Кам. Выхаваньне“, неабходна:

а) стварыць сталыя карэспандэнцкія пасты „Кам. Выхаваньня“ на мясцох, пры РК Саюзу Працасьветы, Пэдтэхнікумах і Пэд. ВНУ;

б) мець сталую сувязь з апорнымі, базавымі ўстановамі НКА—узорнымі ФЗС і ШКМ, з пэдтэхнікумамі і пэдінстытутамі;

в) выкарыстоўваць матар'ялы абсьледваньня НКА і раённых аддзелаў нарасьветы па школьным і культасьветным будаўніцтве;

г) практыкаваць вылучэньне спэцыяльных брыгад „КВ“ з лепшых ударнікаў і культармейцаў для азнаямленьня са станам паасобных галін і вучасткаў культурнага будаўніцтва.

Асабліва-ж важным момантам у арганізацыі працы „Кам. Выхаваньне“ зьяўляецца ўтварэньне карэспандэнцкіх пастоў, стварэньне шырокага карэспандэнцкага актыву. А таму рэдакцыя часопісу зьвяртаецца да загадчыкаў Райана, старшынь РК Саюзу Працасьветы, МК і прафкомаў пры тэхнікумах і інстытутах з просьбай ўзяць на сябе ініцыятыву па арганізацыі гэтых пастоў. На сходах рабочых, калгасьнікаў, настаўніцтва і навуковых працаўнікоў, ставячы на абгаварэньне пытаньне арганізацыі карэспандэнцкага актыву, мэтазгодна абмеркаваць,—наколькі наш часопіс адпавядае сучасным запатрабаваньням школы, у чым заключаюцца яго асноўныя недахопы, што ў далейшым павінен сабою прадстаўляць часопіс, якім хацела-б яго бачыць настаўніцтва і г. д.

Паколькі „Камуністычнае Выхаваньне“ зьяўляецца адзіным пэдагагічным часопісам у БССР, яго мэтавая ўстаноўка, як мы гаварылі раней,—гэта абслугоўваньне ўсіх зьвеньняў народнае асьветы з упорам на масавую школу.

Адпаведна гэтай сваёй асноўнай задачы, „Кам. Выхаваньне“ падзяляецца на наступныя часткі, разьдзелы:

а) Першым павінен быць разьдзел „За марксыцка-ленінскую тэорыю ў пэдагогіцы“, у якім разглядаецца дасьледчая праца віднейшых тэарэтыкаў у галіне пэдагогікі, выкрываецца сутнасьць антыленінскіх плыняй і ухілаў у справе мэтадалёгіі і мэтодыкі, асьвятляюцца важнейшыя пытаньні савецкай школы ў разуменьні Маркса-Леніна.

б) Другі разьдзел—гэта „За тэхніку пэдагагічнага працэсу“, дзе павінны давацца асноўныя мэтадычныя ўстаноўкі па пытаньнях тэорыі і практыкі пэдагагічнага працэсу з выкрыцьцём яго скажэньняў і няправільнага разуменьня ў апошні час.

в) Наступным павінен быць разьдзел „Абмен вопытам працы“. Тут зьмяшчаюцца канкрэтныя (практычныя) прыклады работы школ—вынікі барацьбы асьветнікаў за зьнішчэньне „карэнных недахопаў“, за ўладаньне асновамі навук(абʻём агульна-адукацыйных ведаў), актывізацыю і ўдасканаленьне мэтадаў выкладаньня (якасьць вучэбнай працы), узмацненьне палітэхнізацыі (увязка тэорыі з практыкай), узьняцьце працоўнай дысцыпліны, інтэрнацыянальна-клясавае і антырэлігійнае выхаваньне і г. д.

г) Далейшы разьдзел „За пэдагагічныя кадры“. У ім асьвятляецца пастаноўка працы ў тых навучальных установах, дзе рыхтуюцца кадры (тэхнікумах, ВНУ і рознага роду спэцыяльных курсах). Тут-жа асьвятляюцца мерапрыемствы НКА і ЦП саюзу працасьветы па падвышэньні кваліфікацыі і перакваліфікацыі маючыхся кадраў, у прыватнасьці пастаноўка завочнага навучаньня, праца мэтабʻяднаньняў і раймэтбюро.

д) Аддзел „Крытыка і бібліяграфія“—даецца агляд, крытычная ацэнка (характарыстыка) навучальных плянаў, праграм, мэтадычна-пэдагагічна літаратуры, падручнікаў і мастацкай дзіцячай літаратуры.

е) Апошнім павінен быць разьдзел „Хроніка“—інфармацыі аб культбудаўніцтве і пастаноўцы школьнай справы ў БССР, СССР і за мяжой,

Вось у асноўных рысах структура часопісу „Кам. Выхаваньне“.

Для большай канкрэтызацыі дадзенага пытаньня мы адначасна лічым патрэбным даць наступны арыентыровачны сьпіс тэм, распрацоўка і асьвятленьне якіх на сучасным этапе будаўніцтва палітэхнічнай школы зьяўляецца справай актуальнай. А менавіта:

1) Падагульненьне вынікаў навучальнага году ў сьвеце выкананьня пастаноў ЦК УсеКП(б) аб школе (гадавая праца школы, тэхнікума, рабфака, ВНУ).

2) Падрыхтоўка да новага навучальнага году (укамплектаваньне навучальных устаноў, стварэньне матарʻяльнай базы, забесьпячэньне навучальнымі плянамі, праграмамі, падручнікамі і г. д.

3) Пытаньне ўсенавуча, ліквідацыя малапісьменнасьці, культэстафэта, культпаход, дашкольнае выхаваньне.

4) Праблема падрыхтоўкі кадраў—школьных, дашкольных, палітасьветных (профіль спэцыялістага, колькаснае, якаснае забесьпячэньне кадрамі, ход падрыхтоўкі і г. д.).

5) Праблема палітэхнізацыі школ, тэхнікумаў, ВНУ (пастаноўка вытворчага навучаньня ў школах, практыкумаў—пэдагагічнага, сельска-гаспадарчага і індустрыяльнага ў тэхнікумах і ВНУ; увязка тэорыі з практыкай, канкрэтна—пры распрацоўцы паасобных тэм, курсаў).

6) Пастаноўка палітасьветнае працы ў сельскіх і раённых дамох сацкультуры, чытальнях, клюбах, бібліятэках і г. д.

7) Мэтады выкладаньня, пляніраваньне і формы падліку працы ВНУ, тэхнікумаў і масавай школы (асабліва крытыка „мэтадычнага пражэкцёрства“ і няправільнага разуменьня пэдпрацэсу).

8) Праблема завочнага навучаньня ў тэхнікумах, ВНУ (арганізацыя і ход завочнага навучаньня, вопыт кансультацыйнай працы з завочнікамі).

9) Пастаноўка выкладаньня паасобных прадметаў (дысцыплін) у школе, тэхнікумах, ВНУ, тэхніка пэдпрацэсу па роднай мове, матэматыцы, грамадазнаўстве, геаграфіі, прыродазнаўстве і г. д.)

10) Вопыт пастаноўкі ідэалёгічнага выхаваньня ў школе: інтэрнацыянальна-клясавага, антырэлігійнага (практычная ўвязка антырэлігійнага і інтэрнацыя-

нальна-клясавага выхаваньня з тэорытычным навучаньнем, прыкладна—па асобных тэмах, курсах навучальнага пляну).

11) Масавая карысна-грамадзкая праца школы, тэхнікуму, ВНУ і ўвязка яе з акадэмічнай працай.

12) Праца вучнёўскіх і студэнцкіх арганізацый самакіраваньня, у прыватнасьці—па раз ортваньні сацыялістычнага ўдарніцтва і спаборніцтва, па ўзьняцьці працоўнай дысцыпліны і г. д.

13) Агульныя агляды вопыту працы па цэлым сельсавеце, раёне, рэспубліцы ў сьвеце выкананьня пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе.

Побач з адзначанымі тэмамі мажлівы і патрэбны працы (артыкулы) і па такіх пытаньнях, як:

а) аналіз (характарыстыка) праграм, падручнікаў, навучальных плянаў, інструкцыйна-мэтадычных лістоў і г. д.

б) праца мэтаб'яднаньняў і раймэтбюро.

Зусім зразумела, што гэтым пераліпкам тэм ня вычэрпваецца ўвесь той матар'ял, які можа знайсьці сабе месца ў часопісу, але ў асноўным паказаныя тэмы ўсё-ж такі могуць ахапіць сабою жыцьцё і працу нашай савецкай палітэхнічнай школы. Матар'ял для таго, каб напісаць на падобныя тэмы (дакладная фармулёўка якіх справа самога аўтара), у асьветнікаў заўсёды знойдзецца. Трэба толькі ўзяцца за працу, арганізаваць карэспандэнта-настаўніка, зацікавіць чытача.

Аднэй з умоў гэтай зацікаўленасьці культармейцаў, шырокіх асьветніцкіх мас сваім часопісам зьяўляецца навуковы, але адначасна папулярны характар артыкулаў, допісаў.

Трэба адначасова падкрэсьліць усю неабходнасьць зьмяшчэньня ў часопісу тэарытычных артыкулаў. „Без рэвалюцыйнай тэорыі ня можа быць і рэвалюцыйнага руху“, —кажа т. Ленін. Бяз правільнай марксыцка ленінскай пэдагагічнай тэорыі (мэтадалёгіі і мэтодыкі) нельга стварыць і правільнага пэдагагічнага працэсу, пэдагагічнай практыкі.

Клясавая барацьба адбываецца на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва, а ў тым ліку і на пэдагагічным фронце.

Наша задача (задача часопісу „Кам. Выхаваньне“)—даць рашучы адпор правым апартуністам, пасьлядоўцам кулацкай агентуры ў пэдагогіцы, тэорыі надклясавай школы, а таксама трацкісцкім кантрабандыстам у асобе прыхільнікаў тэорыі „адміраньня школы“ (разбурэньня пэдагагічнага працэсу). Наша задача—заўсёды быць на сваім пасту: арыентуючы настаўніка ў пытаньнях барацьбы на два франты, біць па правым і „левым“ апартунізьме, пад якім-бы сьцягам у пэдагогіцы яны ні выступалі, дапамагаць настаўніку ў яго практычнай працы шляхам правільнага абагульваньня вопыту масавай палітэхнічнай школы. Наша задача, супольна з усім настаўніцтвам, пад кіраўніцтвам КП(б) і пры актыўным удзеле ўсяе рабочае клясы, будаваць гэту новую палітэхнічную школу—зброю „ў мэтах выхаваньня пакаленьня здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм“.





# ЗА МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКУЮ ТЭОРЫЮ Ў ПЭДАГОГІЦЫ

П. Панкевіч

## Супроць антыленінскай тэорыі „адміраньня школы“

(*Працяг*)

Цяпер пяройдзем да Ваганяна. Ваганян, як і Шульгін знаходзіцца на пазыцыі ліквідацыі школы. Больш таго: Шульгін у пытаньні палітэхнічнага выхаваньня зьяўляецца пасьлядоўцам трацкістага—Ваганяна. Праўда, Шульгін іншы раз выказваецца супроць некаторых установак Ваганяна, адносна савецкай школы. Але супярэчаньні Шульгіна ні ў якім разе нельга разглядаць, як бальшавіцкую крытыку пэдагагічных поглядаў трацкізма, бо ён сам шмат у чым паўтарае думкі Ваганяна. Нязгодзіца паміж Шульгіным і Ваганянам заключаецца ня ў тым—ліквідаваць школу альбо не—яны ўдвух стаяць за ліквідацыю школы, а ў тым, якімі мэтадамі зрабіць гэту ліквідацыю. У той час, як Шульгін раіць растварыць школу ў кожным буйным прадпрыемстве, Ваганян патрабуе стварыць спэцыяльную школу—прадпрыемства з разьлікам адну на 10-ць звычайных прадпрыемстваў, з тым, каб у іх было сканцэнтравана палітэхнічнае навучаньне і каб такім парадкам дапамагчы „адміраньню“ нармальнай школы. Шульгін думае паставіць на службу выхаваньню кожную вытворчасьць. Яна (вытворчасьць—П. П.) будзе пэдагазіравана—піша ён,—як будзе пэдагазіравана і вучоба. Яна будзе будавацца ня толькі ў разьліку на тое, каб даць у самы кароткі тэрмін пры найменшай затраце намаганьняў—максымум, але і ў разьліку на тое,што ў працэсе вытворчасьці будуць навучацца дзеці [1]). „Дзеці будуць навучацца ў працэсе работы таксама як і дарослыя“ [2]). Ваганян лічыць, што ня ўсякае прадпрыемства можа быць скарыстана для пэдагагічных мэтаў, бо звычайныя фабрыкі і заводы, як ён мяркуе, будучы прыстасаваны да гаспадарчых задач не падыйдуць для выхаваньня“. Ці кожнае прадпрыемства падыходзіць для таго, каб стаць палітэхнічнай школай?—пытае Ваганян. Не,—адказвае ён.—Такое прадпрыемства павінна быць дастаткова разнахарактарным і размаітным, каб падрастаючыя пралетары маглі знаёміцца „з асновамі галоўнейшых прадпрыемстваў“ і маглі-б прайсьці шэраг ступеняй кваліфікацыі. Яно павінна быць камбінаваным прадпрыемствам. Такое прадпрыемства ня можа быць чыста асьветніцкай установай, хоць яго лябараторыі і вопытныя станцыі будуць крыху большымі чым на звычайным прадпрыемстве, хоць яно павінна мець дадатковыя пры сабе пабудоўкі, дзе пасьля вытворчасьці падлеткі і юнакі праходзяць тэорытычны курс навук, хоць навукова-кваліфікаванага пэрсаналу будзе значна больш, бо на ім будуць апрача вытворчых яшчэ і вучэбна-выкладніцкія функцыі. Такое гаспадарчае прадпрыемства выпрацоўвае на рынак тавар, жыве на эканамічным разьліку, падпарадкуецца ўсім эканамічным і гаспадарчым разьлікам, выконвае плянавае заданьне двойчы большае, бо, акрамя пляну таваравытворчасьці, яно выконвае і плян вытворваньня кадраў. Ні адно старое прадпрыемства ня можа

[1]) Глядзі пачатак і працяг „КВ“ № 1, 2, 3 за 1932 г.

[2]) В борьбе за марксистскую педагогику, ст. 54.

быць прыстасавана да такой задачы, яны павінны быць пабудаваны наноў[1]) Ваганян мяркуе, што школа 2-й ступені павінна адмерці і што неабходна ўтварыць фабрыку-школу, альбо прадпрыемства-школу, якая і будзе праводзіць палітэхнічную адукацыю. Для ўтварэньня прадпрыемства-школы нельга выкарыстаць звычайныя фабрыкі, а неабходна пабудаваць новыя. У якой прапорцыі? Ваганян і на гэта адказвае: „на кожныя дзесяць фабрык і гiгaнцкіх камбінатаў—адну школу-прадпрыемства, кожнае адзінаццатае прадпрыемства па прамысловым пляне, па пляне індустрыялізацыі—на справу падрыхтоўкі людзкіх кадраў“ [2]). Калі-б мы ажыцьцявілі гэты плян Ваганяна, у нас быў-бы ўтвораны вялікі прарыў на культурным фронце. Арганізуючы адну фабрыку-школу на дзесяць прадпрыемстваў, мы атрымалі-б невялікую колькасьць такіх школ і не маглі-б імі ахапіць усю нашу моладзь для таго, каб даць ёй асьвету. У нас тады нельга было-б ажыцьцявіць усеагульнае абавязковае навучаньне, а палітэхнічная адукацыя зьявілася-б здабыткам для нямногіх. Плян Ваганяна дапамагаў-бы не разьвіцьцю культурнай рэвалюцыі, а наадварот, яе затрыманьню. Разам з тым у нас была-б сарвана і падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў, патрэба у якіх, як вядома, усё ў большай ступені ўзрастае. Невялікая колькасьць школ-прадпрыемстваў не дазволіла-б шырока разгарнуць падрыхтоўку спэцыялістых ніжэйшай, сярэдняй і вышэйшай кваліфікацыі.

Разыходзячыся па пытаньні аб мэтадах ліквідацыі школы, Шульгін і Ваганян, як зазначана вышэй, стаяць на аднэй антыленінскай пазыцыі ў адносінах школьнага будаўніцтва. Ваганян выхваляе Шульгіна за тое, што ён „першы з пэдагогаў—спэцыялістаў зразумеў, якое аграмаднае рэвалюцыянізуючае значэньне мае школа-прадпрыемства.“ [3]) і што ён „гэтай ідэяй ап'янён“.

[1]) В. А. Ваганян: „О системе народного образования“ Госуч. пед. издат., стар. 125.

[2]) Тая-ж стар. 127, 1931 г.

[3]) В. Ваганян „Основные вопросы педагогической дискуссии“ 1931 г., стар. 29.

Бязумоўна, ваганянаўская школа-прадпрыемства ніякага рэвалюцыянізуючага значэньня ня мае. Гэта шырокая фантазія левага апартуністага, які ня хоча скласьці свае зброі. Але Ваганян у тым правы, што Шульгін ап'янён, яго, ваганянаўскай ідэяй аб школе-прадпрыемстве. Дзякуючы гэтаму Ваганян мае падставу ня толькі знаходзіць блізкасьць паміж сваімі поглядамі і выказваньнямі Шульгіна, але і лічыць гэтага апошняга сваім вучнем па пытаньні аб палітэхнічнай адукацыі. Аб гэтым ён яскрава гаворыць наступнае: „Кажучы аб школе 2-й ступені і аб вышэйшай школе, якімі іх мы мелі аж да 1929 г. я пісаў у сакавіку 1929 г. г.: „школа, як яна ёсьць, ня толькі недастаткова, але яна—велічыня адмоўная і пакуль яна ёсьць мы будзем мець усё ўзрастаючы дэфіцыт культуры“. Ці правільнае гэта запэўненьне? Бязумоўна правільнае. Значна пазьней—улетку 1930 году Шульгін вельмі энэргічна пачаў адстойваць гэты-ж погляд на пытаньне. Ня верыце? Адкрыйце пяты зборнік; „Проблемы научной педагогики“, і першы артыкул Шульгіна Вам дакажа правільнасьць маіх слоў.

... „І б'е яна... (ФЗВ—В.В.) школу 2-й ступені, школа 2-й ступені стаіць перад сьвежай адкрытай магілай,—гэта так ясна“.

Ясна!

„ І шкадуюць яны (апартуністы,—В.В.) школу 2-й ступені, яе яны аплакваюць. На ёй настойваюць ўноў. І дарэмна. Яе ўваскрасіць нельга“.

Нельга!

„Ламаюцца Вузы. Старыя Вузы, у якіх і да гэтых часоў вітае цень сярэднявечча, трашчаць яны па ўсіх швох.“

Трашчаць!

„Яны будуць зьмецены, альбо выкінуты вон.“

Вон!

„Старая школа 2-й ступені ня можа быць і калідорам у наш Вуз“.

Ня можа!

„Першае, што павінны зрабіць прыхільнікі школы 2-й ступені,—„гэта ўключыць іх у вытворчасьць, г. зн. перавесьці іх на рэйкі ФЗВ, і тым самым зьнішчыць іх“.

Зьнішчыць!

„Так канчаецца паганая казка са школай 2-й ступені“.

Натуральна скончыцца, калі зьнішчыш іх [1]).

Гэты дыялёг паміж Шульгіным і Ваганянам паказвае аб поўнай іх салідарнасьці наконт ліквідацыі школы. Праўда, Шульгін спрабаваў затушаваць гэту салідарнасьць, робячы выгляд нібы-та ён ня згодзен з Ваганянам па пытаньні аб школе-прадпрыемстве. Але доказы Шульгіна дужа наіўныя. Ён стараецца абмежавацца ад Ваганяна тым, што абвясьціў сябе прыхільнікам прадпрыемства-школы, тады, як Ваганян, па сьцьвярджэньні Шульгіна, нібы-та быў прыхільнікам школы-прадпрыемства.

Увесну 1931 году ў артыкуле „О школе“ ён зазначае наступнае: „у гэтым артыкуле я кажу: прадпрыемства—школа.“ Раней у 1930 г. пісаў: „Школа—прадпрыемства“. Зараз лічу немагчымым карыстацца гэтым тэрмінам, бо ім карыстаецца Ваганян, які скажае самую сутнасьць прадпрыемства-школы.“

Скажэце, калі ласка, Ваганян скажае сутнасьць прадпрыемства-школы, а Шульгін не. Але для нас застаецца нясумненым, што адзін з гэтых школьных ліквідатараў варты другога. Ваганян сам тлумачыць, што ён ня бачыць прынцыповай розьніцы паміж прадпрыемствам-школай і школай-прадпрыемствам. І гэта правільна. „Чаму прадпрыемства-школа лепш ад школы-прадпрыемства?—кажа ён.—У маёй кнізе абудвы выразы ўжываюцца і я ня бачу ніякай розьніцы, ні граматычнай, ні лёгічнай паміж імі. Школа, якая адначасна зьяўляецца прадпрыемствам—ёсьць школа—прадпрыемства“ [2]).

Ваганян хоча паказаць справу так, што ён „лявей“ за Шульгіна, што гэты апошні нібы-та ўжо цяпер праяўляе тэндэнцыю абараняць „старую школьную сыстэму“, у той час, як ён, Ваганян, лічыць неабходным ліквідаваць школу зараз-жа. „Але калі ўпэўніцца—так піша Ваганян аб Шульгіну, што я зараз, гэту-ж хвіліну лічу неабходным ломку старой школьнай сыстэмы пасьля сямігодкі, што школа-прадпрыемства нічога агульнага ня мае з практыкай студэнтаў і патрабуе неадкладнай ломкі старой школы,—ён спалохаўся“ [3]). Але Ваганян вельмі памыляецца. Шульгін крытыкаваў яго не за тое, што ён патрабаваў безадкладнай ліквідацыі школы, бо і сам „крытык“ стаяў на гэтай пазыцыі, а за тое, што Шульгін, як зазначана вышэй, імкнуўся ліквідаваць школу другімі шляхамі, чым Ваганян, а менавіта шляхам растварэньня школы ў прадпрыемстве. Гэта справядліва адзначае і сам Ваганян, кажучы, што „Шульгін думае ператварыць усе вытворчыя адзінкі ў школы, растварыць школы ўсіх ступеняй і ўсіх узростаў у прадпрыемстве, зьвесьці ўвесь выхаваўчы працэс да працэсу вытворчага“ [4]). Тут удала падкрэсьліваецца ліквідатарская ўстаноўка Шульгіна. Але цікава тое, што Ваганян паказвае сябе больш рашучым ліквідатарам у адносінах школы, чым Шульгін, хоць па-сутнасьці пазыцыя таго і другога зьяўляецца аднолькава антыленінскай. Розьніца паміж Ваганянам і Шульгіным толькі тая, што першы з іх больш адкрытны і пасьлядоўны, чым другі. Шульгін сваю ліквідатарскую пазыцыю спрабуе прыкрываць крытыкай поглядаў Ваганяна і мнімым прызнаньнем школы на дадзеным этапе. Таму выказваньні Шульгіна носяць надзвычайна блытаны, супярэчлівы характар.

А гэта блытаніна не выпадковая: яна зьяўляецца сьвядомым замаскаваным абходным манэўрам супроць школы і ня менш небясьпечная, чым „оголтелый“, шалёны наскок Ваганяна. Ваганян адчыненна піша: „Школа катэгорыя ўпаўне гістарычная. У сваім лісьце да т. Бубнова я спрабаваў даказаць гэта палажэньне, і паколькі ніхто з маіх апанэнтаў не пярэчыў маім довадам, я лічу іх элементарнымі і агульнапрызнанымі. Я пісаў так: „Грамадзкі лад, які паставіць у парадак дню пытаньне аб ліквіт-

[1]) Там-жа, стар. 14-15

[2]) Ваганян „Основные вопросы педдискуссий“, стар. 31.

[3]) Там-жа, стар. 34.

[4]) Там-жа, стар. 11.

дацыі падзелу працы, тым самым аўтаматычна высуне і праблему ліквідацыі школы ў яе сучаснай форме. Але ліквідаваць сучасную форму школы—гэта не азначае раствараць яе ў працэсе вытворчасьці. Будучая школа ня будзе школай, але яна будзе сваяўласьцівай арганізацыяй, якая будзе выконваць цэлы шэраг функцый, якія выконваюцца школай зараз, хоць выконваюцца дрэнна" [1]). І далей: „Школы ня будзе, але ўласьцівасьць школьнага працэсу застанецца. Школы ня будзе, але арганізацыя яе зьмяняючая, будзе арганізацыяй дзяцей і падлеткаў, якія пад кіраўніцтвам і пры дапамозе „спэцыялістых", людзей знаючых, умеючых і адчуваючых да таго прыхільнасьць, праходзяць доўгі шлях выхаваньня, шматгадовы шлях фармаваньня" [2]).

Зусім зразумела. не згаджацца з тым, што школа ёсьць катэгорыя гістарычная ніхто з марксыстаў ня можа і ня будзе, бо гэта ёсьць аксыома марксызму. Але Ваганян з гэтай гістарычнасьці школы робіць зусім няправільны вывад аб тым, што нібы-та ў будучым школа адамрэ і застанецца толькі сваяўласьцівасьць пэдагагічнага працэсу.

Але ён не разумее таго, што гістарычнасьць школы ў адносінах будучыні (аб мінулым мы тут не гаворым) заключаецца ня ў тым, што школа зьнікне, а ў ператварэньні яе з клясавай арганізацыі камуністычнага выхаваньня ў бясклясавую арганізацыю. Ваганян, між іншым, прызнае магчымасьць існаваньня ў будучым якойсьці арганізацыі дзяцей і падлеткаў, у якой падрастаючае пакаленьне будзе праходзіць „шматгадовы шлях фармаваньня". Што гэта за арганізацыя?

Гэта, бязумоўна, ня школа, а школа-прадпрыемства, пры дапамозе якой Ваганян і спадзяецца зьнішчыць (ўбіць) сапраўдную школу.

Школа-прадпрыемства прадстаўляецца Ваганянам у выглядзе аграмаднага індустрыяльна-пэдагагічнага камбінату, у які ўключаюцца рабфакі, ФЗВ, Тэхнікумы і Втузы. Ваганян упэўнены, што рабфакі ня могуць разьвівацца ў сыстэме „старой школы", г. зн. у сыстэме вышэйшых навучальных устаноў, бо ўваходзячы ў склад старой школы, яны пераатвараюцца, як ён думае, у гнёзды схалястыкі, у сумныя, нудныя згрупаваньні тупой зуброжкі і „падрыхтоўкі ў Вуз", яны нямінуча будуць падганяцца да ўзроўню іншых факультэтаў" [3]). Рабфакі. якія ў нас былі асноўным рычагом прасоўваньня рабочых ў Вуз, якія падрыхтавалі тысячы будаўнікоў сацыялістычнае грамады з асяродзьдзя рабочых, разглядаюцца Ваганянам, як гнёзды схалястыкі, як сумныя, нудныя згрупаваньні тупой зуброжкі. Для таго, каб выратаваць рабфакі, Ваганян прапануе просты рэцэпт—уключыць іх у сыстэму школы-прадпрыемства, г. зн. зьнішчыць іх. Ён патрабуе зьвярнуць іх „да сыстэмы згрупаваньня аплачваемай вытворчай працы з навучаньнем", будаваць іх „на аснове працы па магчымасьці на тэрыторыі аднэй эканамічнай адзінкі, каб была магчыма варыяцыя з часам камбінацыі вучэбных і вытворчых працэсаў", стварыць іх „на прынцыпе ня толькі прагрэсу і росту ведаў, але і раўналежным росьце звычак і працоўных кваліфікацый" [3]). „Нам-жа неабходна падумаць аб тым, каб зьвярнуць рабфакам іх першапачатковую прыроду,—зазначае Ваганян.—Патрэбна спыніць стыпэндыяльную вакханалію, патрэбна ізноў зьвязаць рабфакі з фабрычнай працай, з аплачваемай працай з калектыўным агульнаклясавым жыцьцём" [4]).

На першы погляд можна падумаць, што Ваганян прапануе надзвычайна рэвалюцыйную меру, раючы „зьвязаць рабфакі фабрычнай працай". На справе-ж пад гэтай звонку рэвалюцыйнай фразай захоўваецца ў Ваганяна арсэнал рэакцыйных думак. Аказваецца, Ваганян супроць таго, каб вызваляць рабочых спэцыяльна для вучобы ў рабфаках і каб плаціць ім стыпэндыю. Выступаючы супроць „стыпэндыяльнай вакханаліі", патрабуючы „зьвязаць рабфакі з аплачваемай працай", ён настойвае на тым

1) Там-жа, стар. 13.
2) Там-жа, стар. 14.
3) Ваганян „О системе народного образования" стар. 71. 1931 г.
4) Там-жа, стар. 72.

каб рабочых навучаць у працэсе вытворчасьці, а гэта азначае зрыў рабочае адукацыі праз рабфакі і спыненьне прытоку рабочых у Вуз.

Таксама Ваганян робіць шалёны наскок і на ФЗВ, адмаўляючы неабходнасьць іх для падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых на сучасным этапе.

„ФЗВ быў добрым, калі задача заключалася ў аднаўленьні кадраў наяўных прамысловых прадпрыемстваў,—разважае Ваганян.—Тады кожная школа пры фабрыцы спакойна спраўлялася (альбо магла справіцца) з задачай аднаўленьня страт данай фабрыкі альбо заводу. Але мы зараз адчыняем новыя фабрыкі. Індустрыялізаваць краіну—значыцца ствараць нязьлічоную колькасьць новых заводаў і прадпрыемстваў. Адкуль ўзяць на іх кваліфікаваную сілу ў патрэбнай колькасьці? Ці можа ФЗВ кожнай фабрыкі ўзяць на сябе выпрацоўку кваліфікаванай сілы на біржу працы? Зразумела, не. Акрамя таго, што гэта вельмі ўдаражыць навучаньне сваіх кадраў,—такая саматужная сыстэма нямінуча дасьць дыспрапорцыю паміж патрэбаю і прапанаваньнем: адных кваліфікацый больш, другіх зусім ня будзе. ФЗВ у сучаснай форме для вырашэньня гэтай задачы не падыходзіць. Патрэбна ФЗВ паставіць па-за заводам на заводзкай аснове, інакш кажучы, патрэбна пабудаваць фабрыкі па выпрацоўцы рабочай кваліфікацыі." [1]) Ня гледзячы на тое, што партыя зьвяртае вялікую ўвагу на падрыхтоўку кваліфікаваных рабочых праз ФЗВ і пасьпяхова вырашае гэту задачу на практыцы, Ваганян лічыць немагчымым скарыстаньне ФЗВ для падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых кадраў. Патрабаваньне Ваганяна „паставіць ФЗВ па за заводах на заводзкай аснове" азначае ўключыць ФЗВ у сыстэму школы-прадпрыемства і, значыцца, ліквідаваць гэту школу.

Такім парадкам, Ваганян выступае супроць рабфакаў і ФЗВ, адстойваючы ўпарта свае антыленінскія ўстаноўкі ў справе народнае асьветы. Таксама ён з агідаю адгукаецца і аб тэхнікумах. „Аб тэхнікумах я не кажу,—заяўляе наш школьны ліквідатар,—бо па самай сваёй пабудове—працоўная аснова, нікчэмныя майстэрні—яны нічога стварыць ня могуць і як форма падрыхтоўкі кваліфікаванай сілы нікуды ня варты" [2]). Так распраўляецца Ваганян з важнейшымі зьвеньнямі народнай асьветы. Ён ліквідуе ня толькі сямігодку, але і ФЗВ, рабфак і тэхнікум. Замест усяго гэтага ён стварае школу-прадпрыемства.

Што-ж такое школа-прадпрыемства? Мы раней ад усяго даведаліся ад Ваганяна, што ідэя школы-прадпрыемства рэалізавана ў такіх капіталістаў, як Форд. Ваганян піша: „Форд, на вялікі нам сорам, практычна паспрабаваў рэалізаваць школу-прадпрыемства... [3]) І далей „вопыт Форда і іншых перадавых буржуазных прадпрыемцаў даюць шмат нагляднага матар'ялу аб тым, як павінна расьці сучасная школа [4]). Наш ліквідатар такім парадкам адчынена прызнаецца ў тым, што сваю ідэю аб школе-прадпрыемстве ён пераняў у капіталістаў. І сапраўды, тая школа-прадпрыемства, якую дае Ваганян, шмат у чым напамінае буржуазную вытворчасьць. Бязумоўна, мы не павінны адмаўляцца, пераймаць ад буржуазнай культуры тое, што неабходна і карысна для пралетарскай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва. Але тое, што мы бярэм ад буржуазнай культуры, павінна быць карэнным чынам перапрацавана ў дусе марксысцка-ленінскай тэорыі. Ваганян-жа кажа не аб крытычным вучоце вопыту капіталістычных краін, а аб мэханічным перанясеньні буржуазнай культуры на грунт савецкай рэчаіснасьці. Гэта адпавядае асноўным установкам трацкізму, які адмаўляе магчымасьць стварэньня пралетарскай культуры і пабудову сацыялізму ў нашай краіне, які не прызнае сацыялістычны характар нашых фабрык і заводаў. Ваганянаўская школа-прадпрыемства будуецца на аснове індустрыяльнае працы. А гэта праца разглядаецца Ваганянам як гвалт. „Калі на самой справе мы хочам арганізаваць

[1]) Там-жа, стар. 79.

[2]) Там-жа, стар. 79.
[3]) Там-жа, стар. 119.
[4]) Там-жа, стар. 121.

школьнае навучаньне на вытворчай працы,—піша ён, —мы павінны раней ад усяго выкінуць з галавы ўсякія манілаўскія ідэі наконт „свабоды ад гвалту“. Вольнай ад гвалту грамадзка-арганізаванай працы ня бывае. Зразумела, праца можа быць арганізавана культурна і някультурна, можа быць ахаванай альбо стаць аб'ектам барбарскага расхішчэньня; можна гаварыць аб працы паднявольнай, альбо сьвядомай, але ва ўсіх выпадках праца аднолькава зьмяшчае ў сябе элемэнт гвалту і пошукі „вольнае ад гвалту“ працы, вельмі мае цадабенства на анархізм“ [1]) Ваганян хоча ўпэўніць чытача, што „вольнае ад гвалту“ грамадзка-арганізаванай працы ня бывае“. Адсюль нямінуча вынікае, што фабрычная праца ў нашай краіне зьяўляецца таксама гвалтам. Такое запэўненьне ёсьць самы адчынены, нічым няскрыты. трацкізм. Разглядаць працу на сацыялістычных прадпрыемствах як гвалт, значыцца адмаўляць сацыялістычны характар нашых фабрык і заводаў, саўгасаў і калгасаў. Праца зьяўляецца гвалтам толькі там, дзе існуе эксплёатацыя, дзе маюцца дзьве супрацьлеглых няпрымірымых клясы, з якіх адна, уладаючы сродкамі вытворчасьці на аснове прыватнай уласнасьці, выступае як эксплёататар, а другая, будучы пазбаўлена ўсялякай уласнасьці і існуючая толькі за кошт продажу сваёй рабочай сілы, выступае як эксплёатуемая. У нашай краіне існуе дыктатура пралетарыяту, фабрыкі, заводы і саўгасы (а таксама ў пэўным сэнсе і калгасы) належаць пралетарскай дзяржаве, у іх прадстаўлена адна кляса, а ня дзьве, тут няма ніякай эксплёатацыі. Таму і праца сацыялістычнай вытворчасьці ня можа быць гвалтам. Для таго, каб праца была гвалтам, неабходна кляса, якая-б ажыцьцяўляла гэты гвалт у адносінах да працы. Пралетарыят у нашай краіне, выступаючы як дыктатар, ня можа ажыцьцяўляць гвалту ў адносінах да самога сябе і ў адносінах да працоўнага сялянства. Таму запэўненьне Ваганяна, што праца ёсьць гвалт, нават у краіне саветаў, азначае ня што іншае, як адмаўленьне сацыялістычнага характару нашых буйных прадпрыемстваў і спробу апраўдаць вядомы контр-рэвалюцыйны тэзіс „трацкізму“ аб палітыцы гвалту з боку пралетарыяту ў адносінах асноўных мас сялянства. У Ваганяна мы знаходзім недапушчальныя абураючыя думкі аб рэволюцыйным пралетарыяце, накшталт такіх як „рабочая і пралетарская голь і рвань“ будзе пастаўляць зноў у тым-жа старым парадку малапісьменных недавучак (о системе народного образования, стр. 119). Кваліфікаваць пралетарыят як „голь“ і „рвань“ будзе пастаўляць зноў у тым-жа старым парадку малапісьменных недавучак“, калі гэты пралетарыят ня пройдзе ваганянаўскую школу-прадпрыемства, зьяўляецца ня больш як аскальваньнем контр-рэвалюцыйных зубоў ашалелага трацкіста. Патрабуючы арганізаваць школьнае навучаньне на аснове гвалтоўнае вытворчае працы, Ваганян тым самым прапануе нам арганізаваць школу-прадпрыемства на аснове капіталістычнага прынцыпа эксплёатацыі дзіцячай рабочай сілы. Гэта тэндэнцыя між іншым знайшла сваё адабражэньне ў абароне Ваганянам ідэі аб аплачваемай працы вучняў у школе-прадпрыемстве. Скажаючы марксыцка-ленінскае разуменьне палітэхнічнай школы, Ваганян даказвае нібыта Маркс лічыў абавязковым і неабходным рэгулярны і арганізаваны ўдзел дзяцей у вытворчасьці ў якасьці „наёмных рабочых“. Ваганян разглядае вучняў ня інакш, як „наёмных рабочых“, якія павінны даваць дадатковую вартасьць. А гэта ў корані супярэчыць разуменьню Марксам і Леніным сутнасьці палітэхнічнае адукацыі. „Уступленьне ў грамадзкую працу Маркс разглядае ня як сьвята, ня як толькі факт выхаваўчы,—стараецца ўпэўніць нас Ваганян,—але і як пачатак самастойнага жыцьця, як пераход на свой кошт“ [2]). „Па-сутнасьці патрабаваньні Маркса зводзяцца да таго, каб пачатак навучаньня супаў з пачаткам аплачваемай працы“ [3]). Тут Маркс скажон да непазнавальнасьці. Ваганян патрабуе, каб пачатак навучаньня супаў

[1]) Там-жа, стар. 62.

[2]) О системе народного образования, стр. 49-50.

[3]) Там-жа, стар. 50.

з „пачаткам аплачваемай працы“. Што гэта азначае? Гэта азначае тое, што дзеці павінны эксплёатавацца з першых-жа дзён зьяўленьня іх у школе. Аплачваемая праца дзяцей, як кажа Ваганян, азначае капіталістычную эксплёатацыю вучняў. Школа-прадпрыемства, якую раіць Ваганян, ёсьць буржуазная вытворчасьць, якая існуе і разьвіваецца за кошт дадатковай вартасьці, выціскаемай з дзяцей рабочай сілы. „Будучага чалавека, чалавека будучай грамады,—даказвае Ваганян,—можа стварыць школа, толькі зьнішчыўшы яе ранейшыя формы, толькі карэнным парадкам згрупаваўшы школу з фабрычнай працай; перамагчы супраціўленьне сыстэмы імкненьнем рабочае клясы да закончанай адукацыі, можна толькі абгрунтаваўшы навучаньне аплачваемай працы. Вось такі погляд Маркса.

1) Прыцягненьне капіталізмам дзяцей і падлеткаў да ўдзелу ў грамадзкай вытворчасьці ёсьць факт бязумоўна прагрэсыўны, асабліва ў некапіталістычных умовах—у эпоху панаваньня рабочае клясы, калі гэта праца ахоўваецца.

2) Буйная індустрыя не можа абыходзіцца без дзіцячай і юнацкай працы, таму пры вырашэньні школьнай праблемы патрэбна выходзіць з гэтай неабходнасьці, а не з утапічных плянаў перэтварыць усіх дзяцей школьна-выхаваўчага ўзросту ў бязьдзельнікаў.

3) Навучаньне дзяцей павінна быць злучана з удзелам дзяцей і падлеткаў у грамадзкай вытворчасьці.

4) Праца дзяцей павінна быць абавязковай для ўсіх і аплачваема не за кошт накапленьня грамады (стыпэндыі), а як заработная плата з вытваранай імі вартасьці.

5) Навучаньне павінна быць абавязковым для ўсіх дзяцей і падлеткаў, якія удзельнічаюць у вытворчасьці і палітэхнічным.

6) Такое раньняе злучэньне вытворчай працы з навучаньнем—магутны сродак перэтварэньня капіталістычнае грамады ў сацыялістычную.

Правільна тое, што навучаньне дзяцей павінна быць злучана з удзелам іх у грамадзкай вытворчасьці з вядомага ўзросту Але Ваганян разумее злучэньне навучаньня дзяцей з іх вытворчай працай па антыленінску, не па *партыйнаму*. Ён патрабуе падпарадкаваць навучаньне вытворчай працы дзяцей, а самая праца разглядаецца як сродак атрыманьня дадатковай вартасьці.

Дадатковая вартасьць ёсьць катэгорыя капіталістычнай экономікі. У адносінах сацыялістычнай вытворчасьці можна гаварыць не аб дадатковай вартасьці, але аб сацыялістычным накапленьні. Самы факт ужываньня капіталістычных катэгорый, дастасоўваючы да школы, прадпрыемства, падкрэсьлівае імкненьне Ваганяна ўтварыць буржуазную вытворчасьць пад маскай скажоных апартуністычных тлумачэньняў Маркса. Калі Маркс і кажа аб аплачваемай працы вучняў у палітэхнічнай школе, дык ён мае на ўвазе такое злучэньне аплачваемай вытворчай працы з адукацыяй, пры якім гэта праца падпарадкуецца вучэбна-выхаваўчым задачам школы.

У Ваганяна наадварот—вучэбна-выхаваўчыя задачы школы падпарадкуюцца аплачваемай вытворчай працы дзяцей на прадпрыемстве. Маркс—супроць эксплёатацыі дзяцей, Ваганян-жа фактычна адстойвае такую сыстэму выхаваньня, якая нямінуча вядзе да эксплёатацыі вучняў як наёмных рабочых у буржуазнай грамадзе. Цікава тое, што Ваганян устанаўляе ў сваёй школе-прадпрыемстве для падлеткаў працоўны дзень у 9 гадзін, з якіх 6 гадзін ідуць на вытворчую працу і 3 гадзіны на вучэбныя заняткі. Зусім зразумела, што гэткі доўгі рабочы дзень быў-бы для вучняў знуральным, надзвычайна шкодным для іх фізычнага разьвіцьця і сур'ёзнай перашкодай для іх інтэлектуальнага росту. На вучэбныя заняткі адводзіцца тут настолькі мала часу, што вучань бязумоўна ня мог-бы добра аўладаць асновамі навук—фізыкі, хэміі. матэматыкі і г. д.

Ня гледзячы на тое, што Ваганян і сьцьвярджае, што „такое раньняе злучэньне вытворчай працы з навучаньнем--магутны сродак перэтварэньня капіталістычнай грамады ў сацыялістычную“, тым ня менш гэта раньняе злучэньне навучаньня з вытворчай працай дзяцей, як яно разумеецца Ваганянам, зьяўляецца па сутнасьці сродкам рэстаўрацыі

капіталістычных адносін у нашых умовах. Апісваючы сваю школу-прадпрыемства, Ваганян зазначае на наступнае: „Школа выпрацоўвае тавар на рынак. Яна жыве працай сваіх маладых выхаванцаў; яна разьвіваецца за кошт дадатковай вартасьці, за кошт прыбытку як усялякае прадпрыемства. Яна складае пэўнае гаспадарчае зьвяно і выконвае заданьні плянавых і апэрацыйных ворганаў, яна ўключана ў агульную эканоміку краіны“ [1]).

Словам, гэта школа і прадпрыемства, дзе дзеці і падлеткі заняты галоўным чынам вытворчай працай, якая дае дадатковую вартасьць, а вучэбная праца зьяўляецца скромным дадаткам да вытворчасьці. Ваганян так і піша: „Гэта школа павінна быць вытворчай адзінкай з усімі выцякаючымі адсюль эканамічнымі вынікамі. Праца павінна быць аплачваема, прычым норма аплаты павінна быць ня ніжэй жыцьцёвага мінімуму (і за гэта дзякуй!—скажам мы). Увесь школьна-вучэбны працэс павінен выходзіць з гэтых абавязковых прадпасылак і павінен быць дастасаваны да іх“ [2]).

Ваганян падкрэсьлівае, што школа-прадпрыемства—„гэта раней ад усяго добра арганізаванае і дысцыплінаванае прадпрыемства“ [3]), бо „такая школа можа стаць школай толькі пры суровай працоўнай дысцыпліне, пры вялікай культуры працы“ [4]).

Выходзіць, што школа-прадпрыемства ўстанаўляе не сьвядомую дысцыпліну сярод вучняў, а суровую. Такая дысцыпліна магчыма толькі на капіталістычных прадпрыемствах, дзе праца зьяўляецца сапраўды гвалтам.

Мы ўжо казалі, што Ваганянаўская школа-прадпрыемства нікольк не падобна на політэхнічную школу, якую паказвае Маркс у рэзалюцыі І-га Кангрэсу І-га Інтэрнацыяналу. Ня гледзячы на тое, што Ваганян і называе школу-прадпрыемства палітэхнічнай школай, у сапраўднасьці гэта ня школа, а прадпрыемства, у якім адукацыя займае другараднае

[1]) Там-жа, стар. 85
[2]) Там-жа, стар. 121
[3]) Там-жа, стар. 119
[4]) Там-жа, стар. 83

падпарадкаванае месца і мае не палітэхнічны характар, а прафэсыйна-тэхнічны. Зараз мы гэта дакажам.

Ваганян рэкамэндуе наступную сыстэму народнае адукацыі:

1) Дзяржаўныя яслі для дзяцей з аднаго году да васьмі год.

2) Дзіцячыя сады з 5 год да 7 уключна.

3) Палітэхнічная працоўная сямігадовая школа сацвыху, абавязковая, дармовая, якая забясьпечвала-б вучняў усім неабходным і ахапляла-б дзяцей ва ўзросьце 8—15 год.

4) Школа-прадпрыемства з пяцігадовым курсам навучаньня.

5) Вышэйшая навучальная ўстанова.

Што тычыцца ясьляй і дзіцячых садоў, то Ваганян тут нічога новага не прапануе. Неабходна прыгледзецца і да таго, што ён разумее пад палітэхнічнай працоўнай сямігадовай школай. Другая Усесаюзная партыйная нарада па народнай адукацыі, якая адбылася ў красавіку 1930 г., гаворыць аб тым, што „неабходна вылучыць ува ўсёй сыстэме агульнае сярэдняе адукацыі сямігодку, як рашаючае на бліжэйшым этапе сацыялістычнага будаўніцтва зьвяно“. Ваганян-жа ня лічыць сямігодку рашаючым зьвяном у сыстэме агульнае і сярэдняе адукацыі на бліжэйшым этапе, пераносячы цэнтр вагі на сваю праславутую школу-прадпрыемства. Праўда, у адным месцы адзначае, што „менавіта ў ёй (у сямігодцы—П. П.) вучні знаёмяцца з вытворчасьцю, з краем, з асновамі працоўных працэсаў“ [5]). Але гэта ў яго застаецца пустым гукам, бо тут-жа Ваганян спрабуе адмаўляць палітэхнічны характар сямігодкі. „Палітэхнізацыю школы,—піша ён,—можна правесьці толькі праз арганізаваны сапраўдны ўдзел усіх падлеткаў звыш 15-ці гадовага ўзросту ў вытворчасьці ў якасьці рабочай сілы для эксплёатацыі...“ [6]). Такім парадкам Ваганян думае, што палітэхнізацыю школы да 15 гадовага ўзросту, г. зн. у сямігодцы, нельга ажыцьцявіць“. Школа да 14 год (школа-сямігодка)—працягвае ён—нямінуча будзе ня столькі політэхнічнай, колькі пра-

[5]) Там-жа, стар. 87
[6]) Там-жа, стар. 120.

цоўнай з усякімі майстэрнямі, прышкольнымі вучасткамі, экскурсіямі на заводы, знаёмствам з гісторыяй тэхнікі ў музэях, з добра арганізаванай грамадзка-карыснай працай.“ [1])

Адсюль відаць, што Ваганян лічыць, сямігодку ня столькі палітэхнічнай, колькі працоўнай. Але ўсё-ж такі з гэтага запэўненьня можна вынесьці ўражаньне нібы-та Ваганян часткова прызнае за сямігодкай магчымасьць ажыцьцяўленьня вядомых элемэнтаў палітэхнічнае адукацыі. Разгледзім гэта пытаньне.

Ваганян справядліва зазначае, што пры арганізацыі політэхнічнай адукацыі неабходна ўлічваць узросныя асаблівасьці вучняў. Але гэты прынцып уліку ўзросных асаблівасьцяй дзяцей ён выкарыстоўвае як раз для таго, каб адмаўляць палітэхнічную адукацыю. „Палітэхнізм першых школьных узростаў“,— піша ён,—гэта штосьці прынцыпова адрозьненае ад палітэхнізму працоўных узростаў“ [2])

Што-ж ён разумее пад палітэхнізмам сямігодкі?

„Палітэхнізм у раньняй школе, — чытаем мы далей ў Ваганяна,— ёсьць палітэхнізм шырокі, ён азначае ўрэшце элемэнтарнае азнаямленьне з асноўнымі працоўнымі навыкамі—ня больш таго. Калі цяпер які-небудзь 17-ці гадовы мужчына займаецца ў школьнай майстэрні вырэзваньнем і склейваньнем каробак, гэта сьмешна. Калі ў прышкольнай майстэрні тэхнікума студэнт—дарослы юнак—займаецца струганьнем палачак для памідорных рассад, гэта сьмешна і нудна. Але для ўсіх тых узростаў, якія маюць патрэбу ў мэтадычным засваеньні элемэнтарных ведаў і навыкаў, для дзіцячага ўзросту такія прышкольныя майстэрні адчыняюць дастатковыя і бліскучыя пэрспэктывы для выпрацоўкі элемэнтарных, разнастайных, усебаковых і мэтазгодных (з пэдагагічнага пункту погляду) працоўных навыкаў. Палітэхнізм у раньняй школе, апрача гэтага, уключае ў сябе цэлую вераніцу грамадзка-карысных работ, якія не ўваходзяць у разуменьне „палітэхнізм“, у вузкім сэнсе слова палітэхнізм дарослых“ [3]).

Тут маецца некалькі няправільных думак. Аказваецца, Ваганян раіць для раньняй школы „палітэхнізм шырокі, які зводзіцца толькі да азнаямленьня з асноўнымі працоўнымі навыкамі—ня больш“. Гэта супадае з поглядамі Шульгіна, які зводзіць палітэхнічнае выхаваньне толькі к практыцы, ігнаруючы тэорыю.

Ваганян-жа не разумее таго, што палітэхнізм Маркса-Леніна—уключае ня толькі навыкі, але і веды, што важнейшым момантам палітэхнізму зьяўляецца асмысьленьне тэхналёгічнага працэсу галоўных галін вытворчасьці. Далей Ваганян запэўняе, што палітэхнічная адукацыя ў раньняй школе павінна будавацца толькі на аснове майстэрняў. Як гэта ня дзіўна, тут ён падае руку правым апартуністам, якія ў асноўным спасылаюцца на шлях мануалізма, г. зн. на шлях ручное працы ў зачыненых майстэрнях. Пастанова ЦК партыі аб школе зазначае, што майстэрні могуць быць сродкам палітэхнізацыі школы толькі пры ўмове згрупаваньня іх з прымацаваньнем школ да заводаў, фабрык, электрастанцый, МТС, саўгасаў і калгасаў. Ваганян прапагандуе другую ідэю, а менавіта—ідэю рамесьніцкага навучаньня „для першых школьных узростаў“. А гэта не зьяўляецца палітэхнізмам, хаця нам аўтар вельмі даказвае, што ён адстойвае шырокую палітэхнічную адукацыю да 14 год. Праўда Ваганян прызнае магчымым прымацаваньне сямігодкі да буйнага прадпрыемства. „Ці патрэбна прымацоўваць школы-сямігодкі да прадпрыемстваў (фабрык, заводаў, саўгасаў, калгасаў і г. д.)?—пытае ён і адказвае: „Неабходна“. [4]) Аднак, гэта прымацаваньне сямігодкі да прадпрыемстваў абмяжоўваецца ў яго толькі тым, што дзеці прымаюць ўдзел у грамадзкім жыцьці прадпрыемства. Што-ж тычыцца вывучэньня вытворчасьці шляхам удзелу дзяцей ў нытворчай

[1]) Там-жа, стар. 120

[2]) Основныя вопросы педагогической дискус-

[3]) Основные вопросы педагогической дискуссии, стар. 22.

[4]) Там-жа, стар. 23.

працы, альбо шляхам экскурсій, дык гэта выпадае ў Ваганяна. „Палітэхнізм“ бяз вывучэньня сацыялістычнае вытворчасьці зусім зразумела не зьяўляецца палітэхнізмам. Але можа быць Ваганян, улічваючы ўзросныя асаблівасьці дзяцей, лічыць недаступным вывучэньне буйнае вытворчасьці для вучняў да 15 год? Нічога падобнага. Адмаўляючы палітэхнічную адукацыю „у раньняй школе“, ён у той-жа час лічыць магчымым патрабаваньне, у некаторых выпадках, прафэсыйна-тэхнічнай адукацыі з 12 год.

„Будаваць працу над сямігодкай ў вёсцы—зазначае Ваганян—наўрад ці магчыма будзе практычна ажыцьцявіць. Апрача сваёй дарагавізны, сялянскія дзеці ў 14 год—гэта ўжо работнікі пэўнай кваліфікацыі. Сялянскае дзіцё павінна пачаць сваю кваліфікацыю раней—прыкладна з 12 год. Нават сялянская бедната, нават пры ўмовах дзяржаўнага падтрыманьня, у сваёй масе наўрад ці пратрымаецца 7 год у школе. Ва ўсіх гэтых меркаваньнях найбольш мэтазгодным зьяўляецца пераход на аплачваемую працу „ў батраках“, на хлебнай фабрыцы—школе не пазьней 12 год, г. зн. пасьля пяцігодкі“ [1]). Ваганян ня раз гаворыць аб раньняй спэцыялізацыі дзяцей. Гэтым самым ён падкрэсьлівае, што сямігодка, прынамсі, у адносінах старэйшых груп зьяўляецца ў яго не палітэхнічнай школай, а прафэсыйнай. А гэта ў корані супярэчыць Леніну, які патрабаваў „унікаць раньняй спэцыяльнасьці“. Ваганян тут адчынена выступае супроць партыйнай лініі ў галіне школьнага будаўніцтва.

Пасьля сямігодкі ў сыстэме народнае адукацыі, якая раіцца Ваганянам, ідзе школа—прадпрыемства. Апошняя зьяўляецца, як зазначана вышэй, вучэбна-вытворчым камбінатам, які ўключае ў сябе школу фабрычна-заводзкага вучнёўства, рабфакі, тэхнікумы і нават Вузы. У гэтую школу паступаюць падлеткі ад 15 год, і навучаюцца тут на працягу пяці год. Для вёскі арганізуюцца школы—саўгасы. „Ролю фабрыкі для сялянскае працы, для бядняцка-серадняцкай моладзі адыграюць нашы хлебныя фабрыкі,—тлумачыць Ваганян.—Хлебныя гіганты, арганізаваныя на індустрыяльнай падставе, самі па сабе могуць стаць цэлым камбінатам школ і дасьледчых станцый: агранамія, жывёлагадоўля, сэлекцыйная справа, мэліарацыя і г. д. і г. д. Аплачваючы працу бедняка і батрака, замяні яго працу на полі і абучай—гэткі выхад для бязьмежнага мора сялянскай моладзі“ [2]). Чаму ў хлебных фабрыках неабходна аплачваць працу бедняка і батрака, а працу серадняка патрэбна не аплачваць—гэта зусім няясна. Але гэта яшчэ раз падкрэсьлівае троцкісцкую тэндэнцыю Ваганяна—ігнараваць інтарэсы серадняка—на тым этапе, калі мы праводзілі палітыку саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, апіраючыся на беднату. Цяпер-жа, зразумела, у нас зьяўляецца сапраўднай моцнай апорай савецкай ўлады калгасная маса сялянства. Аб калгасьніках Ваганян чамусьці маўчыць. Школы-саўгасы будуюцца на тых-жа прынцыпах, што і школы-прадпрыемствы. Ваганян стараецца ўсяляк даказаць, што школа-прадпрыемства і ёсьць сапраўдная палітэхнічная школа, як яе маляваў сабе Маркс. У сапраўднасьці—гэта ёсьць ня больш, як прадпрыемства, дзе падлеткі ў працэсе працы, як зазначана вышэй, атрымліваюць пэўную прафэсыйную адукацыю. Сам Ваганян разглядае школу-прадпрыемства, як „фабрыку для вырабу кваліфікаванай сілы“. „Школа-прадпрыемства павінна быць камбінатам,—гаворыць наш аўтар,—яна павінна рыхтаваць кадры па шэрагу спэцыяльнасьцяй“ [3]).

Калі школа рыхтуе кадры па шэрагу спэцыяльнасьцяй, значыць яна зьяўляецца не палітэхнічнай, а прафэсыйнай. Ваганян не заўважае супярэчнасьцяй, у якіх ён безнадзейна блытаецца. Далей ён піша: „Гэта марксаўская фабрыка-школа ня будзе школай вузкай спэцыяльнасьці. Такое прадпрыемства нямінуча будзе камбінатам з шэрагам вытворніцтваў, якія ўзаемна зьвязаны і абумоўлены, а значыцца такая школа будзе адзінай школай з шэрагам падразьдзелаў, і з вучэбнага боку яна будзе

[1]) О системе народного образования, стар. 87.

[2]) Там-жа, стар. 86.

[3]) Там-жа, стар. 101.

прадстаўляць сабою цэлы рад камбінатаў і Вузаў. Ня толькі спэцыяльных, але эканамічных, у буйнейшых такіх прадпрыемствах, і мэдычных“ [1]). У гэтай-жа школе-прадпрыемстве павінен рыхтавацца настаўнік для пакаленьня да 15 год.

І так, школа-прадпрыемства рыхтуе людзей разм̈аітных спэцыяльнасьцяй і размаітнай кваліфікацыі — ніжэйшай, сярэдняй і вышэйшай, будучы „узорным прадпрыемствам, як па тэмпе, так і па вытворчасьці працы, па дысцыпліне, па мэтадах працы, па ўдасканаленьнях, якія няспынна ўводзяцца“ [2]). Аказваецца гэта ўзорнае прадпрыемства, згодна Ваганяна, павінна камплектавацца толькі з ліку здольных юнакоў. „Яно павінна даць магчымасьць усім здольным дзецям працоўных дайці да найвышэйшых кваліфікацый“ [3])—зазначае Ваганян. І далей ён тлумачыць наступнае: „Рабочыя, якія не змаглі перайсьці па навуках і ступені кваліфікацыі з ніжэйшай у наступную вышэйшую ступень, выходзяць з такога прадпрыемства, атрымаўшы пэўную працоўную і навуковую кваліфікацыю. З кожнага „курсу“ пойдуць разам з тымі, хто няздолен далей прасоўвацца, нямала і такіх, якія часова вымушаны шукаць іншых умой працы“ [4]). Тут у нас зьяўляецца непаразуменьне. Ваганян называе школу - прадпрыемства палітэхнічнай школай. А палітэхнічная школа, згодна праграмы нашай партыі, павінна будавацца на прынцыпе ўсеагульнага абавязковага навучаньня. Ваганян-жа уводзіць у сваю школу-прадпрыемства суровы палітэхнічны адбор вучняў, даючы права навучацца толькі здольным юнакам. Гэты прынцып, ужываемы ў буржуазнай вытворчасьці, ён імкнецца мэханічна перанесьці і на савецкую школу, выступаючы тым самым супроць асноўных установак праграмы УсеКП(б) у справе народнае адукацыі. Нельга не адзначыць і другія разыходзіны Ваганяна з праграмай партыі. У школу-прадпрыемства, як мы зазначалі, прымаюцца падлеткі з 15 год і навучаюцца тут на працягу пяці год, значыцца да 20 год. Паколькі Ваганян называе хаця і няправільна, школу-прадпрыемства палітэхнічнай школай і разглядае сямігодку, як галоўным чынам працоўную школу, пастолькі ў яго атрымліваецца, што палітэхнічнае навучаньне ахапляе ўзрост з 15 да 20 год. А гэта няверна. Праграма партыі ўстанаўляе палітэхнічную адукацыю да 17 год, пасьля чаго пачынаецца прафэсыйнае навучаньне. Ваганян ня згодзен з праграмай партыі. Праўда, на справе яго школа-прадпрыемства дае не палітэхнічную адукацыю, а прафэсыйную, але гэта не мяняе карціны. Важна тое, што Ваганян прынцыпова выступае супроць партыйных установак у справе народнай адукацыі. Апрача таго, замяняючы палітэхнічную адукацыю—прафэсыйнай, як у сямігодцы, так і ў школе-прадпрыемстве, ён фактычна выступае супроць палітэхнічнай школы, колькі-б ён не вытвараў усялякіх заклінаньняў у абарону гэтай школы. У Ваганяна мы наглядаем тое, што і ў Шульгіна,—імкненьне ліквідаваць палітэхнічную школу, абараняючы буржуазны прафэсыяналізм пад выглядам мнімай барацьбы за палітэхнічную адукацыю. Мы-ж павінны ліквідаваць буржуазны прафэсыяналізм, выкрываючы да канца ліквідатараў палітэхнічнай школы.

* * *

Мы неаднаразова падкрэсьлівалі, што тэорыя „адміраньня школы“ зьяўляецца трацкісцкай. Шульгін і Ваганян разьвівалі такія думкі, якія шмат у чым супадаюць з ідэямі контр-рэвалюцыйнага трацкізму. Мы яшчэ раз напомнім гэтыя думкі: 1) пераходны пэрыяд па Шульгіну характарызуецца як пэрыяд хаосу; 2) клясавая барацьба пралетарыяту разглядаецца як стыхійны працэс; 3) дыктатура пралетарыяту паказваецца ў такім выглядзе, ні-бы та яна ўжо ня зьяўляецца дыктатурай пралетарыяту, не выступае як дзяржава; 4) недаацэньваецца, альбо нават адмаўляецца кіруючая роля камуністычнай партыі ў пралетарскай рэвалюцыі; 5) адмаўляецца сацыялістычны характар буйнае вытворчасьці ў Савецкім Саюзе, напрыклад у Ваганяна—ідэя аб эксплёатацыі дзіцячай рабочай сілы

---

[1]) Там-жа, стар. 84.
[2]) Там-жа, стар. 101.
[3]) Там-жа, стар. 84.
[4]) Там-жа, стар. 85.

ў школах-прадпрыемствах; 6) прапагандуецца тэорыя стыхійнага выхаваньня, якая адмаўляе пануючы ўплыў камуністычнай ідэалёгіі ў нашай краіне; 7) узмоцненараспрацоўваецца квазі-навуковая антыленінская тэорыя „адміраньня школы“, накіраваная супроць савецкай школы, як праваднікa камунізму сярод шырокіх пластоў працоўных мас. Словам, Шульгін і Ваганян падтрымлівалі контр-рэвалюцыйнае трацкісцкае запэўненьне аб тым, нібы-та наш лад не зьяўляецца сацыялістычным. Думка аб хаосе перанята Шульгіным у Троцкага, які яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы любіў гаварыць пустазвонныя фразы „аб хаосе фракцыйнай барацьбы“. Тады-ж Ленін рашуча выказваўся супроць Троцкага. Пытаньне, прычым-жа тут хаос“?—зазначаў ён.—Троцкі любіць звонкія і пустыя фразы—гэта вядома, але слаўцо „хаос“ ёсьць ня толькі фраза, а акрамя таго ёсьць перанясеньне (пэўней, нікчэмная спроба перанясеньня) на расійскую глебу сучаснай эпохі замежных адносін учарайшай эпохі. Вось у чым справа. „Ніякага „хаоса“ няма у барацьбе марксыстаў з народнікамі“ [1]) „Прычына гэтай барацьбы,—далей тлумачыць Ленін,—карэннае разыходжаньне інтарэсаў і пункту погляду двух розных клясаў—пралетарыяту і сялянства. „Хаос“, калі дзе і ёсьць, то толькі ў галовах дзівакоў, якія не разумеюць гэтага. Што-ж застаецца? „Хаос“ барацьбы марксыстаў з ліквідатарамі? І ізноў-жа гэта няпраўда, бо нельга назваць хаосам барацьбу з плынью, якая прызнана ўсёй партыяй за плынь і асуджана з 1908 г.[2])“ І Ленін канчае сваю думку пераконваючымі славамі, „Адносіцца да гісторыі ўласнай партыі, як да „хаоса“, азначае мець непрасьціцельную пустату у галаве“ [3]). Такім парадкам, Троцкі яшчэ ў ранейшыя часы барацьбы нашай партыі супроць ліквідатараў разглядаў гэту барацьбу як хаос, супроць чаго так рашуча паўставаў Ленін. Гэта думка аб хаосе падхоплена ў сучасны момант Шульгіным і выкарыстана ім для таго, каб „давесьці“ існуючую стыхійнасьць клясавай барацьбы пралетарыяту ў пераходны пэрыяд. Шульгін імкнецца пераканаць чытача, што дыктатура пралетарыяту ўжо адмірае, што яна ўжо не зьяўляецца дзяржавай ва ўласным сэнсе слова. Падобныя сьцьверджаньні зьяўляюцца модыфікаванай спробай трацкістаў прадставіць наш палітычны лад у скажоным выглядзе, такім, пры якім нібы-та „пралетарская ўлада павінна будзе зьнікнуць альбо перарадзіцца пад напорам немінучых сутычак паміж пралетарыятам і сялянствам“. Як вядома, трацкісты, якія марылі аб буржуазным перараджэньні нашае дзяржавы і партыі, лічаць, што ў Савецкім Саюзе існуе не пралетарская дзяржава, а рабоча-сялянская. Разважаньні Шульгіна аб адміраньні дыктатуры пралетарыяту вельмі напамінаюць гэты трацкісцкі паклёп наконт клясавай сутнасьці нашага ладу. У сапраўднасьці, дыктатура пралетарыяту ў пераходны пэрыяд ня толькі не адмірае, а наадварот, усё больш і больш умацоўваецца, дзякуючы бурнаму соцыялістычнаму будаўніцтву ў нашай краіне. Аб гэтым яскрава гаворыць т. Молатаў у сваім дакладзе аб 2-й пяцігодцы на XVII Усесаюзнай партыйнай канфэрэнцыі. „Ставячы задачу ліквідацыі клясаў у 2-й пяцігодцы,—зазначае ён—мы яшчэ ні ў якім разе ня можам і не павінны ставіць пытаньня аб непатрэбнасьці альбо аб адміраньні дзяржавы.

Наадварот. На данай стадыі справа яшчэ ідзе аб умацаваньні пралетарскае дзяржавы, аб узмацненьні яе магутнасьці. Гэта вынікае са стаячых яшчэ перад намі задач—, ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў, спыненьня ўсіх і ўсякіх контр-рэвалюцыйных вылазак буржуазных элемэнтаў супроць улады рабочае клясы, з аграмадных арганізацыйна-выхаваўчых задач у адносінах перабудоўкі на новай базе працоўнай сялянскай масы і цалкам усёй масы працоўных гораду і вёскі. Няма чаго і казаць аб тым, што пры наяўнасьці замежнага капіталістычнага абкружэньня горшым відам апартунізму было-б якое-небудзь паслабленьне магутнасьці пралетарскай дыктатуры. З растучага абвастрэньня супярэчнасьцяй паміж краінай будуючагася сацыялізму

---

1) Ленін. соч., 2 изд., т. XVII. стр. 381

2) Там-жа.

3) Ленін. соч., 2 изд., т. XVII, стр. 381.

і капіталістычным сьветам, можна зрабіць адзіны вывад—аб сусьветным умацаваньні пралетарскае дзяржавы, каб падняць яе магутнасьць ня толькі ў адносінах унутранага клясавага ворага, але і ў адносінах варожых ёй клясавых сіл імпэрыялізму". „Таму,—яшчэ раз паўтарае т. Молатаў,—перад рабочай кляса і ўсёй працоўнай масай і стаіць задача ўмацаваньня пралетарскай дыктатуры, задача ўмацаваньня магутнасьці пралетарскае дзяржавы".

А у нас ў гэты час знаходзяцца людзі, якія ўпарта адстойваюць тэорыю адміраньня пралетарскае дзяржавы на дадзеным этапе. Больш таго, Шульгін пачаў гаварыць аб адміраньні пралетарскай дыктатуры яшчэ тады, калі ў нас ня было першай пяцігодкі, калі капіталістычныя элемэнты ў эканоміцы нашай краіны мелі значную ўдзельную вагу. Гэта было прыблізна ў 1927 г. Чые інтарэсы адлюстроўвае праславутая тэорыя адміраньня пралетарскае дзяржавы—у тлумачэньні Шульгіна,—няцяжка зразумець. Гэта тэорыя адлюстроўвае інтарэсы буржуазных пластоў насельніцтва. Шульгін запэўняе, што дыктатура пралетарыяту ўжо адмірае на сучасным этапе, а партыя зазначае, што пралетарская дзяржава павінна будзе ўмацоўвацца нават і пры 2-й пяцігодцы, калі будуць ліквідаваны клясы ў нашай краіне. Антыпартыйная ўстаноўка Шульгіна зусім відавочна. Тэорыя адміраньня пралетарскае дзяржавы на дадзеным этапе патрэбна была Шульгіну для таго, каб апраўдаць тэорыю адміраньня савецкай школы. Супастаўляючы фармальна школу і дзяржаву, ён прыходзіць да вываду аб немінучасьці зьнікненьня школы ў будучым. Такім парадкам, устаноўка Шульгіна ў галіне культурнага будаўніцтва выцякае з яго больш агульнай трацкісцкай ўстаноўкі, няверʼя ў магчымасьць пабудовы сацыялізму ў Савецкім Саюзе. XV канфэрэнцыя УсеКП(б) зазначае, што трацкізм „выходзіў і працягвае выходзіць з таго, што наша рэвалюцыя сама па сабе не зьяўляецца па-сутнасьці справы сацыялістычнай".

У гэтым адмаўленьні сацыялістычнага характару Кастрычніцкай Рэвалюцыі і заключаецца контр-рэвалюцыйная сутнасьць трацкізму. Поўную характарыстыку трацкізму дае т. Сталін у сваім дакладзе на XVI зьезьдзе партыі. „Сутнасьць трацкізму,—кажа ён,—складаецца, раней ад усяго, у адмаўленьні магчымасьці пабудаваньня сацыялізму у СССР сіламі рабочае клясы і сялянства нашай краіны. Што гэта азначае? Гэта азначае, што, калі ў бліжэйшыя часы не падасьпее дапамога непераможнай сусьветнай рэвалюцыі, мы павінны будзем капітуляваць перад буржуазіяй і расчысьціць шлях для буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі. Значыцца, мы маем тут буржуазнае адмаўленьне магчымасьці пабудовы сацыялізму ў нашай краіне, якое прыкрываецца „рэвалюцыйнай" фразай аб перамозе сусьветнай рэвалюцыі". „Сутнасьць трацкізму складаецца, па-другое, у адмаўленьні магчымасьці ўцягненьня асноўных мас сялянства ў справу сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы"... „Значыцца мы маем тут буржуазнае адмаўленьне сіл і магчымасьцяй пралетарскай дыктатуры павесьці сялянства да сацыялізму, якое прыкрыта маскай „рэвалюцыйных" фраз аб перамозе сусьветнай рэвалюцыі". „Сутнасьць трацкізму складаецца, нарэшце, у адмаўленьні неабходнасьці жалезнай дысцыпліны партыі, у прызнаньні свабоды фракцыйных груповак у партыі, у прызнаньні неабходнасьці ўтварэньня трацкісцкай партыі". „Гэта азначае, што ўсьлед за свабодай палітычных груповак у партыі, павінны прысьці свабоды палітычных партый у краіне. Гэта ёсьць буржуазная дэмакратыя".

Далей т. Сталін на дзіва метка і дакладна азначае клясавую прыроду трацкізма ў наступных словах: „Капітулянцтва на справе, як зьмест, „левыя" фразы і „рэвалюцыйна"-авантурысцкія замашкі, як форма, прыкрываючая і рэклямуючая капітулянцкі зьмест—такава сутнасьць трацкізму. Гэта двуіснасьць трацкізму адлюстроўвае двуіснае палажэньне разбураючайся гарадзкой дробнай буржуазіі, якая ненавідзіць „рэжым" дыктатуры пралетарыяту і якая стараецца альбо пераскочыць адразу ў сацыялізм, альбо пазбавіцца ад разбурэньня, (адсюль авантурызм і істэ-

рыка ў палітыцы), альбо калі гэта магчыма пайсьці на любыя ўступкі капіталізму (адсюль капітулянцтва ў палітыцы). Гэтай двуіснасьцю трацкізму тлумачыцца той факт, што свае „шалёныя“, нібы-та атакі супроць правых ухілістаў трацкізм звычайна ўвенчвае блёкам з імі, як з капітулянтамі бяз маскі“. [1])

Цяпер, на сучасным этапе, трацкізмператварыўся ў перадавы атрад контррэвалюцыйнай буржуазіі. Тыя рысы, якія характэрны для трацкізма наогул, мы спатыкаем і ў нашых школьных ліквідатараў: капітулянцтва на справе, як зьмест, левыя фразы і „рэвалюцыйна“-авантурысцкія замашкі як форма, прыкрываючая і рэклямуючая капітулянцкі зьмест. Хіба не зьяўляецца капітулянцтвам запэўненьне, што дыктатура пралетарыяту нібы-та перастала быць дзяржавай, што ў нашай грамадзе пануе хаос, што клясавая барацьба пралетарыяту ёсьць стыхійны працэс, што нашы фабрыкі, заводы і саўгасы карыстаюцца гвалтоўнай працай, з якой выцiскаюць дадатковую вартасьць, што ў нас існуе стыхія ўплываў і няма кіруючай камуністычнай партыі? Усё гэта ўзята з арсэналу контр-рэвалюцыйнага трацкізму. Хіба-ж нашы школьныя ліквідатары не карыстаюцца такой звонкай „левай“ фразай, што „мол“, патрэбна „адразу“ перайсьці да камун, што можна „адразу“ пераскочыць у сацыялізм, што павінна „адразу“ перамагчы сусьветная рэвалюцыя і г. д.? Усё гэта мы знаходзім і ў Шульгіна і ў Ваганяна. Але гэта ёсьць ні што іншае, як „рэвалюцыйна“-авантурысцкія замашкі, прыкрываючыя сабою капітулянцкі зьмест.

Такім парадкам нашы школьныя ліквідатары зьяўляюцца агэнтамі разбураючайся гарадзкой дробнай буржуазіі, якая ненавідзіць „рэжым“ дыктатуры пралетарыяту.

Нельга не адзначыць сур'ёзнай памылкі, якую дапускаюць Г. Ільлін і Е. Цынхес у азначэньні сацыяльных карэньняў тэорыі „адміраньня школы“. У сваёй брашуры: „Об антиленинской теории“ „отмирания школы“ яны даказваюць, што трацкізм мае сваёй сацыяльнай базай сялянства. Яны пішуць: „Дробнабуржуазная стыхія абкружае нашу школу, настаўніка, які часамі моцнымі карэньнямі мае сувязь з сялянствам,—гэта дробнабуржуазная база нараджае і сваіх пэдагогаў—тэорэтыкаў, як правых апартуністаў, так і „левых“. Прадстаўнікамі апошніх і зьяўляюцца тэорэтыкі „адміраньня школы“ (стар. 11). Адсюль атрымліваецца, нібы-та сялянства зьяўляецца сацыяльнай базай у правых апартуністых і „левых“. Гэта няправільна. Правыя апартуністы выступаюць у якасьці агэнтаў кулацкіх пластоў у вёсцы, а „левыя“—у якасьці прадстаўнікоў гарадзкой дробнай буржуазіі. Аб гэтым зусім яскрава гаворыць т. Сталін. Але паколькі правыя і „левыя“ апартуністы маюць па-сутнасьці аднолькавую клясавую прыроду, адлюстроўваючы інтарэсы дробнае вытворчасьці ў нашай краіне, з якой вырастаюць капіталістычныя элемэнты,—пастолькі мы і наглядаем той факт, што яны ўступаюць у блёк для барацьбы супроць генэральнай лініі нашай партыі. Праўда мы не павінны забываць, што трацкізм на сучасным этапе стаў перадавым атрадам контр-рэвалюцыйнай буржуазіі.

Нашы школьныя ліквідатары маюць вельмі шмат агульнага ў сваіх пэдагагічных выказваньнях з буржуазнымі дэмакратамі капіталістычных краін, асабліва многа яны бяруць у амэрыканскага пэдагога Дзьюі, спрабуючы механічна перанесьці вопыт буржуазнай школы на глебу савецкай рэчаіснасьці. Шульгін любіць паўтараць, што масы вучацца на ўласным практычным вопыце і рэклямуючы гэту формулу, як ленінскую. На справе-ж, думка леніна, як зазначана вышэй, тут скажана Шульгін, скажаючы ленінскае навучаньне, напаўняе гэту формулу думкамі буржуазнага пэдагога і філёзофа Дзьюі. „Адзін факт лёгка забываецца выхаваўцамі: тое, чаму дзіцё навучаецца ў школе,—піша Дзьюі,—вельмі нязначны і павярхоўны бок выхаваньня, але якраз школа вядзе да штучнага падзелу грамады і адрозьнівае ў гра-

[1]) І. Сталін і Л. Кагановіч: „Отчет Центрального Комитета к XVI с'езду ВКП(б)“, Госиздат 1930 г. стр. 73.

мадзе аднаго чалавека ад другога, і з-за гэтага мы прыўвялічваем значэньне школьных ведаў у параўнаньні з тым, што набываецца дзіцём з жыцьця наогул" [1]).

Адсюль Дзьюі робіць наступны вывад: „таму, каб знайсьці найбольш пасьпяховыя мэтады выхаваньня, лепш ад усяго зьвярнуцца да непасрэднага вопыту дзяцей—калі вядомыя веды становяцца для іх неабходнасьцю, а не да школы, дзе навучаньне—часта арнамэнт, нешта лішняе, нешта навязанае звонку" [2]). Дзьюі, як і Шульгін, зазначае, што школа зьяўляецца „нязначным і павярхоўным бокам выхаваньня" і што мы быццам-бы „прыўвялічваем значэньне школьных ведаў у параўнаньні з тым, што набываецца дзіцём з жыцьця наогул". Таму Дзьюі раіць, у пошуках лепшых мэтадаў выхаваньня, зьвяртацца ня столькі к школе, колькі да непасрэднага вопыту дзяцей. Ён упарта паўтарае, што „нашы сапраўдныя настаўнікі—вопыт і пачуцьці"; пры гэтым вопыт і пачуцьці ён разумее у дусе прагматызму, г. знач. у дусе ідэалістычнай філёзофіі. Дзеля вопыту Дзьюі гатоў ахвяраваць нават школьнымі заняткамі. „Тое, чаму дзеці навучаюць адзін аднаго ў час гульняў і рэкрэацый,—піша ён,—часта ў сто раз важней чым усе лекцыі ў клясе" [3]). Навучаньне шляхам „дзеланьня" Дзьюі лічыць самым важным у выхаваньні. Гэта-ж паўтарае і Шульгін, ніколькі не баючыся таго, што зазначаны прынцып падрывае аснову для набыцьця сыстэматычных ведаў. Дзьюі захапляецца тымі школамі, у якіх замест вучэбных прадметаў устаноўлены вядомыя формы дзейнасьці, напрыклад: гульні, апавяданьні, назіраньні, ручная праца. У гэтых школах адсутнічаюць звычайныя клясы. „У клясах няма парт,—апавядае Дзьюі аб аднэй такой школе,—вучні і вучаніцы сядзяць дзе і як каму зручней, пераходзяць з месца на месца, калі толькі не перашкаджаюць таварышом" [4]). Словам у школе няма кляснай сыстэмы і заняткі ідуць па вольным раскладзе.

А такая беспарадачнасьць у занятках, адсутнасьць цьвёрдага раскладу, выцясьненьне вучэбных прадметаў са школьнай праграмы—рознымі відамі дзіцячае актыўнасьці—усё гэта захапляе і нашых ліквідатараў, ідэалізуючых тэхніку выкладаньня ў буржуазнай школе. У сваіх паасобных выказваньнях Шульгін і Крупская таксама шмат у чым напамінаюць нямецкіх пэдагогаў-рамантыкаў, а менавіта: Шарэльмана і Гансбэрга. Апошнія характэрны сваімі анарха-сындыкалісцкімі ўстаноўкамі. Пэдагог-рамантык аддае перавагу эпізадычнаму выкладаньню перад сыстэматычным, адмаўляе праграму, ігнаруе падручнік. „Менавіта плянамернае і зьяўляецца яскравым прызнакам школьнага выкладаньня,—крытыкуе Шарэльман звычайную школу,—не жадаюць ўявіць жыцьця, альбо выпадку, чаму і як павінна навучацца дзіцё, таму што ня могуць ацаніць значэньня эпізадычнага выкладаньня" [5]). А сутнасьць эпізадычнага выкладаньня заключаецца ў тым, што тэмы школьных заняткаў высоўваюцца не па праграме, а самімі дзецьмі ў залежнасьці ад іх пераважаючай зацікаўленасьці. Тут накіраваньне школьнага выкладаньня знаходзіцца ва ўладзе стыхіі дзіцячых перажываньняў.

„Ніякі вучэбны плян ня прымушае мяне больш навязваць маім вучням непадыходзячы матар'ял, ніякі расклад лекцый не прадпісвае мне, што я павінен альбо не павінен рабіць у той альбо іншы час. Карыстаючыся поўнай свабодай, якая грунтуецца толькі на *жывой* зацікаўленасьці, даручаных мне дзяцей, я магу з залатой скарбніцы сьвету даваць ім менавіта тое, што мне пажадана і колькі мне пажадана. Хіба гэта не зьяўляецца ідэалам?". Так разважае Шарэльман, выкрываючы тут з дастатковай яскравасьцю сваю анархісцкую, пэдагагічную пляцформу. „У шаленстве я кідаю ў куток праграму, а за ёй і расклад лекцый,—назрок ён падкрэсьлівае свае

1) Джон Дзьюі і Эвэнін Дзью „Школы будущего", изд. 2, Госиздат 1922 г., стр. 9-10.

2) Там-жа, стар. 10.

3) Там-жа, стар. 14.

4) Там-жа, стар. 25.

5) Генрых Шарэльман „Трудовая школа", перавод Рошевской, изд. „Работник Просвещения", 1924 г., стр. 28

варожыя адносіны да сыстэматычных заняткаў. Але якраз такія-ж адносіны да праграмы і раскладу лекцый мы ня раз наглядалі і ў нашых школьных ліквідатараў.

Гэтых прыкладаў дастаткова для таго, каб упэўніцца, наколькі нашы гора-тэарэтыкі з лягеру ліквідатараў на дзіва дакладна і пасьлядоўна адабражаюць у сваіх пэдагагічных выказваньнях вядомыя думкі буржуазных і дробна-буржуазных пэдагогаў капіталістычных краін. І гэта невыпадкова, бо прынцыповыя ўстаноўкі тых і іншых пэдагогаў маюць аднолькавую клясавую прыроду, зьяўляюцца буржуазнымі. Шульгін, Ваганян і іх аднадумцы пастараліся абагаціць буржуазную пэдагогіку яшчэ адным новым разьдзелам, а менавіта—тэорыяй „адміраньня школы“, у прыстасаваньні да эпохі дыктатуры пралетарыяту.

Да гэтага часу мы стараліся ўскрыць антыленінскую „лева“-апартуністычную *сутнасьць* тэорыі „адміраньня школы“. Але наша задача барацьбы за ленінскую пэдагогіку ня можа быць вычарпана барацьбой супроць так званых „левых“. Разам з гэтым, мы павінны весьці рашучую барацьбу і супроць правых, якія прадстаўляюць галоўную небясьпеку на сучасным этапе. „Задача заключаецца ў тым,—справядліва гаворыць т. Сталін на XVI зьезьдзе партыі,—каб працягваць і надалей няпрымірымую барацьбу на два франты, як з „левымі“, прадстаўляючымі дробна-буржуазны радыкалізм, так і з правымі, прадстаўляючымі дробна-буржуазны лібэралізм“. Гэта задача барацьбы на два франты ў галіне школьнага будаўніцтва з дастатковай паўнатой падкрэсьлена ў пастанове ЦК партыі аб школе, дзе зазначана наступнае: „ЦК прапануе ўсім арганізацыям весьці сыстэматычную і няўхільную барацьбу супроць апартуністычных антыленінскіх скажэньняў палітыкі партыі ў галіне школьнай работы. Посьпех барацьбы з галоўнай небясьпекай на шляху пабудовы палітэхнічнай школы з права-апартуністычнымі скажэньнямі палітыкі партыі, вядучымі да адмаўленьня ад палітэхнізацыі школы, да спробаў захаваньня старой, славеснай школы, да разрыву паміж тэарытычным навучаньнем і практыкай, мяркуе ўзмацненьне барацьбы з „лева“-апартуністычнымі скажэньнямі, з тэорыямі „адміраньня школы“ і зьніжэньня ролі настаўніка“.

Ня гледзячы на тое, што нямала напісана кніг, брашур і артыкулаў супроць правых пэдагогаў, мы павінны ўсё-ж такі канстатаваць, што правая небясьпека на пэдагагічным фронце яшчэ далёка недастаткова выкрыта і ня зусім поўна падвергнута жорсткай, бальшавіцкай крытыцы. Таму неабходна працягваць і надалей няпрымірымую барацьбу супроць права-апартуністычнай тэорыі і практыкі ў галіне школьнага будаўніцтва, што ў сваю чаргу гаворыць і за ўзмацненьне барацьбы з „лева“-апартуністычнымі скажэньнямі. Адначасова з гэтым неабходна працягваць і надалей бальшавіцкую барацьбу супроць гнілога лібэралізму на пэдагагічным фронце. Мы павінны цьвёрда памятаваць словы т. Сталіна: „Задача заключаецца ў тым, каб працягваць і надалей няпрымірымую барацьбу з тымі прымірэнцкімі элемэнтамі партыі, якія не разумеюць, альбо робяць выгляд, што не разумеюць неабходнасьці рашучай барацьбы на два франты“ [1]). Тав. Сталін рашуча выступае супроць гнілога лібэралізму ў адносінах клясавага ворагу, а таксама і ў адносінах контр-рэвалюцыйнага трацкізму. „Некаторыя бальшавікі думаюць,—піша ён,—што трацкізм ёсьць фракцыя камунізму, праўда, якая памыляецца, робіць нямала глупстваў, іншы раз нават антысавецкая, але ўсё-ж фракцыі камунізму. Адсюль некаторы лібэралізм у адносінах да трацкістаў і трацкісцка-мыслячых людзей. Наўрад ці патрэбна даводзіць, што такі погляд на трацкізм зьяўляецца глыбока памылковым і шкодным. На справе трацкізм даўно ўжо перастаў быць фракцыяй камунізму. На справе трацкізм ёсьць перадавы атрад контр-рэвалюцыйнай буржуазіі, вядучай барацьбу супроць камунізму, супроць савецкай улады, супроць будаўніцтва сацыялізму ў СССР.“ [2]). „Вось чаму лібэралізм у адносінах трацкізму, хоць

---

[1]) Отчет ЦК XVI с'езду ВКП(б), стар. 75.

[2]) „Бальшавік“ № 19-20 за 1931 г., стар. 17.

бы разьбітага і замаскаванага,—канчае т. Сталін,—ёсьць галавацяпства, якое мяжуецца са злачынствам, здрадай рабочай клясе." [1]) Мы ня раз падкрэсьлівалі, што тэорыя „адміраньня школы" ёсьць трацкісцкая тэорыя. ЦК партыі справядліва заклікае да „узмацненьня барацьбы з „лева"-апартуністычнымі скажэньнямі, з тэорыямі „адміраньня школы" і зьніжэньня ролі настаўніка". Паколькі тэорыя „адміраньня школы" зьяўляецца трацкісцкай, барацьба супроць яе павінна быць самай няпрымірымай, рашучай, пасьлядоўнай, бальшавіцкай. Гнілы лібэралізм у адносінах гэтай тэорыі „ёсьць галавацяпства, якое мяжуе са злачынствам, здрадай рабочай клясе". Тым больш мы павінны падкрэсьліць, у сувязі з тым, што зазначаная тэорыя не абмяжоўваецца толькі межамі пэдагогікі, а сур'ёзна прэтэндуе на права займацца аналізам клясавай барацьбы пралетарыяту, пытаньнямі сацыялістычнага будаўніцтва і сутнасьцю нашага палітычнага ладу, прадстаўляючы ўсё гэта ў скажоным антыпартыйным асьвятленьні.

А між тым у нас знаходзіцца паміж пэдагогаў нямала прымірэнцаў, якія не жадаюць змагацца на два франты за генэральную лінію партыі, альбо не разумеюць гэтага змаганьня і якія ў той-жа час ня толькі не змагаюцца супроць тэорыі „адміраньня школы", а нават наадварот, праклямуюць яе як марксысцкую.

Тыповы дакумант гнілога лібэралізму прадстаўляе сабою „Педогогическая энциклопедия", у якой прадстаўлены ўсе напрамкі ў галіне пэдагогікі, але ў якой нават і не пастаўлена праблема барацьбы на два франты. У гэтай кнізе адсутнічае важнейшы разьдзел—гісторыі савецкай школы, зусім недастаткова і далёка нездавальняюча выкладзены пэдагагічныя погляды Маркса і Леніна, не праводзіцца барацьба за ленінскую спадчыну ў пэдагогіцы[2]). Адначасова з гэтым зазначаная кніга прасякнута ідэямі правых і „левых" і даецца някрытычнае выкладаньне мэханістычных, ідэалістычных і віталістычных сыстэм. Тут-жа разьвіваецца тэорыя „адміраньня школы" ў афармленьні няўтомнага і „вездесущего" Шульгіна. „Справа аказваецца ў тым,—чытаем мы ў „Педогогической энциклопедии",—што масы вучацца ня ў школе, а ў жыцьці, ня толькі ў дзіцячыя гады, а ўсё жыцьцё, вучацца і выхоўваюцца на ўласным практычным вопыце". (Том I, стар. 474). Адмоўныя адносіны да школы тут *прыпадносяцца* чытачу з дастатковай яскравасьцю. Такі-ж гнілы лібэралізм у адносінах тэорыі „адміраньня школы" мы спатыкаем і ў цэлага шэрагу нашых савецкіх пэдагагічных часопісаў. Ня гледзячы на тое, што многія з гэтых часопісаў карыстаюцца вялікай папулярнасьцю сярод масавага настаўніка і павінны быў-б стаяць на вышыні бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі, мы наглядаем часамі нешта дзіўнае, друкаваньне апартуністычных артыкулаў без усялякіх заўваг з боку рэдакцыі. Прыкладам гэтага гнілога лібэралізму можа быць ўказан часопіс „На путях к новой школе", які зьяўляецца органам ня толькі Наркамасьветы РСФСР, але і таварыства пэдагогаў-марксыстаў. У гэтым часопісу на працягу шмат гадоў знаходзілі сабе месца такія пэрлы „лева"-апартуністычнага пражэкцёрства і школьнага ліквідатарства, як артыкулы Шульгіна: „Педагогика переходной эпохи" (№ 9 за 1927 г.) і „О школе" (№ 3 за 1931 г.). У другім артыкуле Шульгін выступае супроць савецкай школы якраз у той момант, калі другая партыйная нарада па народнай адукацыі яшчэ раз усьлед за цэлым шэрагам паўторных партыйных дырэктыў дае цьвёрдую ўстаноўку разьвіваць і ўмацоўваць палітэхнічную школу. Значыцца, тут мы мелі адчыненае антыпартыйнае выступленьне. А тым часам зазначаныя артыкулы друкаваліся ня толькі бяз крытычных заўваг з боку рэдакцыі, а наадварот, пры адчыненым салідарызаваньні рэдакцыі з устаноўкамі аўтара. Ня гледзячы на тое, што т. Крупская зьяўляецца нашым буйнейшым і ўсімі прызнаным ідэолёгам савецкай школы, мы, аднак, ня можам не адзначыць

[1]) Там-жа.

[2]) Тут я маю на ўвазе, між іншым, і свой артыкул: „Асноўныя ідэі пралетарыяту ў галіне выхаваньня і іх гістарычных норм".

яе вялікай памылкі, дапушчанай у адносінах тэорыі „адміраньня школы". Будучы рэдактарам часопісу „На путях к новой школе", яна на пэўным этапе прыкрывала сваім нясумненным аўтарытэтам „лева"-апартуністычную агітацыю супроць нашай школы. У сваім уступным артыкуле да № 9 часопісу „На путях к новой школе" за 1927 г., яна яскрава падтрымлівае погляды Шульгіна аб „адміраньні школы". Тут яна піша наступнае: „Дзесяць год ужо будуем мы новую школу. Нам стала шмат што бачна з таго, чаго ня было відаць дзесяць год таму назад. Вялікія лёзунгі ахапляюцца жывым будаўніцтвам, мы маем ужо багацейшы вопыт будаўніцтва; цэлы шэраг новых праблем выкрыў перад намі прароблены шлях, нам стала бачна многае, з таго, чаго ня было відаць раней. І зараз, падводзячы вынікі праробленага мы павінны паглыбіць тэарытычную базу нашага будаўніцтва яшчэ глыбей абгрунтаваць праробленую работу. Артыкул В. І. Шульгіна (маецца на ўвазе яго артыкул: „Педагогика переходной эпохі—"П. П.) якраз ідзе па гэтым шляху. Нясумненна ён будзе прачытаны з вялікай цікавасьцю. Бязумоўна, аб адміраньні дзяржавы яшчэ гаварыць ранавата, не такая міжнародная абстаноўка, нясумненна аднак, што дзяржава перарастае ўжо ў арганізацыю іншага тыпу. І школа пачынае патроху з „навучальнай установы" перараджацца ў арганізацыю. Усё гэта яшчэ ў пачатковых формах, але працэс пачаўся і патрэбна даць сабеўімсправаздачнасьць". (стар. 6). Невядома, чаму т. Крупская лічыць, што артыкул Шульгіна аб „Педагогике переходной эпохі" зьяўляецца паглыбленьнем тэарытычнага абгрунтаваньня праробленай работы па школьным будаўніцтве за дзесяць год. Бо артыкул накіраваны якраз супроць гэтага школьнага будаўніцтва, супроць палітыкі нашай партыі і пралетарскае дзяржавы ў галіне выхаваньня, паказваючы ў разгорнутым выглядзе трацкісцкую пазыцыю, як у пытаньнях школьнага будаўніцтва, так і нават у некаторых агульных пытаньнях палітыкі. Трацкісцкую „дрыбядзень" мы ніяк ня можам прымаць за паглыбленае тэарытычнае абгрунтаваньне. Таксама нельга ня прызнаць „лявацкім" загібам сьцьверджаньне т. Крупскай нібыта „дзяржава перарастае ўжо ў арганізацыюіншага тыпу", бо такое запэўненьне, якое адносіцца яшчэ к 1927 г., давала повад трацкісцкім і ўсялякім іншым апартуністычным элемэнтам (напрыклад Ваганяну) прыкрывацца аўтарытэтам т. Крупскай у сваёй крытыцы супроць палітыкі партыі, накіраванай на ўмацаваньне дыктатуры пралетарыяту ў перажываемы пэрыяд. Нарэшце зусім няправільна т. Крупская думае, што „школа пачынае патроху з „навучальнай установы"ператварацца ў арганізацыю". Хоць т. Крупская тут і не раскрывае сваёй думкі да канца адносна таго, у якую менавіта арганізацыю пачынаеператварацца школа, усё-ж такі ўстаноўка яе тут зусім ясная, бо ўсё гэта сказана ёю ў сувязі з артыкулам Шульгіна аб „адміраньні школы". Карацей кажучы, т. Крупская тут згаджаецца з тым, што ўжо распачаўся працэс „адміраньня школы", хоць і ў пачатковых формах. Такім парадкам рэдакцыя часопісу „На путях к новой школе" фактычна дапамагала нямала ў тым, што ў нас, на працягу некалькіх год адчынена прапагандавалася ліквідатарства ў адносінах школы. Такую-ж пазыцыю гнілога лібэралізму займала ў свой час рэдакцыя часопісу „Культура і Революция", газэта „За Коммунистическое Просвещение" і г. д. Наша задача—з бальшавіцкай рашучасьцю выкрыць усе гэтыя памылкі, іх прааналізаваць і зьнішчыць у працы надалей.

(*Канец будзе*)

# ЗА ТЭХНІКУ ПЭДАГАГІЧНАГА ПРАЦЭСУ

Лазарэнка М. М.

## Асноўныя прынцыпы пабудовы вучэбна-вытворчых плянаў у с.-г. ВНУ і тэхнікумах

Ахопленыя вытворчым энтузыязмам, працоўныя масы пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК у выкананьне дадзенага правадыром УсеКП(б) т. Сталіным лёзунгу „дагнаць і перагнаць“ у тэхніка эканамічных адносінах капіталістычныя краіны“, „ператварылі Савецкі саюз з краіны дробнага і драбнейшага земляробства ў краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства на аснове калектывізацыі, разгортваньня саўгасаў і шырокага ўжываньня машыновай тэхнікі“. Усё гэта ставіць перад спэцыяльнай вышэйшай і сярэдняй с-г. школай вялізарныя запатрабаваньні да колькасьці і галоўным чынам да якасьці яе прадукцыі. „Якасьць падрыхтоўкі, вось асноўнае пытаньне, бо маладым інжынэрам і тэхнікам трэба рыхтавацца да таго, каб весьці работу на заводах з навейшай тэхнікай, складанейшымі тэхнічнымі працэсамі“ (т. Арджонікідзе на XVII партканфэрэнцыі).

1. Патрэбна цьвёрда запамятаць, што „рашэньне праблемы тэхнічных кадраў“ ёсьць важнейшы вагар бальшавіцкага ажыцьцяўленьня задач культурнай рэвалюцыі і пасьпяховага будаўніцтва сацыялізму (з рэзалюцыі XVII партканфэрэнцыі).

Як самая вышэйшая і сярэдняя с/г школа, так і падрыхтоўваемыя ёю кадры спэцыялістаў павінны сапраўды ўмець „пановаму працаваць“, „пановаму кіраваць“, „павінны сапраўды быць арганізатарамі вытворчай актыўнасьці шырокіх працоўных мас“, умець стаць на чале гэтай іх актыўнасьці ў барацьбе за аўладаньне тэхнікай, за аўладаньне навукай, за штодзённае ажыцьцяўленьне 6 ўмоў, дадзеных тав. Сталіным.

2. Аднэй з галоўнейшых умоў пасьпяховасьці гэтага рашэньня зьяўляецца правільная арганізацыя ўсей вучэбнай дзейнасьці с/г ВНУ і тэхнікумаў, усё больш і больш змыкаючых сваю тэарытычную вучэбную работу з вытворчай практыкай і грамадзка-карыснай працай, вядучых барацьбу за ажыцьцяўленьне паміж імі арганічнай сувязі.

3. Вопыт складаньня вучэбных плянаў паказаў, што аднэй з асноўных прычын іх неадпаведнасьці прынцыпам карэннай рэарганізацыі падрыхтоўкі кадраў зьяўляецца захаваны ў іх да апошняга часу адрыў тэорыі ад практыкі, адрыў вузаўскай (тэхнікумаўскай) работы ад пазавузаўскай, адрыў вучэбнай работы студэнта ад яго грамадзкай работы, шматпрадметнасьць, нявытрыманасьць з пункту гледжаньня падбору гэтых прадметаў і іх адпаведнасьці профілю спэцыялістага, няяскравасьць вытворчых установак, разрыў паміж асобнымі цыклямі дысцыплін і г. д.

4. Імкнучыся адхіліць гэтыя недахопы пры распрацоўцы вучэбна-вытворчых плянаў, патрэбна выходзіць з абавязковага аб'яднаньня і сыстэматызацыі ў адзіны вучэбна вытворчы плян усіх асноўных элемэнтаў падрыхтоўкі спэцыялістага, якія ахопліваюць:

а) работу у ВНУ (тэхнікуме);

б) работу на вытворчасьці ў парадку няспыннай вытворчай практыкі.

в) грамадзкую работу ў ВНУ (тэхнікуме) і па-за ВНУ (тэхнікумам), перабудаваную такім чынам, каб асноўным яе зьместам зьяўляўся арганічны ўдзел ВНУ (тэхнікуму) ў будаўніцтве сацыялістычнай гаспадаркі, культурным будаўніцтве, і каб уся грамадзкая і вытворчая праца была падпарадкавана акадэмічна-выхаваўчым мэтам ВНУ (тэхнікуму).

5. Ахоп вучэбна-вытворчым плянам гэтых асноўных элемэнтаў павінен прыдаць апошняму характар адзінства, цэльнасьці, арганічнага сынтэзу яго паасобных частак: тэорыі, вытворчай практыкі і грамадзкай працы. Вучэбна-вытворчы плян павінен намеціць асноўныя этапы няспыннай вытворчай практыкі і тыя галоўнейшыя вытворчыя працэсы, якія павінны зьявіцца цэнтрам усей вытворчай дзейнасьці студэнта. Патрэбна вызначыць асноўны зьмест кожнага этапу практыкі, паказаць сувязь і пераходы, пры дапамозе якіх тэорыя сынтэзуецца з практыкай.

6. Няспынная вытворчая практыка павінна займаць 40—50 проц. усяго тэрміну навучаньня ў ВНУ (тэхнікуме) і ні ў якім разе ня можа спускацца ніжэй 40 проц. ні ў аднэй спэцыяльнасьці. Няспынная вытворчая практыка павінна плянавацца ў арганізаванай сувязі з тэорыяй і павінна быць разьмеркавана ня толькі паміж цыклямі, але і паміж спэцыяльнымі дысцыплінамі гэтых цікляў.

7. Тыповы вучэбна-вытворчы плян павінен устанавіць тэрмін навучаньня ў дадзенай ВНУ (тэхнікуме) у залежнасьці ад профілю спэцыялістага, пералік дысцыплін, аб'ём кожнай з іх, разьмеркаваньне іх па цыклях, суадносіны паміж тэорыяй, няспынна-вытворчай практыкай і пасьлядоўнасьць праходжаньня той ці іншай часткі вучэбнага пляну.

8. Працяг вучэбнага году 30 дэкад (адпачынак 6 дэкад, вызначаецца ў два тэрміны 4 і 2 дэкады), рабочы дзень 9 гадзін, з іх 6 з выкладчыкам і 3 гадзіны самастойнай працы студэнта. У навуч. пляне патрэбна паказаць гадзіны па асобных дысцыплінах, як выкладчыцкія, так і самастойнай працы студэнта.

### 1. Грамадазнаўча-палітычны цыкль ВНУ (аддз. расьлінав.)

| | Выклад. | Самаст. |
|---|---|---|
| 1. Палітэканомія і тэорыя савецкай гаспадаркі | 170 | 85-100 |
| 2. Дыямат | 100 | 50-70 |
| 3. Ленінізм | 60 | 30-50 |
| 4. Марксыцкая гіст. тэхнікі | 30-40 | 20 |
| 5. Асноўн. прабл. марксыцка-ленінскай пэдагогікі | 36-40 | 24 |
| Разам | 406 | — |

### II. Агульна-тэхнічны цыкль

| | | |
|---|---|---|
| 6. Вышэйшая матэматыка | 100-120 | 50-80 |
| 7. Хэмія неарганічная і аналіт. | 150-160 | 75-100 |
| 8. Фізыка з асновамі с/г мэтэрэал | 120 | 60 |
| 9. Хэмія арганічная | 60 | 40-60 |
| 10. Батаніка (морф., анатомія) сыстэмат | 120 | 60 |
| 11. Замежная мова | 200 | 100 |
| 12. Асновы біалёгіі | 30 | — |
| Разам | 780 | 30,1% |
| III. Спэцыяльны цыкль | 1271 | 49.1 |
| IV. фізкультура | 135 | 5,1% |
| Усяго | 2592 | 1296-100 |

Аграфізыялёгію аднесьці да спэцыяльнага цыклю і вызначыць на гэты прадмет 100 гадз. з выкладчыкам.

### Аддзяленьне Б.Р.Ж.

1. Грамадазнаўча-палітычны цыкль тэй самы, што і для расьлінаводнага аддзяленьня.

### II. Агульна-тэхнічны цыкль

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Вышэйшая матэматыка | | 84-120 | 60-90 |
| 2. Фізыка | | 84-120 | 42-60 |
| 3. Хэмія неарганічная | | 92-100 | 50-60 |
| 4. Аналітычная хэмія | | 62-72 | 50-60 |
| 5. Хэмія арганічная | | 60-70 | 30-40 |
| 6. Заалёгія з біолёгіяй | | 72-80 | 40-50 |
| 7. Анатомія з гісталёгіяй | | 96-100 | 50-60 |
| 8. Фізыалёгія жывёлы | | 96-100 | 50 |
| | 644 | 762 | 25-29% |
| III. Спэцыяльны цыкль | | 1405 | 542-50% |
| IV. Фізкультура | | 135 | 5,1% |
| Усяго | 2592 | 1926 | 100% |

Суадносіны паміж тэорыяй і вытв. практ. 3:2.

## Для тэхнікумаў

### 1. Грамадазнаўча-палітычны цыкль (для ўсіх аддзял.)

| | | |
|---|---|---|
| 1. Гісторыя клясавай барацьбы, уключаючы гіст. УсеКП(б), камінт. і нац. пытаньне | 90 | 45-60 |
| 2. Паліт. эканомія і асновы тэорыі савецкай гаспадаркі | 110 | 55-70 |
| 3 Уводзіны ў дыямат | 60 | 30-40 |
| 4. Экан. геаграфія | 60 | 30 |
| 5. Родная мова і літаратура | 120 | 60-70 |
| 6 Асновы марксысцка-ленінскай пэдагогікі | 36 | 24 |
| | 476 | 18,7 |

### II. Агульны-тэхнічны цыкль

| | | | |
|---|---|---|---|
| 7. Тэхнічная матэматыка | 200 | 100 | |
| 8. Фізыка з асновамі с/г мэтэарэал | 120-140 | 60-70 | |
| 9. Хэмія (неарг., аналіт, і арганічн.) | 180-200 | 100-120 | |
| 10. Батаніка з асновамі біалёгіі мікрабіал. (для расьлінаводн.) | 120-150 | 60-80 | |
| 11. Замежная мова | 120 | 60 | |
| Разам | 740-810 | 28,3 | 31% |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| III. Спэцыяльны цыкл | 1161 | 678 | 42,5 | 41% |
| IV. Ваенізацыя | | 140 | 10,5 | |
| IV. Фізкультура | | 135 | | |
| Усяго тэорыт. гадзін | 2592 | 1296 | 100% | |

Суадносіны паміж тэорыяй і нясп. вытв. практыкай 3:2

Увагі: 1) Для аддзяленьняў жывёлагадоўчых анатомію з гістолёгіяй фізыолёгіяй і жывёлы аднесьці да спэцыяльнага цыклю.

2) Асноўныя веды з біалёгіі павінны быць уключаны ў праграмы спэцыяльных дысцыплін (разьвядзеньне, гэнэтыку сэлекцыю).

10. У вучэбна-вытворчым пляне павінны быць паказаны гадзіны на інструктаж студэнтаў, праводзімы прафэсарска-выкладчыцкім пэрсаналам, як перад практыкай так і ў час няспыннай вытворчай практыкі.

Працяг поўнага асобнага адрэзку вытворчай практыкі ВНУ і тэхнікумаў павінен мець ня менш 3 і ня больш 10 дэкад. Кожная з практыкі павінна быць арганічна ўвязана як з папярэднім тэарэтычным адрэзкам вучэбна-вытворчага пляну, так і з наступным. Паміж паасобнымі адрэзкамі нав. вытв. практыкі павінна быць глыбокая арганічная сувязь, і ў той-жа час кожная з іх павінна мець сваю мэтавую ўстаноўку.

11. Для правільнай пабудовы вучэбна вытворчага пляну неабходна, перш ад усяго, выходзіць з асноўных запатрабаваньняў, якія прад'яўляюцца ў пэрыяд „завяршэньня рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, стварэньня навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнае гаспадаркі" (з рэз. XVII партканфэрэнцыі). Сучасны спэцыяліст у галіне с/г павінен быць падрыхтаваны да абслугоўваньня буйнага спэцыялізаванага с/г прадпрыемства, апіраючыся на магутную машынную тэхніку. „Буйную высока-вытворчую сацыялістычную вытворчасьць у с-гаспадарцы, магчыма пабудаваць толькі на базе сучаснай машыннай тэхнікі і электрыфікацыі" (з рэз. Лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б)).

„Вывесьці с/г на шлях сур'ёзнага ўздыму гэта азначае ліквідаваць у корані адсталасьць с/г, узброіць яе трактарамі і с/г машынамі" (Сталін).

Таму сучасны аграном павінен атрымаць разам з агра-зоатэхнічнымі ведамі, таксама інжынэрна-тэхнічную падрыхтоўку, аўладаць ведамі галін мэханізацыі і электрыфікацыі працэсу с/г вытворчасьці.

12. Адпраўным пунктам адзінага вучэбна-вытворчага пляну павінен быць профіль спэцыялістага. У аснову пабудовы профілю спэцыялістага павінны быць пакладзены запатрабаваньні, паказаныя ўрашэньнях лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) (1929) пастанова ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе, пастановы XVII партканфэрэнцыі.

Профіль спэцыялістага, будуючыся на базе рэзка акрэсьленай вытворчай спэцыялізацыі, павінен характарызавацца ў асноўным наступнымі рысамі:

а) Клясавай сьвядомасьцю і ваяўнічай бальшавіцкай партыйнасьцю, бо „нам патрэбны такія камандныя інжынэрна-тэхнічныя сілы, якія здольны зразумець палітыку рабочай клясы нашай краіны, здольны засвоіць гэтую палітыку і гатовы зьдзейсьніць яе сумленна" (Сталін).

б) Неабходным запасам грамадзка-палітычных, эканамічных і мінімумам пэдагагічных ведаў, зьвязаных з шырокім

грамадзка-палітычным кругазорам, аўладаньнем марксыцка-ленінскай мэтадалёгіяй, як галоўным вагаром, патрэбным арганізатару вытворчай актыўнасьці шырокіх працоўных мас, правільнага ажыцьцяўленьня ленінскай нацпалітыкі.

„Канчатковай ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, якія параджаюць клясавыя адрозьненьні і эксплёатацыю“ (з рэзал. XVII партканфэрэнцыі):

в) Дастаткова глыбокімі прыродазнаўча-навуковымі, фізыка-матэматычнымі і агульна-тэхнічнымі ведамі, апіраючыміся на палітэхнічную аснову.

г) Дастаткова глыбокімі спэцыяльна-тэхнічнымі ведамі, практычным вопытам і звычкамі ў галіне дадзенай спэцыяльнасьці.

д) Аўладаць у належнай ступені сутнасьцю навукова-дасьледчага мэтаду.

13. У разгорнутым профілі спэцыялістага дадзенай спэцыяльнасьці неабходна з дастатковай паўнатой акрэсьліць наступнае: а) характэрыстыку дадзенай галіны вытворчасьці, рабочага месца і калектыву, сродкаў працы, вынікаў працы (прадуктаў вытворчасьці,

б) функцыянальныя абавязкі, якія будзе выконваць спэцыялісты,

в) характарыстыку вытворчых навыкаў і навучаньняў, якімі павінен аўладаць для выкананьня даручаемых яму функцый;

г) характэрыстыку паасобных тэарэтычных ведаў, на базе якіх фармуецца вытворчая кваліфікацыя адпаведнага спэцыяліста.

14. Вучэбна-вытворчы плян, аднак, толькі схэматычна вырашае шэраг пытаньняў, зьвязаных з падрыхтоўкаю адпаведнага спэцыялістага. Акрамя гэтага, патрабуецца перабудова вучэбных праграм у адпаведнасьці з задачамі сацыялістычнае рэканструкцыі с/г.

15. Ня гледзячы на вялікую працу, якая была праароблена амаль усімі навучальнымі ўстановамі, па пераглядзе зьместу навучаньня, праграм і заданьняў на падставе ўказаньняў т. Сталіна, яшчэ і да гэтага часу шэраг праграм мае мэтадалёгічныя і мэтадычныя недахопы. Таму асноўнай задачай за час падрыхтоўкі да новага 1932/33 нав. году павінна быць праверка, перагляд і распрацоўка новых праграм.

Гэты перагляд павінен забясьпечыць у праграмах наступныя мэтадалёгічныя ўстаноўкі:

а) ваяўнічую бальшавіцкую партыйнасьць і марксысцка-ленінскую мэтадалёгічную ѣытрыманасьць; мэтавай устаноўкай кожнай праграмы павінна зьяўляцца бязьлітасная барацьба за генэральную лінію партыі на два франты — супроць правага апартунізму, як галоўнай небясьпекі, „левага“ апартунізму і прымірэнцтва да іх у тэорыі і на практыцы, барацьба супроць гнілога лібэралізму, супроць усіх і ўсялякіх скажэньняў марксызму-ленінізму ў тэорыі і на практыцы; адначасова праграмы павінны быць прасякнуты барацьбой супроць мэханіцызму усякіх адценьняў, ідэалізму і папоўшчыны, супроць буржуазных і дробна-буржуазных тэорый, што адчынена або замаскавана змагаюцца з марксызмам-ленінізмам, рэвалюцыйным рухам пралетарыяту і сацыялістычным будаўніцтвам; барацьбой супроць сацыял-фашызму і контррэвалюцыйнага трацкізму, як перадавога атраду міжнароднай буржуазіі, у праграмах, асабліва па сацыяльна-эканамічных, тэарэтычных і канкрэтных дысцыплінах, павінны быць выразна пастаўлены пытаньні ленінскай нацыянальнай палітыкі і барацьба з яе скажэньнямі і вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай, барацьба з мясцовым шавінізмам.

Неабходна рашуча зьнішчыць беспартыйнасьць і „апалітычнасьць“ праграм, рашуча змагаючыся з варожымі пралетарыяту тэорыямі аб'ектывізму ў навуцы.

Асабліва яскравы адбітак знаходзіць гэтая „беспартыйнасьць“ у праграмах па канкрэтных эканоміках, арганізацыйных дысцыплінах, тэхнічных і г. д., якія не заўсёды даюць разгорнутую крытыку шкодніцтва ў тэорыі і на практыцы, ня ўскрываюць канкрэтных праяў шкодніцтва ў розных галінах народнае гаспадаркі і розных галінах працы, ня ўскрываюць буржуазных установак у пытаньнях тэхнікі і арганізацыі і не вызнача-

чаюць працы новых якасных адрозьненьняў сацыялістычнай тэхнікі і арганізацыі ад капіталістычнай.

Наглядаюцца выпадкі, калі праграмы, асабліва па прыродазнаўчых дысцыплінах, або зусім не прасякнуты матар‘ялістычнай дыялектыкай, або абмяжоўваюцца дыялектычнай тэрміналёгіяй.

б) Адзінства рэвалюцыйнай тэорыі і практыкі на базе практыкі і ауладаньне тэхнікай, другі момант, на якім павінна быць сканцэнтравана ўвага, пры складаньні праграм, гэта—непарыўная сувязь тэорыі і практыкі, іх дыялектычнае адзінства на падставе рэвалюцыйнай практыкі.

Таму праграмы па сацыяльна-эканамічных дысцыплінах, асноўнаю мэтаю якіх зьяўляецца ўзброеньне марксыцка-ленінскай мэтадалёгіяй, выпрацоўка рэвалюцыйнага сьветапогляду і клясавай сьвядомасьці, павінны аднячасова быць цесна зьвязаны з адпаведнаю галінаю народнай гаспадаркі шляхам прыцягненьня спэцыяльнага адлюстрацыйнага матар‘ялу і шляхам наданьня ім адпаведнай структуры. Толькі пры гэтым магчыма сапраўды забясьпечыць вядучую ролю гэтых дысцыплін у навучаньні.

в) Пры пабудове праграм фізыка-матэматычных і хэміка-біалёгічных дысцыплін, аднячасова са зьместам асноўных тэарэтычных праблем у сьвеце дыялектычнага матэрыялізму, неабходна выходзіць з запатрабаваньняў кожнай дадзенай спэцыяльнасьці. Пры вызначэньні аб‘ёму ведаў, неабходных спэцыялісту, належыць улічваць патрэбнасьць спэцыяльных дысцыплін, якія выкладаюцца ў дадзенай ВНУ (тэхнікуме).

г) Рашуча аслабаняючы праграмы ад усяго ня маючага прынцыповага значэньня для дадзенай спэцыяльнасьці, належыць абавязкова патрабаваць ад кожнай праграмы тэарэтычнай цэльнасьці без якой дадзеная дысцыпліна ня можа стаць зброяй актыўнага аграномa-вытворцы.

д) Праграма спэцыяльных дысцыплін павінна быць пабудавана ў поўнай адпаведнасьці з вытворчым профілем спэцыялістага, які рыхтуецца па гэтых праграмах. Больш поўна вызначаецца аб‘ём і зьмест матар‘ялу праграмы, пры чым неабходна рашучая барацьба, як з непатрэбным, а таму і шкодным баластам у праграмах, так і з прызнаньнем тэорыі і ігнараваньнем палітэхнізму, варожым дыялектычнаму матар‘ялізму, асноўнаму прынцыпу марксысцка-ленінскай пэдагогікі і палітыкі партыі ў галіне асьветы.

У гэтых праграмах павінна быць забясьпечана адзінства тэарэтычнага навучаньня і вытворчай практыкі, „як сыстэмы і формы вытворчага навучаньня“ (пастанова лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б). Для гэтага неабходна, каб у праграмах былі вызначаны тыя пытаньні, якія павінны быць прапрацаваны за час вытворчай практыкі, ў парадку пераносу адпаведных частак тэарэтычнага навучаньня на вытворчасьць і ў парадку правядзеньня самой практыкі. Гэта значыць, што праграмы вытворчай практыкі павінны быць сустаўнымі часткамі адпаведных тэарэтычных праграм. Сувязь паміж тэорыяй і практыкай у праграмах па замежных мовах павінна быць ажыцьцёўлена праз прапрацоўку такога літаратурнага матар‘ялу, які цалкам адпавядае спэцыяльнасьці навучальнай установы і профілю спэцыялістага.

е) У якасьці аднаго з вышэйпаказаных запатрабаваньняў ў галіне ўвязкі тэорыі з практыкай сацыялістычнага будаўніцтва, павінна быць вызначана запатрабаваньне аб прасякненьні ўсіх праграм пытаньнямі абароны краіны Саветаў ва ўмовах капіталістычнага абкружэньня, абвастрэньня клясавай барацьбы.

ж) Уся праграма павінна быць увязана з часам, які адводзіцца навучальным плянам на тую ці іншую дысцыпліну.

з) У праграме павінны быць паказаны літаратурныя крыніцы і іншыя вучэбныя дапаможнікі, неабходныя для вывучэньня той альбо іншай часткі дадзенай дысцыпліны.

Ю. Тупяневіч

# Разьвіцьцё пісьмовае мовы ў першай групе сямігодкі

*(З вопыту Менскай 5-ай сямігодкі)*

Пры нашай вялікай працы па сацыялістычнаму будаўніцтву, па змаганьню за сацыялізм, асабліва значэньне набывае разьвітая багатая мова, як вусная, так і пісьмовая. Кожны рабочы маленькага нават цэху, прафработнік-калектывіст, грамадзкі працаўнік штодня мае справу з масай, калектывам. З гэтай масай ён гаворыць, на яе ўплывае, ёй тлумачыць, вядзе дыскусіі. Рабочы-вынаходца ня толькі вынайшоў новую машыну, новую прыладу, новы спосаб працы ці ўжываньня машыны,—ён багатай яснай мовай шырока пазнаёміў сваю аўдыторыю з сваім вынаходзтвам, і сваім моцным словам ён запаліў у слухача новую думку аб новым вынаходзтве. Рабочы ня толькі выступае перад масай з прамовай на сходах, канфэрэнцыях—піша даклады аб сваёй працы, ён запісвае свае назіраньні над працай другіх рабочых, назіраньні над працай рабочых другіх краін. Часта рабочы вядзе дзёньнік свайго рэвалюцыйнага жыцьця.

Маючы ўсё гэта за аснову, настаўнік будуе сваю працу ў школе такім чынам, каб са школы вышаў чалавек з зусім разьвітай мовай.

Часта здараецца, што вучні, ня маючы адпаведных фізычных дэфэктаў, па сканчэньні сямігодкі, маючы дастатковыя актуальныя веды па розных галінах навукі,—слаба ўладаюць вуснай мовай і не ўладаюць пісьмовай мовай. Гэта кажа аб няправільнай пастаноўцы працы ў школе па разьвіцьцю мовы вучня. А няправільна пастаўленая праца ў першых групах будзе тормазам і далейшага разьвіцьця і працы вучня. Ёсьць выпадкі, калі настаўнік больш аддае ўвагі навучаньню вучня чытаць. Лекцыі чытаньня праводзяцца мэтадычна, са ўсімі прыёмамі пэдагогікі. На лекцыях-жа пісьма настаўнік ставіць мэтай навучыць вучня толькі пісьму, у сэнсе каліграфіі і граматычнасьці яго. У гэтым выпадку вучні будуць добра чытаць, будуць умець апавядаць і ўладаць добрай вуснай мовай. У той-жа час гэтыя вучні не напішуць самастойна маленькую запіску, бо ў іх зусім не разьвілася пісьмовая мова. Надалей гэтыя вучні, канчаючы сямігодку, бяз доўгага мараньня на чарнавіках не напішуць адразу правільна і зразумела простае заявы або пратаколу маленькага сходу. Чытаньне і пісьмо павінны ісьці разам у самай цеснай сувязі. Вучань першай групы да канца году павінен умець прачытаць артыкул, сьцісла, правільна, зразумела дзіцячай мовай апавядаць прачытанае, і адначасна ён павінен умець запісаць сьцісла ў зразумелых дзіцячых выразах тое, аб чым апавядае, запісаць свае словы, свае думкі. У гэтых ведах ёсьць грунтоўная падрыхтоўка вучня да далейшае працы. Навучыць вучня пісьмова апавядаць і ёсьць заданьне працы па пісьму ў першай і другой групах сямігодкі.

Апісаныя ў гэтым артыкуле спосабы працы па разьвіцьцю пісьмовае мовы вучня ў першай групе аўтар праводзіў на практыцы ў Менскай 5-й сямігодцы. Праца давала добрыя вынікі. Таму, што ў нас няма апісаньняў практыкі па разьвіцьцю пісьмовае мовы ў першых групах, у аўтара зьявілася думка падзяліцца вопытам са сваімі таварышамі.

## I. Разьвіцьцё пісьмовае мовы ў першай групе,

### 1) Адказы на запытаньні.

У першай групе ў пачатку заняткаў вучні ня ўмеюць ня толькі апавядаць, але і правільна, дакладна адказваць на запытаньні. На адказы на запытаньні настаўнік зварочвае тут вялікую ўвагу. Разьвіцьцё пісьмовае мовы, як ужо было сказана, ідзе ў цеснай сувязі з разьвіць

цём вуснае мовы вучня. Настаўнік прывучае дзяцей адказваць моцным голасам, упэўнена, не сьпяшаючыся і зразумела для слухаючых яго. Адказ вучня павінен быць лёгічным і правільна сфармаваным. На прыклад, на запытаньне настаўніка: „хто твой бацька“ (у сэнсе, дзе ён працуе) настаўнік не задавальняецца адказам: „ён на заводзе“. Таксама настаўнік і не падказвае вучню адказ, а добра пастаўленым новым пытаньнем, ён дабіваецца ад вучня пэўнага патрэбнага адказу: „мой бацька працуе на заводзе“, ці „мой бацька—рабочы“, „мой бацька—служачы“. З мэтай навучаньня вучня адказваць выразна, карысна некаторыя адказы вучняў паўтараць калектыўна. Група вымаўляе адказ з належнай рытмікай, з націсканьнем на патрэбных словах або выразах. Напрыклад: наша школа, **савецкая**.

Усе акцябраты—**адна сям'я.**

Ленін казаў: т р э б а  в у ч ы ц ц а,  в у ч ы ц ц а  і  в у ч ы ц ц а.

Часта здараецца, што вучань яўна ня можа выказаць сваю думку ці даць адказ на запытаньні толькі з прычыны недахопу ў яго дзіцячым лексыконе належных слоў. У гэтым выпадку настаўнік павінен сам непасрэдна дапамагчы вучню падсказаўшы патрэбнае слова. Ён мабілізуе ўвесь калектыў групы на адшуканьне адпаведнага слова. Напрыклад, вучань кажа: „па сярэдзіне вуліцы, дзе возчыкі едуць“ ...Настаўнік ставіць перад клясаю пытаньне, як называецца гэтае месца вуліцы, дзе едуць возчыкі· Вучні адказваюць—маставая. У іншых падобных выпадках да аднаго адшуканага гэткім чынам слова можна дабраць таксама калектывам клясы яшчэ некалькі слоў аднаго разуменьня з першым. Напрыклад: група— калектыву — кампанія—хэўра.

У першую групу прыходзяць дзеці з нулявой групы, а таксама і новапаступаючыя, якія ўпяршыню знаёмяцца са школаю, таму на першых-жа часох заняткаў вучням трэба растлумачыць словы штодзённага школьнага ужываньня, напрыклад: канцылярыя, загадчык, намесьнік, дзелавод, камэндант, прыбіральшчыца, вартаўнік. Таксама настаўнік добра прапрацоўвае з вучнямі разуменьні слоў: палітэхнічная, савецкая, нацыянальнасьць, сацыяльны плякат, лёзунг, санітар, камісія і г. д.

**2) Сьпісваньне**

З папярэдняга мы ґачым, што на першых часох у першай групе асаблівая галоўная ўвага аддаецца разьвіцьцю вуснае мовы вучня. Пісьмо пакуль што мае на мэце навучыць дзяцей правільна сьпісваць гатовае. Першыя *дні дзеці* сьпісваюць з дошкі. Ад вучняў патрабуецца выразнае і чыстае пісьмо з правільным напісаньнем літар. Бывае, што вучань сьпісвае замест напісанага на дошцы, але „сваімі“ літарамі, якімі ён пісаў да школы, часта няправільнымі. Каб навучыць дзяцей правільна пісаць літары, настаўнік пасьля кожнага выкананага заданьня, асабліва калі ёсьць яшчэ вольны незаняты час, задае дзецям напісаньне радку літары, якая сустракаецца ў напісаным на дошцы. Напрыклад, вучні пісалі „наша школа палітэхнічная“. Пасьля напісаньня адпаведнага ліку гэткіх адказаў (маем на ўвазе, што настаўнік загадзя даў вучням пэўнае колькаснае заданьне), вучні пішуць адзін радок літары „н“. У напісаньні гэтага радку ўвага вучня толькі ў правільным сьпісваньні гэтае літары „н“. Пасьля напісаньня выразу „наша школа сямігодка“—вучні пішуць літару „с“ і г. д.

Сьпярша вучні з дошкі сьпісваюць адзін або два сказы. Сказы павінны быць сьцíслымі, зразумелымі. У іх не павінны сустракацца доўгія словы, бо ня трэба забывацца, што вучань яшчэ і чытае дрэнна. Перад тым, як сьпісваць, вучні павінны калектыўна хорам прачытаць тое, што будуць сьпісваць.

Калі дзеці навучацца крыху сьпісваць з дошкі, настаўнік дае ім сьпісваць з кніжкі. З кніжкі вучні сьпісваюць кароценькія, зразумелыя артыкульчыкі, ці сказы. Зьмест гэтых артыкулаў сказаў ці разуменьні асобных слоў вучні прапрацоўваюць з настаўнікам перад тым, як пачаць сьпісваньне. Сьцісваюць дзеці з рукапіснага шрыфту. Да сьпісваньня з друкаванага вучні пераходзяць не раней сярэдзіны года.

### 3) Апавяданьні па пытаньнях

Калі вучні атрымаюць навык сьпісваньня, настаўнік дае магчымасьць перайсьці ад адказаў на запытаньні настаўніка да складаньня з гэтых адказаў кароценькіх апавяданьняў і запісаў іх. Апавяданьне складаецца з 3—4 адказаў. Адказы паўтараюцца калектывам групы, запісваюцца на дошцы настаўнікам і сьпісваюцца вучнямі ў сшыткі. Апавяданьню вучні, перад тым, як настаўнік запіша яго на дошцы, даюць загаловак. У гэтым разе некалькі вучняў дадуць некалькі розных загалоўкаў. З гэтых загалоўяў калектыў групы выбірае лепшае.

Матар'ялам для гэтай працы будуць служыць гутарка з вучнямі, экскурсія, прычытанае ў кніжцы, зробленая праца і гутарка па малюнках. Напрыклад, пасьля гутаркі з вучнямі ў зьвязку з перавыбарамі ў саветы на лекцыі пісьма ў вынікў пастаўленых настаўнікам пытаньняў, атрымалася наступная пісьмовая праца:

Саветы

У нас кіруюць саветы. Школаю кіруе школьны савет. Горадам кіруе горсавет. Сялянскай вёскай кіруе сельсавет. Тамунаша краіна савецкая. Пасьля экскурсіі ў Дом санітарнай асьветы з адказаў на запытаньні настаўніка склалася наступная пісьмовая праца:

Што мы бачылі ў Доме санітарнае асьветы.

У Доме санітарнае асьветы мы бачылі малюнкі мікробаў розных хвароб. Яшчэ мы разгледзелі малюнкі і мадэлі, як трэба сядзець у часе пісьма, як трэба заводзіць новы быт у школе і дома.

Пасьля прачытанага артыкулу аб трактары, вучні па запытаньнях настаўніка склалі наступную пісьмовую працу:

Праца трактара.

Трактар арэ, барануе, сее.
Трактар убірае ўраджай.
Трактар жне і абмалачвае.
Трактар перавозіць, пракладае дарогі, качае ваду, рые канавы, расчышчае сьнег.

У чытанцы вучні ў клясе разгледзелі малюнак. Настаўнік прапануе скласьці апавяданьне на тэму і зьмест малюнку. Загаловак зноў-жа выбірае з усіх выказаных калектывам групы. Далей настаўнік ставіць пытаньні. Адказы вучняў запісваюцца на дошчы. Усё запісанае апавяданьне калектыўна прачытваецца і сьпісваецца з дошкі. Прыклад падобнай працы:

Кароўнік.

Кароўнік прасторны, чысты, з падлогаю.
У ім пабудаваны кармушкі.
Над кармушкамі гараць электрычныя лямпачкі.

Для гэтай працы выбіраюцца малюнакі выразныя, з кароткім зьместам і ярка вызначанай агульнай накіраванасьцю малюнку. Пры разглядзе малюнку ўвага вучняў накіроўваецца на галоўныя пукатыя моманты ці рэчы малюнку. Добра разгледзець з вучнямі шэраг малюнкаў у сыстэматычным парадку. Пасьля такога разгляду вучні паступова ў пісьмовых сваіх працах па запытаньнях настаўніка запісваюць рэчы, затым дзеі, зьявы, людзей і г. д.

Узоры падобных прац:

Дапамога птушкам.

Зіма. Птушкам няма яды. Дзеці зрабілі кармушку. Да сьцяны падвесілі дошчачку. На дошчачку насыпалі круп. Птушкі дзюбаюць крупкі.

9 студзеня.

Рабочыя прышлі да царскага палацу. Яны прасілі ў цара хлеба. Рабочыя ў руках трымалі абраз. Цар выслаў войска. Афіцэр загадаў і салдаты стралялі. Шмат рабочых забілі. Шмат паранілі. Гэтак цар адказаў рабочым.

Вясна.

Тае сьнег. Папсавалася дарога. На ўзгорках ужо няма сьнегу. Па рэчцы плыве лёд. Дрэвы яшчэ голыя. У небе лятуць журавы.

1-ае мая.

1-е мая—міжнародны дзень працоўных. Працоўныя ўсіх краін вышлі на дэманстрацыю. У нэгра, француза, японца і расійца—адзін плякат: няхай жыве 1-е мая. Гэткі самы плякат трымаюць працоўныя ўсіх краін.

**4) Калектыўнае пісьмо.**

Самым распаўсюджаным далей відам пісьмовых прац будзе калектыўнае пісьмо. Дадатным бокам гэтага віду пісьмовых прац зьяўляецца калектыўная творчасьць групы. Агульная накіраванасьць думкі, спаборніцтва індывідуальных здольнасьцяй, жывы характар працы—усё гэта робіць гэтую працу цікавай, карыснай, творчай. Вынік гэтае працы складае лепшае, на што здольны наш калектыў. Вядома, вынік гэты будзе толькі пры ўмове правільнага вядзеньня працы.

Трэба адзначыць, што рознымі настаўнікамі калектыўнае пісьмо праводзіцца па-рознаму. Напрыклад, ужываецца прыём, калі настаўнік дае вычэрпаючыя на патрэбную тэму пытаньні, на якія вучні адказваюць (на жаль, часта хорам). Адказы запісваюцца на дошцы і вучнямі сьпісваюцца. Затым маюць месца выпадкі, калі настаўнік запісвае не адразу ўсе адказы, а кожны па чарзе. Гэтак па чарзе, па аднаму адказу вучні і сьпісваюць: даюць адказ на пытаньні, ён запісваецца на дошцы, вучні яго сьпісваюць у сшытак, далей ідзе другое пытаньне, за ім трэцяе і г. д. У першым і другім выпадку няма зусім творчай працы вучняў, бо калектыўнае пісьмо будзе тады сапраўды творчым, калі вучні ня будуць толькі слухацца настаўніка і пасыўна яму падпарадкоўвацца, а калі яны будуць сапраўды працаваць самі, разьвіваць сваю думку, сваю мову. У другім выпадку ў вучняў ня выхоўваецца прывычка падсумаваньня, групіроўкі сваіх асобных думак, асобных частак свае працы ў адно цэлае, абагуленае.

Звычайна калектыўнае пісьмо вядзецца наступным парадкам.

Сьпярша вучні павінны ведаць, аб чым будуць пісаць. Думаецца, што матар'ял данае працы ўжо прапрацаваны іншым парадкам да лекцыі пісьма, напрыклад: была экскурсія, альбо чыталі кніжку ці артыкул, рабілі якую працу ў майстэрні і г. д. Ведаючы, аб чым будуць пісаць, вучні даюць загаловак сваёй пісьмовай працы. Загаловак называюць некалькі вучняў. Калектыў рашае, чый лепшы, які і прымаецца для напісаньня. Далей настаўнік дае пытаньні, на якія таксама вучні (ня хорам, а некалькі вучняў па аднаму) даюць адказы. Адказ—вычэрпваючы, кароткі, правільны. Калектыў з названых адказаў выбірае лепшы. Адказ настаўнік хорам прапануе паўтарыць. Другі і наступныя адказы вучань павінен узгадняць з папярэднім. Гэта патрэбна, каб унікнуць непатрэбнага паўтарэньня аднаго якога слова ці аднолькавых выразаў. Атрыманае з адказаў вучняў апавяданьне (да гэтага ідзе ўся праца) з загалоўкам запісваецца на дошцы, прачытваецца вучнямі хорам і перапісваецца ў сшыткі. Што датычыцца таго пытаньня, хто павінен пісаць на дошцы пры калектыўным пісьме, маецца адзіны адказ: зусім чытэльна, правільнымі буйнымі літарамі на дошцы запісвае настаўнік. Ня трэба забывацца, што вучань у першай групе вучыцца пісаць. Затушаваць перад ім, або зьменшыць яго працу напісаньня літараў з мэтай накіраваньня яго сіл на працу сьпісваньня—можа толькі знаёмае, правільнае, лёгка чытаемае пісьмо рукі настаўніка.

Матар'ялам для калектыўнага пісьма, як і наогул пісьма ў групе, служыць гутарка, экскурсія, артыкул з чытанкі, прачытаная кніжка, праца (на заводзе, у майстэрні), бачаны вучнем кіно-фільм, назіраньні над прыродаю, акаляючым жыцьцём і г. д.

Вузоры калектыўнага пісьма:

Пасьля гутаркі аб бавоўне напісалі:

Бавоўна.

Ёсьць краіна—Туркестан. Там расьце бавоўна. З Туркестану бавоўну прывозяць да нас. На фабрыках з яе вырабляюць вату, мультан.

Пасьля экскурсіі ў сад напісалі:

Учора мы хадзілі ў сад. На зямлі шмат жоўтага лісьця. Пад каменем ляракі мы бачылі жабу. Яна зарылася ў пясок і ня рухаецца. Пад карой дрэва варушыліся казюлькі. Жабы і казюлькі захаваліся ад зімы.

Прагледзеўшы фільм у кіно, вучні напісалі:

Сьнегавая краіна.

Гэта краіна далёка. Там холадна. Шмат сьнегу. Там па льдох ходзяць белыя мядзьведзі. У моры жывуць цюлені, маржы, розныя рыбы. Людзі езьдзяць там на аленях і сабаках.

На другой лекцыі мы працавалі ў рабочым пакоі. Нам далі па кавалку фанэры, аловак і пілачку. На фанэры мы намалявалі лапатку. Затым мы на малюнку пілачкай выпільвалі.

### 5) Мастацкае пісьмо.

Дзеці наогул любяць прыгожыя кніжкі, казкі, малюнкі. Настаўнік мае шырокую магчымасьць скарыстаць гэтыя пачуцьці вучня. Па-першае, настаўнік праз гэтае пачуцьцё вучняў мае магчымасьць выхоўваць у іх пачуцьці пралетарскае эстэтыкі. Па-другое, шляхам эмоцыянальных успрыйманьняў вучняў настаўнік лёгка выхоўвае ў вучняў належныя пачуцьці і перажываньні зьвязаныя з даным матар'ялам пэдагагічнай працы ў групе. Напрыклад, рэвалюцыйныя падзеі, моц Чырвонай арміі, наша вялікае будаўніцтва, фігура ўдарніка, дурман рэлігіі і г. д.— ўсё гэта вучні ямчэй і лягчэй успрыймаюць праз вобразы прыгожай мастацкай кніжкі, малюнку, або вуснае мастацкае, прыгожае апавяданьне, верш, сьпеў. Па-трэцяе, разьвіваючы творчую думку вучняў, мастацкую мову яго, настаўнік разьвівае ня толькі мастацкую, але наогул мову вучня, абагачае яе новымі словамі, новымі вобразамі, пашырае кругавід вучняў. Канкрэтна на лекцыях пісьма гэта выяўляецца ў тым, што вучні пішуць тыя-ж калектыўныя працы, толькі на тэмы, якія даюць разгон мастацкай творчасьці вучняў. Матар'ялам тут служаць апісаньні працы, урачыстасьці, прыроды.

На запытаньне настаўніка, да чаго падобны шум пасоў (пры апісаньні працы на заводзе), могуць здарыцца наступныя адказы: шум ветру, гул, шыпеньне. Настаўнік зьбірае ўсе адказы і па выразнаму калектыву, самыя ўдалыя запісвае на дошцы. Тое самае робіцца і з загалоўкам прац. Адносна загалоўка прац трэба адзначыць пажаданьне ўсім пісьмовым працам даваць загалоўкі. Пры гэтым загалоўкі, як і адзначалася раней, выбірае калектыў групы.

Вузоры прыгожых мастацкіх пісьмовых прац вучняў: у зьвязку з днямі Кастрычнікавай рэвалюцыі вучні, напісалі:

Чырвоны сьцяг.
Наш сьцяг—чырвоны сьцяг.
Чырвоны сьцяг адзіны ў сьвеце.
Чырвоны сьцяг—перамога рабочых.
Чырвоны сьцяг кліча да рэвалюцыі.
Да змаганьня за волю рабочых
Усяго сьвету.

Пасьля экскурсіі на завод вучні напісалі наступную працу:

На заводзе.

Шмат людзей. Шмат машын. Людзі працуюць. Сочаць за машынамі Машыны шумяць, шыпяць, грукочуць. Гудуць прываднвя пасы. Чутны заклік ударніка— за лепшую працу. Канчаем 4-ы заключны.

На дзень Чырвонай арміі напісалі наступную працу:

Вартавы саветаў.

Чырвоная армія—самая моцная. Яна заваявала для нас Кастрычнік. Яна—абарона рабочых усіх краін. Чырвоная армія—вартавы саветаў.

Апісаньні прыроды.

Зімовая карціна.

Прышла зіма. Рэчку пакрыў лёд. У полі сумёты. На вокнах вузоры. Белаю стала зямля. Пабялелі дахі. Белымі ніткамі вісяць правады.

### 6) Лёзунгі.

Вельмі карысна з тэй-жа мэтай, як наогул мастацкая пісьмовая творчасьць вучняў, складаньне лёзунгаў. Складаньне лёзунгаў мае месца ня толькі ў адпаведныя ўрачыстыя, або кампанійскія дні, а наогул пасьля кожнае пісьмовае працы пры ўмове астатку ад лекцыі вольнага часу. Напрыклад, пасьля запісу гутаркі аб зімовым спорце вучні напісалі лёзунг:

Мы—за здароўе;
Мы—за спорт.

Пасьля апісаньня калгасу пісалі лёзунг:

Болей калгасаў—лягчэй праца і лепш жыцьцё.

Лёзунгі павінны быць выразнымі, ляканічнымі і складзенымі з нядоўгіх слоў. Кожнае слова лёзунгу і ў цэлым выраз усяго лёзунгу павінен быць добра зразумелым. Трэба ўнікаць слоў і выразаў, незразумелых дзецям. Лёзунг таксама выпрацоўваецца, складаецца праз творчасьць калектыву групы. Настаўнік тут толькі дапамагае, кіруе агульнай працай вучняў.

Апрача галоўнага свайго прызначэньня напісаньне лёзунгу ў сшытку буйнымі правільнымі літарамі спрыяе разьвіцьцю ў вучняў навыкаў пісьма.

**Дзелавое пісьмо.**

Ёсьць яшчэ адзіны від пісьмовых прац ў першай групе, які нельга абыходзіць увагаю, Гэта дзелавое пісьмо. Нашы савецкія дзеці - гэта самастойныя маленькія грамадзяне. У іх часамі бывае шмат сур,ёзных спраў. Скласьці сьпіс гуртку ці брыгады, запісаць сьцісла, што загадчык прасіў перадаць бацьком, паслаць у школу запіску чаму, ня зьявіўся ў школу, напісаць запіску таварышу, паслаць ліст калгасным таварышом, падаць заяву ў камсод, каб далі абутак ці паліто, напісаць адрас атраду і г. д. Усё гэта павінен прадбачыць настаўнік і паклапаціцца аб сваячасовай ліквідацыі дзелавой няпісьменнасьці вучняў.

Усе працы па дзелавой перапісцы адбываюцца мэтадам таго-ж калектыўнага пісьма.

Узоры дзелавой перапіскі

**Сьпіс бедных вучняў групы:**

| №№ | Прозьвішча і імя |
|---|---|
| 1. | Ахрэмава Вольга |
| 2. | Жук Янка |
| 3. | Рамашка Ядзя |
| 4. | Бернштэйн Ісак |

Сказаць дома бацьком:

„Абавязкова зьявіцца ў школу на бацькоўскі сход заўтра а 7-й гадзіне увечары“.

У камсод 38-ая школы.

Вучня 1-й групы Лемеша Андрэя

заява.

Прашу выдаць мне абутак, бо ня маю ў чым у школу хадзіць. Мой бацька зарабляе ў месяц 47 руб. Сям'і—4 чалавекі.

Лемеш А.

1932 г. 22 сьнежня.

Першамайская 23, кв. 8.

Ліст калгасным таварышом.

Дарагія таварышы!

Набліжаецца дарагі дзень—1-е Мая. Як Вы рыхтуецеся да яго? А ці няма з Вас такіх, якія сьвяткуюць і вялікдзень? Прасачыце за імі. Растлумачце ім іх памылку. У нашай групе ўжо няма такіх, якія вераць хлусьлівым папом. У нашай групе ўсе як адзін рыхтуюцца да дню І-ае мая.

Як прайшло ў Вас сьвята першае баразны. Як Вы ўдзельнічаеце ў ім?

З гэтым лістом пасылаем Вам нашы падарункі. Напішэце, ці падабаліся?

1932 г. 20/IV. Тарыскае прывітаньне.

Менск.

І-я група 5 школы.

Адрас нашай школы: Менск, Леніна, 21

Адрас атраду: Карла Маркса 19.

Палітэхнікум, 2-гі паверх, 6-ты пакой.

Запіска да таварыша.

Юзік, калі пойдзеце калектывам у кіно, дык запішэце і мяне. Праз два дні прыду ў школу. Зараз хварэю.

Уладзік Шчавель.

# Разьвіцьцё пісьмовае мовы ў другой групе сямігодкі

У другой групе настаўнік працягвае далейшую працу па разьвіцьці мовы вучня, у прыватнасьці мовы пісьмовай. Таксама, як і ў першай групе, ён уважліва сочыць за правільнай формулёўкай вучнёўскіх адказаў; паступова, уводам новых, даступных дзіцячаму разуменьню слоў пашыраецца мова вучня; у пісьмовых працах вучням даецца больш разгону для самастойнасьці.

У другой групе існуюць тыя-ж віды пісьмовых прац, як і ў першай. Толькі ў другой групе вучні параўнальна з першым годам маюць навыкі пісьма і пішуць хутчэй. Таму працы ў другой групе крыху даўжэйшыя і, пачынаючы з сярэдзіны году, больш складаныя. Віды выкананьня гэтых прац наступныя:

## 1. Сьпісваньне з кніжкі

У другой групе, як і ў першай, практыкуецца сьпісваньне з кніжкі. Але гэтым відам пісьмовае працы нельга вельмі захапляцца, нельга злоўжываць ім. Мэханічная праца наогул надакучае жывой дзіцячай натуры. Мэханічнае сьпісваньне з кніжкі, без абуджэньня думкі вучня, мала разьвівае іх і зьніжае ахвоту да працы. Ад такой працы вучню хутка робіцца нудна. Значыць і з боку вузка выхаваўчага мэханічнае сьпісваньне з кніжкі ў групе мала пажадана. Зусім-жа яго выкінуць з ужываньня яшчэ няма падставы. Але, зрэдка ўжываючы гэты від пісьмовай працы, трэба настаўніку сім-тым ажыўляць яе. У зьвязку з заданьнем сьпісаць даны артыкул або яго частку настаўнік дае вучням яшчэ адно заданьне для самастойнай працы. Напрыклад, настаўнік дае вучням сьпісаць з артыкулу „Уборка гародніны"—як убіралі ў паступовым парадку розную гародніну. Вучань прачытвае увесь артыкул, адбірае тое, што яму патрэбна і выпісвае. Усё-ж у даным разе праца вучня ня будзе зусім мэханічнай. Сьпісваньне даецца і з мэтай замацаваньня граматычных навыкаў. У гэтым выпадку вучні сьпісваюць з чытанкі (калі няма спэцыяльнай рабочай кніжкі) маленькі артыкул або частку з вялікага артыкулу. Частка артыкулу, якую вучні сьпісваюць, павінна мець пэўны зьмест і закончанасьць. Таксама ў гэтым артыкуле або яго частцы не павінна быць доўгіх сказаў, цяжкіх для выпісваньня слоў, чужаслоўя, шматкроп'я, выклічнікаў, пытальнікаў, і г.д.. Тэй частцы артыкулу, якую вучні сьпісваюць, даецца ўласны або калектыўны (прыдуманы ўсей групай загаловак).

## 2. Калектыўнае пісьмо

Калектыўнае пісьмо ў другой групе ідзе тым самым парадкам, як і ў першай групе. Толькі з сярэдзіны вучэбнага году вучні другой групы ўжо складаюць плян пісьмовае працы і па ім будуюць яе. Плян гэты складаецца вельмі асьцярожна і мае тры—няболыш, тэзісы-моманты. Кожны тэзіс уключае ня больш двух адказаў. Напрыклад, вучні апісваюць сьвяткаваньне дню Кастрычніка ў сваім горадзе. Перад тым, як апісаць урачыстасьць, яны складаюць калектыўна плян, які запісваецца з дошкі ў сшыткі. Затым па пляне на кожны тэзіс даюць адказы (у парадку калектыўнага пісьма). Адказы настаўнік запісвае на дошцы. У выніку атрымліваецца, напрыклад, наступная праца:

### Сьвята Кастрычніка ў Менску

**Плян**

1. Горад напярэдадні сьвята Кастрычніка.

2. Горад у дзень сьвята.

Напярэдадні сьвята Кастрычніка горад быў упрыгожаны зелянінай, чырвонымі сьцягамі, рознакалёрнымі агнямі. Гучэлі гучнагаварыцелі.

Удзень сьвята ад раніцы па горадзе праходзілі дэманстрацыі чырвонаармейцаў, рабочых, камсамольцаў, дзяцей. Грымелі рэвалюцыйныя сьпевы, аркестры, гул піянэрскага барабана.

Догляд за машынай.

1. Да працы.

2. Пасьля працы.

Перад тым, як пачаць работу машынай, трэба машыну агледзець. Трэба праверыць яе склад (зборку), агледзець і смазаць асобныя часткі, моцна зашрубаваць мутэркі, прыладзіць пасы.

Пасьля працы машыну трэба зноў праверыць, ці ўсё ў ёй цэлае. Калі ёсьць паломы і папсаваньні, машыну рамантуюць. Цэлую спраўную машыну хаваюць пад павецьцю або ў пуні.

### 3. Самастойнае пісьмо па пытаньнях і тэзісах

З другой паловы вучэбнага году ў другой групе можна практыкаваць пасільнае для вучняў гэтага ўзросту самастойнае складаньне пісьмовых прац. Пасьля прачытаньня артыкулу, або пасьля экскурсіі, наогул на падставе прапрацаванага ужо вусна матар'ялу, настаўнік піша на дошцы пытаньні. На гэтыя пытаньні вучні даюць самастойныя адказы, з якіх павінна скласьціся апавяданьне. Яму даецца калектыўна (або кожным вучням у сваей працы асобна) загаловак. Даючы адказы на пытаньні, вучань павінен падпарадкавацца пэўным прынцыпам: 1) адказы павінны быць кароткія і зразумелыя, 2) у наступных адказах па магчымасьці не павінна быць паўтарэньня слоў, якія ўжо маюцца ў папярэдніх адказах і 3) з усіх адказаў павінна скласьціся цэльнае зьвязанае апавяданьне.

У зьвязку з антыкаляднай кампаніяй вучні выканалі такім чынам наступную працу:

Каму патрэбны каляды

(Самаст. пісьмо па пытаньнях)

1) Чым лічылі нашы продкі паварот сонца на лета?

2) Чым замянілі гэтае сьвята папы?

3)Каму патрэбны каляды?

4) Якая карысьць папом ад каляд?

5) Што ведаюць капіталістыя?

Паварот сонца на лета (22 сьнежня) нашы продкі лічылі за сьвята. Папы гэтае сьвята замянілі калядамі

Ад каляд папы нажываюцца. А капіталістыя ведаюць, што цёмныя веруючыя людзі ня будуць змагацца супроць іх, капіталістых".

Перад тым, як пазнаёміцца шляхам экскурсіі з заводам „Бальшавік", вучні склалі плян экскурсіі. Пасьля экскурсіі вучні па пляне самастойна запісалі свае ўражаньні:

Завод „Бальшавік"

(Самастойнае пісьмо па пляне)

1. Завод знадворку.
2. Выраб заводу.
3. Спосаб працы.
4. Арганізацыя працы.
5. Нагляданьне за працай.
6. Адказны за працу ўсяго заводу.

1) Завод займае некалькі карпусоў.

2) На заводзе вырабляюць скуру.

3) Працуюць машынамі.

4) Работа на заводзе падзяляецца на цахі.

5. Наглядае за працай цэху старшы майстра.

6. Адказвае за працу ўсяго заводу дырэктар.

Таму, што ў дадзеным пляне шэсьць тэзісаў, вучні павінны былі на кожны даваць толькі адзін адказ. Іначай праца была-б завялікай і блытанай.

### 4. Мастацкае прыгожае пісьмо

У другой групе працягваецца і разьвіцьцё мастацкае пісьмовае мовы вучня. Для разьвіцьця мастацкага пачуцьця ў вучня, для ўзбагачэньня мовы вучня новымі вобразамі і новымі словамі, настаўнік карыстаецца прапрацоўкаю ў клясе мастацкіх апавяданьняў, вершаў, песень, частушак, загадак, малюнкаў. На лекцыях пісьма, для разьвіцьця мастацкае творчасьці вучняў, даюцца разматныя самастойныя пасільныя працы, вусныя і пісьмовыя. Напрыклад, вучні вусна прыдумваюць да дадзеных частак твораў — вершу, апавяданьня — загалоўкі, канчаткі, пачатак; па дадзеных пачатку і канчатку прыдумваюць зьмест. Вучні пісьмова запаўняюць прапушчаныя месцы ў вершах; прыдумваюць да дадзеных радкоў вершу рыфмы; прыдумваюць характар або знадворны выгляд данага гэроя,

апісаньні зьяў прыроды на даны момант. Падобныя мастацкія практыкаваньні цікавыя і карысныя, і іх вельмі любяць вучні.

Вось прыклады падобных пісьмовых практыкаваньняў:

**1) Запоўніць прапушчаныя месцы ў вершы.**

„(каля) ...лугу за палямі
Распусьціўся ...(стары) дуб,
Дзе царква была гадамі,
Там цяпер красуе ...(клюб)

* * *

А ў полі дзьве сасонкі,
...(вые) вецер, нібы зьвер
Нават ...(сівы) дзед—бязбожнік
не ...(памоліцца) цяпер.

**2) Прыдумаць рыфмы да даных радкоў вершу:**

**Сяўба**

У калгасе „Перамога“
Час гарачы, працы ...(многа):
Ад зары і да зары
Тут гамоняць ...(трактары)
А з сявалак роўным строем
Жыта сыплецца ...(буйное).
Клім, Ігнат і дзед Мікіта
Барануюць сьпешна ...(жыта).“

**3) Вучні прачыталі верш Лужаніна „Бяспрытульны“ і па зьмесьце і канчатку твору прыдумалі пачатак. Атрымалася наступная праца:**

Як ён зрабіўся бяспрытульным

Капіталісты завялі вайну. Пагналі рабочых на фронт. Забілі на вайне бацьку Ромуся. А на вёсках палі пуставалі. А ў горадзе заводы рабілі знарады. Ад голаду памерла маці Ромуся. Ромусь застаўся адзін бяспрытульным.

У другой групе ў распрацоўку з вучнямі ўводзіцца новы для іх від мастацкай творчасьці—насьценгазэта. Для вузору настаўнік добра прапрацоўвае з вучнямі адзін нумар якой-небудзь мясцовай дзіцячай газэты. Вучні знаёмяцца з агульнай канструкцыяй газэты і асаблівымі адценьнямі кожнага віду газэтнага матар'ялу. Для прыкладу на першы раз можна даць вучням напісаць калектыўна ў клясе перадавіцу, допіс, таварыскі жарт, аб'яву і г. д.

8-ае сакавіка

8-ае сакавіка—Міжнародны Камуністычны дзень жанчыны. Сёньня работніцы ўсяго сьвету выходзяць на дэманстрацыю. Работніцы разам з усімі працоўнымі—супроць ўлады капіталістых, уціску і зьдзеку. Савецкая работніца—удзельніца нашага сацбудаўніцтва; яна вучыцца і па ахвоце працуе. Сёньня работніцы замежных краін патрабуюць сабе лепшага жыцьця і выступаюць у абарону Савецкага саюзу.

Піянэр.

Допіс у насьценгазэту „Чырвоны гальштук“

Ці яны піянэры?

Вучні нашай клясы Янка Круцель, Казя Ярош і Люба Фрэйдман робяць прагулы, не займаюцца ў брыгадах, ня бываюць на піянэрскіх сходах. А на шыі ў іх чырвоныя гальштукі. Ці яны піянэры?

„Вока“

Жарт

— Наш Антось Самроў сьпіць на ўсіх лекцыях.
— І не прачынаецца?
— Не, прачынаецца, як у сталоўку ідзем сьнедаць.

„Сьведка“

## 4) Дзелавое пісьмо

Тут таксама ідзе працяг працы, пачатай у першай групе. Толькі да асобнага сьпісу дадаюцца яшчэ дзьве—тры новыя графы. Можна ў пачатку году да ранейшай графікі асобнага сьпісу дадаць адну новую графу (адрас), а пазьней і другія—сацыяльны стан, нацыянальны, узрост;

У пачатку году:

**Асабовы сьпіс вучняў II гр. 5 школы.**

| №№ | Прозьвішча і імя | Адрас. |
|---|---|---|
| 1 | Аласў Віктар . . . . . | Лекерта, 20-1 |
| 2 | Буракова Ніна . . . . | Карла Маркса, 8-4 |
| 3 | Мультан Саламон . . . . | Чырвона-зьвёздная, 18-7 |

Пазьней

| №№ | Прозьвішча і імя. | Узр. | Сац. стан. | Напыяналь. | Адрас. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ляхоўская Люба . . | 9 | Раб. | Яўр. | Няміга, 13-6 |
| 2 | Труль Марат . . . | 9 | Раб. | Бел. | Беларуская, 10-8 |

**Сьпіс вучняў, якія атрымалі дармова кніжкі**

| №№ | Прозьвішча, імя | Назва кніжкі. | Адрас вучня. |
|---|---|---|---|
| 1 | Мурашкевіч Ясь . . | Чытанка ч. II. | Ракаўская, 18-2 |
| 2 | Кірхіна Зэлда . . | Задачнік ч. II. | Камуністычная 3-1 |
| 3 | Левітан Лёва . . . | Чытанка ч. ІУ | Леніна, 25-4 |

Да дзелавога пісьма ў гэтай групе трэба аднесьці і складаньне плянаў экскурсіі, правядзеньня ўрачыстасьці і інш. Акрамя свайго спэцыяльнага значэньня ў працы наогул, плянаваньне ў першых групах мае вялікае выхаваўчае значэньне. Дзеці прывучаюцца працаваць абдумана, пасьлядоўна разьмяркоўваць рабочы матар'ял і ахопліваць, сынтэзаваць у прапы самыя важныя галоўныя моманты. Плянуючы кожную працу, вучні вучацца рацыянальна працаваць і лёгічна думаць.

Плян экскурсіі на паравы млын.

1. Пабудова млыну— . . . матар'ял.
2. Чым рухаецца?
3. Што вырабляе?
4. Куды збывае прадукт?

Да пляну ранішніка ў школе.

Што мы дамо на ранішнік нашае школы ў дзень 1 Мая.

1. Жывая карціна „перамога рабочых"
2. Калектыўная дэклямацыя „Мы будуем"
3. П'еса „1—Мая".
4. Да дню 1—мая выпускаем асобны ўрачысты наш нумар насьценгазэты „Школьны цэх."

Сабалеўскі А.

# Арганізацыя палітэхнічнага навучаньня ў пачатковай школе

**Палітэхнічнае навучаньне зьяўляецца асноўнай часткай камуністычнага выхаваньн . Яно павінна знаёміць вучняў як у тэорыі, так і на практыцы з усімі галоўнымі галінамі вытворчасьці, праводзіць цесную ўвязку навучаньня з вытворчай працай на такой аснове, каб уся грамадзка-вытворчая работа вучняў была падначалена вучэбным і выхаваўчым мэтам школы (З паст. ЦК).**

**Схэма пляну палітэхнічна-вытворчага выхаваньня.**

Плян мае разьдзелы:

1. Рабочае месца: тут указваецца месца работы вучняў—кляса ці пакой.

2. Гадзіны. Тут указана колькі з агульнага ліку гадавых гадзін адводзіцца на гэты від працы.

3. Працоўныя звычкі. Гэтая графа запаўняецца тымі апэрацыямі, якім неабходна навучыць вучняў. Працоўныя звычкі павінны давацца на вырабе тых ці іншых рэчаў, прычым рэчы павінны быць грамадзка-карыснымі, бо „было-б нудна і цяжка для дзяцей, калі-б мы усё навучаньне па працоўных звычках ператварылі у суцэльную трэніроўку".

Наступная графа 4 паказвае „аб'екты працы"—рэчы вырабу. У гэтай графе ўказваюцца „прылады працы" (інструманты, машыны), з якімі вучань знаёміцца, або якімі ён працуе.

5. Гэта графа запаўняецца тымі ведамі, якія неабходна даць вучню ў часе работы.

6. Сувязь з асноўнымі дысцыплінамі. Тут адзначаюцца тыя элемэнты тэй ці іншай дысцыпліны, якія ўзмацняюць палітэхнічнае значэньне гэтых дысцыплін.

7. Палітэхнічныя экскурсіі на прадпрыемствы, новабудоўлі і г. д.

8. Грамадзка-карысная праца. Тут указваецца тая грамадзка-карысная праца, якая падначальваецца вучэбным і выхаваўчым мэтам школы.

9. Настаўнікам робяцца тыя ці іншыя заўвагі, зьвязаныя з прапрацоўкай гэтага віду працы.

Плян павінен быць пабудаваны так, каб працоўныя звычкі не адбываліся паасобна ад навучальных тэарэтычных ведаў, але каб тыя і другія цесна перапляталіся.

Кожнай школе, каб цалкам ажыцьцёвіць праграму па палітэхнічным навучаньні, неабходна стварыць палітэхнічную базу. Такой працоўнай, палітэхнічнай базай для малодшых груп ФЗС, ШКМ і для пачатковых школ будзе рабочы куток, перасовачная майстэрня, рабочы пакой, майстэрні старэйшых груп сямігодкі, фізыка-тэхнічны габінэт, агра біалёгічная лябараторыя і прышкольны зямельны вучастак.

Рабочы куток у малодшых групах— нулявой, 1-ай, 2-ой зьмяшчаецца ў клясе. Заняткі тут вядуцца групаводамі. Куток дазваляе хутка пераключыцца дзецям з тэарэтычных заняткаў на практычныя— з інструмантамі і матар'ялямі.

У шмат камплектавых школах з роўналеглымі групамі ўжываюцца перасовачныя майстэрні. У клясных пакоях абсталяваньне рабочага кутка застаецца, толькі матар'ял і інструманты пераносяцца ў асобных скрынках. Такая перасовачная майстэрня прыгодна для 1-ай і 2-ой груп.

Рабочы пакой зьмяшчаецца часта ў адным пакоі, дзе адбываюцца ўсе іншыя работы. У некаторых школах, дзе гэта магчыма, адводзяцца два пакоі: адзін для шумных работ (дрэва-мэталь), а другі для ціхіх (тканіна, папера). Тут-жа павінна зьмяшчацца і аграбіалёгічная лябараторыя з жывым кутком, калі нельга адвесьці асобнага пакою. Рабочы пакой арганізоўваецца для 1-ай і 2-ой груп.

III і IV групы могуць карыстацца майстэрнямі па дрэве і мэталі для старэйшых груп сямігодкі. Работа павінна праводзіцца прыстасаванымі для рукі гэтага ўзросту інструмантамі.

Электратэхнічная і энэргетычная лябараторыі зьяўляюцца таксама неабходным дадаткам да рабочага пакою. Гэта лябараторыя павінна мець спэцыяльнае абсталяваньне — матар'ялы і мадэлі.

Работа рабочых пакояў павінна быць мэханізавана, напрыклад: устаноўка на матор швейнай машыны, сьвідравальнага, такарнага і інш., прычым абароты станкоў павінны быць самыя мінімальныя, павінны быць прыладжаны прыстасаваньні, якія накіроўваюць і прыстасоўваюць работу і г. д.

Ручны інструмант павінен быць прыстасаваны да ўзросту дзяцей. Абсталяваньне для работы па дрэве і мэталі павінна быць прыстасавана для работы па апэрацыйным мэтадзе з падзелам працы. Усе прыстасаваньні павінны лёгка здымацца і прымацоўвацца на стале, калі гэта патрэбна будзе пры пераходзе да работы з другімі матар'ямі. Патрэбна таксама, каб усе прыставаньні мелі асобныя мэханізмы для падняцьця і апусканьня—па запатрабаваньнях узросту вучняў.

Апрача працоўнай палітэхнічнай базы, школа павінна мець і добра падрыхтаванага настаўніка. Палітэхнізацыя ставіць перад нашым настаўнікам вялікую задачу аўладаць тэхнікай пэдпрацэсу.

Усе без выключэньня мэтады і прыёмы вучэбнай і выхаваўчай работы школы павінны быць цалкам і поўнасьцю падначалены вырашэньню задач камуністычнага выхаваньня.

2-я група

| №№ п. ч. | Рабочае месца | Гадзіны | Працоўныя звычкі | Аб'екты працы | Прылады працы | Веды, якія павінен набыць вучань | Увязка з агульна адук. дысц. | Экскурсіі на прадпрыемствы | Грамадзка карысная праца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | **ПРАЦА З ТЭКСТЫЛЕМ** | | | | |
| 1 | Рабочы пакой ці кляса | 16 | Тканьнё, вязаньне, шыцьцё рукамі (2,3-асноўных швы) | Простае міткалёвае перапляценьне. Мячык, сумка, туфлі для фізкульт. папраўка вопраткі, шыцьцё ручнікоў | Ткацкі станок голка | Мець паняцьце аб пабудове тканіны. Умець зьвязваць вузлы простыя і двайныя. Умець працаваць на ткацкім станку. Больш падрабязнае чым у першым годзе навучаньня ўяўленьне аб тым, праз якія стадыі праходзіць лён ці воўна, ператвараючыся ў адзеньне (але без знаёмства з сутнасьцю кожнай з гэтых стадый). Знаёмства з працай швейкі і краўца | З прыродазнаўствам і грамадазнаўствам. | Украведную майстэрню (арцельную) | Збор утыль сыравіны |
| | | | | | **ПРАЦА З КАРТОНАМ** | | | | |
| 2 | Рабочы пакой ці кляса | 8 | Разьмётка матэрыялу. Рэзаньне нажом паперы і картону, варка клею, злучэньне пры дапамозе каленкору | Картон, нераплёт, клейстар, папка, сшыткі, цыфэрблят і інш. | Нож, клеевар-ка | Ведаць ходавыя гатункі картонаў, іх тэхнічныя якасьці: ломкасьць, чыннасьць, гладкая паверхня, моцнасьць. Ведаць нумары картону па таўшчыні, як вырабляецца картон у вытворчасьці | З прыродазн. і грамад. | | |
| | | | | | **ВЫВУЧЭНЬНЕ НОВАГА БУДАЎНІЦТВА** | | | | |
| 3 | Нова будаўніцтва | 10 | | | | Якія рабочыя там працуюць, і што яны там робяць. Якія асноўныя моманты пабудовы дому. З якіх матэрыялаў робяцца галоўныя часткі будынку (падмуркі, сьцевы, перакрыцьці, дах Элемэнтарнае знаёмства з пабудовай печак. Як унікнуць чаду ў доме. Знаць найбольш частыя прычыны пажараў. Як пазбавіцца ад іх. Як трымаць сябе ў час пажару. Агульнае ўяўленьне аб цэнтральным ацяпленьні. Умець карыстацца вэнтыляцыяй, вадаправодамі і каналізацыяй. Ведаць іх прызначэньне, карысьць ад іх. | | Экскурсія на новую будоўлю | |

| №№ п. ч. | Рабочае месца | Гадзіны | Працоўныя звычкі | Аб'екты працы | Прылады працы | Веды, якія павінен набыць вучань | Увязка з агульнаадук. дысцыпл. | Экскурс. на прадпрыемствы | Грамадзка карысная праца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **РАБОТА З ГЛІНАЙ** | | | | | | | | | |
| 4 | Цагельны завод | 10 | Фармоўка | Гліна, пясок, камень | Формы | Хто і што там робіць (элемэнтарнае ўяўленьне аб арганізацыі працы на зав.) Як прыгатаўляецца гліна на заводзе і як робіцца фармоўка цэглы (рукамі ці мэханічная). Як праводзіцца сушка цэглы. Як яна апальваецца. Чым адрозьніваецца цэгла пасьля апальваньня ад цэглы-сырцу. Фармоўка цэглы пасуды і г. д. (умець сушыць фармавальныя вырабы і апальваць цэглачкі). | | Экскурсія на цагельзавод | |
| **РАБОТА З ДРЭВАМ** | | | | | | | | | |
| 5 | Рабочы пакой ці майстэрня школы | 40 | Пілаваньне уздоўж і наўскосьс, пілаваньне фанэры нажоўкай. Сьвідраваньне, выдаўбліваньне, згладжваньне, фарбаваньне марылкай. Карыстаньне лінейкай. | Гарадкі скакалкі, сані, лыжы, млынок, параход, паравоз, аэроплян і г. д. Скрынкі для пасеву расьлін. Кармушкі для кур. Шчыт для абвестак, сьмецьцявая скрынка. | Малаток, клешчы, сьвярлы, рашпілі, віла, нож, стамеска, кіянка, калаўрот нажоўка, лінейка, навугольнік. | Ведаць як зроблена фанэра (склеена з некалькіх лістоў, зложаных у розных напрамках), | Чарчэньне простых выкраек у натуральную вялічыню, тэхнічнае маляваньне: эскіз, накідка сваіх праектаў. | Экскурсія ў мадэльны цэх | Выраб цацак для дзіц. саду |
| **ВЫВУЧЭНЬНЕ ЭЛЕМЭНТАЎ ВЫТВОРЧАГА ПРАЦЭСУ** | | | | | | | | | |
| 6 | Знаёмства з машынамі. | 16 | | Млын | | Віды млыноў (ручны-жорны, вятрак, вадзяны млын і г. д.). Уяўленьне аб рухавіку і параўнаўчая ацэнка розных відаў рухаючай сілы (чалавек, конь, вецер, вада і пара). Уяўленьне аб млыне, як аб поўным аўгамаце. Раз ляд перадатачнага мэханізму (толькі назіраньнем). У млыне. Як у млыне зярно перарабляецца у муку (асноўныя моманты: ачыстка ад прымесяй, лушчэньне, памол, сартыроўка прадуктаў памолу). | Чытаньне розных артыкулаў. | Экскурсія ў млын. | |

| №№ п. ч. | Рабочае месца | Гадзіны | Працоўныя звычкі | Аб‘екты працы | Прылады працы | Веды, якія павінен набыць вучань | Увязка з агульна адук дысцыплінаў | Экскурс. на прадпрыемствы | Грамадзка-карыс. праца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **ВЫВУЧЭНЬНЕ ЭЛЕМЭНТАЎ ВЫТВОРЧАГА ПРАЦЭСУ** | | | | | | | | | |
| 6 | З наёмства э машынамі. | 16 | | Млын | | Як прыгатаўляецца цеста (у агульных рысах). Як пякуць хлеб. Як робіцца масла, як прыгатаўляецца ежа (варка супу і змажаньне мяса). Уяўленьне аб фабрыцы-кухні. | | На хлеба-завод. На фабрыку-кухню | |
| **СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА** | | | | | | | | | |
| 7 | На прышкольным вучастку | 30 | Праца на вучастку па гародніцтву. Пасеў насеньня, пікіроўка, полка, паліўка, прарэджваньне, абкопка. | Градкі | Рыдлёўка, граблі, матыка, палівачка. | Умець вызначыць усхожасьць насеньня гародніх культур шляхам прарашчваньня. Прарэджваньне расьлін. Умець даглядаць за гароднымі культурамі ў пэрыяд росту (паліўка, прарэджваньне, полка, пульхненьне глебы). Умець весьці барацьбу з сорнякамі і шкоднікамі: пасыпка попелам ад земляной блахі. Збор вусеня, зьнішчэньне сарнякоў. Умець захаваць гародныя расьліны ад холаду. Значэньне прарэджваньня расьлін. Значэньне пікіроўкі і прышчэпкі кораня. Значэньне попелу як угнаеньня. | З прыродазнаўст. | У калгас ці саўгас. | Збор попелу |
| **АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ ДЗЯЦЕЙ І ДАРОСЛЫХ.** | | | | | | | | | |
| 8 | Рабочы пакой, завод | 12 | | | | Дзеці павінны набыць элемэнтарныя веды рацыянальна і калектыўна працаваць, павінны ўмець падрыхтаваць матар‘ял для работ, захоўваць правільную позу, дабіцца магчыма-лепшай прадукцыі; умець выпрацоўваць правілы ўнутранага распарадку ў калектыўнай рабоце, умець даць справаздачу аб сваёй рабоце, умець выконваць абавязкі кладаўшчыка, інструман- | | | |

| №№ п. ч. | Рабочае месца | Гадзіны | Працоўныя звычкі | Аб'екты працы | Прылады працы | Веды, якія павінен набыць вучань | Увязка з агульна адук. дысцыплінаў | Экскурс. на прадпрыемствы | Грамадзка-карыс. праца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | **АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ ДЗЯЦЕЙ І ДАРОСЛЫХ.** | | | | |
| 8 | Рабочы пакой, завод. | 12 | | | | тальшчыка, выдаваць і прынімаць інструманты і матар'ялы, карыстаючыся складзенай для гэтага інструкцыяй. Пазнаёміцца ня толькі з вытворчым працэсам, але і з працай рабочых, што яны робяць, якія ўмовы іх працы (лёгкія, цяжкія, небясьпечныя), і як ахоўваецца іх праца (агульныя заходы савецкай ўлады па ахове працы). Сацыялістычныя адносіны да працы. Каго мы лічым лепшым і перадавым рабочым Праца з канструктарам № 2 (першыя нумары работ). | | | |

З. Субоціна

# „Лясная школа“

Пасьпяховая барацьба за якасьць працы масавай школы ў значнай ступені залежыць ад правадзімай работы па аздараўленьні школьніка. Сярод школьнікаў ёсьць значная колькасьць дзяцей і падлеткаў (так званых фізычна-аслабленых), якія папаўняюць сабою шэрагі другагоднікаў, не пасьпяваючых вучняў, а ў некаторых выпадках і перашкаджаючых правільнай арганізацыі пэдагагічнага працэсу масавай школы. Гэта ўсё зьніжае дысцыпліну апошняй.

Па дадзеных дзіцячых дыспансэраў г. Масквы дзяцей і падлеткаў, якія маюць фізычную аслабленасьць, налічваецца ад усёй колькасьці школьнікаў да 30 проц. Пры абсьледваньні і дыягностыцы фізычна-аслабленых дзяцей і падлеткаў высьветлілася, што яны маюць сваю аслабленасьць у выніку: а) працяжнага малакроўя, b) наліччы адэноідных разрашчэньняў і бранхітаў с) сухотнай інтаксікацыі, не лёкалізаванага тыпу. У процантных адносінах найбольшая колькасьць фізычна-аслабленых дзяцей маюць сухотную інтаксікацыю.

З усіх хвароб, на якія хварэе чалавецтва, найбольш распаўсюджанай хваробай зьяўляюцца сухоты. Асабліва хварэюць сухотамі дзеці, але ў дзіцячым узросьце яны пераносяцца значна лягчэй. Апрача таго, дзеці хутчэй вылечваюцца ад іх, пры ўмове прадастаўленьня ім адпаведных умоў і догляду.

Практыка работы з фізычна-аслабленымі дзецьмі паказала, што спэцыяльны гігіенічна-вытрыманы рэжым, узмоцне-

нае харчаваньне, шырокае скарыстаньне чыстага паветра, сонца і вады, а таксама шэраг іншых мерапрыемстваў у галіне навучаньня і выхаваньня фізычнааслабленых дзяцей, даюць амаль поўнае зьнішчэньне фізычнай аслабленасьці, а ў некаторых выпадках і поўнае аздараўленьне. Так, напрыклад, па дадзеных Шарлотэнбурскай школы (Германія) за 1904-1909 г. дзеці, якія хварэлі скрафулёзамі, лёгачнымі і сэрдэчнымі хваробамі, пры ўмове вылучэньня іх у спэцыяльную школу (так званую „лясную"), якая ў аснову сваёй работы паклала вышэй адзначаныя прынцыпы, далі на 25 проц. поўнае аздараўленьне, на 58 проц.—далі рэзкае палепшаньне стану здароўя, 16,5 проц. засталіся бяз зьмены, і толькі 0,5 проц. далі пагоршаньне. Па дадзеных Маскоўскай „лясной школы" з 486 чал. дзяцей за 146 дзён прабываньня дзяцей ў гэтай школе далі прыбаўку ў росьце—76 проц., прыбаўку ў вазе 38 проц. (бяз зьмены вага засталася ў 8 проц. і зьменшылася ў 4 проц.). Размах грудной клеткі павялічыўся ў 57 проц., бяз зьмены засталося ў 43 проц Максымальнае павялічэньне грудной клеткі наглядалася ў 3 см., сярэдняе—2 см. Сярэдняе павялічэньне гэмаглёбіну ў крыві—10 проц., максымальнае—18 проц, мінімальнае—5 проц.. Неабходна адзначыць, што кантынгэнт гэтай школы быў вельмі цяжкі ў сэнсе стану здароўя. Так, з іх 60,7 проц. былі дзеці хворыя сухотамі (у большасьці ў выражанай форме), 32,6 проц.—анэміяй, у 6,7 проц.—наглядаўся рэзкі ўпадак харчаваньня. Вынікі працы іншых „лясных школ" (напр. швэйцарскіх, бэльгійскіх і інш.) даюць яшчэ больш значныя дасягненьні ў аздараўленьні фізычна-аслабленых дзяцей.

Гэта падкрэсьлівае ня толькі важнасьць і актуальнасьць правядзеньня аздаравіцельнай работы з дзецьмі і падлеткамі, але і шырокага скарыстаньня тых прынцыпаў работы, якія вышэй адзначаліся.

Аздаравіцельная работа з фізычнааслабленымі дзецьмі павінна праводзіцца наступнымі шляхамі:

а) ужываньня ў масавай школе „клясаў адчыненых вокан",

б) арганізацыі школ экстэрнатнага і інтэрнатнага тыпу на вольным паветры,

в) арганізацыі школ-прэвэнторыўмаў ( ад слова прэвэнт, што значыць папераджаць).

Школы на вольным паветры найбольш распаўсюджаны пад назвай „лясныя школы", у сувязі з тым, што яны пераважна арганізоўваліся ў лясной мясцовасьці, чаму ў астатняй частцы артыкулу яны будуць мною ўжывацца пад назвай „лясныя школы".

Ужываньне ў масавай школе „клясаў адчыненых вокан" упяршыню было ўтворана ў ПАЗШ (1908-1916 г.). Яны розьняцца ад звычайных клясаў тым, што паўднёвая сьцяна ад нізу да верху пакрыта шклом і ў час заняткаў з дзяцьмі сярэдняя частка яе адчынена. Гэта дае магчымасьць вольнаму паветру праходзіць у клясу бесьперапынна, у той час, як з верхняй часткі на плечы дзяцей падае сонечнае сьвятло. Тэмпэратура ў гэткай клясе падтрымліваецца шляхам пастаўленай у супроцьлеглым ад шкляной сьценкі кутку, печы, чаму захоўваецца на ўвесь час заняткаў тэмпэратура ня ніжэй 8 градусаў па Рэомюру. Дзеці займаюцца пры адчыненых вокнах на працягу ўсяго зімовага пэрыяду; прычым у час халоднага надвор'я яны апранаюцца ў спэцыяльныя ватныя мяшкі або паліто, на руках пальчаткі. Заняткі праходзяць з перапынкамі для фізпрактыкаваньняў, што дае магчымасьць дзецям адаграявацца.

Вось такая вучоба ў клясах пры адчыненых вокнах дала зьніжэньне другагодніцтва, падвышэньне пасьпяховасьці, працаздольнасьць не зьмяншалася к канцу зімы, як гэта наглядаецца ў вучняў, якія займаюцца пры зачыненых вокнах,—а падвышалася. Адначасова, калі пры зачыненых вокнах мелася шмат выпадкаў захворваньня запаленьнем лёгкіх, то пры занятках у клясах з адчыненымі вокнамі гэтыя выпадкі амаль што зьніклі.

Дадатныя вынікі працы клясаў з адчыненымі вокнамі пацягнулі за сабой бурны іх рост. Пры масавай школе ў звычайнай клясе вымалася адна надворная сьцяна, якая выходзіла на поўдзень

праводзіліся заняткі з вучнямі, якія зьяўляліся найбольш фізычна-аслабленымі. Так, напрыклад, у Нью-Ёрку ў 1923 г. ужо мелася 250 клясаў з адчыненымі вокнамі. У Маскве ў некаторых паказальных школах, у апошнія гады пачаліся практыкавацца заняткі з адчыненымі фрамугамі (асобны від фортак), прычым вынікі ў сэнсе падвышэньня пасьпяховасьці, дысцыплінаванасьць дзяцей былі таксама вельмі добрыя.

Арганізацыя школ на вольным паветры (экстэрнатнага тыпу для прыходзячых дзяцей і інтэрнатнага тыпу для жывучых пры школе) упяршыню была зроблена ў Германіі (Шарлотэнбург). У 1907 г. арганізуюцца гэткія школы ў Ангельшчыне, 1908 г.—у Амэрыцы, Вэнгрыі, Бэльгіі, 1910-1912-1914 гады у Швэйцарыі, Італіі, Швэцыі, Расіі.

Усе гэтыя школы будавалі сваю работу на: а) шырокім скарыстаньні чыстага паветра, сонца і вады, б) узмоцненым харчаваньні дзяцей, в) найбольшай гігіенізацыі ўсяго жыцьця вучняў, г) індывідуальным падыходзе да дзяцей, д) рацыянальным чаргаваньні працы і адпачынку (строга-выконваемага рэжыму), урачэбным наглядзе за дзяцьмі і цеснай ўвязцы работы ўрача з работай настаўніка. Прымаліся дзеці з адэноіднымі разрашчэньнямі і бранхітамі, хранічным упадкам харчаваньня, не лёкалізаванымі сухотамі (без тэмпэратуры) і сэрдэчнымі захворваньнямі лёгкага тыпу, працяжным малакроўем.

Пераважна школы знаходзіліся за горадам і толькі ў крайнім выпадку зьмяшчаліся на верхнім паверсе масавай школы або на даху (Ангельшчына). Дзеці знаходзіліся ў школе з 7 гадзін раніцы да 8 гадзін вечара. Тэрмін прабываньня ў школе быў разьлічаны ад 2 да 6 месяцаў, пасьля чаго дзеці зноў пераводзіліся ў масавую школу.

У час правядзеньня школьных заняткаў асаблівая ўвага зварочвалася на дазіроўку цяжкага і лёгкага праграмнага матар'ялу. Лекцыі былі працяжнасьцю ад 30 да 40 хвілін. У большай сваёй колькасьці „лясныя школы“ праводзілі школьныя заняткі на вольным паветры. Так, напрыклад, у Швэйцарыі былі ўжыты так званыя „рухомыя клясы“. Настаўнік са сваёй групай браў складныя парты і сталы (па вазе магчымыя для пераноскі самымі дзяцьмі) і ішоў на прагулку, або экскурсію. У найбольш зручным месцы раскладваліся парты, кнігі, сшыткі і г. д., і пачыналіся заняткі на вольным паветры. У вопытнай лясной школе. ў Сакольніках (Масква) заняткі праводзіліся ў садзе або на вэрандзе (у дрэннае надвор'е пад павецьцю). Цікава, што ў некаторых лясных школах было шырока выкарыстана сонца. Так, напрыклад, у Францыі ў мястэчку Мольлет'е карыстаньне сонцам было павялічана да 6 гадзін у дзень. Гэта-ж практыкавалася і ў Лейзенскай школе (Швэйцарыя) доктарам Рольле, прычым вынікі такога карыстаньня сонцам былі больш дадатныя ў параўнаньні з карыстаньнем толькі вольным паветрам. У Вэнгрыі асаблівая ўвага аддавалася гігіене цела дзяцей і дыхацельнай гімнастыцы. Ва ўсіх школах адводзілася значнае месца адпачынку дзяцей, асабліва пасьля абеду. Дзеці пасьля абеду на працягу 1½-2 гадзін знаходзіліся на вольным паветры ў спэцыяльных ложках, прычым у зімовы час, з мэтаю папярэджаньня прастуды, прыкрываліся цёплымі коўдрамі, апраналіся ў спэцыяльныя ватныя мяшкі.

Ня глядзячы на тое, што колькасьць гадзін школьных заняткаў у „лясных школах“ значна зьменшана (ня больш 4 лекцый ў дзень па 40-30 хвілін) дзецьмі поўнасьцю прапрацоўвалася праграма масавай школы. Так, у Маскоўскай вопытнай „лясной школе“ пры падагульненьні вынікаў яе працы мы знаходзім наступную ацэнку пасьпяховасьці дзяцей: „Несмотря на сокращенное учебное время программа была без всяких добавочных занятий проработана целиком. Успешность к концу года не понижалась, как во всех школах, а повышалась и была в ноябре месяце выше чем в октябре, а в декабре выше, чем в ноябре. Одновременно спортивная жизнь детей и ручной труд не вызывали уменьшения веса.“

У шмат якіх „лясных школах“ ужывалася музычная работа. Мэтавай устаноўкай музычнай работы было разьвіцьцё слыху, пачуцьця рытму і падвышэньня інтарэсу да музыкі ў дзяцей.

Школы-прэвэнторыўмы былі ўпяршыню арганізаваны ў Амэрыцы (1916-1919гг.) Яны разьлічваліся на дзяцей, якія даюць дадатную рэакцыю на сухоты, без яўных праяў хваробы і адначасова маючых небясьпеку заразіцца іншымі хваробамі ва ўмовах прабываньня ў сваёй сям'і. Арганізоўваліся прэвэнторыўмы па тыпе школ на вольным паветры, але асаблівасьцямі іх зьяўлялася тое, што яны абавязкова знаходзіліся ў вясковай мясцовасьці і былі выключна інтэрнатнага тыпу. Тэрмін прабываньня ў іх дзяцей працягваўся да 1 году, а іншы раз і больш.

З усіх пералічаных форм арганізацыі работы па аздараўленьні школьнікаў, больш падрабязна спынімся на працы і арганізацыі „лясных школ“ экстэрнатнага і інтэрнатнага тыпу, на вольным паветры.

Мэтавая ўстаноўка „лясной школы“, як ужо адзначалася вышэй,—гэта ўмацаваньне і псыха-фізычнае аздараўленьне фізычна-аслабленага школьніка. Работа па аздараўленьні школьніка ў „лясной школе“ праводзіцца роўналежна з прапрацоўкай праграмнага матар'ялу масавай школы, чаму дзеці за пэрыяд прабываньня ў гэтай школе не адстаюць ад вучобы і могуць адразу, без асаблівых дадатковых заняткаў пасьля замацаваньня арганізму пераходзіць з лясной школы на заняткі ў масавую школу.

Дасягненьне мэтавай ўстаноўкі лясной школы праводзіцца шляхам арганізацыі ўсяе яе працы па наступных прынцыпах: а) найбольшага скарыстаньня чыстага паветра, сонца і вады, б) гігіенізацыі ўсяго быту школьніка, в) узмоцненага і рацыяльнага харчаваньня, г) рацыяналізацыі рэжыму і дасканалага яго выкананьня, д) урачэбнага нагляду і большага кантакту работы ўрача з работай пэдагога.

Выходзячы з гэтых прынцыпаў арганізацыі работы лясной школы, а таксама яе мэтавай ўстаноўкі, праца ў ёй павінна будавацца наступным чынам:

## I. Мясцовасьць і памяшканьне лясной школы

Лясная школа інтэрнатнага тыпу павінна арганізоўвацца ў вясковай мясцовасьці; яе найбольш мэтазгодна арганізоўваць ня больш чым у 6-8 кілёмэтрах ад гораду, прычым абавязковым запатрабаваньнем зьяўляецца налічча добрых шляхоў зносін паміж горадам і школай (налічча добрага шасэ, чыгункі, трамваю), каб быў такім чынам забясьпечаны не стамляючы дзяцей рух ад дому да школы і назад. У крайнім выпадку лясную школу магчыма адчыніць на ўскраіне гораду, забясьпечанай дастатковай колькасьцю садоў, чыстага паветра, неаддаленасьцю праточнай ракі (яе плынь павінна быць ня з гораду, а наадварот, каб была забясьпечана чыстата вады). Абавязковым запатрабаваньнем перад мясцовасьцю, у якой арганізуецца школа, ставіцца: а) яна павінна быць абсалютна сухой, не малярыйнай, б) высокай і дастаткова даступнай ўзьдзейнічаньню сонечных прамяньняў, в) быць дастаткова лясістай (з хвойным або зьмешаным лесам), г) мець праточную рэчку возера, сажалку з невялікай глыбінёй.

Пры лясной школе павінен быць сад (ня менш 2 га), у якім неабходна адвесьці месца для гароду; у двары, а таксама вакол памяшканьня школы павінны быць клюмбы, кустарнікі, невяліччкія дрэвы, якія будуць захоўваць дастатковую колькасьць цені на паасобных вучастках двара і не дапушчаць пранікнавеньня пылу ў памяшканьне школы (расьліны вакол будынку школы гэты пыл затрымліваюць.)

Двор школы павінен быць ня менш чым $^{3}/_{4}$ га з тым разьлікам, каб на ім былі пляцоўкі для фізпрактыкаваньняў, сонечныя і паветраныя ванны (так званыя „салярыі“ для клясных заняткаў (паасобна кожнай школьнай групе для вольных гульняў. Наогул, пры плянаваньні двара трэба мець на ўвазе, што, пачынаючы з канца сакавіка м-ца і па кастрычнік, уся праца школы праводзіцца на вольным паветры, чаму трэба прадугледзець і пляцоўку для сну дзяцей (паасобна для кожнай групы), для ста-

лоўкі і г. д. На выпадак дрэннага надвор'я трэба прадугледзець павеці. Дахі павеці трэба рабіць драўляныя, або чарапічныя, ні ў якім разе не дапушчаючы жалезных, якія будуць лёгка награвацца ад сонца і даваць непатрэбнае падвышэньне тэмпэратуры, што можа перашкодзіць здароўю дзяцей. Другой ўмовай пры плянаваньні і пабудове двара зьяўляецца неабходнасьць добрай ўтрамбаванасьці глебы. Пад павецьцю трэба рабіць драўляную падлогу, ні ў якім разе не дапушчаючы каменную. Трэцяй ўмовай зьяўляецца захоўваньне ва ўсёй пляніроўцы двара мастацкага выгляду, эстэтнасьці і біздакорнай чыстаты і парадку. Кожны вучастак двара павінен быць дастатковым па плошчы. Разьлік плошчы, пляцовак павінен быць ня менш чым 2-3 мэтры на кожнага школьніка данай групы.

Памяшканьне школы павінна быць: а) дастатковым па плошчы, б) быць абсалютна чыстым і мець гігіенічна-вытрыманае разьмеркаваньне пакояў; аддалёнасьць кухні ад прыбіральні; пакояў для сну і г. д., в) мець добрую вэнтыляцыю (форткі тыпу фрамуг, альбо цалкам засьцекленыя сьценкі ў тых пакоях, дзе дзеці правозяць значны час, г) вышыня сьцен павінна быць ад 3 да 4 мэтраў, прычым у тых пакоях, дзе дзеці знаходзяцца доўгі час, вышыня сьцен павінна быць ня ніжэй $3^1/_2$-4 мэтраў, д) мець гігіенічна-вытрыманае асьвятленьне і е) мець мастацкі выгляд.

Скарыстаньне пакояў лясной школы, прыкладна, павінна быць наступнае:

1) Пакоі для клясных заняткаў па колькасьці школьных груп (кожны з разьліку налічча ў ім 15-20 вучняў);
2) Пакоі для вольных заняткаў дзяцей (ня менш 2, кожны на 10 чалавек);
3) Пакой камбінаванае працы (з разьліку на 20 чал.);
4) Прыродазнаўчы, фізыка-хэмічны габінэт (кожны на 20 чал.)
5) Палітэхнічныя майстэрні (ня менш 2, кожная на 10 чал.)
6) Музэй дзіцячых работ (калі адсутнічае памяшканьне, яго можна зьмясьціць у пакоі для вольных заняткаў).
7) Саля для сходаў дзяцей, правядзеньня сьвят, фізпрактыкаваньняў, асабліва ў час дрэннага надвор'я (разьлічаная на ўсіх дзяцей школы з дадаткам плошчы дзя запрашаемых у школу ласьцей);
8) Насіаўніцкая;
9) Габінэт мэдыка-пэдалёгічны (лепш калі будзе магчымасьць зрабіць асобны мэдычны і асобны пэдалёгічны);
10) Пакой для маляваньня (магчыма скарыстаць пакой для вольных заняткаў);
11) Пакой для харчаваньня дзяцей (сталоўка);
12) Абслугоўваючыя памяшканьні (кухня, кладоўка, леднік і інш.);
13) Душ, умывалка, прыбіральні;
14) Засьцекленую вэранду.

У лясных школах інтэрнатнага тыпу яшчэ трэба прадугледзець:

1) пакоі для сну (кожны ня менш чым на 5 чал. і ня больш чымся на 10 чал.);
2) Дадатковыя абслугоўваючыя памяшканьні;
3) Лазьня з душам;
4) Ізоляцыйныя пакоі (два пакоі для хлопчыкаў і дзяўчатак кожны на 5 чал.)

Пры разьмеркаваньні плошчы памяшканьня неабходна захоўваць наступныя разьлікі: а) у клясным пакоі на кожнага школьніка адводзіць ня менш, чым 2 кв м., б) у пакоях для вольных заняткаў, для камбінаванае працы дзяцей, майстэрнях—на школьную групу—50 кв. м., в) сталоўка на, кожнага 0, 75 кв. м., г) настаўніцкая, габінэты-прыродазнаўчы, фізіка-хэмічны, мэдыка-пэдалёгічны, бібліятэка, музэй дзіцячых работ па 5 кв. м. кожны, д) пакоі для сну—кожны на 5-10 чал., прычым на кожнага чалавека ад 6 да 8 кв. м., е) умывалка —15-20 кв. м., ж) прыбіральня з разьліку адно ачко на кожных 15 чал. (прыбіральня павінна быць асобная для хлопчыкаў і дзяўчатак, прычым на зімовы час у памяшканьні школы, на летні час—на дварэ).

Пры школе павінен быць ізаляцыйны пакой на выпадак падазроных захворваньняў", яго памер-ня менш 28 куб. саж.

Налічча засьцекленай вэранды пры лясной школе зьяўляецца неабходным. Пры яе пабудове трэба прадугледзець, каб засьцекленыя часткі свабодна адчыняліся, прычым па плошчы на кожнага школьніка трэба вылічаць ня менш 3-х кв. м. Засьцекленая вэранда прызна-

чаецца для правядзеньня на ёй заняткаў, адпачынку пасьля абеду на спэцыяльна прыстасаваных для гэтага ложках (драўляныя рамы, абцягнутыя палатном).

Асьвятленьне ва ўсім памяшканьні, за выключэньнем майстэрань, пакояў для маляваньня, для камбінаванай працы дзяцей з левага боку. З мэтай лепшай інсаляцыі (асьвятленьня сонцам) пакоі лепш рабіць падоўжанымі. У тых пакоях, дзе маецца двухбаковае асьвятленьне, трэба каб яны былі квадратовымі. У асабліва сонечныя дні трэба прадугледзець, каб сонца ня падала зьверху простастаўна на головы дзяцей, бо гэта выкліча хуткае стамленьне іх і зьніжэньне пасьпяховасьці. Найбольш правільным будзе, калі праменьні сонца будуць падаць на плечы вучням. Для гэтага прадугледзець наліччa на вокнах спэцыяльных кароткіх парусінавых фіранак.

Апальваньне ў школе неабходна рабіць цэнтральным (паравадзяное), або ў крайнім выпадку галяндзкімі печамі. Ва ўсіх пакоях печы трэба апальваць раніцою з тым разьлікам, каб на працягу ўсяго дню ў іх падтрымлівалася тэмпэратура ня ніжэй 7-8 градусаў па Рэамюру, ня гледзячы на адчыненыя ў іх вокны і фрамугі. У пакоях для сну печы трэба апальваць пасьля таго, як дзеці ўстануць, прычым на працягу ўсяго дню ў гэтых пакоях павінны быць зачынены форткі і вокны і толькі ўвечары, перад тым, як дзецям класьціся спаць,—форткі або вокны адчыняюцца і пакідаюцца адчыненымі на працягу ўсёй ночы. Трэба ўважліва сачыць, каб ноччу ў гэтых пакоях тэмпэратура ня зьнізілася больш 8 градусаў, для чаго дзяжурны настаўнік абавязан рэгуляваць вэнтыляцыю.

Спынімся яшчэ на неабходнасьці пры лясной школе лазьні. Лазьня будуецца непасрэдна пры памяшканьні школы, у інтэрнатнай яе часткі. Пабудова „душаў“ пры лазьні зьяўляецца абавязковай, прычым іх колькасьць патрэбна ня менш чым 1 на кожных 15 чалавек дзяцей. Пры лазьні ні ў якім разе не павінна быць палка, або парнага аддзяленьня, бо карыстаньне ім ня толькі для дзіцячага ўзросту, але і для дарослых зьяўляецца вельмі шкодным для стану здароўя (асабліва для маючых сэрдэчныя і лёгачныя захворваньні).

Пры разьмеркаваньні пакояў і асобных частак школы трэба прадугледзець, каб інтэрнатная частка памяшканьня была зусім ізалявана ад непасрэднай школьнай часткі. З гэтай мэтай лепш лясную школу будаваць або зьмяшчаць у паасобных павільёнах (будынках). З мэтай-жа поўнай ізаляцыі аднаго пакою ад другога трэба, каб сьценкі ня былі гукаправоднымі, бо шум, які чуваць з суседняга пакою, значна перашкаджае спакойным заняткам дзяцей, улічваючы іх нізкую вагу і лёгкую зморанасьць. Таксама трэба прадугледзець, каб тыя пакоі, дзе знаходзяцца дзеці большую частку выходзілі на поўдзень або паўднёвы ўсход; пакоі для сну трэба так разьмяркоўваць, каб яны выходзілі на ўсход, або паўночны ўсход.

## Абсталяваньне лясной школы, навучальныя прылады, дапаможнікі

Важным момантам ва ўсёй арганізацыі работы лясной школы зьяўляецца наяўнасьць адпаведнага абсталяваньня, навучальных прылад і дапаможнікаў. Асноўнае запатрабаваньне, якое прад'яўляецца абсталяваньню лясной школы, зводзіцца да наступнага: а) абсталяваньне павінна адпавядаць псыхафізычным асаблівасьцям данага кантынгенту вучняў, адпавядаць росту і г. д.), б) павінна дапамагаць выпраўленьню недахопаў дзяцей (папераджаць ад няправільнай пасадкі на парты і г. д., напрыклад, пры скрыўленьнях пазваночніка і г. д., быць абсалютна чыстым), для гэтай мэты ўсё абсталяваньне школы лепш афарбоўваць у белы колер або ў найбольш сьветлыя колеры, што дасьць магчымасьць своечасова ачышчаць яго ад бруду, г) быць партатыўным (лёгкім, рухомым), у большасьці выпадкаў магчымым для руху і пераноскі самімі дзецьмі, д) быць моцным, ня ломкім, ня скрыпучым.

Пры абсталяваньні пакояў трэба прадугледжваць наяўнасьць у іх толькі самага неабходнага абсталяваньня, не заграмаджаючы пакоі зусім непатрэбнымі рэчамі (скрынкамі, тумбачкамі ў ліш-

няй колькасьці і г. д.) Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на малюнкі ў пакоях. У пакоях для сну ні ў якім разе ня трэба дапушчаць ніякіх малюнкаў. У пакоях агульнага карыстаньня, а таксама ў пакоях для клясных заняткаў трэба каб малюнкі былі засьцеклены і пэрыядычна ачышчаліся ад пылу. Ва ўсім абсталяваньні пакояў трэба захоўваць утульнасьць, мастацкасьць. Абсталяваньне пакояў „пказёнаму значна будзе перашкаджаць рабоце і не даваць магчымасьці даць дзіцяці сапраўды культурнае жыцьцё. У сувязі з тым, што ў лясной школе праводзяцца заняткі па музыцы, у ёй трэба мець раяль, а ў выпадку немагчымасьці яго набыцьця—скрыпку. Асабліва шумныя музычныя інструманты ў лясной школе не рэкамэндуюцца.

Перад навучальнымі прыладамі і дапаможнікамі ставіцца ўмовай, каб яны былі ў дастатковай колькасьці, каб былі добра памастацку аформлены, выкананы ў зразумелым зьмесьце для дзяцей. Адначасова яны павінны адпавядаць мэтанакіраванасьці школьных заняткаў і праграм і зьяўляцца сапраўды дапаможнікам школьнай працы. Рэкамэндуецца мець у лясной школе тэррарыумы, акварыумы, гэрбарыі, якія лепш зрабіць пры дапамозе і непасрэдным удзеле вучняў, чым купляць гатовыя.

Для фізычных практыкаваньняў у лясной школе неабходна набыць: а) швэдзкую сьценку, б) швэдзкія скамейкі, в) лесьвіцу, г) бервяно для роўнавагі, д) стойкі для прыжкоў, е) гімнастычныя палкі, ж) сьцяжкі, мячы, сэрсо, лыжы, канькі, санкі і інш. прылады для мятаньня, лазаньня, калектыўных гульняў і карэгіруючых рухаў.

Неабходна адзначыць, што ўся праца лясной школы праводзіцца пераважна наглядньімі актыўнымі мэтадамі, і таму наяўнасьці так званых наглядных дапаможнікаў і прылад павінна быць аддадзена найбольш сур'ёзная ўвага.

## Вопратка і абутак дзяцей

Адна з задач лясной школы—гэта зрабіць дзіця загартаваным. Таму вопратка не павінна ацяжарваць дзіцяці і быць надта цёплай, але гэта ня значыць, што ня трэба ахоўваць дзіця ад прастудных захворваньняў. Гігіенічна вытрыманая вопратка, якая патрабуецца пры правільнай арганізацыі работы лясной школы, павінна адпавядаць наступным запатрабаваньням: а) добра захоўваць цела дзіцяці ад страты цяплыні ў зімовы час і ў летні час не дапушчаць пераграваньня, б) дапушчаць дастатковую колькасьць паветра вакол цела дзіцяці, в) не абцяжарваць дыханьне, крывазвароту, страваваньня, быць дастаткова лёгкай і добра ачышчацца ад бруду і пылу. Прыкладна вопратка для лесашкольца вызначаецца наступная:

а) Для лета: трусікі на помачах (для хлопчыкаў), камбінацыі, сарафанчыкі (для дзяўчатак), на нагах—сандалі, на галаве сьветлыя панамкі. Ніжняя бялізна ў летні час не патрэбна, за выключэньнем начных сарочак.

б) Для восені і вясны: усім дзецям ніжняя бялізна (пажадана з папяровага трыкатажу,) прычым замест ліфчыкаў, штанішак і сарочак трэба мець камбінацыі. Вопратку трэба рабіць з тканіны, якая найбольш легка мыецца (флянэля бумазэя, шэрсьць) на нагах шкарпэткі, або панчошкі (у залежнасьці ад пагоды), чаравікі або туфлі, галёшы. Паліто неабходна мець шарсьцянае, або суконнае, на лёгкай ватняй падкладцы. Паліто з папяровай тканіны гігіенічна нявытрыманае, бо лёгка прамакае, робіцца цяжкім, дрэнна ачышчаецца ад бруду і пылу. Для спорту—шарсьцяныя вязаныя касьцюмы, якія скарыстоўваюцца і ў зімовы час. На галаве—кепі, картуз, ня туга сьцягваючы галаву.

В) Для зімы: цёплая бялізна (з бумазэю, флянэлі), паверх плацьця шарсьцяная трыкатажная кофтка, або сьвітар; на нагах—валёнкі, пры мокрай пагодзе—паверх іх галёшы. Паліто доўгія для ляжаньня на вольным паветры ў час заняткаў, калі ёсьць магчымасьць, замест іх ватныя мяшкі, цёплыя коўдры. Звычайныя паліто для зімы павінны быць кароткія, даючы магчымасьць дзіцяці лёгка рухацца ў ім. На галаве цёплая шапка, пры вялікіх марозах—зьверху башбашлык. На руках—пальчаткі; пры катаньні на лыжах, зьверх іх, варэжкі.

Як нацельная, так і пасьцельная бялізна дзяцей павінна мяняцца не радзей, чымся ў 8 дзён. Верхняя бялізна (плацьце) павінна мяняцца не радзей чым ў 2 тыдні раз (гэта датычыцца больш дарослых, для малодшых верхняе зьмяняецца разам з нацельнай бялізнай). Улетку трэба зьмяняць значна часьцей.

Ні ў якім разе нельга дапушчаць насіць падраную бялізну, або бяз гузікаў. Для гэтага трэба кожны раз пасьля мыцьця бялізны правяраць яе і своечасова чыніць.

## Харчаваньне

Неабходнасьць узмоцненага і рацыянальнага харчаваньня дзяцей ў лясной школе выклікаецца тым, што дзеці, якія прымаюцца ў гэтую школу, зьяўляюцца ў асноўнай сваёй колькасьці перанёсшымі працяжнае галадаваньне ў выніку адсутнасьці апэтыту, працяжнага малакроўя, а таксама ў большай частцы адсутнасьці ў сем'ях звычак рацыянальнага харчаваньня хворых і фізычна-аслабленых дзяцей. Таму ў лясной школе значна падвышаецца калёрыйнасьць. Яна павінна быць ня менш 3000 кал. Другой ўмовай харчаваньня зяўляецца наяўнасьць усіх асноўных элемэнтаў у страве, напрыклад, бялкоў, жыроў, вугляводаў, вітамінаў і мінэральных элемэнтаў. Трэба зьвярнуць увагу таксама і на адпаведна патрэбныя іх узаемаадносіны па колькасьці ў тэй ці іншай страве. Чым правільней будуць гэтыя ўзаемаадносіны паміж паасобнымі элемэнтамі стравы, тым лепш і смачней яна будзе (больш падрабязна аб гэтым пытаньні глядзі кнігу праф. Ігнацьцева „Питание для детей всех возрастов“ выданьне Госиздата РСФСР 1931 г.)

## Агульна-адукацыйная і выхаваўчая работа лясной школы

Уся агульна-адукацыйная і выхаваўчая работа лясной школы накіравана на выкананьне мэтавай ўстаноўкі масавай школы і аздараўленьне арганізму дзіцяці. Фізычная аслабленасьць дзіцяці дае значнае расстройства дзейнасьці ўсіх яго паводзін, так, напрыклад, фізычна-аслабленыя дзеці маюць расьсеяную ўвагу, няздольнасьць доўгі час канцэнтравацца на адным відзе работы, маюць падвышаную узбуджанасьць, замкнутасьць. Да асаблівасьцяй фізычна-аслабленых дзяцей некаторыя аўтары адносяць таксама ярка выражаную індывідуальную накіраванасьць, себялюбе. Гэтыя асаблівасьці і абумоўліваюць сабой некаторыя спэцыфічныя моманты ў арганізацыі пэдагагічнага працэсу лясной школы.

Асноўнымі прынцыпамі пабудовы пэдагагічнага працэсу гэтай школы зьяўляюцца тыя-ж самыя, што і ў масавых школах, але і асабліва акцэнтаваныя моманты:

а) Рацыянальнага разьмеркаваньня працы і адпачынку.

б) Мастацкае выхаваньне.

в) Найбольш скарыстоўваюцца фізвыхаваньні (асабліва ў частцы практыкаваньняў, накіраваных на выпраўленьне і папярэджаньне псыха-фізычных недахопаў вучняў лясной школы.

г) Рацыянальнае ўжываньне актыўных мэтадаў працы (у сэнсе дазыроўкі непасрэднай актыўнасьці вучня).

Лясная школа, як ужо вышэй гаварылася, працуе па праграмах масавай школы без асаблівых яе зьмен. Асаблівасьці заключаюцца ня ў зьмене зьместу праграм, а ў мэтадзе іх прапрацоўкі; прынцып работы лясной школы вызначае шырокае скарыстаньне нагляднасьці і найбольшую актывізацыю пэдпрацэсу. Таму найбольш ужываюцца ў рабоце лясной школы мэтады: экскурсійна-дасьледчы і ў старэйшых групах—лябараторны, прычым для лепшага засваеньня вучнямі праграмнага матар'ялу ён замацоўваецца яшчэ ў час клюбных заняткаў. Для больш нагляднай прапрацоўкі праграмнага матар'ялу шырока скарыстоўваюцца ўмовы лясной школы, акаляючы прыродна-сацыяльны матар'ял. Асаблівая ўвага ў час прапрацоўкі ўсяго праграмнага матар'ялу зварочваецца на аздараўляючы ўплыў асноўных фактараў лясной школы—сонца, вольнага паветра, вады, рацыянальнага скарыстаньня часу. Як у летні час, так і ў зімовы павінна шырока практыкавацца назіраньне над прыродай, экскурсіі ў лес, на рэчку,

калгас, саўгас і г. д., прычым, акрамя плянавых экскурсій ў летні час павінны быць вылучаны спэцыяльныя дні, так званыя „экскурсійныя". У гэтыя дні праводзяцца дальнія экскурсіі па раней вызначаным пляне. Асабліва іх трэба практыкаваць у той час, калі праводзіцца месячны перапынак у школьных занятках.

Разьмеркаваньне школьных заняткаў прыкладна павінна быць наступнае:

1-я лекцыя ад $9\frac{1}{2}$ гадзін раніцы да 10 гадзін і 15 хв.

(працяг лекцыі 45 хв., з іх 5 хв. на падрыхтоўку да занятак), перапынак 10 хв.,

2-я лекцыя—10 гадз. 25 хв. да 11 гадз. 5 хв. (лекцыя 40 хв.) перапынак 15 хв,

3-я 11 гадз. 20 хв.—да 11 г. 50 хв. (лекцыя 30 хв.) перапынак 10 хв.

4-я лекцыя—12 гадз. да 12 гадз. 30 хв. (30 хв.), або замест яе фізпраца.

У сярэдзіне другой і трэцяй лекцыі магчыма ўжываць 5 хвілінныя фізычныя практыкаваньні (карэгіруючага характару), з мэтай прадстаўленьня дзецям кароткага адпачынку і сканцэнтраваньня ўвагі на далейшыя заняткі. Найбольш цяжкія віды школьных заняткаў трэба ставіць на першую або другую лекцыю. Апошнія лекцыі скарыстоўваюцца для больш лёгкіх відаў заняткаў. Улічваючы лёгкую зморанасьць, узбудзімасьць дзяцей, неабходна, каб у час заняткаў настаўнік ва школьных „іраваў і зьмяняў зьмест лекцыі. Напрыклад, той матар'ял, які патрабуе значнай колькасьці дзіцячых рухаў або асабліва іх актывізуе, пры падвышаным узбуджаным стане дзяцей, замяняецца матар'ялам, патрабуючым супакойнай павольнай працы, і не зьяўляецца вельмі цяжкім.

Перад настаўнікам ставяцца запатрабаваньні дасягнуць найбольш высокай якасьці прапрацоўкі праграмнага матар'ялу. Гэтыя ўмовы ў першую чаргу дасягаюцца шляхам дасканальнай падрыхтоўкі настаўніка да заняткаў, добрага знаёмства з асаблівасьцямі дзяцей сваёй групы, правільна пастаўленым вучотам і плянаваньнем сваёй працы. Толькі пры ўжываньні гэтых ўмоў ня гледзячы на зьменшаную колькасьць працоўных гадзін ($2\frac{1}{2}$ гадз.), магчыма добрая прапрацоўка праграмы масавай школы. Трэба адзначыць, што ва ўсёй школьнай рабоце патрабуецца ад настаўніка яшчэ індывідуальны падыход да дзяцей, таму школьная група вызначаецца ня больш чым 15-20 чал.

Усе фізычныя работы дзяцей, а таксама работы ў палітэхнічных майстэрнях і пакоях павінны быць: 1) пасільнымі для дзяцей і адпавядаць іх узросту; 2) цікавымі для данага ўзросту дзяцей, 3) закончанымі—толькі тады яны будуць мець выхаваўчае значэньне, 4) павінны даваць звычкі ўладаньня струмантамі па галоўных відах работ, 5) быць тэорытычна абгрунтаванымі, і даведзена да сьвядомасьці дзяцей сутнасьць данага працэсу, яго мэтанакіраванасьць, увязка з астатнімі працэсамі, значэньне гэтага працэсу ва ўсёй вытворчасьці і сац. будаўніцтве, 6) разьвіваць калектыўна-грамадзкую накіраванасьць у дзіцяці, 7) быць мастацкі афорфмленым і апошняя ўмова—гэта від работы на дадзены час у той ці іншай майстэрні, павінен абавязкова ня толькі адпавядаць агульна-выхаваўчым мэтам школы, а і адпавядаць становішчу дзіцяці ў гэты час. Гэта значыць, што, калі дзіцё знаходзіцца ва ўзрушаным стане ні ў якім разе яму нельга даваць такой працы, якая яшчэ больш падвысіць гэту ўзрушанасьць, і, наадварот, калі дзіцё знаходзіцца ў торпідным (затармажоным) становішчы, ня трэба даваць працу, якая яшчэ больш яго затармозіць. Пры арганізацыі работы ў майстэрні, а таксама пры самаабслугоўваньні, якое павінна ўжывацца ў лясной школе, трэба ўзяць як прыклад: а) дазіроўку працы, б) індывідуальны падыход да дзіцяці.

У асноўным дзеці падзяляюцца на 4 характэрныя групы:

1) Аслабанёныя ад фізпрацы (надзвычайна слабыя дзеці) часова або зусім.

2) Са слабай нагрузкай работы працуюць $^1/_2$ гадз. з перапынкам у 6 хв. 3) З сярэдняй нагрузкай — працуюць $^3/_4$ гадзіны з перапынкам у 10 хв. 4) З максымальнай нагрузкай працуюць 1 гадзіну з перапынкам 5 хв.

Галоўныя матар'ялы, якімі трэба карыстацца ў час працы ў майстэрнях лясной школы:

1) 1-я група—гліна, дрэва, бросавыя матар'ялы, тканіна, папера, тонкі картон клеявыя фарбы.

2) 2-я група—тое-ж самае, што і ў першай групе. Сярэдні картон.

3) 3-я—група-тое-ж самае, што і ў другой групе, фанэра, дрот, масьляныя фарбы, матар'ял для лёгкага пераплёту.

4) 4-я група—тое-ж самае, што і ў трэцьцяй групе, усе пераплётныя матар'ялы, часткова бляха і г. д.

Галоўныя інструманты, якімі трэба карыстацца ў час працы гэткія:

1-я група—нож, малаток, маленькія тапорыкі, лучковая піла, нажоўка, гранёнае шыла, бураўнік, ігла, напёрстак-пэедзлі, ножніцы, кляшчы, рашпіль, часткова гэбаль.

2-я група—што і ў першай групе, стамеска, мэтр, угольнік, калаўрот, напільнік.

3-я група—тое-ж самае, што і ў 2-й групе, сярэднія тапорыкі, цыркуль, кусачкі, плоскагубцы.

4-я група—тое-ж самае, што ў 3-й групе, усе пераплётныя інструманты, адвёртка, рэсмус, ножніцы для бляхі, фуганак.

Праграмы па палітэхнічнай працы для лясной школы застаюцца тыя-ж самыя, што і для масавай, толькі крыху вар'іруюцца (мяняюцца) у час штодзённай працы. Каб вар'іраваньне мела плянавы характар, трэба яго прадугледзець пры складаньні рабочых дэкадных плянаў настаўніка і інструктара майстэрань. (Гэта робіцца, як правіла, пры дапамозе ўрача).

Мы падкрэсьлівалі ўжо значэньне фізпрактыкаваньняў у лясной школе. Задачы фізпрактыкаваньняў у лясной школе—аздараўленьне дзіцяці, выхаваньне гігіенічных звычак, або аздаравіцельна-прафілякычныя.

Фізпрактыкаваньні ў лясных школах, трэба як правіла праводзіць штодзённа ў выглядзе школьных лекцый на вольным паветры, а таксама і ў выглядзе фізкультурных гульняў (катаньне на лыжах, каньках, салазках—узімку, сэрсо мяч і інш.—улетку. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на карэкцыю (выпраўленьне) няправільных рухаў дзіцяці—рытму дыханьня, трыманьня корпусу і інш. А галоўнае запатрабаваньне перад карэгіруючымі фізычнымі практыкаваньнямі ставіцца ў сэнсе найбольш цеснай ўвязкі з усёй пэдагагічнай і выхаваўчай работай школы. Ужываньне карэгіруючых рухаў бяз увязкі з усёй пэдагагічнай работай школы ў якасьці асобнай „сыстэмы“ заняткаў ня будзе дасягаць асноўнай мэты—аздраўленьня дзяцей, а, наадварот, выкліча непатрэбную зморанасьць, і зацікаўленнасьць дзяцей будзе насіць характар мэханічнай трэніроўкі. Увязка з усёй пэдагагічнай работай школы дасягаецца шляхам шырокага скарыстаньня натуральных рухаў дзяцей, напрыклад,—у час бегу, скачкоў, мятаньня, лазаньня, у гульнях.

Фізкультурныя заняткі трэба праводзіць раніцой, адразу пасьля сну дзяцей (5 хв.) Дзецям пасьля пад'ёму з ложку, да іх уборкі, даецца каманда, і тут-жа, каля ложкаў праводзяцца фізкультурныя рухі (так званая фізкультурная зарадка) Пасьля правядзеньня рухаў дзеці праводзяць уборку ложкаў і ідуць мыцца. Фізкультурныя школьныя лекцыі праводзяцца пасьля цяжкіх лекцый, прычым лепей гэтыя лекцыі пераносіць на другую палову дня пасьля „абсалюта“ (абедзенага перапынку).) У час-жа школьных заняткаў фізычныя практыкаваньні ўжываюцца, як карэгіруючы, дапаможны момант. Найбольш мэтазгодна перад 3-4 лекцыямі, непасрэдна ў клясе, праводзіць 5-хвілінныя фізкультурныя рухі. Фізычныя практыкаваньні трэба праводзіць, як правіла, на вольным паветры. Калі тэмпэратура надвор'я ніжэй 10° Рэамюра, бо гэтыя заняткі трэба праводзіць на вэрандзе, або ў салі з абавязковым захаваньнем тэмпэратуры на ніжэй 8° цяплыні па Рэамюру. Таксама пры моцным ветры, дажджы—пад павецьцю або на вэрандзе (з адчыненымі вокнамі з аднаго боку).

У лясной школе павінны практыкавацца і фізкультурныя экскурсіі—пешаходныя, лыжныя. Для дзяцей малодшага ўзросту максымальная адлегласьць вызначанага пункту экскурсіі ад школы не павінна перавышаць 3-х кіл., для дзяцей старэйшага ўзросту—5 клм. Гэтая адлегласьць дасягаецца шляхам пасту-

пова „павялічваемых" экскурсій (пачынаюцца экскурсіі на адлегласьць $^1/_2$ клм. праз тыдзень, калі дзеці адвыкнуць, адлегласьць павялічваецца да 1, потым да 2 і г. д.) У час экскурсіі трэба рабіць адпачынкі. З малодшым узростам дзяцей праз 15 хв. хадзьбы дзесяць хвілін перапынку. У апошнім пункце экскурсіі—адпачынак ня менш 45 хв. Для старэйшага ўзросту—праз кожныя 35 хв. хадзьбы дзесяць хв. адпачынку, у апошнім пункце экскурсіі 25 хв. адпачынку.

Поруч з прапрацоўкай праграмнага матар'ялу у лясной школе трэба праводзіць і работу па музычным выхаваньні. Мэта музычнага выхаваньня ў лясной школе—разьвіць у дзяцей слух, пачуцьцё рытму, падвысіць інтарэс да музыкі, жаданьне сыстэматычна займацца ёю, давесьці да сьвядомасьці дзяцей значэньне музыкі ў сацбудаўніцтве.

Музычная работа павінна праводзіцца па стала складзеным пляне і ў дакладна вызначаныя гадзіны. Паступовасьці у музычнай рабоце павінна быць прыкладна наступная:

1) Пастаноўка і гімнастыка дыханьня.

2) Элемэнтарнае знаёмства з рытмам, мажорным і мінорным ладам.

3) Харавыя сьпевы на адзін і потым на два галасы дзіцячых народных сьпеваў, сьпевы з імітацыйнымі, рытмаванымі рухамі.

4) Слуханьне музыкі (выкананьне настаўнікам мастацкіх узораў, даступных дзіцячаму разуменьню), разам з гэтым некаторыя зьвесткі аб кампазытарах-аўтарах выконваемых твораў.

5) Разгляд музычных узораў з боку мэлёдыі, гарманічнага суправаджэньня.

6) Азнаямленьне дзяцей з музыкай народаў СССР (выкананьне настаўнікам найболып паказальных і зразумелых дзецям узораў музычных твораў народаў СССР). Іх абгаварэньне.

На падставе гэтых прынцыпаў плян па музычным выхаваньні павінен быць распрацаваны спэцыялістам-настаўнікам лясной школы; пры яго адсутнічаньні плян распрацоўваецца настаўнікам, які добра знаёмы з музыкай практычна. Музычныя заняткі праводзяцца ня толькі ў выглядзе лекцый, але і ў час гуртковай, клюбнай працы. Перад сном добра ўжываць слуханьне музыкі дзецьмі, прычым абавязковай ўмовай ставіцца, каб зьмест музычных твораў ня выклікаў у дзіцяці ўзбуджаньня, а, наадварот, супакойваў іх пасьля праведзенага дню. Другім запатрабаваньнем перад усімі музычнымі творамі, выконваемымі ў лясной школе—ставіцца, каб іх музыкальны зьмест адпавядаў мэтавай устаноўцы камуністычнага выхаваньня. Ускрыць зьмест твору з боку палітычнае яго сутнасьці, навучыць дзяцей адрозьніваць музыку пралетарскую ад музыкі буржуазнай (напрыклад шэраг твораў Моцарта, Шубэрта, Чайкоўскага) вось адна з галоўных задач музычнага выхаваньня ў лясной школе.

Антырэлігійнае і інтарнацыянальна-клясавае выхаваньне ў лясных школах праводзіцца ў парадку прапрацоўкі праграмнага матар'ялу і правядзеньня пазашкольнай работы (клюбнай гуртковай.) Стварэньне кутка бязбожніка, кутка Мопр асобнага разьдзелу ў школьнай насьценгазэце, спэцыяльна прысьвячанага пытаньням антырэлігійным і нацыянальнай палітыцы, перапіска з школай іншай нацыянальнасьці, экскурсіі ў нацыянальныя калгасы, (па магчымасьці (недалёкія па адлегласьці ад школы), музэі рэвалюцыі, арганізацыя гуртка "Юных бязбожнікаў", гуртка па вывучэньня жыцьця і працы замежных піянэраў і шэраг іншых форм зьяўляюцца тымі канкрэтнымі шляхамі, якімі ажыцьцяўляецца правільна пастаўленае інтэрнацыянальна-клясавае і антырэлігійнае выхаваньне дзяцей. Спэцыфічным момантам у правядзеньні гэтай работы ў лясной школе, зьяўляецца неабходнасьць прыданьня ўсё гэтай рабоце найбольшай мастацкасьці, ілюстрацыйнасьці. Пры ўжываньні гэтага моманту будзе дасягнута найбольшае падвышэньне эмацыянальнага настрою вучняў, што выкліча яшчэ большае падвышэньне іх сьвядомасьці ў гэтых пытаньнях.

У сувязі з тым, што лясная школа комплектуецца дзецьмі два разы ў год, неабходна перад кожным новым наборам дзяцей плянаваньне ўсёй работы школы. Гэтае плянаваньне ў аснову павінна пакласьці веды новага кантынгэнту дзяцей, іх псыха-фізычныя асаблівасьці.

Таму неабходна, каб у плянаваньні ўдзельнічаў абавязкова ўрач школы. Формы плянаваньня застаюцца тыя-ж самыя, што і ў масавай школе.

Вучот работы ў лясной школе праводзіцца штодзённы, дэкадны, квартальны, гадавы. Формы вучоту па сутнасьці нічым не адрозьніваюцца ад формы вучоту масавай школы. Прыкладная схэма штодзённага вучоту пазашкольнай працы раіцца наступная: а) заданьне, б) працэс работы, в) выкананьне. Гэтая форма зьяўляецца найбольш простай.

Форма вучоту школьнай працы раіцца наступная: дата, колькасьць дзяцей ў групе, заданьне на дзень па даннай дысцыпліне, экскурсіі і час, патрэбны для іх, звычкі і час, патрэбны на іх, адносіны дзяцей да прапрацоўваемага матар'ялу, змаранасьць дзяцей, узбудзімасьць, адставаньне ад групы, палітэхнічная праца, тэмпэратура, час, правядзеньня на вольным паветры, у клясе, на вэрандзе.

УВАГА: Вольнае паветра азначаецца літарай; „В.П“, кляса—„К“, вэранда—„В“.

У канцы кварталу кожны супрацоўнік лясной школы апрацоўвае даныя дзёньніка ў якасьці пэдсправаздачы і прадстаўляе на абгаварэньне вытворчай нарады. У справаздачы трэба даць поўны малюнак усяе пэдработы, улічыць пасьпяховасьць групы, яе агульны настрой, стомленасьць; вылічыць сярэднюю тэмпэратуру, указаць месца, дзе праводзіліся заняткі.

Клюбныя заняткі павінны быць пабудаваны так, каб была забясьпечана ўвязка з прапрацоўваемым праграмным матар'ялам. Мэта клюбных заняткаў—даць рацыянальны адпачынак дзіцяці і адначасова яго агульна-адукацыйныя веды налёгкім мастацкім і наглядным матар'яле. З гэтай мэтай клюбны працаўнік павінен плянаваць сваю працу з настаўнікам тэй ці іншай групы. Асноўным прынцыпам клюбных заняткаў зьяўляецца чаргаваньне ўсідчывых работ з работамі рухомага характару.

Клюбныя заняткі, як правіла, трэба праводзіць пасьля сну, (гл. расклад дню.) Паміж рознымі відамі клюбных заняткаў трэба рабіць 20-хвілінныя перапынкі. Кожны від заняткаў павінен працягвацца не больш чым 30-35 хв. Пасьля чаго клюбныя заняткі працягваюцца па тыпе вольных заняткаў—магчыма арганізацыя дзяцей ў гуртку гучнага чытаньня, гульні ў шашкі, шахматы, слуханьне музыкі і г. д. Галоўнае запатрабаваньне, каб уся праца ў гэты час праводзіліся ў супакойных тонах.

Раіцца арганізоўваць наступныя гурткі: а) гурток радыё, б) гурток маляваньня, в) музычны гурток; г) гурток юных натуралістаў (па назіраньню жыцьця птушак і жывёлы на волі і догляд за імі ў террарыуме, акварыуме і г. д.), д) гурток мастацкага чытаньня, е) гурток па аўладаньні тэхнікай граматы.

Апошні гурток ставіць сваёй мэтай аб'яднаць у сваёй працы дзяцей, адстаючых у школьных занятках, з мэтай вадвышэньня іх агульна-адукацыйных ведаў, асабліва тэхнікі чытаньня, пісаньня, лічэньня.

У час правядзеньня клюбнай работы трэба зьвярнуць увагу на неабходнасьць арганізацыі гуртка па мастацкім чытаньні дзіцячай літаратурнай творчасьці. Многія дзеці яшчэ ня ўмеюць ня толькі мастацкі, але нават чотка ня могуць выразіць сваю думку. Таму гурток мастацкага чытаньня або дзіцячай літаратурнай творчасьці павінен паставіць сваёй задачай разьвіцьцё ў дзіцяці ўменьня карыстацца словам наогул і ў прыватнасьці мастацкім словам. Ня трэба лічыць, што работай гуртка абмяжуецца барацьба за выхаваньне ў дзяцей здольнасьці да карыстаньня словамі. Гэта работа павінна праводзіцца школай і ў час школьных заняткаў, у майстэрнях, у час правядзеньня дзяцьмі грамадзкай працы, правядзеньня дзіцячага сходу (выступленьня з справаздачамі і г. д.), у якасьці ўдзелу дзяцей ў насьценгазэце, складаньня вершаў у час вольных заняткаў. Галоўным прынцыпам работы па разьвіцьці мовы (карыстаньня словам) у дзіцяці будуць: а) ужываньне чоткасьці і сьціслага фармуляваньня думкі, б) уменьне карыстацца вобразнымі параўнаньнямі, в) правільнасьць фармуляванай думкі з боку граматычнага і фанэтычнага. На апошні момант, а менавіта—правільнасьць мовы дзіцяці з фанэтычнага боку—трэба звярачваць асаблівую ўвагу, бо многія дзеці вельмі неправільна вымаўляюць розныя гукі ў сувязі з фізыалёгічным касна-

языччам, неразьвітасьцю органаў мовы з прычыны маленства, або ў сувязі з набытым коснаязыччам (перайманьне ад дарослых і таварышоў, вымаўляючых гукі няправільна.) З мэтай зьнішчэньня коснаязычча настаўніку неабходна гаварыць чотка, выразна і ясна, бо мова настаўніка зьяўляецца для дзяцей вялікім прыкладам. Таксама неабходна папраўляць дзяцей, паказваючы, як трэба правільна вымаўляць тэй ці іншы гук.

Неабходна адзначыць, што ў лясной школе падрыхтоўка да сьвят павінна праводзіцца ў парадку агульна-школьнай работы. Гэта тлумачыцца тым, што ўсялякая лішняя нагрузка выклікае моцную ўзбудзімасьць у дзяцей і на доўгі час выбівае іх із калеі рацыянальнага жыцьця. Таму трэба ўнікаць асаблівай ўрачыстасьці ў падрыхтоўцы да сьвят.

У лясной школе павінна быць шырока разгорнута праца дзіцячай самаарганізаванасьці, шляхам арганізацыі дзіцячага самакіраваньня, арганізацыі дзіцячых гурткоў (гл. разьдзел—клюбная праца), увядзеньня адказных дзяжурстваў, разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод дзіцячага калектыву, наладжанага выданьня насьценгазэты.

Структура дзіцячага самакіраваньня ў лясных школах у асноўных сваіх прынцыпах будуецца таксама, як і ў масавай школе. Асаблівасьцю яго правядзеньня ў лясной школе будзе зьяўляцца неабходнасьць: а) дазіроўка нагрузкі дзяцей, з боку часу, патрэбнага для выкананьня і складанасьці заданьня, в) на большай санітарнай вытрыманасьці заданьня. Уцягваючы дзяцей ў актыўны ўдзел у дзіцячай самаарганізацыі, неабходна асабліва ўважліва сачыць за тым, каб не перагружаць іх, бо перагружанасьць выклікае рэзкую зморанасьць іх і падвышэньне фізычнай аслабленасьці. Максымальнай нагрузкай дзяцей малодшага ўзросту грамадзкай работай ў лясной школе вызначаецца 1 гадзіна ў дэкаду, для старэйшых дзяцей—2 г. дэкаду. Некаторыя дзеці па паказаньнях ўрача зусім аслабаняюцца ад нагрузкі (1 гл. вышэй клясыфікацыю часу нагрузкі) па фізпрацы і паліт працы. Гэтая клясыфікацыя захоўваецца і тут. Толькі пры гэтай ўмове дзеці сапраўды будуць прымаць актыўны ўдзел у жыцьці і працы школы.

Як і ў масавай школе, увесь зьмест грамадзкай працы павінен вызначацца прапрацоўваемым праграмным матар'ялам і быць падпарадкаваны вучэбна-выхаваўчым мэтам школы, чаму кампанейскі характар грамадзкай працы зусім не павінен ужывацца. Выходзячы з задач лясной школы, неабходна, каб ўвесь расклад часу быў як мага больш рацыяналізаваны, меў плянавы дазіраваны характар. Гэта патрабуе каб дзіця ведала, што яно будзе рабіць сёньня, у які дасканала час, з кім будзе рабіць, для чаго гэта робіцца. Таму прыкладны рэжым дня павінен быць ня толькі правільна пабудаваны, але і выконвацца асабліва дакладна. Пры ўмове часта дапушчаемых зьмен у раскладзе дню, дзіця прывыкае да неарганізаванага жыцьця, што ня толькі цягне за сабой зьніжэньне дысцыпліны сярод дзіцячага калектыву, але і выклікае лішнюю зморанасьць, зьніжае пасьпяховасьць у школе. Часьцей чым 2 разы ў год зьмяняць расклад дню ні ў якім разе не патрэбна. Гэта значыць. што расклад дню павінен быць распрацаваны на зімовы час і на летні час. Як у зімовы, так і ў летні час неабходна пры выкананьні раскладу дню ўжываць наступныя правілы:

1) Захоўваць максымальную арганізаванасьць дзяцей, што дасягаецца шляхам ужываньня так званай „лінейкі“ у час умываньня, уваходу ў сталоўку, у клясу, хаджэньня на рэчку і г. д„ пачатку і канцу ўсяе работы, заняткаў па заглушаным званку (рэзкі званок выклікае ў дзяцей ўзбудзімасьць і не рэкамэндуецца асабліва ў установах, дзе маюцца аслабленыя дзеці), арганізацыі для правядзеньня работы брыгад і перад кожным заданьнем яснага і дакладнага вызначэньня абавязкаў кожнага брыгадзіра і кіраўніка брыгады.

2) Захоўваць максымальную гігіенічнасьць ўва ўсім жыцьці і працы дзяцей, таму ні ў якім разе нельга дапушчаць, каб дзеці падыходзілі да'яды з нямытымі рукамі, каб елі рэшткі харчаваньня, пілі сырую ваду. Трэба так наладзіць работу, каб абавязкова пасьля сну дзец, мыліся да паловы (галаву, шыю, корпусі

рукі) і ўвечары перад сном мылі ня толькі твар і рукі, а абавязкова і ногі.

Аб астатніх момантах, напрыклад: аб неабходнасьці абсалютнай чыстаты ў час прыгатаваньня харчу, у спальнях, чыстай бялізны дзяцей—тут ужо не гаворыцца, як аб пытаньні зусім яскравым, бо без захаваньня гэтага нельга гаварыць аб аздараўленьні фізычна-аслабленага дзіцяці. Дазіраваць усю работу і дзейнасьць дзіцяці. Досыць зусім нязначнай зморанасьці дзіцяці, каб з яго боку былі праяўлены ня толькі не дысцыплінаваныя ўчынкі, а і стан яго здароўя хуткім тэмпам зьнізіўся. Паказчыкам правільна арганізаванай работы лясной школы заўсёды зьяўляецца ступень павышэньня здароўя дзяцей за той ці іншы тэрмін. Момант наяўнасьці ў раскладзе дню так званага „абсолюта", адпачынку пасьля абеду, а як некаторыя завуць „мёртвага часу", накіраваны на тое, каб даць аслабленым дзецям магчымасьць адпачыць, з такім разьлікам, каб пасьля адпачынку зноў праводзіць тую ці іншую работу. Момант нарастаньня стомленасьці ў фізычна аслабленых дзяцей асабліва дасягае высокага пункту к 2-2$^{1}/_{2}$ гадзінам дня. Гэта тлумачыцца тым, што дзеці перад гэтым знаходзяцца на занятках, на прагулцы, або экскурсіі і г. д.

Вось гэты момант нарастаньня зморанасьці і патрабуе каб пасьля абеду „абсалют" праводзіўся для ўсіх дзяцей бяз выключэньня. Абсалют трэба практыкаваць на вольным паветры і ў дрэнную або халодную пагоду (ніжэй 10° па Рэамюру) на вэрандзе з адчыненымі фрамугамі. Ня гледзячы на адчыненыя фрамугі на вэрандзе, павінна захоўвацца 0° цяплыні па Рэамюру. У летні час дзеці ляжаць распранутымі і пакрываюцца простынямі, а ў зімовы час пакрываюцца цёплымі коўдрамі, або зьмяшчаюцца ў спэцыяльныя „ватныя мяшкі."

Застановімся некалькі больш падрабязна на пытаньні правядзеньня купаньня і сонечных ван.

Купаньне трэба пачынаць пры тэмпэратуры 15—16° цяплыні па Рэамюру. Калі цёплая пагода доўга не пачынаецца, то дапушчаецца купаньне пры 13° па Рэамюру. Час купаньня найбольш мэтазгодна вызначаць з 12 гадзін дню да 1-ай гадз. і ад 6 гадз. да 7гадз. увечары. Працяжнасьць купаньня не павінна перавышаць 15-20 хв. у паасобных выпадках працяжнасьць купаньня вызначаецца ў 10 хв. і іншы раз—5 хв. (у залежнасьці ад паказаньняў урача). Перад купаньнем тых дзяцей, якія моцна чырванеюць па выхадзе з вады, трэба расьціраць ручніком. Тых дзяцей, у якіх зьяўляецца „гусіная скура", трэба расьціраць пасьля выхаду з вады. Купацца дзеці павінны групамі ад 5 да 10 чал і ня больш двух раз. Як прынцып трэба праводзіць пачатае купаньне без перапынкаў, ня гледзячы на стан пагоды.

Сонечныя ванны праводзяцца перад купаньнем у летні час, і пасьля сьнеданьня ў вясновы і асеньні час. Наогул сонечныя ванны трэба пачынаць з сакавіка месяца і праводзіць да кастрычніка. Працяжнасьць сонечнай ванны пачынаецца з 5 хвілін і даводзіцца да 30-40 хвілін. У час прыманьня сонечных ван трэба каб галава была пакрыта панамай, або чым-небудзь сьветлым. Для роўнамернага загараньня трэба каб дзеці паварачваліся той ці іншай часткай цела.

У хмурныя дні трэба замест сонечных ванн каб дзеці прымалі паветровыя ванны—дзеці напалову распранутыя скачуць, гуляюць на працягу 10-15 хвілін.

Апошняе, на чым неабходна застанавіцца—гэта камплектаваньне дзецьмі лясной школы. Справа у тым, што камплектаваньне, ступень правільнасьці яго правядзеньня вельмі ўплываюць на ўсю арганізацыю пэдагагічнага працэсу. Правільна пабудаванае камплектаваньне лясной школы павінна, прыкладна, быць наступным: вызначаецца камісія ў складзе загадчыка лясной школы, урача-спэцыяліста, пэдагога, пэдолёга, прадстаўніка ад аддзелу нарасьветы і грамадзкасьці. Задачай гэтай камісіі зьяўляецца высьветліць адпаведнасьць данай кандыдатуры для прыёму ў лясную школу, а таксама вызначэньне тэрміну прабываньня дзіцяці ў школе. Усё гэта камісія ажыцьцяўляе шляхам падрабязнага азнаямленьня з усімі матар'яламі аб дзіцяці, непасрэдным азнаямленьнем з ім, гутаркай з родзічамі, або настаўнікам тэй школы, у якой навучалася

дзіцё да гэтага часу. Матар'ялы аб дзіцяці павінны быць наступныя: даведка аб узросьце, аб зробленых прышчэпках, даведка мэдычнага абсьледваньня, якая ацэньвае агульнае становішча дзіцяці, характарыстыка школы аб пасьпяховасьці і асаблівасьці паводзін, даведка аб сацыяльным паходжаньні, матар'яльным становішчы сям'і і вынікі сацыяльна-бытавога абсьледваньня дзіцяці. Да гэтых матар'ялаў прыкладаецца праца дзіцяці, напр. сшыткі, малюнкі і г. д.

Пры адборы трэба, каб камісія ведала, каго патрэбна вылучаць кандыдатам для залічэньня ў школу. Прымаюцца ў школу вучні масавай школы, якія бываюць:

1) З адэноіднымі разрашчэньнямі і бранхітамі.

2) Хранічным упадкам харчаваньня.

3) Не лёкалізаванымі сухотамі (без тэмпэратуры).

4) Сэрдэчнымі захворваньнямі (лёгкага тэмпу).

5) Працяжным малакроўем.

Ні ў якім разе ня прымаюцца ў школу дзеці, маючыя заразьлівыя (як хранічнага, так і інфэкцыйнага характару) хваробы, камбінаваныя калекі (адсутнасьць ног або рук, ці маючыя рэзкі лёрдоз і адсутнасьць аднэй рукі, нагі), глуханямыя, сьляпыя да 12 год, а таксама сляпыя, якія не навучаюцца ў школе для сьляпых, разумова-адсталыя, псыхапаты, дзеці з псыхічнымі захворванямі, эпілептыкі і інш.,) цяжка-выхоўваемыя.

Толькі арганізуючы работу лясной школы на падставе вышэйадзначаных прынцыпаў магчыма ў кароткі тэрмін дасягнуць хуткага аздараўленьня фізычна-аслабленага школьніка.

Шырокае разгортваньне лясных школ, правільная арганізацыя іх работы зьяўляецца адным з галоўных сродкаў у барацьбе за зьнішчэньне другагодніцтва, у барацьбе за зьнішчэньне галоўнага недахопу масавай школы, адзначанага пастановай ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б „аб пачатковай школе“.

## Расклад дня ў лясной школе вызначаецца прыкладна наступны:

8-8$^1/_2$ гадзін—уставаньне, умываньне, уборка пакояў для сну;

9-9$^1/_2$ гадз.—мэдычныя мерапрыемствы;

9$^1/_2$-12$^1/_2$—школьныя заняткі;

12$^1/_2$ гадзін—сонечныя або павятровыя ванны;

1 гадз.-1$^1/_4$—мыцьцё рук;

1$^1/_4$-2 гадз.—абед;

2-4 гадз.—ляжаньне (мёртвы час):

4-4$^1/_4$ гадз.—чай;

4$^1/_2$-6$^1/_2$—прагулкі, экскурсіі, гуртковыя работы;

6$^1/_2$-6$^3/_4$—мыцьцё рук;

6$^3/_4$-7$^1/_4$—вячэра;

7$^1/_4$-9 гадз.—ручная праца, настольныя гульні, клюбныя заняткі;

9-9$^1/_2$ гадзін—вячэрні туалет, падрыхтоўка да сну;

9$^1/_2$ гадз. увечары да 8 гадз. раніцы—сон;

## У летні час расклад дню мяняецца, а іменна:

7$^1/_2$-8$^1/_4$—пад'ём, „душы“, умываньне;

8$^1/_4$-9 гадз.—сьнеданьне;

9-10 гадз.—работа на гародзе; у цьвятніку;

10-11$^1/_2$—школьныя заняткі (дзьве лекцыі па 35 хв. з перапынкамі па 15 хв.)

11$^1/_2$-12$^1/_2$—сонечныя ванны;

1-2$^1/_2$ гадз.—абед;

2$^1/_2$-4 гадз. адпачынак (мёртвы час)

4-4$^1/_2$ гадз.—чай;

4$^1/_2$ 6$^1/_2$—вольны час, камбінаваныя фізпрактыкаваньні;

6$^1/_2$-7 паліўка гароду;

7-7$^1/_2$ гадз.—вячэра,

7$^1/_2$-8 гадз.—галоснае чытаньне, слуханьне музыкі;

8$^1/_2$-9 гадз.—падрыхтоўка да сну (вячэрні туалет):

9 увечары—да 7$^1/_2$ раніцы—сон.

Д-р Б. Н. Цыпкін і мэтадыст І. Д. Ловейка[1]).

# Прафіляктычная карэгіраючая гімнастыка ў палітэхнічнай школе і яе значэньне ў барацьбе са скрыўленьнямі пазваночніка.

Фізычная культура ў школе, зьяўляючыся непарыўным зьвяном фізкультурнага руху ў СССР, павінна вырашаць тыя задачы, якія ставяць перад сабой рабочая кляса і партыя. Гэтыя задачы, пастаўленыя перад нашым фізкультурным рухам, зводзяцца да выхаваньня чалавека, найлепшым чынам падрыхтаванага да працы і абароны.

Асновай савецкай фізычнай культуры зьяўляецца комплекс значка „Гатовы да працы і абароны", на якім будуецца фізкультурная праца кожнага вытворчага калектыву, ВУЗ'у, ВТУЗ,у, школы і г. д.

Ня спыняючыся тут на тых вялізарнейшых задачах, якія стаяць перад фізкультурай у палітэхнічнай школе, у сувязі з падрыхтоўкай да працы і абароны, зазначым на адзін вельмі важны элемэнт у фізычнай культуры, аздараўленьне школьнае моладзі, адсталай у сваім фізычным разьвіцьці і маючай патрэбу ў асобых мерапрыемствах.

У гэтым артыкуле мы кранемся пытаньня аздараўленьня сьпіны школьніка. Усім добра вядома, што скрыўленьне пазваночніка спатыкаецца даволі часта. Некалькі слоў аб тым, што такое скаліёзы, і аб фактарах, дапамагаючых разьвіцьцю іх. Скрыўленьне пазваночніка ў франтальнай плошчы называецца скаліёзамі; скрыўленьне-ж пазваночніка ў сагітальнай плошчы называецца кіфозамі. Мы лічым, што фактарамі, якія абумоўліваюць скрыўленьне пазваночніка, зьяўляюцца, як зьмяншэньне моцнасьці і выносьлівасьці самой сьпіны, так і павялічэньне нагрузкі пазваночніка. У той час, як Шанц прыдае аболдвым фактарам аднолькавае значэньне, мы лічым, што павялічэньне нагрузкі зьяўляецца толькі адным з момантаў, якія дапамагаюць разьвіцьцю скрыўленьня; нашэньне цяжасьцяй на сьпіне. сядзеньне ў школе, вымушанае палажэньне цела ў час работы зьяўляюцца далёка на спрыяючым момантам, абуслоўліваючым разьвіцьцё скаліёз.

Нідзе, здаецца, так ясна не выяўляецца правільнасьць асноўнага прынцыпу савецкай мэдыцыны: „Папярэджваць хваробы лягчэй, чым іх лячыць", як у праблеме скаліёза. Вядома, што лячэбная мэдыцына зусім бездапаможна пры разнаітных формах скаліётычных дэфармацый. Вось што піша праф. Турнэр: „Сумнае відовішча прадстаўляе фінальны вынік скаліётычнага скрыўленьня, у зьнішчэньні якога бездапаможна ўрачэбнае майстэрства". Вылячэньне скаліёзаў ляжыць па шляху раньняй дыагностыкі, раньняй тэрапіі і, галоўным парадкам, арганізацыі шырокай сеткі габінэтаў, карэгіруючай гімнастыкі як у школах, так і на вытворчасьці, адначаснага правядзеньня санітарна-асьветніцкай работы і дыспансэрызацыі больш рэзкіх форм скаліёзаў, дапаможа перамагчы гэта сацыяльнае зло. На адным з апошніх зьездаў нямецкіх артапэдаў ГУЭЛЕ сказаў, што калі-б кожны скаліёз, які прадстаўляе небясьпечнасьць у сэнсе прагрэсаваньня, быў-бы аддадзены сваячасоваму лячэньню, дык праз 20 год у Германіі ня было-б ніводнага выпадку інвалідпасьці з прычыны цяжкага скрыўленьня пазваночніка. Мы ўпэўнены, што пры нашых тэмпах сацыялістычнага будаўніцтва і пры нашым імкненьні ня толькі дагнаць, але і перагнаць капіталістычны сьвет, гэты тэрмін, пастаўлены нямецкімі артапэдамі, будзе намі значна скарочаны.

У той час, як тэрапія далёка зайшоўшых выпадкаў скаліёза беспасьпяхова, пачатковыя формы альбо зусім падда-

[1]) Працаўнікі Ортопэдычнага аддзяленьня Цэнтральнага габінэту Ф. К. ГІФОН.

юцца выпраўленьню поўнасьцю, альбо прынятыя сваячасова прафіляктычныя меры не даюць магчымасьці прагрэсаваць дэфармацыі. Наша безлапаможнасьць лячэньня скаліёза 3-й ступені, з наліччам коснай дэфармацыі пазваночніка, прымушае зьвярнуць усю сваю ўвагу на прафіляктыку і раньнюю тэрапію. Натуральна, што савецкія органы аховы здароўя, якія заўсёды кіруюцца прынцыпам, што папярэдзіць хваробу лягчэй, чым яе лячыць, прынялі ўсе меры да арганізацыі барацьбы са скрыўленьнямі пазваночніка. Па прапанове артапэдычнага аддзяленьня ГІФОН'а Народным камісарыятам аховы здароўя Беларусі і Наркамасьветы былі прыняты і апублікаваны наступныя пастановы:

1. Лічачы, што слабасьпінныя дзеці знаходзяцца на граніцы паталёгіі і зьяўляюцца той арміяй, з якой фармуюцца сапраўдныя скаліётыкі, зьвярнуць сур'ёзную увагу на ўмацаваньне сьпінных цягліц у такавых шляхам гімнастыкі і масажу.

2. Сталы і сыстэматычны кантроль над пачатковымі формамі скрыўленьня хрыбетніцы (пазваночніка)у дашкольным і школьным узросьце. Для гэтай мэты карыстацца адпаведнымі ўстановамі аховы здароўя, органамі Нарасьветы і грамадзкімі арганізацыямі.

3. Узяць на вучот усіх слабасьпінных дзяцей школьнага ўзросту.

4. З ліку апошніх арганізаваць групы, колькасьцю 15-30 чалавек, якія займаліся-б ў габінэце карэгіруючай гімнастыкі пад наглядам і кіраўніцтвам школьна-санітарных урачоў і фізінструктароў.

5. З цягам часу неабходна пры кожнай школе арганізаваць групавыя заняткі са слабасьпіннымі дзецьмі.

6. У час вядзеньня сыстэматычнага доктарскага кантролю над заняткамі па фізкультуры з нармальнымі дзецьмі, уносіць у агульныя гімнастычныя практыкаваньні шэраг карэгіруючых.

У Заходняй Эўропе яшчэ і да гэтага часу ідуць спрэчкі аб неабходнасьці асобных груп так званай артопэдычнай гімнастыкі. Праўда, у Германіі большасьць артапэдаў выказваюцца за абавязковае існаваньне асобных груп для слабасьпінных дзяцей; там групы такія існуюць, але лік іх недастатковы, а таму вялікая колькасьць слабасьпінных дзяцей не падлягае належнаму лячэньню. У Германіі, Францыі і інш. буржуазных краінах існуе шмат груп па карэгіруючай гімнастыцы, якія не знаходзяцца пад кантролем дзяржавы і ўтрымліваюцца прыватнымі асобамі. Ня рэдка на чале такіх прыватных габінэтаў па выпраўленьні скрыўленьняў пазваночніка, знаходзяцца асобы малакампэтэнтныя ў мэдычных адносінах,якія імкнуцца выключна да нажывы. Яны рэклямуюць свае габінэты, запэўняючы, што вылечваюць любы скаліёз і ў самы кароткі тэрмін. Заходня-Эўропейскім артапэдам пры ходзілася неаднакраць зьвяртацца да ўраду з патрабаваньнем аб спыненьні працы такіх знахароў. Але ня глядзячы на гэта ў Эўропе да гэтага часу ня існуе сапраўднага кантролю над такімі габінэтамі.

У нас, у Савецкай Беларусі, пытаньне вырашана зусім правільна. Мы лічым неабходным зрабіць улік і ўзяць пад кантроль усіх слабасьпінных дзяцей, арганізаваць у кожнай школе габінэты карэгіруючай гімнастыкі. Пры такой пастаноўцы справы будуць ахоплены шырокія масы дзяцей, і усе іх заняткі будуць адбывацца пад урачэбным наглядам. Адначасова школьны савет вядзе санітарна-асьветніцкую работу сярод бацькоў, і такім парадкам па-за школай у сямьі працягваецца ўпартая барацьба са скаліёзамі.

Такім парадкам, савецкая мэдыцына ўносячы плянавасьць і сыстэму ў супрацьлеглясьць бясплянавасьці і бессыстэмнасьці буржуазнай мэдыцыны, зможа правільна арганізаваць барацьбу са скрыўленьнямі пазваночніка.

Кожны слабасьпінны школьнік, у якога альбо клінічна, альбо рэнгеналёгічна пачынаюць выяўляцца першыя адзнакі фіксацыі, павінен быць вызвалены з груп для слабасьпінных і пераведзены ў распараджэньне артапэдаў. Такія слабасьпінныя прадстаўляюць небясьпечнасьць у сэнсе хуткага прагрэсаваньня дэформацыі і таму падлягаюць лячэньню у артапэдычнай установе. Асноўная мэта ўсіх гімнастычных практыкаваньняў умацаваць цягліцы сьпіны і стварыць пра-

вільную асанку. Усе фізычныя практыкаваньні, якія ўжываюцца для гэтай мэты аказваюць спрыячыя дзеяньні ня толькі на цяглiцы сьпіны, але і на ўвесь арганізм цалкам: на сэрца, лёгкія, нэрвовую сыстэму і агульны абмен матэрый.

На працягу 1931-32 году намі былі ў Менску арганізаваны групы слабасьпінных дзяцей, якія займаліся карэгіручай гімнастыкай. Такія вопытныя групы былі створаны пры 4 школах. Дзеці да праходжаньня курсаў гімнастыкі вельмі пільна і ўсебакова былі абсьледваны, у канцы курсаў карэгіручай гімнастыкі праводзілася абсьледваньне ў другі раз. Падрабязныя вынікі будзе апублікаваны пасьля канчатковай распрацоўкі мата р'ялаў. Але ўжо зараз можна сказаць, што прафіляктычна-карэгіруючая гімнастыка вельмі спрыяльна ўплывае ня толькі на ўтварэньне правільнай асанкі, але і на ўвесь арганізм цалкам.

Прынцып карэгіруючай гімнастыкі, як мы ўжо сказалі вышэй, заключаецца ў імкненьні выпрацаваць правільную асанку і ўмацаваць цягліцы сьпіны. Гэтымі-жмяркаваньнямі мы кіраваліся пры складаньні мэтодыкі ўрока калі гімнастычны ўрок у нашай савецкай школе ставіць сабе за мэту даць памяркоўную агульна-фізыялёгічную нагрузку, выхаваць цэлы шэраг псыха фізычных якасьцяй (сілу, выносьлівасьць, хуткасьць, лоўкасьць, рашучасьць, настойлівасьць і г. д.), то карэгіруючая гімнастыка ставіць у значнай ступені сваю задачу, але дамагаецца вызначаных мэт больш дакладна.

Выпрацоўка правільнай асанкі ня можа быць дасягнута толькі нарашчэньнем належнай мускулатуры, а зьяўляецца вынікам раўнавагі паміж асобнымі часткамі цела і ўзаемнымі палажэньнямі асобных суставаў. Правільная асанка бывае іншы раз у слабых людзей, і, наадварот, дужыя людзі часта маюць дрэнную асанку. Таму пытаньне ў выхавнньні яе ёсьць нешто іншае, як пытаньне раўнавагі, суадносін усіх сіл паміж сабой. У сувязі з гэтым, практыкаваньні карэгіруючай гімнастыкі, якія намі будуць узяты, зводзяцца да выхаваньня правільнага трыманьня свайго цела пры розных палажэньнях і рухах. Неабходна памятаць, што для правільнай асанкі, важнай умовай зьяўляецца правільная ўстаноўка ног, таза, пазваночніка, плячэй і галавы. Слабасьпінныя, асабліва скалёткі, звычайна дрэнна адчуваюць палажэньне свайго цела, куды яно нахілена і г. д. Значыцца, мэтодыка нашай гімнастыкі павінна паклапаціцца аб выхаваньні цяглічнага (мышачнага) адчуваньня. Прапануючы пэўную колькасьць практыкаваньняў, якія зьвязаны са сталым перамяшчэньнем цэнтру цяжасьці,—мы павінны ўзьдзейнічаць на выхаваньне ў слабасьпінных цяглічнага адчуваньня (практыкаваньне ў раўнавазе).

У літаратуры адзін час захапляліся мэтадам доктара Кляпа, які заключаўся ў тым, што ўсе практыкаваньні для дзяцей вытвараюцца ў гарызантальным палажэньні (поўзаньнем). Ня спыняючыся падрабязна на апісаньні гэтага мэтаду, зазначым на тыя недахопы яго, якія, па нашай думцы, зьяўляюцца адмоўным бокам у гэтай мэтодыцы.

1. Нельга прывучаць скалётыка, каб ён хадзіў на чацьвяронках, таму што рухальнасьць пазваночніка чатырохногіх зусім іншая.

2. Мэта карэгіруючых практыкаваньняў навучыць слабасьпінных правільнай асанцы ў вэртыкальным палажэньні, а не на чацьвяронках. Гахлунд мяркуе, што ад такіх практыкаваньняў, акрамя няправільнай мабілізацыі пазваночніка, нельга нічога атрымаць.

3. Кляпаўскія практыкаваньні вельмі складаныя і таму патрабуюць індывідуальнай апрацоўкі, што ў нашых умовах немагчыма.

4. Поўзаньне на чацьвяронках адбываецца на вышыні некалькіх сантымэтраў ад падлогі, а ніжні пласт паветра звычайна багаты вялікай колькасьцю пылу.

Наша мэтодыка не выключае магчымасьці ўжываньня практыкаваньняў Кляпа, але ня грунтуецца толькі на іх ужываньні. Мы бярэм элемэнты мэтодыкі Кляпа і ўносім у наш урок, карыстаючыся імі, з аднаго боку, як адпачынкам (разгрузкай) для пазваночніка, а з другога боку як практыкаваньнямі, даючымі рухомасьць пазваночніку. Таксама

ў час урока мы ўжываем і практыкаваньні лежачы, з той-жа мэтай разгрузкі, адначасова трэніруючы другія групы цягліц, напрыклад, для цягліц жывата.

Дадзеная ніжэй схэма нашага ўроку разьбіта на 5 сэрый, і кожная з іх занначае на той аб'ём практыкаваньняў якімі можна карыстацца ў практыцы правядзеньня заняткаў. Усе практыкаваньні падбіраюцца, выходзячы з асноўнага прынцыпу—„даступнасьць“, г. зн. практыкаваньне павінна быць настолькі простым, каб той, хто займаецца, адразу мог бы яго засвоіць.

З другога боку, неабходна патрабаваць выключнай дакладнасьці, толькі тады выявіцца станоўчы вынік, калі практыкаваньне па сваёй форме будзе правільна выканана. Таму патрэбна, каб кіраўнік быў настолькі ўважлівым і не прапускаў ніводнай памылкі ў час выкананьня, а зараз-жа выпраўляў яе.

З першых-жа дзён неабходна зьвярнуць увагу на правільную пастаноўку таза, тулава, плячэй і галавы. Патрэбна навучыць трымацца прама. Для гэтага існуюць наступныя ўмовы „прамой стойкі“: пастаўце дзіцё да сьцяны так, каб пяткі, ягадзіцы, сьпіна і затылак краналіся яе; не зьмяняючы палажэньня прымусьце яго зрабіць крок уперад,— вось спосаб, прымушаючы зразумець, што азначае „трымацца прама“. Але ў такім палажэньні слабасьпінны доўга трымацца ня можа; таму патрэбна імкнуцца прымушаць яго шляхам волі на магчымасьці часьцей займаць такое палажэньне. Апрача таго, ўсе нашы практыкаваньні павінны прасьледваць мэту ўмацаваньня цягліц сьпіны.

У практыцы нашае работы было заўважана, што ў прамой стойцы вытвараць практыкаваньні цяжка, бо дзеці пасылаюць уперад таз, адхіляючыся назад, што прыводзіць да ўзмацненьня паясьнічай крывізны (лёрдос); таму мы прапануем выконваць практыкаваньне першыя часы з „ортапэдычнай“ стойкі, умовы якой наступныя: ногі расстаўлены ў бакі роўна з шырынёю плеч, ступні паралельна, рукі выцягнуты назад, пальцы сьціснуты ў кулак, лапаткі прыведзены ў сярэдняй лініі, тулава зьлёгку нахілена ўперад (на 10-15), але жывот падцягнуты, галава проста перад сабою, падбародак уцягнуты. З гэтай стойкі вытвараецца „ортапэдычная хадзьба“, прасьцейшы від яе наступны: крок левай нагой ўперад, рукі ў бакі, крок правай нагой, рукі ў выхадное палажэньне і г. д. Пры гэтым ногі перастаўляюцца зусім простымі, тулава фіксавана. У пачатку хадзьба выконваецца без мяшочка і, толькі засвоіўшы мэханізм яе, можна на галаву апранаць мяшочкі вагой 400 800 грам. Па думцы многіх ортапэдаў і пэдагогаў, нашэньне цяжасьцяй на галаве прымушае дзяцей выраўніваць сябе; звычайна, скаліётыкі і слабасьпінныя не адчуваюць свайго скрыўленьня. Яны страцілі, да пэўнай ступені, адчуваньне раўнавагі, але нашэньне невялікай цяжкасьці на галаве прымушае іх выраўніваць пазваночнік, заўсёды напамінаючы аб яго дэфармацыі.

У мэтах аўладаньня мэханізмам удыханьня, адводзім у пачатку ўрока, звычайна пасьля хадзьбы, адну-дзьве хвіліны для навучаньня дыхацельным практыкаваньням. У той час сочым за тым, каб удых і выдых вытвараліся рытмічна па магчымасьці паўней праз нос; палажэньне займаючагася павінна адпавядаць пашырэньню грудной клеткі, для чаго лепш класьці рукі на бёдры. Усе астатнія рухі рукамі будуць ускладняць мэханізм дыханьня, і таму імі патрэбна карыстацца асьцярожна, прытрымліваючыся пэўнай паступовасьці.

У другой сэрыі, як мы яе называем „вольныя рухі“, патрэбна ставіць мэтай раўнамерную нагрузку ўсяго цела, акцэнтуючы на ўмацаваньне цягліц сьпіны і практыкаваньні, якія прыдаюць асанку, чаргуючы іх так, каб аддаліць надыход зморанасьці (г. зн., калі практыкаваньне вытваралася для плечавога поясу, то пасьля гэтага неабходна даць для ног і г. д.). Пры затрыманьні дыханьня ў якім-небудзь руху зараз-жа патрэбна даць дыхацельнае практыкаваньне, каб аднавіць парушанае дыханьне, а наогул, пры ўсіх практыкаваньнях неабходна сачыць за тым, каб дзеці не затрымлівалі дыханьня, і дыхалі бяз прымусу, непраізвольна. Два разы за ўвесь час даем адпачынак у выглядзе практыкаваньня лежучы на сьпіне, альбо ў поў-

заньні на чэцьвяронках. Поўзаньне не патрэбна вытвараць больш як 1-2хвіліны.

У сэрыі эмацыянальных практыкаваньняў неабходна сачыць за тым, каб той, які займаецца, не знаходзіўся доўгі час у сагнутым палажэньні, ня сутуліўся. Асабліва патрэбна ўнікаць рэзкіх парывістых рухаў, усялякіх штуршкоў і падзеньняў. Усе рухі ў гэтай сэрыі неабходна падбіраць з вялікай асьцярожнасьцю і ў асаблівасьці ў пачатку, але ў час сканчэньня курсу прахаджэньня карэгіруючай гімнастыкі мэтадычна патрэбна падвесьці да хуткіх рухаў у відзе бегу, прыжкоў і г. д. Лепшымі практыкаваньнямі будуць рухальныя гульні і эмацыянальныя практыкаваньні з рытмічнай гімнастыкай.

У сэрыі раўнавагі, асабліва патрэбна зьвяртаць увагу на правільную асанку, бо толькі гэтая ўмова дазволіць правільна разьмяркоўваць цэнтр цяжасьці, умець трымаць проста тулава і галаву. У пачатку патрэбна даваць практыкаваньні ў раўнавазе на падлозе, паступова зьмяншаючы площчу апоры, ускладняючы гэта палажэньне размаітнымі рухамі рук, затым пераходзіць да павышэньня апоры, напрыклад, да практыкаваньняў на швэдзкай скамейцы, раней на шырокім баку, а потым на вузкім яе баку, але не патрэбна павышчаць апору, па якой неабходна перасоўвацца вышэй 90 сантымэтраў. Гэта не ўваходзіць у нашу задачу.

Вялікае выхаваўчае значэньне мае мэтад выключэньня аднаго з аналізатараў (напрыкл. орган зроку), што дазваляе пры хадзьбе з зачыненымі вачмі кантраляваць свае рухі цяглічным адчуваньнем. У пачатку гэтыя практыкаваньні вытвараюцца на падлозе, а потым на шырокім баку швэдзкай скамейкі.

У сэрыю практыкаваньняў „самавыпрамленьня“ патрэбна ўключаць практыкаваньні, якія-б забясьпечылі максымальнае выцягваньне пазваночніка, прыводзячае лапаткі к сярэдняй лініі,—гэта практыкаваньне тыпу пацягваньняў з лёгкім разгінаньнем пазваночніка. Як прыклад прыводзім два практыкаваньні:

1. Выцягнуць рукі ўверх, падцягнуцца да адказу, падняцца на наскі, імкнучыся дастаць „яблычка“;

2. Адзін з тых, якія займаюцца, сядзіць на падлозе, рукі ўверх, другі стоячы ззаду, у затылак падстаўляе голень да сьпіны першага, бярэ яго за кісьці. Першы падцягваецца, стараючыся максымальна выцягнуцца ўверх, а другі зьлёгку цягне яго за рукі кверху.

Пасьля ўрока патрэбна даць поўны адпачынак, лежачы на сьпіне 10-15 хвілін. Працяжнасьць уроку пры штодзённых занятках 40 хв., пры занятках праз дзень 50-60 хв.

Неабходна прывучыць школьнікаў да заняткаў у трусіках, каб можна было кіраўніку заўсёды бачыць сьпіну, для дзяўчат раіцца насіць хвартушок з зусім голай сьпінай. Колькасць групы ад 15 да 20 чалавек.

## Прыкладны ўрок для пачатковых груп:

(*працяг 40 хвілін*).

I.

1. Хадзьба ўперад (выходнае палажэньне „ортапэд“ стойка), рукі ў бакі (у кулакох),—крок уперад левай (правай—таксама правай (левай), рукі ў асноўнае палажэньне.

Дыхацельнае практыкаваньне—вывучэньне дыханьня (рукі на бёдры) у асноўным уся ўвага на глыбокі ўдых праз нос і працяжны выдых (можна нават з шумам).

II.

2. Напалову прысяданьне на ступнях, рукі на бёдры.

3. Згінаньне ў плечавым суставе ўперад, назад:

4. Рукі к плечам—пазьменнае выкідваньне рук уверх, па 4 разы кожнай рукой.

5. Згінаньне ў бёдравым суставе: а) сагнуць у бядры і ў калене; б) выкінуць уперад; в) у асноўным палажэньні.

6. Зьвядзеньне і разьвядзеньне плеч (выходнае палажэньне: ногі разам, рукі на бёдры).

7. Практыкаваньне ў поўзаньні: ад палажэньня, стоячы на чэцьвяронках, выставіць, наколькі магчыма, ўперад пра-

вую нагу, адначасна выставіць левую руку да адказу ўперад з прыгінаньнем плеч да падлогі. Таксама другой нагой. Паўтарыць 2 хвіліны.

8. Ногі ў бакі на шырыню плеч: згінаньне тулава ўперад, выпрамленьне.

9. Згінаньне галавы (уперад і назад).

10. Выходнае палажэньне; ногі ў бакі на шырыню плеч, рукі на бёдры. Выкананьне: павароты тулава ўлева і ўправа.

11. Дыхацельнае практыкаваньне—для зьнішчэньня аддышкі.

12. Лежачы на падлозе, альбо наўсьцяж шведзкай скамейкі—рукі за галаву—чаргавальны рух ног: падняць праву нагу, сагнуць у калені—выпрастаць—апусьціць: таксама левай нагой.

III

13. Эмоцыянальнае практыкаваньне: хадзьба звычайная, хуткасьць 80-120 крокаў у хвіліну з плёсканьнем у далоні—на лічэньне 1,2,3,4. а ў наступныя 4-ры лічэньні—вытрымка. Таксама лічэньні па два; трэці і чацьверты—вытрымка: акцэнт нагои на адзін і на тры.

IV

14. Раўнавага: па шырокай плошчы шведзкай скамейкі, хадзьба ўперад, рукі к плечам, таксама рукі за галаву, за сьпіну. Уся ўвага на зусім выпрастанае палажэньне тулава, галаву падняць як вышэй (не глядзець уніз), падбародак уцягнуты.

V.

15. Выпрамляючае практыкаваньне: а) адвядзеньне плеч назад; б) пацягваньне,—рукі на галаве скрыжаваны ў пальцах, пры пацягваньні рукі ўверх; в) выходнае палажэньне: пяткі разам, наскі ўрозь, рукі к плечам—пазьменна выцягваньне аднэй рукі ўверх, узды-маючыся на наскох, пры гэтым максымальнае выцягваньне кверху; г) дыхацельнае практыкаваньне для заспакаеньня 3-4 разы.

В. Самцэвіч.

## Школы—у дасьледчы паход за сыравінай для прамысловасьці

*Насустрач другой пяцігодцы.*

На аснове дырэктыў XVII партканфэрэнцыі УсеКП(б) дзяржаўныя плянавыя, гаспадарчыя і навукова-дасьледчыя ўстановы ўсяго Савецкага саюзу пры шырачэйшым удзеле рабочай клясы і пралетарскай грамадзкасьці прыступілі да складаньня пляну другой пяцігодкі сацыялістычнага будаўніцтва. „Асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бесклясавага сацыялістычнага грамадзтва,“ палепшаньне матар'яльнага дабрабыту рабочых і сялянскіх мас і „зжываньне эканамічнай і культурнай адсталасьці нацменшасьцяй? спадчыны ад царскага калёніяльнага капіталістычнага рэжыму.“

Ажыцьцяўленьне вялізарнейшых задач другой пяцігодкі магчыма толькі на базе разгорнутай тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі: прамысловасьці, транспарту, сельскай гаспадаркі... Асноўнай і рашаючай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца завяршэньне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, стварэньне навейшай тэхнічнай базы для усіх галін народнай гаспадаркі. Важнейшай умовай тэхнічнай рэканструкцыі народннай гаспадаркі БССР зьяўляецца стварэньне навейшай энэргетычнай базы на аснове максымальннага выкарыстаньня мясцовых энэргетычных рэсурсаў (торфу) і разьвіцьцё прамысловасьці на базе мясцовай сыравіны. Вялізарны размах народна-гаспадарчага пляну другой

пяцігодкі патрабуе дакладнага, сваячасовага і ўсебаковага вывучэньня ўсіх нашых прыродных багацьцяў. Тым часам толькі нязначная частка прыродных багацьцяў нашых нетраў добра вывучана і падрыхтавана для эксплёатацыі. Мы яшчэ вельмі мала ведаем сваю краіну. Другая пяцігодка будзе будаваць новыя гіганты сацыялістычнай індустрыі там, дзе яшчэ сягоньня разьлягаюцца белыя плямы на картах геолёгаў" (В. Куйбашаў).

БССР з боку яе прыродных багацьцяў таксама яшчэ вельмі мала дасьледавана. На геолёгічных картах БССР яшчэ ёсьць ня мала белых плям. Энэргетычныя і сыравінныя рэсурсы для разгортваньня буйнай прамысловасьці БССР дасьледаваны надзвычайна слаба. Вялізарнейшыя тарфяныя запасы (звыш аднаго міліярду тон паветранага сухога торфу), захаваныя ў нашых балотах, плошчай мінімальна у 642 тысяч га., застаюцца яшчэ належным чынам не дасьледаваны. Наяўнасьць вялікіх залежаў трэпелу, гліны, вапны, пылупадобных кварцавых пяскоў, торфу ў камбінацыі з рознымі адкідамі (шлакі, тарфяны попел і кастра, пілавіньне, стружка, салома і інш.) даюць поўную магчымасьць разьвіць у БССР прамысловасьць новых будаўнічых матарыялаў: выраб буйна-блёчных і цёпла-блёчных каменьняў, ідааміту, фібраліту, эфэктыўнай цэглы і інш. Широка павінны быць разгорнуты вышукальныя работы па выяўленьню балотных жаленых руд для разьвіцьця мясцовай мэталюргіі. Тымчасам геолёгічныя дасьледваньні БССР і выяўленьне усіх новых відаў мясцовай мінэральнай сыравіны яўна адстаюць ад запатрабаваньняў нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Перад намі паўстае найважнейшая задача другой пяцігодкі: дакладна вывучыць прыродныя багацьці нашай краіны, яе энэргетычныя рэсурсы і сыравінную базу для прамысловасьці. Гэта задача, аднак, ня можа быць вырашана толькі сіламі спэцыялістаў геолёгаў, разьведачнымі партыямі, якія пасылаюцца навуковымі ўстановамі і гаспадарчымі органамі. „Вывучэньне нашых прыродных багацьцяў у найкарацейшы тэрмін ня мысліма без прыцягненьня шырокіх мас дабраахвотнікаў з радоў рабочай клясы і калгасьнікаў. Першае слова павінен тут сказаць ленінскі камсамол, які арганізуе ўсесаюзную сустрэчу другой пяцігодцы. Шасьцімільённая армія маладых бальшавікоў павінна стаць разьведчыкамі наших прыродных багацьцяў. Мы чакаем ад камсамолу арганізацыі ўсесаюзнай разьведкі нетраў аднэй шостай часткі сьвету. Трэба захапляць гэтай думкай мільёны маладых рабочых і калгасьнікаў, вучняў і піанэраў, турыстаў і фізкультурнікаў, фабзайцаў, студэнтаў. У кожным раёне нашай краіны будзем шукаць жалеза, медзь, нафту, вугаль, торф, сыравіну для хэмічнай прамысловасьці, новыя глебы, новыя расьліны. Ня толькі шукаць і пазнаваць, але і вучыцца выкарыстоўваць гэтыя багацьці для будаўніцтва сацыялізму" (Куйбышаў),

У мэтах дапамогі партыі і пралетарскай дзяржаве ў вывучэньні прыродных багацьцяў СССР і выкарыстаньні іх для сацыялістычнага будаўніцтва, камсамолам арганізавана ўсесаюзная разьведка нетраў нашае краіны. У гэты ўсесаюзны паход уключыліся і камсамол Беларусі, Беларускі савет Таварыства пралетарскага турызму і Цэнтральнае бюро краязнаўства (гл. газэту „Чырвоная зьмена" за 19/IV-32 г.).

Самы актыўнейшы ўдзел у гэтым паходзе павінны прыняць усе нашы школы, музэі. „Удзел школы ў гэтым пачынаньні павінен стаць неадымнай часткай палітэхнічнай адукацыі... Кожны вучань, кожны піанэр павінен стаць у сваім раёне разьведчыкам новых вялізарных багацьцяў, якія яшчэ да гэтага часу ляжаць без выкарыстаньня ў нетрах савецкай зямлі" (з гутаркі з Наркомам асьветы т. А. Бубновым. „Камсамольская праўда" № 66, 1932 г.).

Дасьледчая праца зьяўляецца важнейшым элемэнтам палітэхнізацыі школы. Палітэхнічная школа бяз правільна арганізаванай на краязнаўчай аснове дасьледчай працы, арганічна ўвязанай з усей праграмнай работай школы і падпарадкаванай яе вучэбна-выхаваўчым задачам, нямысьліма. Новыя праграмы палітэхнічнай школы, выданыя Дзяржаўным вучоным саветам БССР у 1932 г., досыць выразна і канкрэтна ставяць перад

школамі пытаньні дасьледчай працы. Так, напрыклад, паясьняльная запіска да праграмы па грамадазнаўстве патрабуе ўжываньня такіх мэтадаў, якія ўзброілі-б вучняў навыкамі элемэнтарнага дасьледваньня (уменьне наглядаць, рабіць вывады), давалі-б уменьне ўжываць веды на практыцы і дапамагалі-б разьвіцьцю самастойнасьці дзяцей.“ [1]) У паясьняльнай запісцы да праграмы па геаграфіі для 3-й групы адзначана, што „пад кіраўніцтвам настаўніка вучні праводзяць рад назіраньняў, зьвязаных з вывучэньнем геаграфіі, робяць разьведачныя работы (падкрэсьлена мною В. С.), зьбіраюць калекцыю, лябораторна апрацоўваюць матар'ял, мадэлююць, зарысоўваюць і г. д. (п. 5)... праводзяць геарафічнае вывучэньне гаспадаркі раёну“ [2]). Праграма і паясьняльная запіска па прыродазнаўстве вызначаюць цэлы рад задач краязнаўча-дасьледчага характару (вывучэньне шкоднікаў сельскае гаспадаркі і барацьба з імі, абсьледваньне санітарнага становішча студняў, крыніц, арганізацыя фэнолёгічных і мэтэрэолёгічных назіраньняў і інш.). Зусім зразумела, што дасьледчая праца ў 5, 6 і 7 групах ФЗС і ШКМ павінна быць больш пашырана і паглыблена. Паясьняльная запіска да праграмы па прыродазнаўстве выразна адзначае, што вытворчая праца 5-й гр. „павінна насіць краязнаўчы характар з пастаноўкай канкрэтных задач рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, аховы прыроды, вывучэньне сельскае гаспадаркі і прамысловага значэньня лясных і тарфяных плошчаў.“ У запісцы вызначаны далей досьледы над культурамі расьлін на прышкольным ці калгасным вучастку і распаўсюджваньне новых расьлін (земляная ігруша, японскае проса, кукуруза, соя, тутавае дрэва і інш.“

Правільная пастаноўка дасьледчае працы ў школе зьяўляецца адным з відаў грамадзкае працы школы і важнейшым сродкам палітэхнічнай адукацыі і камуністычнага выхаваньня. Аднак, з усей выразнасьцю трэба адзначыць, што дасьледчая праца ў школах у даны момант не стаіць яшчэ на належнай вышыні. Ужо ў 5-м мэтадычным лісьце школьнага сэктару НКА РСФСР адзначана, што ў ФЗС „дасьледчая работа разгорнута надзвычайна слаба... Недапушчальна слаба выкарыстоўваецца для вучэбных мэтаў вытворчае і грамадзкае абкружэньне школы і раёну.“ Аб такім-жа надзвычайна слабым разгортваньні дасьледчай працы сьведчаць і даныя аб стане школьнага краязнаўства БССР. Гэты недахоп у практыцы нашых школ асабліва яскрава выяўляецца ў сьвятле задач, пастаўленых перад усімі школамі па выяўленьні ў сваім раёне новых прыродных багацьцяў, якія павінны быць выкарыстаны ў другой пяцігодцы. „Вяснова-летні трымэстр усе школы павінны скарыстаць для геолёгічных экскурсій у сваім раёне (з гутаркі з тав. Бубновым „Комсамольская правда,“ № 66, 1932 г.).

Для пасьпяховага разгортваньня дасьледчай працы школ па вывучэньні прыродных багацьцяў свайго раёну, што зьяўляецца неадымнай часткай палітэхнічнай адукацыі, неабходна „ўключыць спэцыяльны практыкум па вызначэньні мінэралаў і руд і элемэнтарным прыёмам ўвядзеньня геолёгічных разьведак у школьныя праграмы па прыродазнаўству, геаграфіі, хэміі і фізыцы, правесьці сярод настаўнікаў каротка-тэрміновы сэмінар па вызначэньні мінэралаў і руд.“ Практыкум па вызначэньню мінэралаў і руд мокрым і сухім спосабам заключаецца ў тым, што „без асаблівых ведаў па хэміі і фізыцы, пры дапамозе самых простых і прымітыўных сродкаў (паяльная трубка, стэарынавая сьвечка, кавалак дрэўнага вугалю, магнэсавая стрэлка, срэбная манэта, сода, бура, саляная кіслата, воцат), усякі можа ў некалькі хвілін беспамылкова ўстанавіць пры дапамозе спэцыяльнага даведніка, з чаго складаецца той або іншы камень, альбо які мэталь мае тая ці іншая руда. (П. Іваноў, Хэмзавод № 1).

Выданьне спэцыяльных насьценных табліц, якія прадстаўляюць каляровую фотаграфію або рысунак мінэралу (руды) ў натуральных колерах, паказваюць хэмічны склад і фізычныя ўласьцівасьці мінэрала або руды, выпуск сэрыі плякатаў, брашур і інш., даюць магчымасьць наглядным чынам азнаямляць дзяцей з

[1]) Праграма для 1-4 гр. ФЗС, ШКМ і пачатковай школы. БДВ. Менск, 1932 г., стр. 141.

[2]) Стар. 76.

вызначэньнем розных мінэралаў і спосабаў вядзеньня геолёгічных разьведак. Неабходна таксама, каб школы былі забясьпечаны папулярнымі даведнікамі, па якіх можна было-б зрабіць азначэньне мінэралаў і руд і сухім і мокрым спосабам, і наборам неабходных для тэй-жа мэты інструмантаў (паяльныя трубкі, шчыпчыкі, зубіла, малаточак, магнэсавая стрэлка і інш.).

Арганізацыя геолёгічных экскурсій з мэтай азнаямленьня і выяўленьня розных відаў мясцовай мінэральнай сыравіны, зьбіраньне калекцый мінэралаў, руд і будматар'ялаў і азначэньне іх у школьнай лябараторыі, пры дапамозе адпаведных інструмантаў і прыбораў, дадуць магчымасьць узмацніць работу школ па палітэхнізацыі і грунтоўным засваеньні ведаў па прыродазнаўстве, гэаграфіі, хэміі і фізыцы, па набыцьці калектывістычных навыкаў дасьледчае працы і разам з тым могуць аказаць надзвычайна вялікую дапамогу плянуючым, гаспадарчым і навукова-дасьледчым установам у выяўленьні мінэральнай сыравіны ў сваім раёне. На аснове работы школ, краязнаўчых і турыстычных ячэек па дасьледаваньні мінэралаў, руд, торфу можна скласьці карту разьмяркаваньня мінэралаў, руд, тарфянікаў і будматарыялаў кожнаго раёну. Гэтая карта павінна з кожным годам удакладняцца і папаўняцца на падставе новых досьледаў цэнтральнымі дасьледчымі ўстановамі (Белгеоразьведка, Геолёгічны інстытут).

Дасьледчая работа школы па выяўленьні сыравіны свайго раёну для станкоў прамысловасьці павінна быць падпарадкавана вучэбна-выхаваўчым задачам школы; яна павінна праводзіцца па плянах і праграмах школы. Вялізарнае значэньне арганізаванае дасьледчае працы вучняў заключаецца ў аўладаньні імі адпаведнымі ведамі ў розных галінах і марксыцка ленінскім мэтадам навуковага дасьледваньня. Правільная арганізацыя дасьледчай працы ў школе—вышэйшы крок у падрыхтоўцы дасьледчых кадраў, патрэбнасьць якіх адчуваецца з надзвычайнай вастратой і будзе павялічвацца з ростам нашага сацбудаўніцтва.

Вучні, узброеныя ў школе ведамі ў галіне геолёгіі і мінэралёгіі і навыкамі геолёгічных дасьледаваньняў, могуць шырока разгарнуць разьведачную работу і паза школай у выхадныя дні, у час летняга перапынку і інш., праводзячы разьведачную работу па берагох рэчкі, ручаёў, у абвалах і апоўзьнях аўрагаў, берагоў рэк, вясеньніх разводзьдзяў гор, узгоркаў, пры капаньні калодзежаў, правядзеньні чыгунак, шасэйных дарог і інш. работах, калі зьяўляецца магчымасьць даведацца, з чаго складаюцца глыбокія пласты зямлі. Задача школы ў тым, каб даць найлепшы напрамак праяўленьню любазнацельнасьці вучняў і іх дасьледчым інстынктам, азнаёміць з тэхнікай дасьледчай працы (адшуканьне, этыкетаж, азначэньне ўзораў, месца) і ўстанавіць цесную сувязь з адпаведнымі плянуючымі, гаспадарчымі і дасьледчымі ўстановамі. Больш паглыбленыя дасьледчыя работы вучняў у пэўнай галіне можна разгарнуць шляхам арганізацыі пры школе краязнаўчай ячэйкі.

Цэнтральнае бюро краязнаўства цяпер распрацоўвае спэцыяльныя інструкцыі і праграмы па дасьледчай працы. Апрача таго, ЦБК дае парады і ўказаньні па ўсіх пытаньнях арганізацыі масавай дасьледчай працы. На старонках часопісу „Савецкая Краіна" зьмяшчае паведамленьні аб новых находках карысных выкапняў.

У маі-чэрвені 1932 году павінен распачацца масавы дасьледчы паход камсамольцаў, турыстаў, краязнаўцаў і школ для вывучэньня прыродных багацьцяў нашай краіны. 2-ю пяцігодку мы павінны сустрэць выяўленьнем новых запасаў сыравіны для новых індустрыяльных камбінатаў. Кожны раён павінен дакладна ведаць свае прыродныя багацьці, выкарыстаць іх з максымальнай эфэктыўнасьцю для сацыялістычнага будаўніцтва. Для вырашэньня гэтай вялікай адказнай задачы значную ролю павінны адыграць нашы ВНУ, тэхнікумы, ФЗС, ШКМ і пачатковыя школы.

Мікалай Войтка

## Твар вясковае школы.

*(Вопыт працы ў Хацюхоўскім с/савеце Крупскага раёну)*

„Надо, чтобы все дело воспитания, образования и учения современной молодежи было воспитанием в ней коммунистической морали“.
(Ленин—Речь на Всероссийском с'езде РКСМ 4/х-1920 г..)

### 1. „Лісты і карэньні“.

Да рэволюцыі 1917 году на тэрыторыі сучаснага Хацюхоўскага сельсавету (былая Халопеніцкая воласьць Барысаўскага павету) былі толькі тры школы. У вёсцы Старыя-Шчаўры здаўна (яшчэ да 1905 году) была адчынена царкоўна-прыходзкая школа. У гэтай жа вёсцы была вялікая царква.

Пасьля адчынілі казённую школу ў в. Восава, потым у в. Хацюхова (цяперашні цэнтр с-савету). Ахоп дзяцей школамі быў зусім нязначны. Школа выхоўвала пакорлівых, прыніжаных паслугачоў царызму, царквы і іх служак. Закон божы зьяўляўся галоўным прадметам вывучэньня; славянскае чытаньне, зуброжка малітваў, патрыятычных, вялікадзяржаўных вершаў, гімнаў—заядалі вучняў.

Старашчаўроўскі поп быў кіраўніком выхаваньня вучняў, ён даваў настаўленьні як вучням, так і настаўнікам, ён глядзеў, каб вучні, пасьля сканчэньня школы, былі надзейнай апорай самаўладзтва, царквы, каб яны некалі, у патрэбны час, склалі палкі „хрыстовага воінства“-якое-б абараняла інтарэсы крывасмокаў.

Да рэчы прывесьці прыклад ідэолёгічнага кантролю папом школы і настаўніка. Настаўнік Шчаўроўскай царкоўна прыхадзкой школы Іван Трафімавіч на лекцыі разьбірае байку Крылова „Листы и корни“. Вучні ўважліва слухаюць:

— Мы те,—
Им (лісьцям—М. В.) снизу отвечали:
— Которыя, здесь роясь в темноте,
Питаем вас (лісьце—М. В.). Ужель не узнаете?
Мы—корни дерева, на коем вы цветете:
Красуйтесь в добрый час!“
і далей:
...„С новою весной Лист новый народится:
А если Корень иссушится,—
Не станет дерева, ни вас“.

Вучні адразу зразумелі, што пад „лістамі“—трэба разумець „тых, хто нічога ня робіць, а добра ўжывае“, а пад „корнямі“—тых, хто век пакутвае і жыве абы як.

Яшчэ шырэй расказаў аб гэтым дзецям рэволюцыйна настроены настаўнік. (Даўней у царкоўна-прыходзкія школы пасылалі больш чарнасоценска настроеных настаўнікаў, апрычнікаў самаўладзтва. Іван Трафімавіч—выключэньне).

— Хто ў нас нічога ня робіць, а хваліцца „густатой, зеленостью своей“, „что мы краса долины всей“, „что нами дерево так пышно и кудряво, раскидисто и величаво“,—спытаў Іван Трафімавіч у вучняў.

— Шчаўроўская пані ды й поп наш нічога ня робяць, а толькі ходзяць!.. у адзін голас адказалі вучні.

— А хто іх корміць?

— Корні—мужыкі!..—аднагалосна адказалі вучні. Вучні зразумелі, хто вораг іх бацькоў. Вучні ажывіліся, лекцыя прайшла жвава, актыўна. На перапынках толькі гутарылі аб „лістох“ і „карэньнях“. Дома расказалі бацьком. Пашлі шэпты па вёсцы сярод дарослых. Пачуў аб гэтым поп. На заўтрае на лекцыю ўбягае поп і садзіцца на заднюю скамейку. Бывала прыдзе лагодна, перахрысьціць вучняў, настаўнік у яго пацалуе руку. Поп прасядзеў усе лекцыі. Пасьля застаўся з Іванам Трафімавічам „наедзіне“.

—Што ты такое чытаў дзецям, што яны распаўсюджваюць чуткі па вёсцы? Гавораць, што мужыкі гэта „корні“ і кормяць „лісьце“—паноў, папоў. Гавораць, каб ня было „корняў“, ня было-б і „лісьцяў“.

Настаўнік паведаміў, што разьбіраў байку Крылова.

— Дурак, Іван Трафімавіч!.. Лепей зусім не разьбіраць такія байкі. А калі хочаш пазнаёміць, дык толькі прачытай.

Настаўніка Івана Трафімавіча амаль ня зьнялі з працы ў Шчаўроўскай царкоўна-прыходзкай школе за „неблагонадежность“...

У тых вёсках, дзе ня было школ, сяляне наймалі вучыць сваіх дзяцей, так званых, „дарэктароў“. Гэта—маладыя хлопцы, што самі нядаўна скончылі пачатковую школу. „Дарэктар“ навучаў дзяцей па хатах, або сяляне самі наймалі ў вёсцы памяшканьне. Платай за навучаньне было—адзін рубль за зіму з вучня, ну і дармова па чарзе кармілі яго.

За колькі зім такі дарэктар навучаў дзяцей маліцца богу, крыху чытаць, пісаць, задачкі разьвязваць.

Дзеці ня слухалі сваіх „дарэктароў“, бо апошнія не маглі цікава для дзяцей арганізаваць навучаньне.

Каб дзеці былі паслухмяныя, „дарэктар“ іх біў, ставіў каленкамі на жвір. Часта здаралася, што дарослыя вучні хэўрай білі свайго дарэктара.

Школкі з „дарэктарамі“ былі аж да рэволюцыі 1917 году.

## 2. Усеагульнае навучаньне

Пасьля рэвалюцыі былі адчынены школы ў в. в. Падбярэзьзе, Ігрышча, Вяршоўка, Прудзец. У в. Хацюхова ў 1930 годзе была адчынена сямігодка.

Два гады як у Хацюхоўскім с-савеце ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне дзяцей 8-11-гадовага ўзросту і перарасткаў 12-15 год.

Па сельсавету налічваецца 520 дзяцей 8-11 год ад роду і перарасткаў 318 чалавек.

У 1931-32 навучальным годзе толькі тры школы ў с-савеце (Хацюхова, Шчаўры, Падбярэзьзе) распачалі заняткі з 1-га верасьня. Восаўская, Вяршоўская, Ігрышчынская школы пачалі заняткі толькі з 1-га лістапада, а Прудзецкая школа—ў лютым месяцы 1932 году. Галоўная прычына гэтаму—адсутнасьць настаўнікаў.

У лістападзе 1931 году ахоп школамі дзяцей школьнага ўзросту вызначаўся ў 96 проц. да агульнага ліку абавязкоўцаў; у тых школьных вучастках, дзе працавалі школы (акрамя в. Прудзец), ахоп перарасткаў вызначаўся ў 77 проц.

У красавіку 1932 г. ахоп школамі вучняў быў наступны (гл. табліцу № 1):

Табліца №1

| Лік дзяцей школьнага ўзросту (8-11 г.) па сельсавету | З іх наведвала школу ў красавіку | Што складае ў % | Лік перарасткаў па с-с | З іх скончыла школу | Наведвае школу | Што складае ў % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 520 | 509 | 98 | 318 | 40 | 195 | 70,2 |

Ахоп кожнай школай дзяцей у сваім школьным вучастку быў наступны:—красавік 1932.

Табліца № 2.

| №№ чаргі | Назва школьнага вучастку | Лік дзяцей 8-11 г. | З іх наведвае | Лік ерарасткаў | З іх наведвае |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Вяршоўка . . . | 58 | 56 | 21 | 19 |
| 2 | Прудзец . . . . | 35 | 33 | 9 | 9 |
| 3 | Шчаўры . . . . | 100 | 98 | 25 | 25 |
| 4 | Ігрышча . . . . | 70 | 61 | 30 | 26 |
| 5 | Падбярэзьзе . . | усіх вучн 85 ч. з іх наведвае 82 ч. | | | |
| 6 | Хацюхова . . . | 124 | 117 | 52 | 40 |
| 7 | Восава . . . . . | 59 | 59 | 9 | 8 |

Усіх перарасткаў 74, але 22 скончылі школу.

Пачынаючы з верасьня месяца і на працягу ўсяго навучальнага году, па вёсках і школьных вучастках настаўнікі разам з членамі камсоду вядуць растлумачальную работу сярод бацькоў: робяцца даклады аб усеагульным абавязковым навучаньні, ліквідацыі няпісьменнасьці. Загадчыкі школ робяць перад бацькамі справаздачы аб працы школы, інфармуюць аб наведваньні і посьпехах і недахопах у працы вучняў. Кожная школа рабіла два-тры разы такія інфармацыі перад насельніцтвам свайго школьнага вучастку. Бяднейшым вучням была арганізавана дапамога: дармовая выдача абутку, адзежы. Значная колькасьць вучняў атрымала адзежу і абутак у паўцаны.

У некаторых школах, дзе вучням далёка хадзіць у школу, быў арганізаваны падвоз вучняў (Хацюхова, Ігрышча, Шчаўры.)

Увядзеньне ў некаторых школах (Хацюхова, Шчаўры, Падбярэзьзе) гарбаты для вучняў спрыяла таму, што лік пропускаў значна паменшыўся, вучні акуратна пачалі наведваць школу, зьнішчылася „дэзэртырства“ са школы.

У другой палове красавіка пачынаецца „вясеньні адсеў“ вучняў з школ.

У гэтым годзе наглядаецца тое самае, што і ў мінулых гадох. Амаль 50 проц. вучняў, у першай палове мая месяца, адсутнічае ў школе: адны пасуць жывёлу, другія заняты с.-гаспадарчай работай, тыя—дома.

Мэтаб'ядналньне мабілізавала настаўнікаў і камсоды на барацьбу з адсевам вучняў са школ. У кожнай вёсцы, дзе ёсьць вучні, былі праведзены сходы бацькоў, дзе настаўнікі і члены с.-савету завастрылі пытаньне аб недапушчальнасьці адсеву вучняў з школ, аб неабходнасьці наведваць вучням школы да канца навучальнага году (да 10/VI). Пасьля гутарак з сялянамі—бацькамі наведваньне ізноў наладзілася, 95—98 проц. дзяцей ізноў наведвае школу.

Добра пастаўленая і праведзеная растлумачальная праца аб усеагульным навучаньні сярод шырокіх мас насельніцтва—залог добрага наведваньня вучнямі школ і пасьпяховага заканчэньня навучальнага году. Гэтага дабіліся настаўнікі Хацюхоўскага с.-савету ўвесну 1932 году.

### 3. Матар'яльная база школ

З працуючых у сельсавеце сямі школ— дзьве школы працуюць у наёмных памяшканьнях (Прудзец, Восава), астатнія школы маюць спэцыяльныя памяшканьні.

Вучэбных прылад школы маюць недастатковую колькасьць. Некаторыя школы (Прудзецкая, Восаўская, Вяршоўская) акрамя глёбуса, карт—нічога ня маюць.

Рабочыя пакоі арганізаваны толькі ў двух школах (Хацюхоўская ШКМ і Шчаўроўская 4-кампле ктовая школа). У пакоях ёсьць інструмант для апрацоўкі дрэва і г. д.

Хацюхоўская ШКМ дагаварылася з калгасам аб перадачы некаторых прылад, карысных для політэхнізацыі, у рабочы школьны пакой. Калгас „Чырвоны Кастрычнік“ адпусьціў у карыстаньне школы два варштакі і другі інструмант.

Забясьпечанасьць школ падручнікамі зусім недастатковая, а гэта ў дрэнны бок адбіваецца на выкананьні гадавых вытворчых плянаў школ, на прахаджэньні і замацоўваньні праграмнага матар'ялу.

Зусім мала чытанак па расейскай мове, і навыкі ў расейскім чытаньні, пісьму зусім нездавальняючыя. У Хацюхоўскай ШКМ у 5 групе—1 экз. расейскай граматыкі на 50 вучняў. Недастатковая колькасьць падручнікаў па грамадазнаўству, прыродазнаўству. Гэта робіць прарывы ў пасьпяховым праходжаньні вучэбных праграм, гэта паглыбляе „карэнны недахоп“ школ.

На працягу году некалькі раз здаралася, што школы па 2 месяцы заставаліся бяз сшыткаў, алоўкаў. Пісаньне—як навык, зрывалася, бо ня было на чым і „чым“ пісаць. Трэба аддаць справядлівасьць— Хацюхоўскае сельпо было прычынай гэтаму прарыву. У той час, калі сшыткі і алоўкі ляжалі на базе, сельпо не жадала іх прывозіць, хоць дастаўляць памянёныя рэчы яно абавязана.

У большасьці школ маюцца вучасткі зямлі, агароды (ад 0,5 га да 2 га), якія можна-б было скарыстаць для ўзмацненьня матар'яльнай базы школ; для арганізацыі гарачага сьнеданьня, для навыкаў па апрацоўцы зямлі, пасеву.

Мяркуецца ў наступным навучальным годзе ва ўсіх школах с.-савету (чаго

ня было ў гэтым годзе) арганізаваць гарачае сьнеданьне, гарачую гарбату для вучняў.

Для гэтага патрэбны прадукты. Некаторыя прадукты (гароднiна, бульба) можна расьціць на сваіх школьных агародах.

Пры некаторых школах ёсьць значныя сады (Вяршоўка), але яны запушчаны. А колькі можна было-б ўзяць з іх яблык, колькі прынесьці карысьці школе, вучням! Апрацоўваючы школьныя агароды, даглядаючы сады, вучнёўскі калектыў набываў-бы шэраг палітэхнічных навыкаў. Усё гэта можна зрабіць і без цяжкасьцяй, каб некаторыя школы мелі таварыскую падтрымку з боку сваіх калгасаў (на тэрыторыі каторых працуюць школы). Некаторыя калгасы („Бальшавік", „Прудзец", „Чырвоны Сьцяг") зусім адказаліся, што кольвек дапамагчы школам у засеве школьных вучасткаў, адмовіліся даць насеньне.

Гэта гаворыць аб тым, што няма яшчэ між некаторымі калгасамі і школамі таварыскай, моцнай сувязі,і гэта гаворыць яшчэ і аб фармальным падыходзе з боку некаторых праўленьняў калгасу да заключэньня сацумоў між школай і калгасам.

І гэта трэба пераламаць.

## 4. Барацьба з „карэнным недахопам" школы

У II паўгодзьдзі школы пачалі працу па новых праграмах, перашлі на прадметную сыстэму выкладаньня.

Усе школы па групах маюць расклады лекцый. Большасьць школ маюць гадавыя вытворчыя пляны, маюцца дэкадныя вучэбныя пляны па дысцыплінах. Вядзецца сталы вучот працы.

Пры пераводзе працы школ на новыя праграмы пры пераходзе на прадметную сыстэму выкладаньня—некаторыя настаўнікі (галоўным чынам П.Шчарбакоў—ШКМ) праваапартуністычна разумелі прадметную сыстэму ў умовах савецкай політэхнічнай школы. Яны жадалі адарваць родныя між сабою дысцыпліны, зрабіць „кітайскую сьцяну" між імі. Разумелі прадметную сыстэму такой, якой яна была ў старой царскай дарэволюцыйнай школе, і хацелі яе адрадзіць у ўмовах савецкай школы. Бо думка аб абрыве родных між сабою дысцыплін—практыка старой школы. Такому апартуністычнаму разуменьню прадметнай сыстэмы ў савецкай школе большасьць настаўнікаў Хацюхоўскага с.-савету дала справядлівы адпор. Апартуністычнае разуменьне сыстэмы было дашчэнту разьбіта... З сямі школ с.-савету, тры школы двухкамплектныя (Падбярэзьзе, Восава, Ігрышча), дзе павінна быць па два настаўнікі.

У гэтым годзе ў памянёных школах, з-за адсутнасьці настаўнікаў, працуюць толькі па аднаму настаўніку. Праца з 4-мя групамі вядзецца ў дзьве зьмены.

Настаўнік заняты на працы 8-9-10 гадзін у суткі. Перагружанасьць настаўнікаў у гэтых школах спрыяе таму, што некаторыя навыкі, веды, што павінны глыбока распрацоўвацца ў школе, распрацоўваюцца павярхова, вучні ня маюць на 100 % тыя веды, што патрабуе праграма па кожнаму асобнаму прадмету.

Кепская забясьпечанасьць школ падручнікамі, або зусім адсутнасьць некаторых, зусім недастатковае забесьпячэньне школ вучэбнымі прыладамі (картамі, глёбусам, тэрмомэтрамі, баромэтрамі і інш.), адсутнасьць па два месяцы (!) паперы—як нельга лепей спрыяюць таму, што карэнны недахоп школы ў сучасны момант (...„обучение в школе не даёт достаточного об'ёма общеобразовательных знаний и неудовлетворительно разрешает задачу подготовкі... вполне грамотных людей, хорошо владеющих основамі наук: математика, родной язык, география, физика и т. д.—пастанова ЦК УсеКП(б) аб школе.) яшчэ ня зжыт у практыцы школ Хацюхоўскага с.-савету.

Вучні III і IV груп Восаўскай і Грышчанскай, Падбярэскай школ зусім кепска чытаюць і пішуць па расейскай мове. Большасьць вучняў першага канцэнтру старэйшых груп (III і IV-й) ня могуць расказваць прачытанае, кепска апішуць пераказ, слаба ведаюць правапіс, граматыку.

З арытмэтыкай таксама кепска. Вучні III і IV груп Восаўскай школы ня могуць множыць, дзяліць дзесятковых дробаў, што павінны ведаць „як мае быць".

Гэаграфічны, грамадазнаўчы матар'ял таксама недастаткова замацоўваецца.

Здараюцца такія казусы—вучні гавораць, што ёсьць такая рака Індыя (з Восаўскай школы), а вучні VI групы Хацюхоўскай ШКМ ня ведалі „каго скінулі ў лютым 1917 году, а каго ў кастрычніку 1917 г.“

Непасьпяховае зьнішчэньне „карэннага недахопу“ школы тлумачыцца яшчэ і тым, што некаторыя настаўнікі недастаткова пэдагогічна адукаваны, а то зусім ня маюць пэдагогічнай асьветы, слаба адукацыя агульная. Ёсьць настаўнікі (два), што самі скончылі толькі 5 груп сямігодкі; ёсьць, што скончылі аднагадовыя пэдкурсы, бухгальтарскія курсы, 6-ці месячныя пэдкурсы. Вядома, такая пэдагогічная асьвета настаўнікаў ня можа здавальняць запатрабаваньні праграм Наркамасьветы, пасьпяхова і хутка змагацца з карэнным недахопам школы. Сярод скончыўшых пэдтэхнікумы (такіх у с/савеце 5) ёсьць такія, што пры прапрацоўцы матар'ялу дапускаюць прымерна такую бязглуздзіцу: „Парыская Камуна пад кіраўніцтвам Комінтэрну не змагла ўтрымаць уладу ў сваіх руках“ і г. д.

Памянёнае яшчэ раз пацьвярджае правільнасьць слоў т. Бубнова аб тым, што нам трэба катэгорычна адмовіцца ад каротка-тэрміновых (3-х і 6-ці месячных) пэдкурсаў на базе сямігодкі, а то і ніжэй, бо з іх вельмі малы пэдагогічны толк.

Культармейцы, што працуюць настаўнікамі і ня маюць пэдасьветы —часта энтузыясты ў працы, але ў іх вялізарныя прарывы у выкананьні праграм, у барацьбе з каранным недахопам школы.

Гэта гаворыць, што на мясцох трэба разумна арганізаваць дапамогу слабейшым у пэдагогіцы настаўнікам.

Мы ўказалі, што асновы навук (асноўная частка палітэхнічнага навучаньня) недастаткова замацоўваюцца вучнямі школ Хацюхоўскага сельсавету, гэтым самым поўнасьцю ня выконваюцца праграмы па прадметах, указалі галоўныя прычыны, што абумоўліваюць гэта „недастатковае замацаваньне, усваеньне“

Палітэхнічнае навучаньне ў школах павінна знаёміць вучняў „в теории и на практике со всеми главными отраслями производства, проводить тесную связь обучения с производительным трудом“ (з пастановы ЦК Усе КП(б) аб школе). Недастатковая матар'яльная база школ, аб чым было ўказана вышэй, не дазваляе шырока прымяніць гэтае ўказаньне ЦК партыі ў штодзённай практыцы школ. Але спробы ёсьць.

У Хацюхоўскім с/савеце будуецца і хутка пачне працаваць льнозавод № 21, у в. Хацюхове, недалёка ад льнозавода, ёсьць паравы млын. Вучні Хацюхоўскай ШКМ разам з настаўнікамі, групаводамі, прадметнікамі некалькі разоў хадзілі на завод вывучаць яго пабудову і тыя машыны, што мае завод: дынама і г. д. Хадзілі на млын вывучаць локаматыў, праходзячы па фізыцы адпаведны матар'ял. Увесну працуюць у палітрактары— вучняў знаёмяць з трактарам, з прыцэпнымі машынамі.

Дзьве школы ў с/савеце—Хацюхоўская ШКМ і Шчаўроўская 4-х к. школа адчынілі рабочы пакой, дзе вучні знаёмяцца з апрацоўкай дрэва, сартамі дрэва і г. д., робяць некаторыя патрэбныя рэчы: вешалкі, табурэткі, шпакоўніцы для шпакоў.

Вучні наведваюць у арганізаваным парадку кузьні, дзе знаёмяцца з тэхнолёгіяй жалеза. Тры школы ў с/савеце маюць сацумовы з калгасамі (Шчаўры, Хацюхова, Ігрышча), выкананьне ўмовы час-ад-часу правяраецца спэцыяльнай камісіяй. Маюцца дадатныя вынікі—калгасы даюць у рабочы пакоі некаторыя інструманты, школа дапамагае калгасу выпусьціць насьценгазэту, даглядаць сад, прывесьці ў санітарны выгляд калгасны двор (грамадзка-карысная праца).

У астатніх школах с/савету, дзе працуе толькі адзін настаўнік, сувязь між тэорыяй і вытворчай працай амаль адсутнічае. Прычына гэтаму—перагружанасьць настаўніка, што працуе ў дзьве зьмены, або ў адну ды з чатырма групамі адразу—раз, і, па-другое трэба прызнаць, што некаторыя настаўнікі ня могуць увязаць тэорыі з практыкай, бо самі зусім слаба „палітэхнічна“ адукаваны.

Інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне ў школах у асноўным пастаўлена здавальняюча (выключэньне—Восаўская школа). Але час ад часу адрыжка старыны ў нацыянальным пытаньні прыму-

шае зьвяртаць асаблівую ўвагу на пастаноўку інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня ў школах. Яшчэ можна пачуць і слова „жыд“ і варожыя адносіны да вучня—яўрэя.

У некаторых школах па с/савету шмат вучняў—расейцаў („стравераў“, як іх тут называюць) Некаторы час наглядаліся не таварыскія адносіны з боку вучняў-беларусоў да расейцаў у Хацюхоўскай ШКМ. Адна вучаніца VI групы заявіла вучню-расейцу:

— „Вам кацапам, толькі красьці па начох, а не вучыцца“

Пэдкалектыў,- самакіраваньне вучняў ШКМ шырока абгаварыла такі варожы погляд на расейцаў. Настаўнікі, пры праходжаньні праграм, асаблівую увагу зьвяртаюць на інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне вучняў. У групах ня рэдка настаўнік чытае мастацкія творы, дзе закранаюцца пытаньні інтэрнацыянальнага выхаваньня моладзі, як некаторыя новэлі Аскара Эрдбэрга („з кітайскіх новэль“), вершы Лугоўскага, Маякоўскага і іншых пралетарскіх пісьменьнікаў.

Мастацкае чытаньне мае вялікае выхаваўчае значэньне, жаль толькі, што ня ўсе настаўнікі сур‘ёзна да яго падыходзяць. Ня ўсё добра на антырэлігійным фронце. Як толькі каляды, вялікдзень ды іншыя рэлігійныя сьвяты, 50—55% вучняў няма ў клясе. У вербную нядзелю 1932 г. значная частка вучняў па с/савету, замест таго, каб ісьці ў школу, пайшла „сьвянціць“ вярбу ў цэркаў. Вялікі яшчэ ўплыў сям‘і на вучняў. Калі пачнеш пытаць вучня, што насіў сьвянціць вярбу ў цэркаў:—„Чаму-ж ты ня прышоў у школу, а пайшоў у цэркаў?“, дык ён адкажа:—„Матка мяне ў школу ня пусьціла, а павяла ў цэркаў“...

Гэта гаворыць, што недастаткова яшчэ мы вядзем антырэлігійную працу сярод дарослых, сярод бацькоў. „Па-кампанейску“ адносімся да антырэлігійнай працы: пачынаем гаварыць аб ёй толькі ў час так званых каляд ды вялікадня, а потым—„а ні дзын“.

Насьценгазэты ў школах маюць вялікі выхаваўчы ўплыў на вучняў. У сваіх газэтах вучні навучаюцца пісаць карэспандэнцыі, і з іх растуць новыя кадры селькораў, а потым і пісьменьнікаў. У Хацюхоўскай ШКМ маюцца груповыя насьценгазэты.

* *
*

З восені 1931 году мэтаб‘яднаньне сыстэматычна пачало дапамагаць у працы тым настаўнікам, што маюць слабую, недастатковую пэдагічную асьвету, або зусім яе ня маюць. На працягу году на паседжаньнях мэт-аб‘яднаньня былі распрацаваны даклады: „Самакіраваньне ў школе“, „Сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў працы школы“, „Мэтады працы ў палітэхнічнай школе“, „Інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне ў школе“ і інш.

Акрамя дакладаў, дапамога вялася шляхам практычных лекцый. Практычныя лекцыі праводзіліся ў чатырох школах (Падбярэзьзе, Ігрышча, Восава, Вяршоўка). У школу, дзе павінны былі адбыцца практычныя лекцыі настаўніка, прыяжджалі ўсе настаўнікі з с/савету. Пасьля лекцый настаўнікі давалі прапановы, як палепшыць працу, рабілі заўвагі і г. д. Загадчык школы рабіў справаздачу аб працы, аб цяжкасьцях, дасягненьнях і недахопах.

Выявілася, што ў памянёных школах, акрамя Восаўскай, пастаноўка школьнай працы больш менш здавальняючая. Фармальныя адносіны да працы загадчыка Восаўскай школы прывялі школу амаль да развалу. Школа да сакавіка 1932 году (пачынаючы з пачатку навучальнага году) ня мела ніякіх навучальных плянаў, настаўнік ня вёў вучоту, ня было сьпісу вучняў, ніколі не рабілася праверка вучняў—хто ёсьць у клясе, а каго—няма.

Новыя, актыўныя мэтоды ў працы адсутнічалі. Вучні III і IV груп кепска чыталі, пісалі, не маглі дзейнічаць з дзесятковымі дробамі.

Надворны выгляд школы:—сьцены абшарпаны—абоі абарваны, печ разьбіта, павыбіваны вокны. Школа мела нейкі „пасьляпагромны“ выгляд. На сьценах ніводнага лёзунгу. Антырэлігійнае, інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне зусім адсутнічала. Настаўнік не зьвяртаў

ніякай увагі на тое, каб палепшыць працу школы. Настаўнік фармальна, „па-казённаму“, адносіўся да такой важнай справы, як школьная. Фармалізм абярнуўся ў шкодніцтва, давёў да развалу школу. Трэба было пакласьці шмат працы мэтаб'яднаньню, каб справу ў гэтай школе наладзіць. За апошні час і сам загадчык больш сьвядома, па-„настаўніцку“ пачаў адносіцца да сваіх абавязкаў.

## 5. Піянэры. Школьнае самакіраваньне.

Камуністычны рух—арганізацыя піянэрскіх атрадаў у школах—пачаўся сярод дзяцей толькі ўзімку 1932 году. Цяпер у с/савеце налічваецца 148 піянэраў; Арганізаваны чатыры піянэратрады: пры Шчаўроўскай школе з 30 чал., Хацюхоўскай - 53 чал., Падбярэскай—33 чал., Восаўскай—32 чал. Атрады разьбіты на зьвеньні, і вядзецца палітасьветная і выхаваўчая праца. Піянэры змагаюцца за якасьць вучобы, за зьнішчэньне карэннага недахопу школы.

Яны—ініцыятары арганізацыі дапамогі адстаючым вучням, утварэньня спэцыяльных гурткоў для адстаючых вучняў. Гэта яскрава можна заўважыць у практыцы Хацюхоўскай ШКМ і Шчаўроўскай школы. Піянэры першай бяруцца за выпуск насьценгазэт, як агульна школьных, так і групавых (Хацюхова, Шчаўры).

Піянэр-атрады ўдзельнічаюць у розных кампаніях: імі сабрана 93 пуды попелу; завярбавана падпішчыкаў на газэты на суму 25 р. Яшчэ праца піянэрбазы і піонэратрадаў даволі недастаткова.

Трэба шырэй разгарнуць камуністычнае выхаваньне ў атрадах.

Трэба арганізаваць атрады і па астатніх трох школах, дзе яшчэ іх няма [1].

[1] Да рэчы ўспомніць: пры арганізацыі піянэр-атраду ў Вяршоўскай школе (у в. Вяршоўка яшчэ няма калгасу) вучні адмовіліся стаць піянэрамі. Нельга было арганізаваць піянэр-атрад.

Гэта гаворыць аб слабой пастаноўцы камуністычнага выхаваньня ў школе.

**Аўтар.**

Добрая арганізацыя вучнёўскага самакіраваньня выхоўвае ініцыятыўных, энэргічных, актыўных вучняў—будучых савецкіх працаўнікоў.

Здавальняюча наладжана школьнае самакіраваньне вучняў у Хацюхоўскай ШКМ, Шчаўроўскай ды Ігрышчынскай школах, у астатніх школах яно праведзена фармальна,—амаль не працуе. Настаўнікі з-за адсутнасьці часу (Падбярэская і др. шк.) мала ўдзяляюць увагі самакіраваньню.

У школах, дзе наладжана самакіраваньне вучняў, па групах арганізаваны групкомы, што наглядаюць за жыцьцём групы, наладжваюць дысцыпліну ў час перапынку, і на лекцыях арганізоўваюць дапамогу адстаючым вучням, клапоцяцца аб выпуску насьценгазэты ў групе, садзейнічаюць заключэньню сацумоў між брыгадамі і г. д.

Па школах арганізаваны гурткі: бязбожнікаў, паліт-гурток. У Хацюхоўскай ШКМ акрамя пямянёных—яшчэ працуюць вайсковы і краязнаўчы гурткі. Арганізаваны добраахвочыя таварыствы—ячэйкі: Аўтадор, Асаавіяхім, Бязбожнік.

У большасьці школ с/савету між вучнямі разгорнута сацспаборніцтва, як між школамі, так і між групамі ў школах, а ў Шчаўроўскай і Хацюхоўскай школах між брыгадамі ў групах. Выкананьне сацумовы правераецца два разы ў месяц. Прывядзём узорную сацумову, што заключылі між сабою брыгады 2 й групы Хацюхоўскай ШКМ у 1932 годзе.

— „Для таго, каб добра засвойваць веды, што даюцца ў савецкай школе, вучні чатырох брыгад 2-й групы Хацюхоўскай ШКМ абавязуюцца:

1. Ніводнага працоўнага дню не прапусьціць без уважлівай прычыны (уважлівай прычынай лічыцца хвароба вучня)

2. У час лекцый і перапынкаў павінна быць добрая працоўная дысцыпліна:

3. Не пазьніцца на лекцыі, акуратна прыходзіць да 9 й гадзіны раніцы.

4. Добра, уважліва прапрацоўваць навучальны матар'ял, як ў школе так і дома.

5. Кожны вучань павінен выпісаць 1 экз. газэты“ Піянэр Беларусі“, або

часопісу „Іскры Ільліча“. Праверку ўмовы рабіць два разы ў месяц, 16 і 29.

Увесьці чырвоны і чорны лісткі, дзе адзначаць лепшых вучняў, што лепей выконваюць сацумову, і горшых вучняў.

Умову падпісалі брыгадзіры брыгад. Уведзены два лісткі: чырвоны ліст, дзе пішуцца прозьвішчы тых вучняў, што найлепей выконваюць пункты сацумовы, зьяўляюцца ўдарнікамі школьнай працы; чорны ліст, куды заносяцца прозьвішчы вучняў, што найгорш выконваць сацумову (хутчэй ня выконваюць), парушаюць працоўную дысцыпліну, перашка

### Схэма самакіраваньня вучняў у школах Хацюхоўскага сельсавету




джаюць вучыцца другім вучням. Лісток мае вялікае выхаваўчае значэньне, робіць дадатны ўплыў на „парушыцеляў школьнай дысцыпліны“. Адно тое, што вучні самі выяўляюць на групавым сходзе ўдарнікаў працы і зрыўшчыкаў і падкрэсьліваюць, за што лічаць іх ударнікамі, а тых зрыўшчыкамі, мае вялікі выхаваўчы ўплыў на апошніх.

Кантроль калектыву над адзіночкам, што парушае законы калектыву—вялікая сіла, каторая перайначвае характар, настроі адзіночкі, дабліжае апошняга да колектыву, зьвязвае яго агульнымі пачуцьцямі, застаўляе ісьці поплеч. Сацспаборніцтва між брыгадамі ў групах заключана ў Хацюхоўскай ШКМ, Шчаўроўскай школе. Барацьба вучняў за выкананьне пунктаў умовы—барацьба з „карэнным недахопам“ школы. І іншым школам ў пэдагагічнай практыцы трэба ўжыць гэту форму сацспаборніцтва, бо яна зьяўляецца адным з лепшых сродкаў барацьбы за якасьць школьнай працы, за вучобу, за пасьпяховае выпаўненьне школьных праграм.

## 6. Настаўнікі

На тэрыторыі Хацюхоўскага с/савету цяпер працуе сем школ, з іх адна ШКМ, адна—чатырохкамплектная, 3—двухкамплектныя (з-за адсутнасьці настаўнікаў, у двухкамплектных школах працуе паадному настаўніку ў дзьве зьмены) і дзьве школы—аднакамплектныя.

Усіх настаўнікаў у сельсавеце 14 чал. і адзін загадчык піанэрбазы.

Па сацьяльнаму паходжаньню: 10 настаўнікаў—сяляне (бедныкі, серадняні) 2 настаўнікі—служачыя і 2—рабочыя.

Сярод настаўнікаў 1 кандыдат КП(б) Б, два—камсамольцы, астатнія 11 чалавек беспартыйныя.

12 настаўнікаў—сябры саюзу працасьветы. Па нацыянальнасьці: 12 беларусоў, 1—полька і 1—яўрэй.

Адукацыя настаўнікаў разнастайная. Пяць настаўнікаў скончылі белпэдтэхнікумы (3 чал—Барысаўскі, 1 чал.—Аршанскі і 1 чал—Менскі), 1—двухгадовыя пэдкурсы, 1—аднагадовыя пэдкурсы, 1—дзевяцігодку і каротка тэрміновыя пэдкурсы, 1—агульнаадукацыйныя і кароткія бухгалтэрскія курсы, 1—наст. сэмінарыю, 1—жаночую гімназію, 1—завочна скончыў 1 курс пэдфаку (перад гэтым скончыў ня то сэмінарыю, ня то якія-то пэдкурсы); 2—скончылі толькі 5 груп сямігодкі бяз пэдкурсаў і лічацца як культармейцы.

Вытворчы стаж пэдагагічнай працы розны ад дзесяці год да 4 месяцаў. Па полу—7 мужчын, 7 жанчын. Пэнсію настаўнікі атрымліваюць па наступных разрадах: 6 чалавек па 3 разраду, 1 чал па 2-у, а 7 чал. па 1-у разраду.

Для пашырэньня і паглыбленьня палітычных ведаў настаўнікаў прафаб'яднаньне ў 1931-32 годзе ўдзяліла значную ўвагу ў сваей працы на распрацоўку палітычных пытаньняў і пытаньняў гістарычнага матэрыялізму, сапраўды ператварылася ў „школу камунізму".

На працягу году на паседжаньнях прафаб'яднаньня, якіх было 10, былі распрацованы шляхам дакладаў, пытаньняў-адказаў наступныя тэмы палітыкі гістарычнага матэрыялізму:

1. Новая абстаноўка—новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва.

2. Абвастрэньне імпэрыялістычных супярэчнасьцяй і захоп Японіяй Манжурыі.

3. Арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне калгасаў.

4. Разьвіцьцё жывёлагадоўлі.

5. Ліст тав. Сталіна ў рэд. „Пролетарской революции".

6. Даклад т. Аржанікідзе на 17 й партканфэрэнцыі аб выніках разьвіцьця прамысловасьці ў 1931 г. і пэрспэктывах на 1932 г.

7. Аб другой пяцігодцы—даклады т. Молатава і Куйбышава.

8. Прафсаюзы БССР—даклад т. Рыжова на зьезьдзе прафсаюзаў БССР.

9. Чарговыя задачы марксыцка-ленінскага выхаваньня—прамова Постышава.

10. Дзяржава ў марксысцка-ленінскім разуменьні.

11. Дыялектыка грамадзкага разьвіцьця

12. Вучэньне аб ідэалёгіях.

13. Марксызм-ленінізм і рэвізіянізм.

Настаўнікі вядуць вялікую культурнамасавую работу сярод насельніцтва. Ні адна гаспадарча палітычная кампанія не праходзіць без актыўнага ўдзелу настаўнікаў, будзь то: антыкалядная, антывялікодная, першамайская; замацаваньне калгасаў, кантрактацыя пасеваў, мабілізацыя сродкаў, пасяўная кампанія і г. д і г. д.

Настаўнікі разам з актывам калгасьнікаў рыхтуюць спэктаклі, робяць даклады. Прафаб'яднаньне настаўнікаў было ініцыятарам правядзеньня па с/савету дэкады абароны (у сакавіку м-цы). У гэты час настаўнікі з вясковым актывам па шэрагу вёсак с/савету правялі сялянскія сходы, дзе зрабілі даклады на тэму аб супярэчнасьцях капіталізму, вайне ў Кітаі і ваеннай пагрозе супроць СССР, мабілізавалі сродкі ў фонд абароны СССР

Адданая работа настаўнікаў (праўда, ёсьць выключэньні—адзін настаўнік абсалютна не вядзе культурна - масавай работы) сацыялістычнай перабудове с/гаспадаркі, культурнай рэвалюцыі і пабудове бесклясавай грамады пацьвярджае пастанову VIII зьезду працаўнікоў асьветы СССР аб тым, што настаўнікі зьяўляюцца адданай, сапраўднай, моцнай апорай савецкай улады—дыктатуры пралетарыяту і партыі.

У зьвязку з пастановамі XVII партыйнай канфэрэнцыі роль настаўнікаў, як выхаваўцаў ідэалёгіі пралетарыяту — ідэалёгіі калектывізму,—яшчэ ўзрасьце. Пастановы канфэрэнцыі патрабуюць ад настаўнікаў яшчэ большай клясавай чуласьці, пільнасьці, партыйнасьці ў працы, аўладаньня тэорыяй—вучэньнем Маркса, Леніна, Сталіна, Марксысцкай пэдагогікай,—каб перавыхоўваць масы падрастаючага пакаленьня і дарослых. У гэтым напрамку (аўладаньне вучэньнем Марксызму-ленінізму) будзе працаваць Хацюхоўскае прафаб'яднаньне і надалей.

Снабжаюцца настаўнікі прадуктамі харчаваньня і прамтаварамі праз сельпо і ў калгасах.

Сем настаўнікаў і іх утрыманцы прымацованы да Хацюхоўскага сельпо па атрыманьні хлеба, крупы і інш., астатнія сем настаўнікаў і іх утрыманцы прымацованы да калгасаў (3 настаўнікі да калгасу „Чырвоны Кастрычнік", 2—да калгасу „Варашылаў" і 2—да калгасу „С. Шчаўры"). Настаўнік атрымоўвае ў месяц ад сэльпо, або ад калгасу—мукі— 12 клгр 600 гр. (за красавік атрымоўваў 11 клгр 500) 1 клгр. круп, цукер. Калі сельпо не снабжае настаўнікаў, прымацованых да яго, мясам, дык 1 клгр— 2 клгр. мяса настаўнік атрымоўвае ў суседнім калгасе, калі, вядома, там яно ёсьць.

Былі выпадкі адваротнага (калгас „Чырвоны Кастрычнік"). Было мяса, але настаўнікам (дваім) мяса ня выдалі. Наглядаецца гэта і па іншых калгасах сельсавету, дзе ў праўленьні ня рэдка сядзяць „кансэрватыўныя бычкі".

Прамтавары настаўнікі атрымоўваюць праз сельпо. Кожны настаўнік за год атрымаў мануфактуры на 15 руб. ды па аднэй хустцы.

У працы мясцовага Хацюхоўскага сельпо некаторы час наглядаўся нэпаўскі, гандлярскі настрой (люты-сакавік 1932 г.) і нядобрасумленнасьць у працы некаторых працаўнікоў с/по. Стоіць настаўніку на дзень-два запазьніцца з атрыманьнем таго ці іншага тавару (мануфактура, хусткі), як сельпо зараз перавядзе яго ў іншы фонд. Тады чакай настаўнік у мора пагоды!

Аднойчы здарылася яшчэ горш. Замест 22 кускоў мыла, прызначаных для настаўнікаў Хацюхоўскага с/с райснабам Хацюхоўское с/по выдала толькі 12 кускоў. Таксама ня ўсе былі выдадзены хусткі. Вядома, цярпець на далей такога становішча ў працы сельпо было нельга— умяшалася пракуратура Крупскага раёну.

Амаль пры кожнай школе ёсьць агароды. Настаўнікі іх засяюць бульбай, агароднінай. Некаторыя маюць уласных кароў, сьвіней.

## Ліквідацыя няпісьменнасьці

Агульны лік няпісьменных ад 16 да 45 гадоў узросту па сельсавету вызначаецца лічбай у 518 чалавек. На 18 лікпунктах, што былі адчынены ўвосень 1931 году ў с/савеце, навучалася 350 няпісьменных, 120 няпісьменных (галоўным чынам жанчын, што з груднымі дзяцьмі, або цяжарныя) навучаліся дома. 48 няпісьменных зусім ня было ахоплена ліквідацыяй няпісьменнасьці па аплошнасьці ліквідатараў і не па сваячасовым рэагаваньні мэткіраўніка. Значыць 91 проц. няпісьменных навучаліся на лікпунктах і „на даму".

Ліквідатарамі былі некаторыя настаўнікі (5 настаўнікаў), некаторыя вучні старэйшых груп Хацюхоўскай ШКМ, некаторыя калгасьнікі, што скончылі пачатковыя школы. Некалькі разоў скліказіся нарады ліквідатараў, дзе ставіліся і распрацоўваліся пытаньні: мэтады навучаньня чытаньню, пісьму, лічэньню, бягучай палітыцы на лікпунктах; барацьба за якасьць вучобы на лікпунктах; барацьба за ахоп лікпунктамі, няпісьменных і г. д.

Хоць з боку настаўніцтва і ліквідатараў вельмі шмат увагі і працы аддавалася на ліквідацыю няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва: шырока па вёсках вялася растлумачальная праца аб значэньні пісьменнасьці для краіны, што будуе соцыялізм—наведваньне лікпунктаў няпісьменнымі было далёка недастатковае. Некаторыя праўленьні калгасаў („Чырвоны Кастрычнік“, „Шчаўры“, Ігрышча) і некаторыя сябры сельсавету апартуністычна падыйшлі да пытаньня ліквідацыі няпісьменнасьці. Зусім слаба і мала ставілі гэта пытаньне на праўленьнях і сходах колгасу, а таму няпісьменныя калгасьнікі слаба наведвалі лікпункты.

Ёсьць такія няпісьменныя, якія сумысьля зрывалі заняткі лікпунктаў, падгаварвалі другіх ня ісьці на заняткі. Да такіх няпісьменных трэ' было прымяніць палітыку штрафу, адміністрацыйныя ўзьдзейнічаньні. Хацюхоўкі сельсавет амаль нічога не зрабіў, каб наладзіць працу лікпунктаў, аштрафаваць злых зрыўшчыкаў.

Праўда, былі некаторым няпісьменным прэзыдыумам с/савету накладзены штрафы (5—10—15 р.), але не спагнаны—яшчэ горш.

На працягу году ня рэдка здаралася, што лікпункты зрывалі заняткі, бо ня было газы. На працягу 2—3 месяцаў у няпісьменных ня было сшыткаў, алоўкаў бо с/по ня прывозіла іх з базы. Гэта таксама было перашкодай у пасьпяховай ліквідацыі няпісьменнасьці.

Дырэктыву партыі, пастановы ЦВК БССР аб ператварэньні БССР (а значыць і *Хацюкоўскага* с/савету) у краіну суцэльна пісьменную да 1-га мая 1932 году мы ня выканалі.

Пры праверцы працы па ліквідацыі няпісьменнасьці „на дому“, дзе да няпісьменных былі прымацаваны вучні, або дарослыя пісьменныя, аказалася, што ўсе 120 чалавек, што абучаліся „на даму„—амаль засталіся няпісьменнымі. Зусім нязначны проц. „хатнікаў“—пераведзены ў школы малапісьменных, якім можна даць пасьведчаньне, што скончылі лікпункт. Астатнія зноў павінны займацца і ліквідаваць сваю няпісьменнасьць.

Пры праверцы працы лікпунктаў і пераводзе з лікпункту ў школы малапісьменных, што зроблена ў канцы красавіка 1932 г. выявілася:

Табліца 3

| №№ чаргі | Назва лікпункту (вёска, дзе працаваў лікпункт). | Наведвала лікпункт чалавек. | З іх выпушчаны, або перав. у шк. малапісьм. | Засталося |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Ігрышча . . . . | 46 | 22 | 23 |
| 2 | Прудзец . . . . | 38 | 19 | 19 |
| 3 | Зарасьлі . . . . | 25 | 11 | 14 |
| 4 | Новыя Шчаўры . | 17 | 10 | 7 |
| 5 | Старыя Шчаўры. | 18 | 11 | 7 |
| 6 | Хацюхова . . . | 33 | 22 | 11 |
| 7 | Ганкаўка . . . . | 25 | 12 | 13 |
| 8 | Падбярэзьзе . . | 36 | 18 | 18 |
| 9 | Малое Хацюхова | 16 | 5 | 11 |
| 10 | Белае . . . . . | 22 | 18 | 4 |
| 11 | Запрудзьдзе . . | 30 | 18 | 12 |
| 12 | Казубец . . . . | 30 | 13 | 17 |
| 13 | Малое Восава . .<br>Вялікае Восава . | 44 | 20 | 24 |
| 14 | Вяршоўка . . . | 30 | 15 | 15 |
| 15 | Востраў . . . . | 21 | 21 | — |
| 16 | Буда . . . . . . | 27 | 16 | 11 |
| 17 | Яблынка . . . . | 4 | 3 | 1 |

Вось—вынікі 50—55 проц. няпісьменных, што навучаліся на лікпунктах на працягу лістапада—красавіка ня скончылі лікпункты, не пераведзены ў школы малапісьменных, застаюцца навучацца на другі год.

К 1-му мая Хацюхоўскі с-савет, такім чынам, не ператварыўся ў суцэльнапісьменны с-савет.

Слабая матар'яльная база ліквідацыі няпісьменнасьці: вялікі недахоп падручнікаў—лемантароў, чытанак, недахоп сшыткаў, алоўкаў, кепскія памяшканьні, у якіх толькі ахота спаць, а не працаваць. А калі сюды дабавіць руціннасьць у поглядах і адносінах да ліквідацыі няпісьменнасьці з боку некаторых праўленьняў калгасаў, з боку некаторых сябраў с-савету—будзе зусім зразумелым, чаму атрымаліся такія вынікі ў ліквідацыі няпісьменнасьці ў 1931—32 нав. годзе па Хацюхоўскаму с-савету.

Але гэта гаворыць, што трэба з большым энтузыязмам, пабальшавіцку ўзяцца за зьнішчэньне няпісьменнасьці сярод

дарослых. Змагацца ня толькі за колькасьць людзей на лікпункце, але змагацца за якасьць вучобы, за найхутчэйшае і лягчэйшае засваеньне ведаў вучнямі лікпункту. А гэта ў сваю чаргу ставіць перад ліквідатарамі пытаньне аўладаньня мэтодыкай выкладаньня на лікпункце.

14—17/V—1932 г.

Мэтаб'яднаньне павінна ляпей, чым гэта было да гэтага часу, наглядаць за працай кожнага лікпункту, інструктаваць ліквідатараў, дапамагаць ім у аўладаньні пэдагагічным працэсам. Усё гэта будзе спрыяць таму, што ліквідацыя няпісьменнасьці будзе закончана ў самы блізкі час.

А. Сабалеўскі і М. Раецкі

# Работа Менскай 20-й ФЗС

Менская 20-ая ФЗС імя „Дзесяцігодзьдзя БССР“ існуе 4 гады. У дзень дзесяцігодзьдзя БССР 1 студзеня 1929 года адбылося адчыненьне сямігодкі. На ўрачыстым паседжаньні прадстаўнікамі партыйных, прафсаюзных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый з прадстаўнікамі гарадоў саюзных рэспублік, як Харкава і інш., былі пастаўлены перад школай, як школай у рабочым раёне гор. Менску (Ляхаўка), задачы „выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм“.

Калектыў школы на працягу гэтых 4-х год вёў упартую барацьбы за ажыцьцяўленьне пастаўленай задачы. У першы год свайго існаваньня школа, ня маючы адпаведнага абсталяваньня, а толькі новапабудаванае памяшканьне, прымушана была займацца абсталяваньнем і арганізацыяй дзетвары школьнага раёну, сабранай з усіх школ гор. Менску. Побач з арганізацыйнымі пытаньнямі галоўны ўпор быў зроблен і на вучэбна-выхаваўчую работу. Нямаючы ні рабочага пакою, ні габінэтаў і лябараторый, школа скарыстала нова-адбудаваны гігант—гарбарны завод „Бальшавік“ для палітэхнічнага выхаваньня. Вось як аб гэтым гаворыць выпіска з справаздачы школы за 1928-29 навучаньня год: „Першым момантам працы школы ў гэтым напрамку было вывучэньне пэдкалектывам вытворчасьці гарбарнага заводу „Бальшавік“, да якога школа была прымацавана. Паміма таго, што вытворчасьць гэтага заводу спэцыяльна вывучалася гурткамі краязнаўцаў, настаўнікі азнаямляліся самі з вытворчасьцю гэтага гіганта і вывучалі вытворчасьць заводу з дзецьмі шляхам экскурсій. Вывучэньне гэта паказала, што завод яшчэ ў працэсе арганізацыі і што пры ім ня было яшчэ школы ФЗВ“.

Ня гледзячы на даволі грунтоўнае азнаямленьне з гарбарнай вытворчасьцю, школа адбіць гэту вытворчасьць у пастаноўцы працоўных працэсаў не змагла: пры школе ня было ні рабочага пакою, ні майстэрняў, ні адпаведна-абсталяваных лябараторый ні габінэтаў, і, апроч таго, гарбарную вытворчасьць вельмі цяжка адбіць у працы дзяцей у школе. Праўда, былі складзены невялічкія калекцыі з рознай скуры і экспартаў, але яны зьяўляліся толькі ілюстрацыйным матэрыялам для гутарак аб гарбарнай вытворчасьці“.

Незалежна ад таго, школа рабіла спробу ўвязкі ўсіх прадметаў з вытворчасьцю завода „Бальшавік“ і адначасова паставіла пытаньне аб прымацаваньні школы к машына-будаўнічаму заводу „Энэргія“, цяпер завод імя Варашылава. Школа дагаварылася з адміністрацыяй завода аб скарыстаньні з восені 1929 года майстэрань і аб разьмеркаваньні вучняў старэйшых клясаў для вытворчага навучаньня па цэхах завода.

Апрача таго, школа была зьвязана і з другімі заводамі раёну, але гэта сувязь ішла па лініі краязнаўчай работы. Былі вывучаны наступныя аб'екты: завод „Бальшавік“, Ля́'цавая фабрыка,

цукерачная фабрыка „Прагрэс", Ляхаўская рабочая амбуляторыя, каапэрацыйны гандаль у Ляхаўскім раёне, прыватны гандаль у Ляхоўскім раёне, рабочы пасёлак „Камінтэрн" (быт рабочых), транспарт г. Менску ў 1929 годзе і г. д. У выніку гэтай працы школа залажыла краязнаўчы музэй, выдала 12 рукапісных нумароў журнала і выдала друкарскім шляхам зборнік першых прац краязнаўчага гуртка 20-й Менскай фабр. зав. школы імя—„Дзесяцігодзьдзя БССР".

Выдаючы свой „Зборнік прац краязнаўчага гуртка", школа ў прадмове, выклікаючы іншыя школы БССР пасьледваць яе прыкладу, піша: „У пэрыяд сацыялістычнага будаўніцтва краіны і разам з тым будаўніцтва палітэхнічнай школы, калі ад школы патрабуецца вырабатка ў падрастаючай моладзі марксыцка-ленінскага сьветапогляду, клясавай сьвядомасьці, уменьня змагацца за камунізм і звычак сацыялістычнай працы, школы павінны дзяліцца сваім вопытам. І 20-ая школа спадзяецца, што іншыя школы нашай сацыялістычнай краіны адклікнуцца на заклік унесьці часьціну свайго вопыту ў скарбніцу школьнага краязнаўства".

На другім годзе свайго існаваньня школа, напружваючы свае сілы на далейшую пастаноўку вучэбна-выхаваўчай справы, зьвярнула ня меншую ўвагу і на сваё замацаваньне на заводзе імя Варашылава і на абсталяваньне майстэрань, габінэтаў і лябараторый пры школе. Выпіска з вывадаў абсьледваньня школы ў пачатку 1930-31 навучальнага году брыгадай Народнага камісарыяту асьветы БССР гаворыць аб рабоце школы за два гады наступнае: „Школа за два гады свайго існаваньня мае вялікія дасягненьні. Яна з першага году паказала, свой клясава-палітычны твар, уключыўшы ў плян гаспадарча-палітычнага будаўніцтва і культуры, сацыялістычнай па зьмесьце і нацыянальнай па сваёй форме".

„Так, гаспадарча-палітычны фронт клясавай барацьбы, барацьбы за індустрыялізацыю краіны, сацыялістычную перабудову вёскі, усеагульнае навучаньне, беларусізацыю і г. д. знаходзіць жывейшы водклік школы".

„У 1930-31 навучальным годзе ёсьць далейшыя дасягненьні па плянавасьці ўсіх ведаў вучэбна-вытворчай і грамадзка-карыснай працы".

„Школа мае цесную сувязь з заводам „Энэргія", які ўключыўся у плян вытворчай работы школы".

Павышаючы якасьць вучэбна-выхаваўчай работы, школа на трэцім годзе свайго існаваньня займалася пытаньнем „мэтада праекту".

Ня гледзячы на цэлы шэраг дакладаў на школьнам савеце і вытворчых нарадах „мэтад праектаў" практычнага ажыцьцяўленьня ў сьценах школы ня меў. На працягу гэтага году школа сваю работу перабудавала па габінэтна-лябараторнай сыстэме.

Разам з тым ішла сур'ёзная работа па палітэхнізацыі школы, пачынаючы з 0-й і канчаючы VII групай. Малодшыя групы 0-IV палітэхнічнае вытворчае навучаньне праходзілі ў сьценах школы—у клясах і школьных майстэрнях, а старэйшыя V, VI і VII клясы, апроч майстэрань, у цэхах завода Варашылава.

Школа сваім вопытам па палітэхнізацыі дзялілася шляхам дакладаў, гутарак, кансультацый з настаўніцтвам горада, раёна і БССР, як у сьценах школы, так і параённых настаўніцкіх канфэрэнцый.

Асабліва патрэбна адзначыць грамадзка-карысную работу школы ў гэтым годзе па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Школай было арганізавана 4 калгасы ў Сьмілаўскім раёне. У калгасах школаю на працягу году праводзілася работа па замацаваньню гэтых калгасаў.

У канцы 1930-31 навучальнага году за пастаноўку палітэхнізацыі школа была прэміравана Гарадзкім праўленьнем саюзу работнікаў асьветы.

У 1931-32 навучальным годзе школа паставіла сваёй задачай барацьбу за якасьць вучэбна-выхаваўчай работы і пераходу школы на вышэйшую ступень палітэхнізацыі. Спаткаўшы з энтузыязмам пастанову ЦК УсеКП(б) аб школе і мабілізаваўшы сябе на ўдарнае выкананьне пастановы, школа шырока папулярызавала гэту пастанову, як сярод пэдагогаў, вучняў, так і сярод бацькоў

і рабочых завода. У барацьбе за рэалізацыю пастановы ЦК школа ў першую чаргу зьвярнула ўвагу на ліквідацыю карэннага недахопу". Вылучыўшы лепшых сваіх работнікаў ў брыгады НКА БССР па складаньню праграм, школа ўсім калектывам і кожным паасобку пэдагогам стала рыхтавацца да пераходу на новыя праграмы. Прааналізаваўшы гэтыя праграмы, школа сплянавала сваю работу і да канца года дасягнула значных вынікаў у галіне ліквідацыі „карэннага недахопу". Выпіска з вынікаў брыгады Гаркома КП(б)В аб гэтым гыворыць так: „У Барацьбе за рэалізацыю пастановы ЦК КП(б)Б аб школе 20-ая ФЗС дабілася значных посьпехаў у галіне ліквідацыі„ карэннага недахопу". Якасьць ведаў вучняў па ўсёй школе здавальняючая".

Як жа школа дабілася гэтых дасягненьняў? Яна дабілася іх тым, што кожны пэдагог, кожны вучань ведаў, што яму рабіць—была ліквідавана абязьлічка, і работа школы была пабудавана на аснове шасьці гістарычных паказаньняў т. Сталіна.

Кожным пэдагогам праграмы былі разьбіты на разьдзелы і тэмы, складзены былі пляны кожнага дню заняткаў, кожнай дэкады і паўгодзьдзя. Пэдагогі рыхтаваліся к лекцыям, арганізоўвалі дзетвару, вялі работу з адставаўшымі, мабілізавалі ўвагу вучняў на вучобу, ўвёўшы рэжым дню школьника і разгрузіўшы ад лішніх нагрузак і ў выніку школа паднялася яшчэ на адну ступеньку да пабудовы сапраўднай палітэхнічнай сав. школы.

Адначасова быў зроблен упор і на пастаноўку палітхнічнае працы ў школе. Аб канкрэтных мерапрыемствах ў гэтых адносінах гаворыць наступная выпіска з вынікаў абсьледваньня школы брыгадай ЦКК РСІ БССР ад 3-га лістапада 1931 года:

„Канкрэтныя мерапрыемствы па палітэхнізацыі школы вызначаны ў вытворчым пляне школы, галоўныя мерапрыемствы наступныя:

а) Разгортваньне прышкольнай майстэрні для вучняў старшых груп (5—7) на 18 сталярных варштатах, 20 месц каля ціскоў, 2-х такарных станкоў (па мэталю і дрэву) сьвідравальнага станка, круглай пілы, 2- электраматораў і г. д. Майстэрня разгорнута на 80%.

б) Арганізацыя рабочага пакою для вучняў малодшага канцэнтру, дзе праца праводзіцца настаўнікам-групаводам.

в) Разгортваньне вытворчага палітэхнічнага навучаньня на машынабудаўнічным заводзе імя Варашылава, у цэхах—ліцейным, механічным, зборачным, кавальскім і загатоўчым і ў хэмічнай лябараторыі.

г) Пры школе арганізуецца электратэхнічная лябараторыя-майстэрня.

д) Заняткі ў малодшым канцэнтры зьвязаны з экскурсыямі на завод, жыцьцё і праца якога прад якае вучэбна-выхаваўчую работу ў школе.

У справе правядзеньня палітэхнізацыі школа, па думцы брыгады, узяла належны напрамак. І далей ў заключэньне брыгада кажа: „20-я ФЗС знаходзіцца на належным правільным шляху к палітэхнізацыі, як ў галіне ідэалёгічна-мэтадычнага кіраўніцтва, так і ў галіне матар'яльнага (параўнаўча з іншымі школамі). Але неабходна яшчэ мабілізацыя ўвагі ўсяго настаўніцтва на ўвязку тэорыі з практыкай праз дакладнае вывучэньне палітэхнічнага профілю завода імя Варашылава, вызначэньне там адпаведных рабочых месц для вучняў і ўключэньне ў да вытворчае навучаньне, падпарадкуючы яго праграмна-навучальным і выхаваўчым мэтам. Неабходна паскорыць тэмпы ў да абарудаваньні мэханічнай часткі майстэрняў пры школе, каб поўнасьцю ахапіць палітэхнічнай працай вучняў старэйшага канцэнтру...

Гэтыя пажаданьні брыгады школаю выкананы. Але школа лічыць, што тое абсталяваньне, якое маецца, далёка не дастатковае. Праўда, такіх майстэрань, такіх габінэтаў ня маюць іншыя школы горада Менску, але школа лічыць, што яна ў адносінах абсталяваньня зрабіла толькі першыя крокі.

Большасьць настаўнікаў школы, з досыць вялікім стажам і пэдагагічным вопытам, прайшлі пад кіраўніцтвам інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу завода вытворча-палітэхнічную практыку, вядзе шырокую работу па абслугоўваньню настаўнікаў прыгарадных і гарадзкіх школ

Школа ўключылася ва Ўсебеларускі конкурс на лепшую школу. Налічваючы 92 проц. арганізаваных дзяцей (камсамольцаў—16, піянэраў—274 і акцябрат—248), школа шырока разгарнула барацьбу за першае месца ў конкурсе. Падлічыўшы свае дасягненьні ў галіне ліквідацыі „карэннага недахопу", грамадзкакарысную работу, вучнёўскае самакіраваньне павяло ўпартую барацьбу з пропускамі, спазьненьнямі і парушэньнямі дысцыпліны. У выніку гэтай барацьбы сьвядомая працоўная дысцыпліна сярод вучняў паднялася і выпадкі парушэньня дысцыпліны к канцу навучальнага году ня мелі месца ў сьценах школы.

Школа ў парадку сац. спаборніцтва вядзе інтэрнацыянальную работу з 8-й яўрэйскай школай. I ў гэтай галіне, як і ў галіне антырэлігійнага, ваеннага і фізкультурнага выхаваньня, школа мае значныя дасягненьні. На працягу года школа не зафіксавала ніводнага выпадку антысемітызму ці шавінізму, паміж тым як нацыянальны склад школы досыць стракаты: у ёй вучацца беларусы, яўрэі, палякі, рускія і інш.

Побач з дасягненьнямі 20-я школа мае і недахопы. Галоўны недахоп—гэта дрэнная дзіцячае харчаваньне. Дзеці да канца году атрымлівалі абеды з разьмеркавацеля МЦРК якасьцю дрэнныя. Толькі з наступнага навучальнага году школа змагла перайсьці на гатаваньне яды ў кухні і сталовай, якія ў дадзены час рамантуюцца пры школе.

Ня менш важным недахопам зьяўляецца ў апошні час і няўважлівыя адносіны к школе з боку кіраўніцтва завода Варашылава, з якім школа заключыла дагавор. Тлумачыцца гэта частай зьменай кіраўнікоў арганізацыі завода.

Перамагаючы ўсе перашкоды і недахопы, школа цьвёрда і ўпэўнена, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, вядзе сваю работу па выхаваньні „пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм".

**Сташонок З. А.**

# Школы Церахоўшчыны сёньня

*(да вынікаў навучальнага году)*

Мінулы 1931-32 навучальны год быў пераломным у гісторыі будаўніцтва савецкай палітэхнічнай школы. Пастанова ЦК партыі аб пачатковай і сярэдняй школе нанесла зьнішчальны удар, як праваму ўхілу ў школьным будаўніцтве які імкнуўся сьцягнуць нашу школу на шлях схаластыкі, начотніцтва, адмовіўшыся ад палітэхнізацыі, ад актыўных мэтадаў работы,—а таксама і антыленінскай тэорыі левакоў аб „адміраньні школы", аб зьніжэньні ролі настаўніка, ператварэньні школы ў цэх заводу, калгасу, насаджэньні ў масавым маштабе „мэтаду праэктаў".

Партыя паказала шлях умацаваньня савецкай палітэхнічнай школы праз ліквідацыю „карэннага недахопу", праз наладжваньне палітэхнічнага навучаньня умацаваньня органаў дзіцячага самакіраваньня і сьвядомай дысцыпліны, праз паднясьцё савецкага на стаўніка на ленінскую вышыню.

Як-жа школы Церахоўскага раёну рэалізавалі гэтую гістарычную пастанову партыі, як пераключыліся на работу па новых праграмах, пабудаваных у адпаведнасьці з пастановаю ЦК партыі аб школе? Зьвернемся да фактаў матар'ялаў.

## Усеагульнае абавязковае навучаньне

Па раёне ёсьць усяго 79 школ, з якіх 12 ШКМ. Адна ШКМ яўрэйская, адна расійская, а таксама ёсьць па 1-й пачатковай школе гэтых-жа нацыяльнасьцяй. Дзьве ШКМ вылучаны ўзорнымі.

Па камплектнасьці пачатковыя школы распадаюцца: 1-камплектавых — 21, 2-камплектавых — 22, 3-камплектавых—9, 4 і больш—15

Сетка школ па раёне разьмешчана такім чынам, што самая большая адлеглаcьць паміж паасобнымі школамі не перавышае 3-х км.; гэта стварае досыць спрыяючыя ўмовы для ахопу ўсіх дзяцей падлягаючых усеагульнаму абавязковаму навучаньню. Ахоп дзяцей 8-11-ці гадавага ўзросту ў гэтым годзе складаў па раёне 98,8 проц. Чатыры школы (Церахоўская Узорная ШКМ,, Чырвона-Будзкая 4- камп., Дзьмітраўская 1- кампл. Усоха-Будзкая 3-кампл.) на працягу навучальнага году былі больш як па месяцу зачынены з прычын эпідэміі тыфусу і воспы, што дрэнна адбілася на выкананьні праграм. На будучы 1932-33 навуч год па раёне ўводзіцца ўсеагульнае навучаньне ў памерах 7- годкі, для чаго адчыняецца 13 новых ШКМ з разьлікам, каб у кожным с-с была 7-годка. На працягу навучальнага году аказана дапамога вучням, дзецям беднаты—вопраткаю і абуткам на суму 28.795 руб. У большасьці школ быў арганізаваны гарачы чай але з-за недастачы цукру ў красавіку месяцы гэта справа прыпынілася. З дальніх пасёлкаў былі арганізаваны падвозы дзяцей у школы.

## Ліквідацыя няпісьменнасьці і малапісьменнасьці. Школы вячэрняй сыстэмы асьветы

Усіх няпісьменных у пачатку навучальнага году налічвалася па раёне 881 чал., з якіх сіламі настаўніцтва і культармейцаў на 15 мая абучана і пераведзена ў школы малапісьменных 2376 чал. Колькасьць застаўшыхся няпісьменных у адносінах да ўсяго працоўнага насельніцтва раёну (ад 15 да 45 год) складае 3 проц. Малапісьменных у пачатку году налічвалася 5075 чал., з якіх абучана 50,5 проц. З першага верасьня ў раёне было арганізавана 8 вячэрніх школ калгасьнікаў II канц., якія ахапілі звыш 200 чалавек. У спэцыяльных школах для падлеткаў (12—15) навучалася 268 чал а астатнія падлеткі ў колькасьці 1895 чал., былі ахоплены пачатковымі школамі

Якасны бок работы вячэрніх школ надзвычайна слабы—палітгадзіны і агра тэхгадзіны на л-п праводзіліся рэдка, адсутнічала прапрацоўка палітэхнічнага мінімума слабая была ўвязка тэарытычных заняткаў з правадзімымі партыяй і ўрадам на вёсцы гаспадарча-палітыч нымі кампаніямі.

## Пастаноўка камуністычнага выхаваньня.

Гэты навучальны год даў яшчэ большыя зрухі ў напрамку ажыцьцяўленьня аднэй з асноўных задач савецкай школы „падрыхтаваць усебакова разьвітых членаў камуністычнага грамадзтва“, пашыраючы грамадзка-палітычны кругавід дзяцей.

У асноўным зьместу выхаваўчай работы школы, як праваднікa „ідэёвага арганізацыйнага выхаваўчага ўплыву пралетарыяту на паўпралетарскія і не пралетарскія пласты працоўных мас...“ дастаткова насычаны момантамі інтэрнацыянальна клясавага і антырэлігійнага выхаваньня.

Па ўсіх школах прапрацаваны матар‘ялы XVII усесаюзнай партканфэрэнцыі і XIV зьезду КП(б)Б, палепшылася выкладаньне грамадзка-палітычных дысцыплін, што дае вучням шырэйшую арыентацыю ў падзеях сучаснасьці і прышчапляе матэрыялістычна-дыялектычны сьветапогляд на акаляючае жыцьцё.

Але разам з гэтым у паасобных школах назіраецца нездавальняючая пастаноўка камуністычнага выхаваньня, мяжуючая часам з не разуменьнем і недаацэнкай з боку паасобных настаўнікаў школы, як ідэалёгічнай зброі дыктатуры пралетарыяту. Шэраг школ недастаткова вядуць барацьбу супроць спроб клясавага ворага „прышчапіць дзецям савецкай школы элемэнты антыпралетарскай ідэалёгіі“.

Ня ўсюды вучнямі ўсьвядомлена асноўная палітычная задача калектывізацыі—ліквідацыі кулацтва, як клясы. На запытаньне: каго мы называем кулаком і чым ён для нас шкодны, сярод вучняў II-, III-, і IV- груп сустракаюцца адказы:—кулак той, у каго ўсяго шмат, кулак той, хто ня хоча ісьці ў калгас“ (Дзьмітраўская школа).

— Кулацтва перашкаджае будаваць калгасы, але ёсьць кулакі і добрыя /Баршчоўская школа)

— Калі сам чалавек працуе—ён ня кулак (школа саўгасу „Пралетар“)

У Леніндарскай школе вывешаны дызэрыентуючы лёзунг: „дробныя гаспадаркі пераходзьце у калектыў (значыць у тым ліку і кулакі). Сустракаюцца культурніцкія апалітычныя лёзунгі, накшталт: „Навука палегчыць жыцьцё. (Дуброўская школа).

Нацыянальнае пытаньне ў паасобных школах разглядаецца ня ў ленінскім асьвятленьні, якое-б выхоўвала ў вучняў адчуваньне братэрства па клясе паміж працоўнымі розных нацыянальнасьцяй і выклікала-б клясавую нянавісьць да ўсіх эксплёататараў незалежна ад нацыянальнай прыналежнасьці.

— Лепшыя людзі гэта—такія, як мы, лепшыя людзі гэта—яўрэі“ (адказы вучняў Быкаўскай школы).

— Для савецкай улады ўсе нацыянальнасьці роўныя—масавы адказ па школах. Настаўнік Рагавы М. у Васільлёўскай школе інтэрнацыялізм тлумачыў вучням IV гр. прыкладна ў такой форме: „...інтарэсы нашы і інтарэсы вось гэтых самых інародцаў (?) блізкія...“

Няма патрэбы аналізаваць такую вялікадзяржаўную, дарэвалюцыйную, шкодную для пралетарыяту формулу.

Гэты-ж настаўнік, закрануўшы сусьветны эканамічны крызіс, разважае з вучнямі:

„...Вы гаворыце, што ў нас няма нічога а вось там (за межамі С.) наадварот усяго шмат, ды няма каму купляць...“ Сваім лічным абагульненьнем настаўнік па сутнасьці згадзіўся, што „у нас няма нічога і пасьля гэтага перад вучнямі ставіцца „пытаньне“—„Што-ж лепей-ці многа ці калі не хапае?

Антырэлігійныя моманты ў праграмах па шэрагу школ высьвятляюцца павярхоўна, ня глыбока. Шкоднасьць рэлігіі часта не разглядаецца з клясавых пазыцый, а выключна зводзіцца да асьвятленьня папа, рабіна, сэктантаў, як шкоднікаў калгаснага руху і сацбудаўніцтва наогул. Аб спосабах барацьбы з рэлігіяй у вучняў складаюцца скажонныя „лявацкія“ уяўленьні, гэта як вынік фармальнай прапрацоўкі антырэлігійных момантаў без канцэнтрацыі ўвагі вучняў на неабходнасьці правядзеньня штодзённай культмасавай працы сярод насельніцтва.

— „Барацьбу з рэлігіяй трэба весьці такім чынам: папоў пасадзіць, выслаць іх на Салаўкі, багоў парубіць і запаліць“. (Баршчоўская школа IV гр.)

— Папы шкодны тым, што агітуюць супроць калгасаў, паляць гумны. Калі-ж яны толькі моляцца, тады ня шкодны“. (Быхаўская школа II гр.)

Ахоп дзяцей піянэрскай арганізацыяй у раёне недастатковы—2200 піянэраў з 10000 вучняў, а ў многіх школах няма зусім піянэраў. У існуючых піянэрскіх атрадах выхаваўчая работа пастаўлена слаба. Настаўніцтва, за рэдкім выключэньнямі, амаль зусім ніякай дапамогі па наладжваньні піянэрпрацы камсамольскім яч. не аказваюць.

Ёсьць факты скажоннай распрацоўкі паасобных грамадазнаўчых і гістарычных момантаў. Настаўнік Жыраў (Слаб.-Кузьм. школы), даючы вучням заданьне для самастойнай прапрацоўкі, ставіць пытаньне:

„Да палітычнай ці эканамічнай рабочай арганізацыі можна аднесьці прафсаюзы?“ (якое супроцьстаўленьне!).

Вучні ўсе даюць адказ: „да эканамічнай“ У вучняў гэтай-жа групы па тэме аб прыгоне знаходзім запіс:

—„ Сяляне ня вытрымлівалі ніякага жыцьця, кідалі сваю бацькаўшчыну (?) і ўяжджалі ў Амэрыку шукаць лепшага жыцьця“. Ітак—„свая бацькаўшчына“ адзіны выхад—выезд у Амэрыку. А дзе-ж выхад рэвалюцыйны?

— „Пралетарыят перадавы таму, што ён больш культурны і пісьменны“—знаходзім у вучняў гэтай-жа школы. Настаўніца Чырвона-Будзкай школы т. Воўкава даводзіла вучням IV групы, што мы зараз разьвіваем кожную нацыю на сваёй мове, але прыдзе час, калі для ўсіх нацый установіцца адна агульная мова. Прымаючы пад увагу, што ў Савецкім саюзе найбольш вядомай для мас зьяўляецца мова расійская, яна (расійская мова) і стане агульнай. Так настаўніца, дзякуючы слабай палітычнай падкаванасьці, пакаўзнулася ў бок вялікадзяржаўнага шавінізму.

Падагульваючы матар'ял з гісторыі паўстаньняў Сьцяпана Разіна, Пугачова

настаўніца Плявака (Кузьмініцкая ЩКМ) высьвятляе зьмест прыкладная такімі пытаньнямі: „Хто ён быў?“, „Якія словы гаварыў перад сьмерцю?“ „Хто яго выдаў?“, „Ці здаўся ён?“ і г. д., зусім не закранаючы сацыяльных прычын, парадзіўшых гэтыя рэвалюцыйныя рухі і іх гістарычнага значэньня.

Прыведзеныя факты з галіны пастаноўкі камуністычнага выхаваньня ў школах, бязумоўна не зьяўляюцца масавымі, а хутчэй канцэнтрацыяй найбольш яскравых паасобных выпадкаў наяўнасьць якіх тлумачыцца недастатковай падрыхтаванасьцю нашых сучасных пэдагогічных кадраў—з аднаго боку, а таксама недастатковасьцю барацьбы настаўніцкіх калектываў, партыйных і камсамольскіх яч. на мясцох і ўсёй грамадзкасьці з праніканаваньнем варожых уплываў у асяродзьдзе школы. Адсюль задача кожнага асьветніка—больш працаваць над сабой, упарта і сыстэматычна пашыраючы свой палітычны кругавід на аснове аўладаньня матэрыялістычна-дыялектычнай рэвалюцыйнай тэорыяй Маркса-Леніна-Сталіна. Задача партыйных арганізацый „умацаваць кіраўніцтва школай і ўзяць пад непасрэдны нагляд пастаноўку выкладаньня грамадзка-палітычных дысцыплін у школах...“

(З паст. ЦК УсеКП(б) аб школе.)

## Палітэхнізацыя. Ліквідацыя „карэннага недахопу“ ў рабоце школ

З 12 ШКМ у раёне пры 7 мі арганізаваны палітэхнічныя майстэрні. Рабочых пакояў пры пачатковых школах—8. Тры школы прымацаваны да саўгасаў, адна (узорная ШКМ) да МТС, а астатнія прымацаваны ўсе да калгасаў. Такім чынам, у напрамку ператварэньня школы ў сапраўды палітэхнічную, якая-б разам з пашырэньнем грамадзка - палітычнага кругавіду і агульна—адукацыйных ведаў вучняў давала-б знаёмства з асновамі ўсіх галін вытворчасьці,—асьветнікі раёну разам з працоўнай грамадзкасьцю дабіліся значных вынікаў. Але правая небясьпека—нежаданьне палітэхнізаваць школу, яшчэ знаходзіць месца сярод паасобных настаўнікаў. Паасобныя школы замест барацьбы за палітэхнізм павыкрэсьлівалі зусім з раскладаў гадзіны, адведзеныя на вытворча - палітэхнічную працу і на гэтым „почили“. (Васільлеўская, Калінінская школы і інш.) Маюць месца выпадкі прастога ігнараваньня вытворчых баз для палітэхнізацыі ў асобе калгасаў, саўгасаў. Пры буйным насеннаводчым саўгасе „Пралетары“ маецца школа і, ня гледзячы на наяўнасьць у саўгасе шэрагу складаных с.-г. машын, паравога млыну і інш.,—ніхто, як з боку школы, так і з боку саўгасу, ня прыняў ніякіх захадаў, каб школу прымацаваць да саўгасу і выкарыстаць вытворчую базу апошнята для палітэхнізацыі.

Работа існуючых школьных майстэрняў ні ў якім разе ня можа быць прызнана наладжанай. Недастатковасьць абсталяваньня, саматужніцтва часамі ў самой рабоце, зусім малая прапускная здольнасьць—асноўныя недахопы ў рабоце майстэрняў. Былі выпадкі, калі загадчыкі (Кармянскай ШКМ, Кузьмініцкай) спрабавалі перавесьці свае майстэрні на нейкі „гаспадарчы разьлік“—інструктары ў школьных майстэрнях выконвалі розныя заказы для калгасаў, СельСТ, а практыка вучняў займала,, як-бы пабочнае, другараднае месца.

Калгасы марудна пасоўваюцца насустрач палітэхнізацыі школ, не жадаючы аказаць матар'яльнае падтрыманьне гэтай справе. Былі і „лявацкія“ скрыўленьні ў пытаньні вытворчай сувязі паміж школаю і калгасам. Замест ужываньня практыкі для паглыбленьня і замацаваньня набытых вучнямі тэарэтычных ведаў, Агароднян-Кузьмініцкая і Агароднян-Гомельская ШКМ пастанавілі ліквідаваць прарыў у калгасе па адставаньню ў вясновай сяўбе. Для гэтай мэты з вучняў II канц. былі створаны брыгады пахараў, якія зранку працавалі на полі, а з 3- гадзін дня стомленыя прыходзілі на заняткі ў школу. Цікавы той факт, што гэтая „работа“ праводзілася загадчыкамі школ зусім сьвядома, ведаючы добра устаноўку нашай партыі аб гэтым, дадзеную ў пастанове ЦК аб школе.

У асноўным усе школы перабудавалі сваю работу ў адпаведнасьці з новымі праграмамі, якія даюць акрэсьленае кола

агульнаадукацыйных ведаў па асобных дысцыплінах. Але маюцца і такія школы, дзе фактычна існуе яшчэ старая комплекснасьць. Напрыклад,—у Калінінскай школе па II гр. з 10/IV па 26/IV прапрацоўваўся комплекс: „Вясна і вясновая праца“. Рабочы плян пры гэтым будуецца па наступнай форме (узята з арыгіналу):

> „16/IV-32 г. Гутарка. Адкуль бярэцца вада ў калодзежы. Першыя кветкі. Складаньне круглых соцень. Пісаньне на выяўленьне сэнсавай сувязі слоў. Прачытаць: „Піянэры ў садзе“.

Зьмяшана ўсё ў кучу і ўсё, што можна было, падпарадкавана „галоўнаму“— гутарцы. У ліквідацыі „карэннага недахопу“ маюцца ўжо значныя зрухі, але-ж пастаноўка выкладаньня такіх дысцыплін, як геаграфія, матэматыка усё яшчэ не забясьпечваюць патрэбнай якасьці.

Вучні 4-х груп часта па многіх школах (разам з правільнымі адказамі паасобных вучняў) даюць адказы:

— Экватарам наз. лінія, якая праходзіць пасярод зямной кулі.“

— Клімат паўночнай часткі СССР халодны таму, што на поўначы мала падае сонечных праменьняў. (Слаб-Кузьм. школа)

— „Заходняя Дзьвіна ўпадае ў Белае мора“ (Калінінская шк.)

— „Ленінград знаходзіцца ў БССР“ (Баршчоўская шк.)

— Сож упадае ў Чорнае мора (Калініна).

Па грамадазнаўстве, зусім слаба выкарыстоўваецца матар‘ял бягучай палітыкі. Мала выкарыстоўваецца газэта ў працы па грамадазнаўстве. Вучні 4-ых груп іншы раз ня могуць расшыфраваць літар „СССР“, ня ведаюць асноў савецкай канстытуцыі, форм калектыўных гаспадарак, розьніцы паміж калгасам і саўгасам і цэнтральнай задачы калгасруху на даным этапе—арганізацыйна-гаспадарчага замацаваньня калгасаў у канкрэтных часам формах не ўяўляюць. Яшчэ горш абстаіць справа з засваеньнем гістарычнага матар‘ялу; па некаторых школах вучні 3-іх груп паняцьця ня маюць аб рэвалюцыі 1905 г., Лютаўскай рэвалюцыі. Асноўныя недахопы ў пастаноўцы выкладаньня матэматыкі— прапрацоўка матэматычнага матар‘ялу на сухіх прыкладах, што асабліва наглядаецца сярод маладых настаўнікаў— у выніку чаго з такіх школ выходзяць вучні, няздольныя самастойна разьвязаць просьценькай задачкі. Мала навочнасьці ў выкладаньні матэматыкі, слабае знаёмства вучняў з мэтрычнымі мерамі і з дзеяньнямі над найменнымі лікамі.

Якасьць пісьма, як з боку артаграфіі, так і каліграфіі па ўсіх групах надзвычайна нізкія. За пасадкаю дзяцей пры пісьме большасьць настаўнікаў ня сочаць. Дзеці 1-ых, 2-гіх груп пачынаюць пісаць драбнюсенькімі літарамі, пішуць хто алоўкамі, хто чарнілами, сшыткі у дзяцей брудныя. Віды пісьма вельмі аднастайныя; пераважае мэханічнае сьпісваньне, а для старэйшых груп існуюць яшчэ запісы вывадаў з гутарак па розных прадметах. Пісьмо, як сродак разьвіцьця ў дзяцей лёгічнай мовы ў выглядзе самастойных творчых укладаньняў, пераказаў, складаньня дзелавых паперак, калектыўных апавяданьняў і інш.—вельмі мала ўжываюцца ў школах. Чытаньне таксама праводзіцца вельмі пасыўна. Па-за школай дзеці амаль нічога ня чытаюць з прычыны адсутнасьці дзіцячай літаратуры ў школьных бібліятэках.

Трэба сказаць і аб падручніках.

Шмат якія школы з-за адсутнасьці новых падручнікаў карысталіся і ў гэтым годзе „Чырвонай Зьменай“ для II гр., „Чырвоная Беларусь“ для III гр. Падручнікі выд. 1932 г. па асобных групах для вясковых школ пабудаваны бяз уліку ўзроставых асаблівасьцяй і разьвіцьця дзяцей. Так у падручніку для 2-га году навучаньня „Працуем ударна“, у паасобных артыкулах награмоджана цэлая куча незразумелых слоў і выразаў накшталт—„музэй“, „мадэль“, калекцый“, экспанаты“, „табліцы эканамічнага становішча“, „рэчы старажытнасьці“ і г. д (з арт. „Наш школьны музэй“). Калі пачаць для дзядей 9 год растлумачваць

усе гэтыя словы і звароты, не застанецца зусім часу для чытаньня. Фізвых і сьпевы ў большасьці школ, з прычыны непадрыхтаванасьці настаўніцтва у гэтай галіне, не праводзяцца зусім.

## Вучнёўскае самакіраўніцва. Выкананьне ўнутранага распарадку школы

Органы вучнёўскага самакіраваньня ў асноўным па ўсіх школах рэарганізаваны ў адпаведнасьці з новым палажэньнем: створаны брыгады з канкрэтна акрэсьленымі абавязкамі, групавыя саветы, шкалькомы; але-ж пастаноўка самой работы органаў вучнёўскага самакіраўніцтва ў напрамку ўзьняцьця барацьбы за якасьць вучобы і сьвядомую дысцыпліну і да гэтага часу далёка недастатковая. Вучнёўскае самакіраваньне ў большасьці выпадкаў не стаіць на чале ініцыятывы саміх вучняў. Брыгады, ўнутры сябе работы не праводзяць, групсаветы, як правіла, не працуюць. У іншых школах вучнёўскае самакіраўніцтва прадстаўлена само сабе, без атрыманьня належнай дапамогі з боку настаўніцкага калектыву. Піянэрская арганізацыя таксама слаба забясьпечвае сваім кіраўніцтвам самакіраваньне ў групах і школах.

Вучнеўскія насьценгазэты, с пачатку навучальнага году ў большасьці школ былі наладжаны, але, набліжаючыся да сканчэньня навучальнага году, усе гэтыя газэты, замест узмацненьня работы, фактычна прыпынілі сваё існаваньне. Крытыка і самакрытыка сярод вучняў не разгорнута, а крытыкаваць настаўнікаў вучні баяцца. Аб чым сьведчыць факт— на працягу навучальнага году ў раёне выкрыты тры выпадкі ўжываньня настаўнікамі фізычных пакараньняў (Каржанеўскі—Быкоўская школа, Грыневіч—Селішчанская шк., Арцёменка—Дзьмітраўская шк.) і ніхто з вучняў гэтых школ нідзе не сыгналізаваў аб гэтых абураючых учынках.

Загадчыкі паасобных школ пе перабудавалі усёй работы ў адпаведнасьці з тыповым распарадкам. У Дуброўскай, Макаўскай, Лагуноўскай школах заняткі пачынаюцца, а 7-й гадзіне раніцы, а ў Пралетарскай у 11 гадз. Настаўнікі па сваіх справах робяць паездкі ў горад, а вучні з-за гэтага ў рабочы дзень адпускаюцца дамоў (Кузьмініцкая ШКМ). У паасобных школах не захоўваецца нават санітарны мінімум: ня мыюцца па месяцу падлогі, вучні сядзяць у вопратцы, брудныя (Васільлеўская, Баршчоўская шк. і інш.,) а ў II гр. Вуцеўскай ШКМ у наст-цы Чэпік у красавіку месяцы на занятках вучні сядзелі ў зімовых шапках. Паміж зьменамі клясныя пакоі не праветрываюцца, і часта падлогі не падмятаюцца. Адпачынак дзяцей на перапынках не арганізаваны.

## Сацспаборніцтва і ўдарніцтва

Асьветнікі Церахоўскага раёну заключылі сацдагавор з Буда-Кашалеўскімі асьветнікамі на лепшую рэалізацыю пастановы ЦК партыі аб школе. Але-ж гэты дагавор на працягу году не праверауся, і ў штодзённай рабоце асьветнікаў дзякуючы гэтаму не адчувалася спаборніцтва, як стымул падняцьця якасьці ўсей пэдагагічнай вытворчасьці. У раёне маюцца сацдагаворы, заключаныя паміж цэлымі асьветніцкімі колектывамі, паміж паасобнымі школамі і групамі. Дагаворы гэтыя заключаліся на цэлы год і давалі прыблізна такі эфект—у першыя дні пасьля заключэньня дагавароў сацспаборніцтва адчувалася і сапраўджалася ростам колькасных і якасных паказчыкаў, а далей, дзякуючы таму, што выкананьне прынятых абавязкаў абодвума бакамі не кантралюецца, спаборніцтва паступова патухае і ўжо ў канцы году школы ледзь прыпамінаюць, з кім у іх заключана сацумова. Сацспаборніцтва індывідуальнае сярод настаўніцтва, а таксама і вучняў адсутнічае. Галоўныя недахопы, такім чынам, у развіцьці сацспаборніцтва і ўдарніцтва гэта—адсутнасьць пэрыядычнай праверкі выкананьня заключаных умоў, недастатковая канкрэтызацыя абавязкаў, якія вызначаюцца ў дагаворах, адсутнасьць штодзённага жывога спаборніцтва ў бягучай рабоце.

## Пэдкадры і падвышэньне кваліфікацыі настаўніцтва

Усяго ў раёне працуе 239 настаўнікаў, спэцыяльная адукацыя якіх відаць з ніжэйпаданай табліцы аб дыфэрэнцыраванай аплаце працы

| I КАНЦЭНТР | II КАНЦЭНТР |
|---|---|
| па I разраду—37 чал. | па I разраду—24 чал. |
| „ II „ —77 „ | „ II „ — 4 „ |
| „ III „ —88 „ | „ III „ — 8 „ |
| „ IV „ — 1 „ | „ IV „ — 0 „ |
| Разам 203 чал. | Разам 36 чал. |

Не хапала на працягу навучальнага году: 24 наст. I канц і 6 наст. II канц.

Для папаўненьня недастаючых кадраў ў раёне арганізованы 6-месячныя пэдкурсы, на якіх навучаецца 30 чалавек.

Масавым завочным навучаньнем ахоплены па праграме за пэдтэхнікум 15 чал. і за пэдінстытут 24 чал.

Належных умоў для завочнікаў ня створана—адсутнічае ў раёне бібліятэка для завочнікаў, перагружанасьць грамадзкай працай не дае магчымасьці завочнікам акуратна выконваць акадэмічныя заданьні. Для падрыхтоўкі кадраў у II канц. к 1932-33 нав. году вылучана з настаўнікаў I канц. 27 чалавек, якія будуць пасланы на $1^1/_2$ месячныя курсы перападрыхтоўкі, па асобных дысцыплінах.

## Вучот і плянаваньне работы

Гадавыя агульна-школьныя пляны ў пераважнай большасьці школ раёну адсутнічаюць. У настаўнікаў-групаводаў і выкладчыкаў па асобных дысцыплінулепшых выпадках маюцца толькі рабочыя пляны на дэкаду. Прычым, апошнія складаюцца надта прымітыўна: пішацца дата, лекцыя па парадку, назва дысцыпліны і кароткі зьмест працы на лекцыі. Ні мэтаду праработкі, ні мэтавай устаноўкі, ні выпячваньня выхаваўчых момантаў, палітэхнічных звычак, грамадзкай працы, падпарадкаванай вучэбным і выхаваўчым мэтам школы—у рабочых плянах не паказана. Ёсьць частка настаўнікаў, якія наогул ніякіх плянаў не складалі і заняткі праводзілі з праграмаю ў руках (наст. Каржанеўскі і Мельнічэнка—Быкоўская шк., Ільлюкоў — Пралетарская шк., Крупскі—Васільлеўская і інш.).

Адзінаю, пакуль што, формаю вучоту працы па 1 канц. у нашым раёне зьяўляюцца кругавыя сшыткі, якія вядуцца вучнямі кожнай гуупы па чарзе, і ў якіх фіксуецца па магчымасьці ўся работа, якая праводзіцца ў школе на працягу рабочага дня. У II канц. па некаторых ШКМ вучоту школьнай работы вучняў няма, апрача запісаў выкладчыкаў у журналах. Агародня-Гомельская ШКМ вучот работы даручыла вучнёўскім брыгадам, прыцягнуўшы такім чынам да наладжаньня вучоту саміх вучняў. Гэтакжа наладжаны вучот і ў Агародня-Кузьмініцкай ШКМ. Па вучоце пасьпяховасьці ў II канц. сталых форм не заведзена. Характарыстыкі працы кожнага вучня па асобных дысцыплінах, формы якіх зьмешчаны ў клясным журнале, адпаведным чынам не запаўняюцца, а калі кім і запаўняліся, дык ставіліся адзнакі: „нзд“, „зд.“, „сл“ ці—„пасьпявае“, „не пасьпявае“, „слаба пасьпявае“. Такія адзнакі, бязумоўна характарыстыкі пасьпяховасьці вучня не даюць.

## Мэтадычная работа ў раёне. Узорныя школы

Мэтадычным цэнтрам у раёне зьяўляецца раймэтадком, які створаны згодна палажэньня, выпрацаванага НКА БССР. У кожным сельсавеце арганізаваны сельмэтадаб'яднаньні і пры шматкамплектавых школах, апрача таго, створаны школьныя мэтадбюро. За ўвесь навучальны год адбыліся 5 паседжаньняў прэзыдыуму Р. М Б, а пленум раймэтадкому яшчэ не адбываўся ні разу. На прэзыдыумах Р. М. Б. распрацованы: пляны працы для ўсіх нізавых мэтадаб'яднаньняў, схэмы—гадавога агульна-школьнага пляну, квартальнага і дэкаднага, рабочых плянаў, прапрацоўваліся мэтадычныя лісты, дасылаемыя НКА прыстасоўваючы іх да мясцовых умоў (аб рэвалюцыйных сьвятах, удзелу культасьветустаноў у вясновай сяўбе і інш.), распрацоўвалася пытаньне аб уключэньні на-

стаўніцтва ў месячнік за аўладаньне пэдагагічнай тэхнікай, аб конкурсе на лепшую палітэхнічную школу і лепшага настаўніка, заслухоўваліся вынікі абсьледваньня школ інструктарамі-мэтадыстымі і шэраг іншых пытаньняў.

Апрача 2-х раённых інструктароў-мэтадыстых, у кожным с/савеце (24) з лепшых настаўнікаў вылучаны грамадзкія інструктары. Па ліквідацыі няпісьменнасьці таксама ў кожным с/с маюцца асобныя мэтадысты. На працягу навучальнага году з 79 школ раёну раённымі інструктарамі-мэтадыстамі абсьледвана 63 школы. Значнай практычнай дапамогі аказаць малападрыхтаванаму настаўніку, абслугоўваючы вучасткі па 12 с/саветах, інструктары ня мелі фізычнай магчымасьці. У працэсе рэалізацыі пастановы ЦК аб школе ў раёне адна ШКМ была вызначана ўзорнай.

Шмат цяжкасьцяй стаяла на шляху ператварэньня гэтай школы ў сапраўды ўзорную, „каб настаўніцкія масы, рабочыя, калгасьнікі і вучні маглі на практыцы навучацца ў іх будаўніцтву палітэхнічнай школы.“ Былі ўжыты захады, каб укамплектаваць ўзорную ШКМ лепшымі пэдагагічнымі сіламі, але і зараз падбор пэдкадраў ўзорнай ШКМ нельга прызнаць здавальняючым: з 4 чалавек, працуючых у II канц., толькі 3 маюць вышэйшую адукацыю; з 7 наст. I канц. маюць кваліфікацыю за пэдтэхнікум толькі 4 чал. Матар'яльнай базы, без якой школа ня можа і стаць ўзорнай, таксама пакуль што няма.

Будынак, у якім зьмяшчаецца ўз. ШКМ, разьлічаны на 4-кампляктавую школу, няма памяшканьняў для абсталяваньня габінэтаў, няма бібліотэкі, няма падручнікаў, няма інтэрнату для вучняў. Р. В. К. у апошнім квартале 1931 году быў вызначыў для ўзорнай ШКМ спэцыяльных сродкаў 4000 р. Уз ШКМ, выходзячы з гэтай сумы, выпісала ўсе неабходныя падручнікі, навочныя дапаможнікі, некаторае абсталяваньне для габінэтаў і г. д., але потым Р. В. К. замест 4000 даў толькі 1500 руб., і прыбыўшыя падручнікі ня было чым выкупіць. Такім чынам з-за „мядзьвежай услугі“ з боку Р. В. К. школа засталася без патрэбных падручнікаў. Толькі ў маі месяцы ўзорная ШКМ пачала палітэхнізавацца, стварылі майстэрню, наладзілі ў выніку працяжных боек з цьвердалобымі гаспадарнікамі Церахоўскай МТС, практыку вучняў старэйшых груп у рамонтных майстэрнях МТС, а таксама вывучэньне с-г машын.

У выніку таго, што вучні гэтай ШКМ з прычыны эпідэміі тыфуса больш месяца прагулялі, „карэнны недахоп“ у гэтай школе ў паасобных групах ня толькі ня зьнішчыўся, а нават павялічыўся. Так па III гр., у галіне матэматыкі вучні ў канцы году паняцьця ня маюць аб дзесятковых дробах. 6-ыя групы па гісторыі праходзяць праграму 5-га году навуч. (фэадалізм). Гадавы агульнашкольны вытворчы плян у гэтай школе адсутнічае, школьнае мэтадбюро ня створана. Гарачыя сьнеданьні пры школе не арганізаваны, апалай школа зусім не забясьпечана. Няма нават такой простай рэчы, як карца для піцьця вады, і з-за гэтага вучні ротам п'юць з крана, з вядра. З азначаных недахопаў шмат якія тлумачацца недастатковасьцю ўвагі да стварэньня ўзорнай школы з боку самага пэдкалектыву і ў першую чаргу загадчыка школы. У канечным выніку, падыходзячы к канцу навучальнага году, гэтая ШКМ, як узорная толькі пачала падымацца на ногі, паказальнага-ж для астатніх школ раёну нічога не дала. У раёне маецца Агародня-Кузьмініцкая ШКМ, якая, ня носячы назвы „ўзорная“, шмат лепей наладзіла работу па ўсіх галінах і ўключылася ва ўсебеларускі конкурс на лепшую школу.

## Грамадзкая праца асьветнікаў і іх матар'яльная забясьпечанасьць

Пад кіраўніцтвам Р К КП(б)Б і партыйных ячэек на мясцох значна падвысілася актыўнасьць асьветніцкіх шэрагаў па ўдзеле ў выкананьні ўсіх гаспадарчапалітычных задач, правадзімых партыяй і ўрадам на вёсцы. На працягу навучальнага году сілаю асьветнікаў арганізоўваліся чырвоныя абозы па нарыхтоўках, ствараліся брыгады па мабілізацыі сродкаў і г д. Па няпоўных даных асьветнікамі праведзена 257 сходаў сялян

калгасьнікаў і інш., выпускаецца ініцыятываю настаўнікоў 37 насьценгазэт па калгасах раёну.

Адзначаючы гэтыя дасягненьні, трэба паказаць і на абураючыя факты зрыву забясьпячэньня настаўнікаў у паасобных с/с, а таксама на скажэньні ў паасобных выпадках дырэктыў ураду аб выплаце зарплаты. Так, Агароднія- Гомельскі, Харошаўскі і шэраг іншых с/с сыстэматычна па 2 месяцы ня выплачваюць зарплаты настаўнікам. Галавацяпы з РайфА далі дэрэктыву с/с, каб настаўнікам нявыплачвалі кватэрных і ўтрымлівалі з іх нейкую пераплату. Райспажыўсаюз і райкалгассаюз толькі, калі справа была перададзена пракурору, адчулі, што справа забясьпячэньня настаўнікаў — гэта іх справа. Але-ж поўнага забесьпячэньня настаўнікаў і цяпер няма.

Прыведзеныя факты гавораць аб тым, што на мясцох яшчэ маюць месца антыленінскія адносіны да настаўніка і рашучага адпору з боку вясковай грамадзкасьці яны не сустракаюць. СНК БССР дадзена катэгарычная тэлеграма аб выплаце настаўнікам зарплаты, наперад за ўвесь адпачынак але ўжо зараз РайфА заявіў—„па тых с/саветах, якія павінны атрымаць датацыю ў нас, мы настаўнікам за 1 месяц грошы выплацім, а астатнія хай мабілізуюць сролкі на мясцох“. Пераводзячы на простую мову гэта азначае, што настаўнікі 5-6 с/с атрымаюць зарплату за 1 месяц, а астатнія з 18-19 с/с не атрымаюць, бо наяўных грошай па сельбюджэтах няма.

* * *

Асьветнікі Церахоўшчыны, заканчваючы навучальны год, цьверда упэўнены што пад кіраўніцтвам партарганізацыі ўсе маючыяся цяжкасьці росту на культурным фронце будуць з посьпехамі вырашаны на карысьць пабудовы сапраўднай палітэхнічнай школы Маркса-Леніна. Будучы навучальны год, год увядзеньня ўсеагульнага навучаньня на базе 7-мі годкі, павінен на аснове ўжо маючагася вопыту барацьбы за рэалізацыю пастановы ЦК партыі аб школе сапраўдджацца яшчэ большымі якаснымі паказчыкамі.

# ЗА ПЭДАГАГІЧНЫЯ КАДРЫ

М. Кузьняцоў

## Аб становішчы і якасьці выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах [1])

(*Канец*)

Беларусізацыя вучэбнага працэсу значна тармозіцца з прычыны недахопу добраякаснай літаратуры на беларускай мове.

Абсьледваньне выявіла вялікую патрэбу ВНУ і тэхнікумаў у літаратуры вучэбнага і навукова-дасьледчага характару. Між тым, за апошні год ня вышла нават мінімальнай колькасьці яе, якая магла-б задаволіць Вузы і забясьпечыць правядзеньне лябараторнага мэтаду заняткаў. Калі прыняць пад увагу, што ўся шкодная літаратура, якая была раней ў карыстаньні, цяпер забаронена, а выходзячая часамі не адпавядае вышыні сучасных запатрабаваньняў і хутка робіцца адсталай, то становішча ў гэтай галіне проста катастрафічнае. ДВБ, ня гледзячы на значнае павышэньне тэмпаў сваёй працы, не пасьпявае з сваечасовым снабжэньнем ВНУ літаратурай. Часта бывае, што выданьне перакладзенай з расійскай мовы кнігі цягнецца да таго часу, пакуль яна не ўстарэе, альбо не зьявіцца другая лепшая. Тады, выдадзеная ДВБ кніга траціць сваю каштоўнасьць, ня гледзячы на тое, што яна ў свой час магла-б быць лепш скарыстана як беларуская, чым расійская. Але рэкамэндаваць яе ў якасьці падручніка на шкоду самаму зьместу выкладаньня ў той час, як можна яго павысіць увядзеньнем лепшай,—нельга. А ў выніку такое становішча прыводзіць да таго, што літаратурай на бел. мове зусім мала карыстаюцца у вучэбным працэсе.

Аднак, было-б памылковым адносіць гэты недахоп выключна за кошт ДВБ. На гэта да апошняга моманту з боку выкладчыкаў не зварачвалася досыць сурёзнай ўвагі. Нават там, дзе патрэбна было-б абавязкова ўключаць беларускі матар'ял: асобныя разьдзелы палітэканоміі, гістмату і інш.,—гэткія часта ня ўключаюцца па віне выкладчыкаў.

Навукова-выкладчыцкі склад не зьвяртае дастатковай увагі на беларусізацыю ўсяго вучэбнага працэсу, у шырокім сэнсе гэта а слова. Звычайна, беларусізацыя зводзіцца да ўжываньня тымі ці іншымі выкладчыкамі беларускай мовы ў часе самых заняткаў, у чым таксама не дасягнута яшчэ дастатковых посьпехаў. Якасьць беларускай мовы навукова-выкладчыцкага складу недастатковая. У некаторых ВНУ і тэхнікумах у адносінах да мовы допускаецца такі вэнігрэт, мешаніна расійскага і беларускага словаўжываньня, што цяжка сказаць, на якой ўласна кажучы мове ідзе ўвесь вучэбны працэс. Але калі тут яшчэ нешта робіцца,—дык у галіне беларусізацыі самога зьместу выкладаньня, прыцягненьня беларускага матар'ялу ў працэсе вывучэньня таго ці іншага пытаньня і маючыхся на рынку добраякасных беларускіх падручнікаў, дырэк-

[1]) Пачатак глядзі ў № 3 часопісу „КВ"

тыўных указаньняў ЦК КП(б)Б і ЦВК і СНК БССР,—амаль нічога да агляду ВНУ і тэхнікумаў зроблена ня было, як самымі навуковымі працаўнікамі, так і дырэктарамі ВНУ.

Навуковыя працаўнікі нават часта не знаёмы з становішчам беларускага кніжнага фонду свайго інстытуту, ня ведаюць, што добраякаснае вышла за апошні год з беларускай літаратуры па іх спэцыяльнасьці.

Ці-ж можа пры такім становішчы той ці іншы навуковы працаўнік яшчэ рэкамэндаваць беларускую літаратуру?

Літаратура ў большасьці рэкамэндуецца на беларускай мове і бяз уліку таго, ці маецца яна ў бібліятэцы, ці не, бо як-жа можа быць іначай, калі навуковы працаўнік зусім не знаёмы з становішчам бібліятэкі? Між тым, значная колькасьць бібліятэк інстытутаў і тэхнікумаў засьмечана розным хламам і нават шкодніцкімі выданьнямі ранейшых часоў, якія ці ня маюць ніякай навуковай вартасьці, ці патрэбны толькі ў абмежаваным ліку для крытычнай прапрацоўкі выключна па рэкамэндацыі і пад наглядам выкладчыка для засваеньня тых ці іншых тэм. Ня гледзячы на праведзеную раней амаль усімі інстытутамі і тэхнікумамі працу па зьняцьці шкоднай і непатрэбнай літаратуры і забароны карыстаньня ёю,—яшчэ да гэтага часу ёсьць выпадкі, калі ў шырокім карыстаньні маюцца забароненыя кнігі. Апошняе мела месца ў Індустрыяльна-Пэдагагічным Інстытуце. Цікава, што там-жа сярод выключанай літарат ры, між іншым былі і такія кнігі, як: „Ленін аб маладым пакаленьні“, „Аб Брэсцкім міры“, „Аб бягучым моманце“. Сталін „Справаздача на XVI зьезьдзе Усе КП(б), Рэзалюцыі Студзенскага пленуму ЦК КП(б)Б, за 1930 г., Кагановіч“—Як пабудавана РКП(б), Клясычныя творы расійскай мастацкай літаратуры: Пушкіна, Ганчарова, Лермантава, Чэхава, Тургенева, Некрасава і цэлы шэраг іншых цікавых кніжак, якія як адзначае брыгада, „кінуты ў шафы і значная частка якіх паедзена мышамі“.

Дрэнна абстаіць справа і з становішчам бібліятэкі ў БІСК, дзе, дзякуючы яе дрэннай арганізацыйна-тэхнічнай працы (каталёгі, вучот і інш.), нават немагчыма было праверыць, якая беларуская партыйная літаратура ў бібліятэцы ёсьць і якой няма. Ня гледзячы на ўтвораны перагляд кніжнага фонду бібліятэкі, у час агляду яшчэ ня была выключана ўся шкодная і макулатурная літаратура (Дрэзэн, Жабрак і інш.), а таксама ня вылучана ў паасобны фонд тая частка яе, якая неабходна для крытычнага разгляду пры прапрацоўцы тых альбо іншых дысцыплін (Гарзук, Сагацкая, Туган-Бараноўскі, Прэабражэнскі, Кандрацьцеў і інш.). З боку кіраўніцтва інстытутам да часу агляду наогул ня было зьвернута дастатковай ўвагі на папаўненьне бібліятэкі літаратурай на белмове.

Усе ВНУ і Тэхнікумы адчуваюць вялікую патрэбу ў вучэбнай літаратуры, асабліва на беларускай мове. Пытаньне аб забесьпячэньні ВНУ і Тэхнікумаў літаратурай, асабліва беларускай, ёсьць пытаньне аб пасьпяховым правядзеньні і поўным ажыцьцяўленьні пераходу на актыўныя мэтады заняткаў студэнтаў і ўмова пасьпяховай беларусізацыі ўсяго вучэбнага працэсу. Вось чаму ўсе кіруючыя асьветныя органы, Белдзяржвыдавецтва, дырэктараты ВНУ і тэхнікумаў, а таксама і навуковыя працаўнікі, павінны зьвярнуць на гэта асабліва вялікую ўвагу.

## VII

Усе вышэйпамянёныя недахопы ў галіне працы ВНУ і тэхнікумаў, шчыльна ўвязаны з недастатковым кіраўніцтвам асьветай, як з боку ДВС НКА, так і з боку адпаведных аддзелаў наркаматаў.

Як ужо адзначалася раней, кіраўніцтва з боку НКА вучэбнай працай ВНУ і тэхнікумаў, аж да 1932 г. было зусім недастатковым. Толькі з арганізацыяй ДВС і разгортваньнем працы апошняга, якое можна аднесьці да студзеня-лютага 1932, г., адбыліся поўныя зрухі ў гэтай галіне.

Сваю працу, ДВС НКА, прышлося пачаць спачатку, бо ранейшая праца яго папярэдніка—Навукова-Мэтадалёгічнага Камітэту, не магла мець станоўчага значэньня на гэтым новым этапе «працы

па-новаму». Выпрацаваныя ім праграмы прышлося забараніць і павесьці працу ў напрамку распрацоўкі новых праграм і інструкцый мэтадычнага характару. ДВС было праведзена абсьледваньне становішча выкладаньня шэрагу Вузаў, якое яшчэ ня скончылася і відавочна дасьць матар'ял для пабудовы працы па-новаму.

За гэты час ДВС НКА быў выдадзены інструкцыйна-мэтадычны ліст аб лябараторна-брыгадным мэтадзе ў ВНУ і тэхнікумах. Асноўнае пытаньне мэтадычнага ліста—барацьба на два франты ў мэтадычных пытаньнях. Паводле думкі ДВС ён павінен спрыяць таму, каб студэнцтва атрымоўвала акрэсьлены аб'ём ведаў, каб была зьнішчана абязьлічка студэнта і навуковага працаўніка, каб забясьпечыць актыўнасьць студэнта і навуковага працаўніка на ўсім працэсу пэдпрацэсу, каб наладзіць сыстэматычны ўлік пасьпяховасьці. Ліст актывізаваў студэнцтва і выкладчыцкую масу ў адносінах да мэтадычных пытаньняў (з тэзісаў дакладу С. Я. Вольфсона на сэсіі ДВС НКА).

ДВС выдана палажэньне аб катэдрах у ВНУ. Мэтай яго зьяўляецца зрабіць катэдру асноўнай нізавой мэтадычна-вытворчай адзінкай, ускласьці на гэту адзінку штодзённую барацьбу за марксаленінскую вытрыманасьць выкладаньня, за разгортваньне навукова- дасьледчай працы, забясьпечыць кантроль грамадзкасьці ВНУ над працай катэдры.

Распрацаван праект унутранага распарадку ў вышэйшай і сярэдняй школе з мэтаю рацыяналізацыі ўсёй працы студэнцтва, як навучальнай, так і грамадзкай. Устаноўлена сетка грамадазнаўчага цыклю, і праведзена шырокае абсьледваньне выкладаньня грамадазнаўчых дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах, а таксама распачата праца па распрацоўцы тыповых праграм па грамадазнаўчых дысцыплінах, якія павінны быць выдадзены да пачатку новага вучэбнага году.

Мы зазначылі тут толькі на асноўныя моманты працы ДВС, абмежаваўшыся толькі пэўным колам пытаньняў, якія перш за ўсё датычацца ВНУ і тэхнікумаў і якія павінны даць пэўны зрух у іх працы.

Грунтоўныя пытаньні паставіла перад ДВС НКА, скліканая ім у маі месяцы пэршая сэсія, ажыцьцяўленьне шмат якіх, бязумоўна, адаб'ецца на якасьці працы ВНУ і тэхнікумаў самым спрыяльным парадкам. Але ня гледзячы на пэўныя дасягненьні, якія маюцца ў кіраўніцтве вышэйшай асьветай БССР, з боку ДВС НКА яшчэ ня зьнішчаны шэраг недахопаў, якія ёсьць, асабліва, ў галіне ўстанаўленьня сыстэматычна - мэтадычнага кіраўніцтва працай правінцыяльных ВНУ і тэхнікумаў. На гэты бок, НКА яшчэ ня зьвернута дастатковай ўвагі. Паказальнымі ў гэтых адносінах зьяўляюцца два прыклады: 1) у ліпені месяцы 1931 г. Гомельскі аграпэдінстытут накіраваў у НКА распрацаваныя навуковымі работнікамі інстытуту 15 праграм па 15-ці дысцыплінах, і толькі 21/XII за №100-2 была даслана ацэнка праграмы па пэдалёгіі, зробленая не ДВС, а выкладчыкам Магілёўскага Пэдінстытуту. На астатнія 14 праграм ніякіх заўваг зроблена ня было; 2) 12/IX пасьля атрыманьня ад НКА навучальнага пляну на г.г. ін-т паслаў у вышэйпамянуты дзень за №719 свае заўвагі наконт яго; прычым да гэтага часу НКА так і ня вырашан шэраг пытаньняў, якія кранаюцца заўваг нав. працаўнікоў ін-ту.

ДВС НКА неабходна ўзмацніць кіраўніцтва правінцыяльнымі ВНУ і тэхнікумамі, якія знаходзяцца ў асабліва горшых умовах працы. Як, напрыклад, можна зазначыць на становішча Індустрыяльна-пэдагагічнага тэхнікуму ў Гомелі. Цэхі на гаспадарчы разрахунак не пераведзены і адпаведнымі вытворчымі матар'яламі не забясьпечаны. Па думцы брыгады, НКА недастаткова цікавіцца пастаноўкай вытворчасьці ў тэхнікуме, а як відаць са слоў кіраўнікоў тэхнікуму, цікавіцца галоўным чынам толькі атрыманьнем пэўнай прадукцыі (варштатаў, інструмантаў і г. д.) Значная частка варштатаў ня маюць поўнай нагрузкі, працуюць з перабоямі, бо не хапае матар'ялу, і каб забясьпечыць ім тэхнікум, не пастаралася яго кіраўніцтва, а таксама іншыя органы (Белснаб).

Брыгада, якая праводзіла агляд тэхнікуму, адзначае, што ў сучасны момант ліцейны цэх за адсутнасьцю матар'ялаў пастаўлен пад пагрозу зачыненьня і спыніў выкананьне прамфінпляну, вызначанага раней. Дрэннае забесьпячэньне матар'ялам з боку Белснабу, які патрабуе за матар'ялы частку прадукцыі, і адсутнасьць увагі з боку НКА прымушаюць адміністрацыю тэхнікуму ісьці па шляху прадуктаабмену і прыватных згод на выраб прадукцыі, што прыводзіць да парушэньня дырэктыў партыі. Усё гэта зрывае плянавасьць работы цэхаў і дрэнна адбіваецца на вытворчай практыцы студэнтаў. Шэсьць умоў т. Сталіна ў вытворчай працы тэхнікуму не праведзены; ня зьнішчана абязьлічка і ўраўнілаўка; інструктары і рабочыя не пераведзены на зьдзельшчыну і за рабочымі і інструктарамі не замацаваны інструманты; не разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва».

Усё гэта патрабуе асаблівай ўвагі з боку НКА і іншых органаў, і неабходна зараз-жа ўжыць шэраг мерапрыемстваў па выкананьні шасьці гістарычных умоў т. Сталіна, перабудове ўсёй работы тэхнікуму па-новаму.

Непараўнальна горш ажыцьцяўляецца кіраўніцтва ВНУ і тэхнікумамі з боку адпаведных наркаматаў, якім яны падпарадкаваны. Агульным тут зьяўляецца пэўная недаацэнка з боку наркаматаў працы ВНУ, якія знаходзяцца ў іх распараджэньні, даходзячае нават да поўнага ігнараваньня патрэб ВНУ.

Бяспрыкладным у гэтых адносінах зьяўляюцца адносіны БКС да Каапэрацыйнага ін-ту, які знаходзіцца ў яго распараджэньні. БКС ня толькі ня кіруе працай інстытуту, а нават часта тармозіць яе.

З цэлай гурбы фактаў, аднолькава „рознацэнных“, зазначым на наступныя: амаль, 3½ месяцы БКС не зацьвярджаў бюджэт інстытуту і настолькі пагоршыў яго фінансавае становішча, што паставіў пад пагрозу зрыву ўсю вучэбную працу інстытуту. Апошні выплачваў навуковым працаўнікам пэнсію са спазьненьнем на 15—18 дзён, ня маючы нават 40 руб. у касе, каб купіць для правядзеньня заняткаў па хэміі дыстыляванай вады, ня маючы 200 руб. на выкуп імпартнага абсталяваньня, дзесятку рублёў на набыцьцё неабходнай для вядзеньня заняткаў літаратуры. Дайшло да таго, што навуковыя працаўнікі, каб падтрымаць нармальную працу інстытуту, „пазычалі“ ін-ту па дзесятцы руб. з сваёй уласнай кішэні (Лясноўскі). Мала таго, маюцца факты, калі аддзел кадраў БКС, замест таго, каб падтрымліваць дысцыпліну ў ін-це, пераманьваў студэнтаў на працу ў БКС і г. д. Яшчэ да гэтага часу працягваецца гэтае нікудышнае становішча інстытуту па віне БКС.

Бязумоўна, такое становішча надалей ў працы ВНУ пакінуць немагчыма. Умяшацельства ЦКК РСІ ў гэтую справу, якая ўжо зрабіла пэўныя крокі да ўзьдзейнічаньня на БКС, мы ўпэўнены, пакладзе канец тым ненармальнасьцям, якія створаны БКС і якія тармозяць разьвіцьцё ўсёй навукова-акадэмічнай і грамадзкай працы Беларускага інстытуту спажывецкай каапэрацыі.

Недахопы, на якія мы тут зазначалі, мелі месца таксама з прычыны амаль поўнай адсутнасьці да гэтага часу сувязі ДВС НКА з аддзеламі кадраў адпаведных наркаматаў, што павінен быў адзначыць на сэсіі ДВС яго старшыня т. С. Я. Вольфсон.

„Сувязь ДВС,—кажа ён,—з аддзеламі кадраў наркаматаў і гаспадарчых аб'яднаньняў не наладжана; мэтадычная праца ў большасьці аддзелаў кадраў амаль адсутнічае. Неабходна сувязь ДВС з аддзеламі кадраў узмацніць і зрабіць сталай, адначасова ўстанавіўшы пэўнае разьмеркаваньне паміж функцыямі ДВС і аддзеламі кадраў“.

Бязумоўна неабходна, як найхутчэй правесьці гэтае мерапрыемства ў жыцьцё, зьнішчыўшы ўсе перашкоды, стаячыя на шляху разгортваньня ўсёй працы ВНУ і тэхнікумаў.

Ліст т. Сталіна зьявіўся магутным сродкам мабілізацыі ўсіх партыйных сіл ВНУ і тэхнікумаў навакол пытаньняў партыйнасьці вучобы, бязьлітаснага змаганьня з рознымі відамі варожых ідэалёгій і перабудовы ўсёй вучэбнай працы ВНУ і тэхнікумаў па-новаму.

Вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы правялі вялікую працу ў на-

прамку ажыцьцяўленьня задач, пастаўленых нашай партыяй і яе правадыром т. Сталіным, якая, аднак, зьяўляецца толькі крокам уперад. Сакавіцкі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б адзначае, што „на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва асноўнай і першачарговай задачай... зьяўляецца барацьба за павышэньне якасьці культурнай работы, за рэалізацыю 6 умоў правадыра нашай партыі т. Сталіна за марксыцка-ленінскую мэтадалёгію. Пленум адзначае, што партарганізацыі і ў асаблівасьці органы Наркамасьветы, прафсаюзныя арганізацыі усё яшчэ не перабудаваліся на рэалізацыю гэтых важнейшых задач.“

Перад нашымі ВНУ і тэхнікумамі стаіць баявая задача цалкам рэалізаваць у сваёй працы пастанову сакавіцкага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб культурным будаўніцтве. Зімовы агляд становішча грамадазнаўчых дысцыплін у ВНУ і тэхнікумах дае вялізарнейшы канкрэтны матар‘ял для перабудовы сваёй працы кожнай ўстановы, якая аглядалася.

Калі дадаць да гэтага той вельмі каштоўны матар‘ял, які дала першая сэсія Дзяржаўнага вучонага савету БССР, якая адбылася ў Менску ў маі,—то мы будзем мець усе дадзеныя для таго, каб пасьпяхова, бальшавіцкімі тэмпамі, цалкам выканаць пастаўленыя партыяй ў галіне вышэйшай і сярэдняй асьветы задачы.

Дырэктывы партыі ясны. Вышэйшая і сярэдняя асьвета БССР павінна перабудаваць сваю працу на падставе гістарычнага ліста т. Сталіна і паказаных ім 6 умоў перамогі, прасякнуць увесь вучэбны працэс бальшавіцкай партыйнасьцю, узброіць кадры марксыцка-ленінскай мэтадалёгіяй, даць нашай краіне ня проста спэцыяліста, а чырвонага спэцыяліста, актыўнага і сьвядомага барацьбіта за сацыялізм і будаўніка бясклясавай грамады. А гэтыя задачы можна выканаць толькі ў бязьлітаснай барацьбе як з правым (галоўная небясьпека), так і з „левым“ апартунізмам і ўсякімі прымірэнцтвамі да іх, у жорсткай барацьбе за ленінскую нацыянальную палітыку: з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе і з контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам, беларускім шавінізмам і шавінізмамі розных масьцей і колераў.

---

М. Лазарэнка

# Аб працы Стара-Барысаўскага сьвінагадоўчага Марына-Горскага садова-гароднага тэхнікумаў

Як сама прафтэхнічная школа, так і падрыхтоўваемыя ёю кадры спэцыялістаў павінны сапраўды ўмець „па-новаму працаваць“, „па-новаму кіраваць“, павінны сапраўды быць „арганізатарамі вытворчай актыўнасьці шырокіх працоўных мас“, умець стаць на чале гэтай іх актыўнасьці у барацьбе за аўладаньне тэхнікай, за аўладаньне навукай, за штодзённае ажыцьцяўленьне шасьці ўмоў, дадзеных т. Сталіным у гістарычнай прамове 23/VI 1931 г., за пабудову камуністычнага грамадзтва.

Вырашэньне гэтых вялізарных задач, якія стаяць перад спэцыяльнаю школаю, выклікае неабходнасць рашучага паляпшэньня яе вытворча-пэдагагічнай працы, жорсткай барацьбы за выкананьне дырэктыў лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) (1929 г.), дасягненьня „рашучай эфэктыўнасьці вучобы“, жорсткай барацьбы за паляпшэньне і перабудову як зьместу ведаў, якія даюцца гэтай школаю, таксама і арганізацыйна-мэтадычнага боку яе працы.

Першая задача—перабудова зьместу ведаў—вырашаецца барацьбой за пабудову ўсіх дысцыплін на базе марксыцка-ленінскай матар'ялістычнай дыялектыкі, прасякненьнем ва ўсе праграмы разгорнутай штодзённай сыстэматычнай барацьбы супроць усіх і ўсялякіх буржуазных і сацыял-фашысцкіх тэорый, барацьбы за чыстату марксыцка-ленінскага сьветапогляду, супроць права і лева-апартуністычных яго скажэньняў, барацьбы з трацкісцкай і іншай антыленінскай кантрабандай ў навуцы, барацьбы з буржуазнымі шкодніцкімі тэорыямі ў аграрным пытаньні, барацьбы за адзінства рэвалюцыйнай тэорыі і практыкі, барацьбы за ўключэньне ва ўсе дысцыпліны апошніх дасягненьняў сусьветнай навукі і тэхнікі.

Другая арганізацыйная задача—задача найлепшай пабудовы пэдагагічнага працэсу, ставіць школу перад неабходнасьцю ўзмацніць барацьбу за сапраўды рэвалюцыйную, сапраўды савецкую сыстэму і мэтады навучаньня, павесьці рашучы наступ супроць абязьлічкі студэнта і выкладчыка, супроць ўраўнілаўкі ў арганізацыі і ажыцьцяўленьні пэдагагічнага працэсу і высьвятленьня яго вынікаў.

ЦК УсеКП(б) у пастанове ад 5/IX адзначае, што „ўжываючы ў савецкай школе розныя новыя мэтады навучаньня, якія могуць спрыяць выхаваньню ініцыятыўных і дзейных ўдзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва, неабходна разгарнуць рашучую барацьбу супроць лёгкадумнага мэтадычнага пражэкцёрства, насаджэньня ў масавым маштабе мэтадаў, загадзя на практыцы неправераных, што асабліва ярка ў апошні час выявілася ва ўжываньні так званага „мэтаду праектаў“. Выцякаўшыя з антыленінскай тэорыі „адміраньня школы“ спробы пакласьці ў аснову ўсёй школьнай работы так званы „мэтад праектаў“, вялі фактычна да разбурэньня школы“.

Гэтая характарыстыка цалкам адносіцца і да спэцыяльнай сярэдняй школы. Але спэцыяльная школа мае і свае цяжкія хваробы. Яна яшчэ і зараз хварэе ад апартуністычнага скажэньня брыгадна-лябараторнага мэтаду працы. Скажэньне, якое ўнесла ў некаторыя школы абязьлічку ў працу студэнтаў і выкладчыкаў, адмену індывідуальнага вучоту пасьпяховасьці і вынікаў працы паасобных студэнтаў і выкладчыкаў.

Лева-апартуністычныя скажэньні ў пабудове навучальна-пэдагагічнага працэсу—льлюць ваду на млын прамой контррэвалюцыі, дапамагаюць права-апартуністычным элемэнтам цягнуць назад, да буржуазнай схалястычнай школы і патрабуюць рашучага змаганьня з імі.

Такім чынам, барацьба за зьмест навучаньня, за прасякненьне яго марксыцка-ленінскім сьветапоглядам, за партыйнасьць у навуцы павінна весьціся адначасова з барацьбой за сапраўды рэвалюцыйныя савецкія мэтады навучаньня, з рашучай барацьбой супроць усіх і ўсялякіх скажэньняў палітыкі партыі ў галіне навучаньня.

Стара-Барысаўскі тэхнікум з пачатку навучальнага 1931-32 году рашуча ўзяўся за правільнае вырашэньне вялізарнай задачы, якая стаіць перад спэцыяльнай сярэдняй школаю ў галіне падрыхтоўкі кадраў для сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Паклаўшы ў аснову сваёй працы 6 умоў, якія дадзены т. Сталіным, і пастанову ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, тэхнікум разгарнуў барацьбу за ўздым якасьці вучэбна-вытворчай працы, за правільную арганізацыю вучэбнага працэсу, ужываючы бальшавіцкія мэтады працы, сацспаборніцтва і ўдарніцтва, за партыйнасьць у навуцы.

Тэхнікум яскрава ўсьвядоміў, што арганізацыя пэдагагічнага працэсу павінна мець пэўную „ўстаноўку ў падрыхтоўцы спэцыялістага дадзенай кваліфікацыі і спэцыяльнасьці, таму выходным пунктам у працы тэхнікуму зьявілася выпрацоўка профілю спэцыялістага з дакладным вызначэньнем яго ролі ў вытворчым працэсе, яго функцый і тых ведаў, што неабходны дзеля палепшаньня выкананьня гэтых функцый.

Профіль спэцыялістага даў магчымасьць тэхнікуму вызначыць зьмест навучаньня і зьмест праграм па паасобных дысцыплінах.

Для распрацоўкі праграм па спэцыяльных дысцыплінах на аснове марксыцка-

ленінскай мэтадалёгі, з 23/II—14/III пры Стара-Барысаўскім тэхнікуме адбылася Усесаюзная мэтадычная нарада выкладчыкаў сьвінагадоўчых тэхнікумаў.

**Плян працы, прапроблены мэтадычнай нарадай:**

| Назва прапрацаваных мэтадычнай нарадай праграм | Дата працы | Лік тэхн удзельнікаў нарады | % да агульн. ліку сьвінагадоўчых тэхн. | Лік дэлегатаў нарады ад тэхн. |
|---|---|---|---|---|
| Экономіка сьвінагадоўлі, арганіз. с эц. сьвінагадоўчых гаспад., з тэхнармаваньнем і эканомікай працы . . . . | 23—27-II 1932 г. | 5 | 29 | 28 |
| Мэханізац. сацыялістычнай сьвінагадоўч. гасп. | 28/II-I/III | 4 | 23 | 27 |
| Кармленьне . . . . . . | 25/III | 8 | 48 | 29 |
| Бэканізацыя і адкорм . . | 6/III | 11 | 64 | 32 |
| Зоогігіена і прафіляктыка з асн. вэтэрынарыі . . | 7/III | 10 | 58 | 30 |
| Разьвядзеньне з асновамі гэнэтыкі . . . . . . . | 8—9/III | 12 | 67 | 32 |
| Фізыялёгія з аснов. анатоміі. Эндокрыналёгія . | 10/III | 11 | 64 | 30 |
| Кормаздабываньне з асн. батанікі . . . . . . . | 12—13/III | 3 | 17 | 15 |
| Даклад аб сацспаборніцтве і ўдарніцтве . . . | 11/III | 13 | 76 | 36 |

У рабоце мэтадычнай нарады асабліва актыўны ўдзел прымала ўдарная брыгада выкладчыкаў Стара-Барысаўскага тэхнікуму Да канфэрэнцыі брыгада шмат працавала над творамі Карла Маркса, Энгельса і Леніна, каб падкаваць сябе ў галіне марсыцкаленінскай мэтадалёгіі. У час канфэрэнцыі брыгада ўцягвала ўдзельнікаў у актыўную працу. Брыгада ўзяла на сябе абавязак напісаць у 1932 г. падручнік па арганізацыі сьвінагадоўчай гаспадаркі і выклікала на сацспаборніцтва калектыў выкладчыкаў Чарапавіцкага с/г. тэхнікуму, напісаць падручнік па мэханізацыі сац. сьвінагадоўчай гаспадаркі. У час канфэрэнцыі быў праведзен чарговы агляд працы ўдарнікаў Стара-Барысаўскага тэхнікуму, агляд прайшоў пры актыўным удзеле членаў канфэрэнцыі. Папярэдня праведзены агляд ударных студэнцкіх брыгад з індывідуальным абгаварэньнем кожнага ўдарніка. 4 сакавіка адбыўся агульны сход, на якім рабілі справаздачы брыгадзіры і ўдарнікі-выкладчыкі аб выніках ударніцтва. Зьлёты ўдарнікаў ў тэхнікуме праводзяцца сыстэматычна па пляне. Робіцца падагульненьне працы і вызначаюцца абавязкі да наступнага зьместу.

Ударніцтва ў тэхнікуме зьяўляецца сапраўдным вагаром барацьбы за выкананьне вучэбна-вытворчага пляну. Пропускі заняткаў, якія раней меліся ў масавым характары з боку студэнтаў і выкладчыкаў, амаль зусім зьнішчаны. Уведзен актыўны мэтад заняткаў, наладжан індывідуальны падлік працы, зьменшылася непасьпяховасьць, значна павысілася актыўнасьць у працы ўсяго калектыву, як у галіне вучобы, так і грамадзкай працы. Наладжана сапраўды няспынная вытворчая практыка. Тэхнікум заключыў з саўгасам умову па адбыцьці вытворчай практыкі і атрымаў значную суму грошай (авансам) у лік аплаты вытворчай практыкі, што значна палепшыла матар'яльнае становішча студэнтаў. Вытворчая практыка падпарадкавана вучэбна-выхаваўчым мэтам тэхнікуму. Ёсьць плян і праграмы практыкі. Як плян, так і праграмы добра ведае кожны студэнт. Сіламі ўдарных брыгад тэхнікум радыёфікаваны. Устаноўлены ня толькі гучнагаварыцелі ў кожным інтэрнаце, але і радыёпрыемнікі. Ударныя брыгады знайшлі і скарысталі пакінуты ад нямецкай акупацыі калючы дрот.

Мэтадычная канфэрэнцыя, азнаёміўшыся з станам ударнай працы тэхнікуму, заслухаўшы даклад дырэктара прыняла наступную рэзалюцыю:

1) Адзначыць, што Стара-Барысаўскі тэхнікум прарабіў вялікую працу па разгортваньні ўдарніцтва і дасягнуў значных посьпехаў.

2) Адзначыць, што ў разгортваньні ўдарніцтва ўжыты захады, сапраўды стымулюючыя ўдарніцтва, як масавы рух студэнцтва і выкладчыкаў.

3) Канфэрэнцыя лічыць, што дырэкцыя тэхнікуму праводзіць правільную лінію

ў адносінах да настаўнікаў, а менавіта: сіламі тэхнікуму забясьпечвае кватэрай, апалам, асьвятленьнем і садзейнічае ў забесьпячэньні прадуктамі харчаваньня, праводзіць неабходнае камунальнае абслугоўваньне з тым, каб спэцыялісты магчыма менш траціў часу на сваё забесьпячэньне і аддаваў больш часу сваім непасрэдным абавязкам і сваёй перакваліфікацыі.

4) Канфэрэнцыя адзначае, што ўдарная брыгада выкладчыкаў Стара-Барысаўскага тэхнікуму папярэдня правяла вялікую марксыцка-ленінскую падрыхтоўку і дапамагла канфэрэнцыі адшукаць правільны шлях марксыцка-ленінскай мэтадалёгіі ў прапрацоўцы праграм.“

Улічваючы вялікі недахоп настаўніцкіх кадраў па спэцыяльных дысцыплінах школ саўгасвучу, тэхнікум арганізаваў групу з 17 асоб і рыхтуе для выкладчыцкай работы ў саўгасвучах.

Марына-Горскі садова-гародны тэхнікум уласным памяшканьнем і абсталяваньнем забясьпечан ня горш Стара-Барысаўскага тэхнікуму, але вучэбна-вытворчая праца там мае шэраг буйных недахопаў-прарываў.

Вучэбна-вытворчыя пляны ні на мэтаднарадзе, ні на вытворчай нарадзе належным чынам не прапрацаваны, адгэтуль, як вынік у арганізацыі вучэбна-вытворчага працэсу маецца самацёк. Мэтаднарада існуе на паперы, а працы не вядзе. Не абгаворана пытаньне аб мэтадах выкладаньня, колькасным і якасным уліку працы. Інструкцыйна-мэтадычны ліст аб лябараторна-брыгадным мэтадзе, прысланы ў пачатку студзеня, на працягу двух месяцаў не абгаворан. Тэхнікум мае 4 аддзяленьні, але ні на адным няма распрацаванага профіля спэцыялістага. Высланы НКА узор вучэбна-вытворчага пляну на 1932-33 навуч. год і профіля спэцыялістага ляжыць у тэхнікуме бяз руху.

Разьмеркаваньне спэцыяльных дысцыплін паміж выкладчыкамі зроблена па прынцыпе ўраўнілаўкі ў нагрузцы выкладчыкаў. Напрыклад, батаніка на першым курсе падзелена між двума выкладчыкамі бяз жаднай увязкі паміж імі. Асновы пладаўніцтва і гародніцтва на пчалярным аддзяленьні, ня гледзячы на малую колькасьць гадзін (54 гадз.), падзелены на два гады. Матэматыка на пладовым, гародным і пчалярным аддзяленьні беспадстаўна скарочана на 38 гадз., супроць вызначаных тыповым плянам НКАсьветы (200 гадз.). На аддзяленьні тэхпрапрацоўкі адведзена матэматыцы 180 гадзін у той час, калі на гэтым аддзяленьні для спэцыялістага патрэбна больш моцная матэматычная падрыхтоўка, чым на пладовым аддзяленьні. Ні заданьні, ні рабочыя пляны паасобных выкладчыкаў не абгаварваюцца, дзякуючы чаму адсутнічае ўвязка паміж дысцыплінамі. Заданьне студэнтам дыктуецца, на што трацiцца шмат часу. Пытаньне аб рацыяналізацыі гэтага моманту не ўзьнімалася. Абмен вопытам паміж выкладчыкамі адсутнічае. Пытаньне ўздыму якасьці працы ні на агульных сходах, ні на вытворчых нарадах ня ставілася. Гурткоў па аўладаньні выкладчыкамі марксыцка-ленінскай мэтадалёгіяй і апошнімі дасягненьнямі навукі і тэхнікі, няма.

Праект праграмы па с/г. эканоміі і арганізацыі сац. с-гаспадаркі, які высланы ў жніўні 1931 г. НКА,—вучэбнай часткай да выкладчыка не даведзена і ляжаў ў справах да прыезду камісіі па абсьледваньні тэхнікуму—18/II-32 г.

Выкладчык т. Гарбачоў прапрацоўваў арганізацыю без праграмы па складзеным ім пляне, у які зусім ня ўключыў тэмы:

1) Рэканструкцыя сельскай гаспадаркі.

2)Пляналаваньне і спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі.

3) Індустрыялізацыя і мэханізацыя с/г. вытворчасьці.

4) Характарыстыка вытворчых спэцыялізаваных тыпаў с/г.

У вытворчым пляне маецца толькі пералік тэм, без разгорнутага зьместу іх. Брыгадзе цяжка было выявіць, у якім напрамку прапрацоўвалася са студэнтамі арганізацыя сац.гаспадаркі. Па запісах студэнтаў відаць, што па паасобных тэмах узята ўстаноўка арганізацыі капіталістычнай гаспадаркі. Напрыклад, у пытаньні выбару тыпу гаспадаркі, выкладчык ня выходзіць з плянавых заданьняў і ўвесь час вядзе гутарку толькі

аб прыродна-эканамічных умовах. Ня высьветлены сацыялістычны зрух, які адбываецца ў с/г. пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі і г. д.

Значная частка выкладчыкаў маюць нагрузку па 12 вучэбных гадзін у дзень, што зьніжае якасьць вучэбна-вытворчай працы.

Сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод выкладчыкаў адсутнічае. Настаўнікі зусім не дапамагаюць студэнтам у наладжаньні самастойнай працы ў па-за сеткавыя гадзіны.

Умовы з вытворчымі прадпрыемствамі, па адбыцьці нясупыннай вытворчай практыкі студэнтаў тэхнікуму, не заключаны. Праграмы вытворчай практыкі на студэнцкіх сходах і вытворчых нарадах не абгавораны. Вопыт вытворчай практыкі, навучальнай часткай не скарыстоўваецца. Для зьнішчэньня прарываў у працы тэхнікуму, для палепшаньня вучэбна-вытворчай працы, для ўзьняцьця якасьці працы тэхнікуму,—з боку с/г. сэкцыі ДВС, НКЗ і Садова-гароднага трэсту ўжыты належныя крокі.

# КРЫТЫКА І БІБЛІАГРАФІЯ

**Уладз. Гесэн**

## Супроць меншавіцка-трацкісцкай кантрабанды

*(Аб падручніках па гісторыі клясавай барацьбы для ФЗС і ШКМ)*

Пастанова ЦК партыі аб школе і апошняга пленуму ЦК і ЦКК КП(б Б аб культурным будаўніцтве невыпадкова завастрае ўвагу усёй партыйнай і савецкай грамадзкасьці на гэтым важнейшым вучастку барацьбы за бяскляссавае, камуністычнае грамадзтва.

Праблема падрыхтоўкі грамадзкіх кадраў адукаваных і палітычна і палітэхнічна вырашаецца, зразумела, не аднымі толькі тэхнікумамі ці ВНУ. Работнікі апошніх ведаюць, якой цяжкай становіцца работа, калі сустракаешся з моладзьдзю, якая прышла без здавальняючай папярэдняй падрыхтоўкі са школ ФЗС і ШКМ. Задачы, што стаяць перад нашым Саюзам, накладаюць на савецкія і партыйныя арганізацыі асобныя абавязкі ў адносінах да ніжэйшай і сярэдняй школы. Пастанова ЦК адыграла ў гэтай справе рашаючую ролю, мабілізаваўшы ўвагу камсамолу, усёй арміі асьветнікаў і піянэраў, не гаворачы ўжо аб партыі, на барацьбу на два франты ў пастаноўцы школьнай справы. Але недастаткова яшчэ ўвагі ўдзяляецца якасьці тых падручнікаў, з якімі і над якімі працуе вучнёўства сямігодак.

Верна, што складаньне падручнікаў для школ ФЗС і ШКМ сустракала асобыя труднасьці мэтадычнага парадку. Імённа таму, вельмі часта накіроўваючы сваю ўвагу і ўсё свае намаганьне на мэтодыку, на прастату выкладаньня і інш., аўтары гэтых падручнікаў пагарджаюць мэтадалёгічным і палітычным бокам. Тут вульгарызацыя і прымітыў ня толькі пераходзяць усякія межы, але зусім выхалашчваюць палітычны зьмест прадметаў. Няма па трэбы даказваць, што, прыкрываючыся „папулярнасьцю“, „мэтодыкай“ і г. д., некаторыя і сьвядома пратаскваюць клясава-варожыя ўстаноўкі, тэорыі і „ідэйкі“. І гэта ў першую чаргу адносіцца, што асабліва недапушчальна, да падручнікаў па грамадазнаўстве, па гісторыі клясавай барацьбы, г. зн. да найбольш якраз палітычных прадметаў.

Я бяру найбольш распаўсюджаныя, пэўней адзіныя падручнікі па гісторыі клясавай барацьбы для ФЗС і ШКМ: 1) Рубін, Гольмшток і Хануцін „Гісторыя клясавай барацьбы“ для 5 году навучаньня, БДВ 1931 г., 2) Рудаміно „Грамадазнаўства“ для 6 году навучаньня, БДВ 1930 г. і 3) Рудаміно „Грамадазнаўства“ для 7-га году навучаньня, БДВ 1931 г. (Усе тры падручнікі на беларускай мове).

Няма чаго і казаць, што ў гэтых трох падручніках можна знайсьці вельмі многа асобных памылак, няправільных і няўдалых выразаў і г. д. Пры агульнай правільнай устаноўцы, калі гэтыя памылкі не пераходзяць у сыстэму, то пры ўмове адсутнасьці падобных падручнікаў для ФЗС—з гэтым можна было-б мірыцца. Але бывае так, што ніякая адсутнасьць літаратуры і ніякія труднасьці ў гэтай справе ня могуць апраўдаць зьяўленьне падручнікаў, а тым больш карыстаньне імі,—гэта тады, калі ўся ўстаноўка кніг наскрозь прынцыпова памылковая і палітычна шкодная, клясава варожая.

З памянёных трох падручнікаў трэба, бязумоўна, вылучыць першы. Прызначаны для 5-й групы, абмежаваны рамкамі XVII стагодзьдзя, ён больш ці менш прыймальны. Але бязумоўна, аднак, што ў пагоні за лёгкасьцю і папуляр-

насьцю выкладаньня тт. Рубін, Гольмшток і Хануцін пагарджаюць асновамі марксыцкага аналізу... Яны ня ставяць пытаньне аб фармацыях, аб тым, што такое клясы, аб адносінах людзей да сродкаў вытворчасьці, аб зьмесьце клясавай барацьбы і інш. Зразумела пытаньні гэтыя складаныя, але ўсе-ж паддаюцца тлумачэньню нават для вучняў 5-га году навучаньня. „Ва ўгоду“ „лёгкасьці“ падручніка, аўтары ня спыняючыся на гэтых пытаньнях, робяць грубую палітычную памылку. Таксама недапушчальна змазваньне і пытаньня аб фэўдалізьме і прыгоньніцтве, якое аб'ектыўна вядзе да затушаваньня барацьбы з мэханістычнымі тэорыямі Дуброўскага, нашы аўтары праходзяць міма асаблівасьцяй гістарычнага працэсу ў розных краінах. Таму ў іх і атрымліваецца, што разьвіцьцё грашовых адносін аднолькава адбілася на разьвіцьці такіх краін, як Англія, Расія, Францыя і г. д. Такім чынам увага вучняў не мабілізуецца на прыгоньніцкім пэрыядзе, як асаблівасьці гістарычнага разьвіцьця Расіі і Германіі. Гэтае ігнараваньне прыгоньніцтва тым больш недапушчальна, што поўнасьцю адпавядае меншавіцка-трацкісцкім тэорыям рускага гістарычнага працэсу, якое ў сваю чаргу зьвязана з іх канцэпцыямі аб характары і рухаючых сілах расійскай рэвалюцыі. Далей, гэты падручнік зусім замоўчвае такое істотнае пытаньне, як сацыяльная сутнасьць самадзяржаўя, што на справе вядзе да замоўчваньня трацкісцкай тэорыі аб пазаклясавасьці самадзяржаўя ў яе супроцьстаўленьні ленінскаму вучэньню аб самадзяржаўі, як дзяржаве дыктатуры прыгоньніка-памешчыка. Зусім амаль не ўдзяляецца месца каленіяльнай палітыцы Маскоўскай дзяржавы і працэсу ўтварэньня каленіяльнай імпэрыі. Рубін і інш., падаючы сялянскі рух XVII стагодзьдзя, „забываюць“ аб такой „дробязі“ як аб вайне украінскага казацтва (Багдана Хмяльніцкага) і сялянства супроць польскай і маскоўскай каленізацыі, абператварэньні Украіны ў калёнію Расійскай імпэрыі і інш. Само паказаньне сялянскай вайны ў пачатку XVII стагодзьдзя і руху Сьцяпана Разіна носіць выключна апісальны характар.

У марксыцкім падручніку такія памылкі, побач са змазваньнем цэлага раду істотных праблем, недапушчальны.

Што-ж датычыцца падручнікаў Рудаміно для 6—7 гадоў навучаньня, то тут мы сустракаемся з такой колькасьцю меншавіцка-трацкісцкіх памылак і ідэек, што пытаньне аб выпраўленьні і пераапрацоўцы гэтых падручнікаў стаяць ня можа. Неадкладнае ізаляваньне са школ—вось першы вывад, які мы павінны зрабіць. Неадкладна вывесьці „на сонейка“ ўсіх тых, хто праявіў злачынны лібэралізм, дапусьціў чацьвертае (!) выданьне такога клясава варожага падручніка,— натуральна другое патрабаваньне.

Для характарыстыкі палітычнай фізыяноміі гэтых падручнікаў няма патрэбы спыняцца на ўсіх пытаньнях, у іх закранутых.

Для гэтай мэты дастаткова абмежавацца тымі разьдзеламі, якія прысьвячаны гісторыі народаў СССР, Беларусі і гісторыі партыі.

Спынімся спачатку на падручніку для 6-га году навучаньня. Ён напісаны ў 1930 г., г. зн. праз пару год пасьля дыскусіі аб грамадзкіх фармацыях, якая адбылася ўсюды, дыскусіі, накіраванай сваёй вастрынёй супроць мэханістычных і трацкісцкіх канцэпцый. Дыскусія гэта мела актуальнае палітычнае значэньне— не дарма-ж яна і пачалася ў сувязі з барацьбой трацкістаў, супраць Камінтэрну ў пытаньнях Кітайскай рэвалюцыі, якая адбылася нібы-та ў эпоху гандлёвага капіталізму. Гаворачы аб гэтай эпосе, як аб самастойнай грамадзкай фармацыі, трацкісты рабілі адпаведныя вывады пра характар Кітайскай рэвалюцыі, накіраванай, моў, супроць буржуазіі, адмаўляючы, такім чынам, папутніцкую ролю апошняй на этапе барацьбы з фэўдальным ладам. А імена так ставілася пытаньне Камінтэрнам, бо эпоха гандлёвага капіталізму не ўтварае самастойнай грамадзкай фармацыі, паколькі гандлёвы капітал не стварае асобных спосабаў вытворчасьці, прыстасоўваючыся да тых, якія ён застае пры сваім зьяўленьні і разьвіцьці.

Такім чынам, спрэчкі і барацьба з трацкісцкімі тэорыямі аб гандлёвым капіталізьме насілі далёка не абстрактны характар; яны былі непасрэдна зьвязаны з тактыкай кампартыі Кітаю і Камінтэрну ў гэты пэрыяд рэвалюцыі.

Але для Рудаміно гэта ня існуе, і першы-ж разьдзел (стар. 213) ён называе „Улада гандлёвага капіталу“. Гэта не памылка. На гэтай-жа старонцы аўтар гаворыць, што эпоху капіталізму папярэджвала „як і ўсюды“ эпоха гандлёвага капіталу, што інтарэсам гандлёвага капіталу ўсё было падпарадкавана, у тым ліку палітычная ўлада. Г. зн. калі па Леніну самадзяржаўе ёсьць дзяржава дыктатуры памешчыкаў-прыгоньнікаў, то па Рудаміно — самадзяржаўе зьяўляецца арганізацыяй гандлёвага капіталу. Калі па Марксу-Леніну прыгонныя адносіны ствараюцца ў інтарэсах памешчыкаў-уласьнікаў умоў вытворчасьці, то па Рудаміно прыгоньніцтва складалася ў інтарэсах гандлёвага капіталу. Усе войны вяліся, па Рудаміно, зноў-такі, у інтарэсах гандлёвых капіталістаў. Памешчык-прыгоньнік ніякай ролі тут не адыгрывае (стар. 213—217). Зразумела, што калі такая колькасьць памылак і антыленінскіх сьцьверджаньняў была сабрана ўсяго толькі на 5 старонках, то на працягу наступных многіх дзесяткаў колькасьць і „якасьць“ іх бесьперапынна ўзрастае. Так, на 220 і 222 стар. мы даведваемся, што пугачоўшчынай завецца сялянская вайна ня супроць прыгоньнікаў-памешчыкаў, а супроць гандлёвага капіталу, што пугачоўшчына была толькі „падтрымана“ іншымі прыгнечанымі народамі, якія, дарэчы, прыгняталіся не вялікарускімі памешчыкамі і купцамі, а толькі ўсяго „царскай адміністрацыяй“. Ці варта гаварыць, што ні слова не сказана аб ідэалёгіі пугачоўшчыны, што не ўпамянуты нават дзекабрысцкі рух, паўстаньне Чарнігаўскага і Сямёнаўскага палка, што ўся кніга, акрамя ўсяго іншага, сьведчыць аб „гістарычнай“ няпісьменнасьці аўтара. Усё гэта дробязі ў параўнаньні з тым, што мы знаходзім у адным з разьдзелаў гэтага падручніка, які называецца „Канец прыгону“ (стар. 236—243).

Ленін разглядаў рэформу 1861 году як рэзультат, як роўнадзейную клясавай барацьбы той эпохі, барацьбы за „прускі“ і „амэрыканскі“ шлях буржуазнага разьвіцьця. Ленін характарызаваў гэтую рэформу, як рэформу буржуазнага парадку, праведзеную памешчыкамі-прыгоньнікамі і захаваўшую таму вельмі многа істотнейшых рыс фэўдальна-прыгоньніцкіх адносін. І, нарэшце, Ленін неаднокраць адзначаў, што рэформа 1861 г. ня вырашыла супярэчнасьцяй той эпохі, што „1861 г. парадзіў 1905 г.“. Аднак, Рудаміно з усімі гэтымі доказамі Леніна ня лічыцца. Калі па Леніну рэформа была праведзена ў інтарэсах прыгоньніка-памешчыка, то па Рудаміно яна дыктавалася інтарэсамі пануючых клясаў, г. зн. (па Рудаміно) прамысловай буржуазіяй гандлёвага капіталу і „нават“ (як сьмешна гучыць гэта „нават“ для тых, хто чытаў Леніна) некаторай часткі памешчыкаў (стар. 137). Аўтар не разумее сувязі рэформы з праблемай унутранага рынку. Гандлёваму капіталу, які ў Расіі кансэрваваў прыгоньніцкія адносіны, ён прыпісвае выключна рэвалюцыйную ролю. Аўтар зусім не разьбіраецца ў памешчыцкіх групоўках таго часу, не разумеючы, што барацьба між імі ішла толькі ўсяго „за форму і меру ўступак“ (Ленін). Зусім недапушчальным зьяўляецца і такое сьцьверджаньне Рудаміно, што нібы та інтарэсы дробнага і сярэдняга памешчыка ў параўнаньні з інтарэсамі прамысловай і гандлёвай буржуазіі былі такой дробязьзю, якая зусім ня прымалася пад увагу ўрадам (стар. 239). Гэта ёсьць ня што іншае, як адкрытая рэвізія ленінскага вучэньня аб клясавай базе самадзяржаўя, якая так арганічна зьвязана з ленінскім разуменьнем задач буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі. Калі па Леніну буржуазнае разьвіцьцё Расіі ішло нават насупраць прыгоньніцкай форме, што прыгоньніцкі бок апошняй затрымліваў гэтае разьвіцьцё, то па Рудаміно рэформай 1861 г. „мэты буржуазіі былі дасягнуты“ (старонка 243). Тлумачыць, што ўсё гэта на справе ёсьць ня што іншае, як „трацкісцкая кантрабанда“, ня прыходзіцца. Гэта ясна кожнаму за

выключэньнем, можа быць, Навукова-мэтадычнага камітэту Наркамсьветы, які рэкамэндаваў гэты падручнік. Зразумела, што ў разьдзеле аб народніцтве, апрача звычайнай для гэтага падручніка няпісьменнасьці, мы сустракаем „між іншым“ і працягненьне ідэі Тэадаровіча аб непасрэдна: „преемственнасти“ між народніцтвам і бальшавізмам (стар. 252), пры адсутнасьці ў падручніку нават намёку на выраджэньне народніцтва (эпігоны народніцтва). Ня прыходзіцца і гаварыць, што ніводнага радка ня ўдзелена рэформе 1861 г. і народніцкаму руху на „ўскраінах“. Але букет, так сказаць, антыленінскіх установак у нацыянальным пытаньні прыпадносіцца ў апошнім разьдзеле гэтага падручніка „Клясавая і нацыянальная барацьба ў Беларусі ў XIX стагодзьдзі“, якому ўдзелена ўсяго толькі 5 старонак (добра што ня больш). З гэтага разьдзелу мы ведаем, па-першае, што становішча беларускага сялянства было такое-ж, як і „гарадзкога, асабліва местачковага насельніцтва“ (стар. 260). Рудаміно лічыць, відаць, што „гарадзкое насельніцтва“ складае адзіную клясавую групоўку. Але нашаму аўтару і гэтага мала: „Аднак,—піша ён,—у выключна цяжкіх умовах знаходзілася насельніцтва яўрэйскае“ (стар. 261). Для Рудаміно ня існуе яўрэйскай буржуазіі, яўрэйскага рамесьніка, падмайстра і інш. Яўрэі—адзіная бясклясавая нацыя, нацыя эксплёатуемая. Ленінскі-ж тэзіс аб тым, што ў кожнай нацыі ёсьць дзьве нацыі, або невядомы нашаму аўтару, або зусім для яго не абавязковы.

У падручніку, скрозь палітычна-варожым, невыпадкова ўжываюцца элемэнты ўсякіх ухілаў, шавінізмаў і тэорый контррэвалюцыйнага троцкізму і меншавізму. І ня дзіўна таму, што побач з падобнымі выказваньнямі, якія могуць быць аднесены за кошт уплываў яўрэйскага буржуазнага нацыяналізму, ёсьць і такія разважаньні, як, напрыклад, аб польскім характары паўстаньня 1863 г. на Беларусі, якія, зразумела, носяць на сабе яўныя сьляды ўплываў польскага буржуазнага нацыяналізму. Але неаднакратныя выказваньні на тую тэму, што беларускае сялянства адносілася варожа да паўстаньня, што гэтае паўстаньне было справай „паноў ды шляхты“ (стар. 262—263) носяць бязумоўна вялікадзяржаўніцкі характар, яны адлюстравалі ў сабе ўплыў вялікарускага шавінізму, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай у нацыянальным пытаньні, на даным этапе.

Ня будзем прыводзіць яшчэ прыкладу антыленінскіх установак. Ужо з сказанага, твар гэтага падручніка выяўлены дастаткова ярка.

Але дарма мы будзем шукаць у другім падручніку таго-ж Рудаміно выпраўленьня памылак. Другі падручнік ужо для 7-га году навучаньня, які мае сваім прадметам гісторыю клясавай барацьбы ў эпоху імпэрыялізму і дыктатуры пралетарыяту, у сто разоў небясьпечней, шкадней першага. І ўсё-ж у 1931 г. ён выходзіць чацьвертым выданьнем з адпаведнай рэкамэндацыяй Навукова-мэтадычнага камітэту Наркамсьветы.

Тут зноў працягваецца тая-ж канцэпцыя аб гандлёвым капіталізьме (стар. 37, 38), зноў сьцьвярджаецца, што рэформа 1861 г. стварыла ўсе „неабходныя“ ўмовы для разьвіцьця капіталізму і інш. Але да ўсяго гэтага дадаюцца і новыя памылкі, памылкі зусім недапушчальныя. Так, у характарыстыцы кулака другой паловы XIX стагодзьдзя адсутнічае такая важнейшая адзнака, як эксплёатацыя наёмнай рабочай сілы (стар. 41), што павінна, бязумоўна, прывесьці да правапартуністычнага змазваньня клясавай барацьбы ўнутры сялянства. Далей, аўтар падручніка дапушчае і другую грубую прынцыповага характару памылку, калі падводзіць знак роўнасьці паміж расійскім кулаком, прадуктам „прускага“ шляху буржуазнай аграрнай эвалюцыі, і амэрыканскім фэрмэрам, прадуктам „амэрыканскага“ шляху буржуазнага разьвіцьця (стар. 42). Гэта памылка сьведчыць аб поўным неразуменьні ленінскага вучэньня аб барацьбе „двух шляхоў“, аб значэньні памешчыцка-прыгоньніцкіх лятыфундый.

Але ўсё гэта дробязі ў параўнаньні з тым, што прыпадносіцца гэтым падручнікам у разьдзелах, прысьвячаных

рэвалюцыі 1905 г. Ужо ў папярэднім разьдзеле, крытыкуючы, між іншым, погляды меншавікоў на ролю сялянства і лібэральнай буржуазіі ў рэвалюцыі, наш аўтар, „абвяргаючы“ іх, аргумэнтуе толькі ўсяго рэвалюцыяй 1917 г., і нібыта „1905 год“ паказаў правату не бальшавікоў—ленінцаў, а меншавікоў і трацкістаў (стар. 53). Так, ва усякім разе, атрымліваецца ў Рудаміно ў яго формулёўцы. Перш за ўсё ён спрабуе прадставіць буржуазію, як сілу рэвалюцыйную і ў роўнай меры з пралетарыятам і сялянствам, вядучую барацьбу з самадзяржаўем (стар. 59). Па думцы Рудаміно, барацьба буржуазіі супроць царызму толькі па форме адрозьніваецца ад той барацьбы супроць самадзяржаўя, якую вяла рабочая кляса (стар. 70). Але папрабуем гэта аднесьці за кошт няўдалых фармулёвак, неахайнасьці аўтара і г. д. Але, вось пачытаем, што піша Рудаміно аб III зьезьдзе партыі і аб тых задачах, якія стаялі перад рэвалюцыяй 1905 г. Тут скласьці віну на няпісьменнасьць ужо ніяк ня ўдасца. Самая яўная меншавіцкая кантрабанда, агіднейшае скажэньне ленінскіх (бальшавіцкіх) поглядаў—вось што характарызуе аб'ектыўнае значэньне гэтай часткі падручніка. „Зьезд прышоў да вываду,—піша Рудаміно,—што задачай пралетарыяту ў гэтай рэвалюцыі зьяўляецца ня тое, каб захапіць уладу і ўстанавіць пралетарскую дыктатуру, да чаго рабочая класа і сялянства яшчэ ня былі падрыхтаваны, але скінуць самадзяржаўе, склікаць устаноўчы збор, заваяваць палітычныя свабоды і заснаваць у Расіі дэмакратычную рэспубліку. Толькі пасьля гэтага пралетарыят, карыстаючыся палітычнымі свабодамі, здолее падрыхтаваць сябе да таго, каб захапіць уладу ды скінуць капіталізм“ (стар. 77). Меншавіцка-трацкісцкі зьмест гэтай цытаты зусім відавочны. Рудаміно, як і сапраўдныя трацкісты і меншавікі, прызнае толькі або чыста буржуазную, або чыста пралетарскую рэвалюцыю. Перарастаньне буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную, відаць, прадстаўляецца вельмі аддалёнай, „другараднай“ задачай, аб якой няма патрэбы нават і гаварыць. І гэта бадай у той час, калі амаль ва ўсіх артыкулах, прысьвячаных рэвалюцыі 1905 г. Ленін гаворыць аб тым, што кожны практычны крок рабочай партыі ў часе рэвалюцыі, кожнае рашэньне тактычнага пытаньня павінны быць пранікнуты ідэяй перарастаньня—„на чале ўсяго народу і ў асаблівасьці сялянства—за поўную свабоду, за пасьлядоўны дэмакратычны пераварот, за рэспубліку, на чале ўсіх працоўных і эксплёатуемых, за сацыялізм“. (Ленін, збор твораў, т. VIII, стар. 105, выд. 3-е). У „Двух тактыках“ Ленін пісаў, што тыя, „хто называе перамогай адно „рашэньне“ склікаць устаноўчы збор, хто ня ставіць задачай актыўную прапаганду ідэі аб неабходнасьці часовага рэвалюцыйнага ўраду“... такія людзі на самай справе рухаюць рэвалюцыю назад, таму, што ў практычна-палітычных адносінах яны станавіліся на ўзроўні вызваленчай пазыцыі (тамжа, стар. 53, курсіў—Леніна). І выкладаючы пункт гледжаньня Леніна на задачы рэвалюцыі, Рудаміно ніводным словам не абмовіўся ні аб часовым рэвалюцыйным ўрадзе, вышаўшым з узброеннага паўстаньня, ні аб рэвалюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пралетарыяту і сялянства, словам, нічога не сказаў аб тым, што і характарызуе той бальшавіцкі плян рэвалюцыі, супраць якога так упарта змагаліся меншавікі і трацкісты. Выкладаць ленінскі пункт гледжаньня на характар рэвалюцыі 1905 г. і абыйсьці маўчаньнем пытаньне аб перарастаньні буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў пралетарскую, што на кожным кроку падкрэсьліваецца Леніным, г. зн. прыпісваць Леніну меншавіцка-трацкісцкую праграму, г. зн. выступіць супроць Леніна і ленінскай партыі і пад выглядам ленінскіх поглядаў працягваць контррэвалюцыйную трацкісцкую кантрабанду.

Адпаведна такому „аналізу“ характар і рухаючых сіл рэволюцыі 1905 г., наш аўтар дае карціну масавага руху. Па яго думцы ніякай барацьбы ўнутры сялянства ня было, усё сялянства адчувала аднолькавую нянавісьць да памешчыцкай клясы (стар. 64), сялянскі рух не адчуваў на сабе ўплыву рэва-

люцыйных партый, ня быў накіраваны супроць самадзяржаўя, а толькі супроць памешчыкаў (вось апраўданьне трацкізму.), уся дзейнасьць Пецярбурскага Савету прадстаўляецца, як на 100 проц. бальшавіцкая (гэта пры меншавіцкай кіруючай вярхушцы), без адзінай памылкі, прычым не падкрэсьлена значэньне саветаў, як органу рэвалюцыйнай улады (стар. 80, 81, 83) Таксама прадстаўляецца і паўстаньне на „Пацёмкіне“, як нібы-та праведзенае цалкам бальшавікамі, бяз уліку ўплыву меншавіцкіх, эсэраўскіх і анархісцкіх элемэнтаў (стар. 84—8 ); лейтэнант Шмідт выстаўляецца як кіраўнік бальшавіцкага паўстаньня і г. д. (стар. 87—89). Зусім зразумела, што такі „аналіз“ падзей прыпісвае ленінскай партыі цэлы рад памылак апартуністычнага парадку, якія былі зроблены якраз меншавікамі і якія адыгралі сваю ролю ў паражэньні рэвалюцыі. Вось якраз разважаньні Рудаміно аб прычынах паражэньня рэвалюцыі 1905 г. і заслугоўваюць асаблівую ўвагу. Па яго думцы, а таксама па думцы меншавікоў і трацкістаў, „рэвалюцыя на вёсцы ішла бяз цеснай сувязі з рэвалюцыяй у горадзе. У выніку гэтага выступленьні сялян па часе не супадалі з выступленьнем пралетарыяту... Тое-ж самае і з арміяй... і гэта паказвае, што тады пралетарыят ды яго рэвалюцыйная партыя ня мелі яшчэ належнага ўплыву на сялянства“ (стар. 94). Ці можна гэта выказваньне расцэньваць інакш як пратаскваньне трацкісцкіх поглядаў? Ясна, што гэты тэзіс Рудаміно аб сялянстве супадае з меншавіцка-трацкісцкай ідэяй, што сялянства не выступае саюзьнікам пралетарыяту, як рэвалюцыйная сіла. Праўда, бальшавікі і Ленін гаварылі зусім іншае, але.. бачыце, моў, аказаліся правымі меншавікі. Вось што атрымліваецца незалежна ад волі аўтара. А што гаворыць Ленін аб сялянскім руху ў рэвалюцыі 1905 г.? Ён, Ленін, даказаў, якраз адваротнае, сьвярджаючы, што іменна масавыя стачкі рабочых абудзілі шырокія масы сялянства, што сялянскае паўстаньне нават у пачатку пятага году, хоць і было толькі ў зачатку (восеньню яно прыняла куды большыя разьмеры), усё-ж сьведчыла аб такім злучэньні пралетарскай масавай стачкі ў горадзе з сялянскім рухам на вёсцы, што змагло пахістаць нават такую апору царызму, як армію (Ленін,—XIX, стар. 34?—354 выд. 3-е),

Ці ня ясна, што гэтыя выказваньні Леніна якраз абвяргаюць меншавіцка-трацкісцкую хлусьню аб характары і рухаючых сілах рэвалюцыі 1905 г., аб разрыве між пралетарскім і сялянскім рухам і інш. Ці ня ясна, што памылкі Рудаміно на справе дамагаюць адрадзіць і аднавіць трацкісцка-меншавіцкія атакі на партыю.

Другая асноўная прычына паражэньня рэвалюцыі, па Рудаміно,—гэта адыход ад рэвалюцыі лібэральнай буржуазіі, яе здрада (стар. 94—95), што гэта значыць? Гэта значыць, што пралетарыят і яго партыя трымалі сябе так, што адштурхнулі ад рэвалюцыі буржуазію, дапусьцілі яе адыход або здраду, тым самым паслабіўшы размах і сілу рэвалюцыі. Словам, моў, адбылося тое, аб чым папераджалі меншавікі. Гэта значыць, што ў спрэчцы бальшавікоў і меншавікоў па пытаньню, ці аслабне размах рэвалюцыі, калі ад яе адыйдзе буржуазія, правымі аказаліся ня Ленін і бальшавікі, а іменна меншавікі. У сваёй клясычнай рабоце „Дзьве тактыкі“ Ленін прысьвячае гэтаму пытаньню цэлы разьдзел. Асноўныя яго палажэньні павінны быць добра вядомы кожнаму, і паўтараць іх няма патрэбы. Напомнім толькі, што гэтую боязь адыходу буржуазіі ад рэвалюцыі, з адпаведнымі вывадамі аб тактыцы пралетарыяту ў ёй, Ленін называў горшым відам здрадніцтва, здрадай асноўным прынцыпам клясавай барацьбы. Ленін неаднакраць падкрэсьліваў, што буржуазія не ўваходзіць у лік тых рэальных грамадзкіх сіл, ад якіх залежыць размах рэвалюцыі, што „толькі тады будзе сапраўдны найбольшы рэволюцыйны размах, магчымы ў эпоху буржуазна-дэмакратычнага перавароту, калі буржуазія адыйдзе і актыўным рэвалюцыянэрам выступіць маса сялянства побач з пралетарыятам. Для таго, каб быць пасьлядоўна даведзенай да канца, наша дэмакратычная рэвалюцыя павінна абаперціся на такія сілы, якія здольны паралізаваць няўнікнёную, непасьлядоўнасьць

буржуазіі (г. зн. здольны іменна „прымусіць яе адмахнуцца“, чаго баяцца па непаразуменьню каўкаскія прыхільнікі „Іскры“—Ленін, т. VIII, стар. 95—96). Ці можна пасьля гэтага гаварыць, што здрада буржуазіі зьяўляецца прычынай паражэньня рэвалюцыі. Ці ня ясна, што ўсякія размовы на гэтую тэму фактычна вядуць, па-першае да адраджэньня меншавіцкай ідэі аб ролі буржуазіі ў буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі, а па-другое, да меншавіцкай хлусьні аб памылках бальшавіцкага кіраўніцтва і ленінскага вучэньня аб пралетарыяце, як гегемоне ў буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што вызваленчы рух сярод прыгнечаных народаў, які з такой сілай зноў выбухнуў у 1905 г., якому Ленін прыдаваў вельмі вялікае значэньне (гл. т. XIX, стар. 354) зусім выпаў у падручніку Рудаміно.

Яшчэ некалькі слоў аб ацэнцы і аналізе сталыпінскай рэформы, як яна падаецца Рудаміно. Апошні, і ў гэтым пытаньні, (у падручніку) зноў выступае супроць Леніна. Інакш нельга расцэньваць сцьвярджэньне Рудаміно, што сталыпінская рэформа была праведзена выключна ў інтарэсах прамысловай буржуазіі. Ленін, гаворачы аб пэрспэктывах рэвалюцыі, аб тактыцы партыі ў гэты пэрыяд, якраз і гаварыў, што ў сутнасьці нічога не зьмянілася, што сталыпінскай рэформай самадзяржаўе зрабіла крок, толькі крок па шляху ператварэньня ў буржуазную манархію, што клясавая база яго асталася ранейшай, што самадзяржаўе працягвае аставацца дзяржавай дыктарury прыгоньніка-памешчыка, што рэформа гэтая зусім ня здымае з парадку дню праблему буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, што яна зьяўляецца рэформай „прускага“ парадку, Ленін якраз так рэзка і абрушыўся на ліквідатараў, што яны празявалі ў сталыпіншчыне яе памешчыцка-прыгоньніцкі характар, убачыўшы ў ёй буржуазны пераварот, які ліквідаваў фэўдальную манархію, і робячы адсюль свае апартуністычныя вывады аб легальнай барацьбе ў рамках буржуазнай дэмакратыі і інш. і інш. Няўжо ня ясна, што Рудаміно хоча ці ня хоча гэтага, але фактычна паўтарае ў сваім падручніку зады ліквідатарства.

Палітычнай памылкай гэтага аўтара трэба прызнаць таксама і тое, што, выпускаючы свой падручнік ва ўмовах Беларусі, ён не падумаў аб неабходнасьці зьвязаць сталыпіншчыну з прышчэпаўшчынай.

Далей па невядомай прычыне, у характарыстыцы імпэрыялізму Рудаміно адмаўляецца ад знаёмых ленінскіх пяці прызнакаў, адкідаючы такія, напрыклад, як вываз капіталу, міжнародныя капіталістычныя саюзы капіталістаў. Змазвае пытаньне аб фінансавай алігархіі і інш. (стар. 132—133). Неабходна падкрэсьліць што ў разьдзелах, прысьвячаных эпосе імпэрыялістычнай вайны, бальшавізм наступае, як чыста рускае зьявішча, не паказана сувязь бальшавізму з масавым пралетарскім рухам (стар. 146—149). Не гаворачы ўжо аб тым, што надзвычайна прымітыўна тлумачыцца Лютаўская рэвалюцыя 1917 г., немагчыма ня прывесьці наступныя мяшчанскія апісаньні яе, якія дае Рудаміно: „У хуткім часе,—піша ён,—увесь Петраград ахоплены паўстаньнем. Рабочыя ўзбройваюцца і бяруць на сябе кіраваньне паўстаўшымі салдатамі. 27 лютага царскі ўрад арыштаваны. Рэвалюцыя перамагла. Усюды аркестры граюць марсельезу. Радасьці няма канца“ (стар. 157, курсіў наш—У. Г.). Да гэтага малюнку не хапае толькі эпіграфу: „Кричали женщины „ура“ и в воздух чепчики бросали“. Тыя паўстаронкі, якія аўтар удзяляе характару і асаблівасьцям лютаўскай рэвалюцыі, бязумоўна, ні ў якай меры ня могуць узброіць чытача (вучня ФЗС і ШКМ) ленінскай мэтадалёгіяй і ленінскім аналізам. Ці можна, гаворачы аб Лютаўскай рэвалюцыі, не адзначыць, што ўлада саветаў абапіралася на ўзброены народ, што лёзунг Леніна, народжаны рэвалюцыяй 1905 г., аб рэвалюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пралетарыяту і сялянства найбольш яркае свае выражэньне знайшоў іменна ў саветах (што адмаўлялася трацкістамі), што выходзячы з ролі саветаў у першы пэрыяд рэвалюцыі (да ліпеньскіх дзён), выходзячы з сваяасаблівасьцяй рэвалюцыі (двухуладзьдзе), Ленін у сваіх красавіцкіх

тэзісах зусім ня высунуў, як гэта сьцвярджае Рудаміно, задачу неадкладнага зьвярженьня часовага ўраду, а, наадварот, гаворыць аб немагчымасьці такой пастаноўкі пытаньня, аб неабходнасьці папярэдняга яго выкрыцьця і г. д. Але пры ўсім гэтым з усёй чоткасьцю паставіў пытаньне аб перарастаньні гэтай рэвалюцыі ў рэвалюцыю сацыялістычную, якая і зьяўляецца бліжэйшай задачай пралетарыяту. Рудаміно і ня думае ўскрываць зьмест лёзунгу „Уся ўлада саветам", і таму ў яго падручніку прапаў момант, як зьняцьця гэтага лёзунгу бальшавіцкай партыяй (у ліпеньскія дні), так і яго зьяўленьне зноў ў пэрыяд карнілаўшчыны, г. зн. ва ўмовах бальшавізацыі мас, у першую чаргу саветаў,

Разьдзелы, прысьвячаныя Кастрычнікавай рэвалюцыі, маючы асабліва вялікае значэньне, напісаны так, што зьмяншаюць значэньне бальшавіцкай партыі ў Кастрычніку 1917 г., выхалашчваючы клясава-пралетарскі зьмест рэвалюцыі, змазваючы ролю Леніна, як правадыра партыі і пралетарыяту. Прыкладаў гэтаму шмат. Так, напрыклад, на стар. 168 Рудаміно піша (аб пэрыядзе падрыхтоўкі Кастрычніцкай рэвалюцыі): „Пад генэральным кіраўніцтвам Леніна бальшавіцкая партыя заваёўвае нябывалы ўплыў на самыя шырокія колы працоўных і сялян. Масы **стыхійна** паўстаюць пад ленінскія і бальшавіцкія сьцягі". Далей. Партыя разам з сваім правадыром ішла і вяла масы да пралетарскай рэвалюцыі. У радох ЦК партыі два яго члены спалохаліся рэвалюцыі, спалохаліся і дэзэртыравалі. Гэта былі Зіноўеў і Каменеў. Іх злачынства перад партыяй было паглыблена тым, што свой ліст супроць ЦК яны апублікавалі ў меншавіцкай газэце „Новая Жизнь". Усім вядома, як бязьлітасна абрушыўся Ленін на Зіноўева і Каменева. Але Рудаміно аб гэтым зусім змоўчвае, нібы-та гэтае выступленьне Зіноўева і Каменева ня зьвязана з іх наступнай барацьбой супроць партыі, у радох аб'яднанай апазыцыі. Але за тое маладушша і здраду дваіх Рудаміно падмяняе хістаньнямі ў радох усёй бальшавіцкай партыі (стар. 170). Рудаміно ніводным словам не абмовіўся аб тым, што ўжо пасьля захопу ўлады Зіноўеў, Каменеў, Рыкаў, Разанаў, Шляпнікаў і інш. зноў выступілі на *барацьбу з Леніным* і ЦК, патрабуючы кампрамісаў з эсэрамі і меншавікамі, дапушчэньне іх ва ўрад на аснове прынцыповых уступак і інш. Маўчаць аб гэтым аўтар падручніку ня меў ніякага права. З такойжа аднабокасьцю гаворыцца і аб Брэскім міры. Пазыцыя Троцкага і нават само яго імя не ўпамінаецца. Сказана толькі, што многія старыя бальшавікі былі супроць падпісаньня „нахабнага" міру, маючы за лепшае памерці ў барацьбе з нямецкім імпэрыялізмам (стар. 180). Ці гэта не ідэялізацыя пазыцыі Троцкага і інш., пры поўным маўчаньні аб пункце гледжаньня Леніна і аб яго барацьбе за падпісаньне міру. Ці гэта не змазваньне сутнасьці пазыцыі Троцкага і яго аднадумцаў, у аснове якой ляжыць нявер'е ў сілы пралетарыяту, з недааценкай сялянства ня толькі да, але і пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі і г. д.

Каб пакончыць, нарэшце, з крытыкай гэтай кнігі, прывядзем яшчэ толькі адну цытату: „Пераможная Кастрычніцкая рэвалюцыя, піша Рудаміно,— перадала ўладу пралетарыяту, які захапіў яе для таго, каб усталяваўшы сваю дыктатуру, перабудаваць капіталістычнае грамадзтва на **больш справядлівае** сацыялістычнае (стар. 173, курсіў наш—У. Г.) І так, уся **прынцыповая** розьніца між капіталістычным грамадзтвам і сацыялістычным заключаецца ў тым, што апошняе **больш** справядліва, ну, значыць, эксплёатацыя там не такая вялікая больш усякіх свабод, менш сваавольства і інш. Так ці што трэба зразумець сэнс гэтай нікчэмнай мяшчанскай сэнтэнцыі, ад якой так і прэ агіднейшай абывацельшчынай. Немагчыма спыняцца на ўсім, што ёсьць варожага ў гэтай кнізе. Для гэтага прышлося-б напісаць новую кнігу. Неабходна толькі адзначыць, што ў выкладаньні па-кастрычнікаўскага пэрыяду памылак ня менш, чым у папярэдніх разьдзелах, а якасьць іх таксама ня ўступае тым, аб якіх ішла гутарка вышэй. Вось, што гаворыцца аб Нэпе: „Новая эканамічная палітыка ёсьць сродак **гаспадарчага** саюзу паміж пралетарыятам і сялянствам" (стар. 202—205—206, курсіў наш У. Г.) Апартуністычная

прырода апазыцыянэраў усіх масьцей ярка праявілася якраз у іх барацьбе супроць ленінскага вучэньня аб нэпе. Яны, а за імі і Рудаміно, выхалашчваюць самае асноўнае ў нэпе, а іменна, што нэп ёсьць зброя наступленьня сацыялізму, што нэп ёсьць выражэньне ня толькі гаспадарчага, але і палітычнага саюзу пралетарыяту з асноўнымі масамі сялянства, пры кіруючай ролі пралетарыяту ў гэтым саюзе, што толькі пры правільных адносінах пралетарыяту з асноўнымі масамі сялянства і магла быць вырашана праблема, „хто каго“ і г. д.

Думаецца, што на гэтым можна паставіць кропку. Клясавы твар падручніка, які прадстаўлае сабой кангламэрат няпісьменнасьці, меншавіцка-трацкісцкай тэорыі і паклёпаў, выступае дастаткова выразна. Разгляд іншых разьдзелаў гэтых падручнікаў па сутнасьці, акрамя новых дзесяткаў прыкладаў таго-ж тыпу, што і прыведзеныя вышэй, ня прыбавіць. Ясна, што гэтыя кнігі павінны быць неадкладна ізаляваны са школ ФЗС і ШКМ. Але гэтага мала. Мы павінны паставіць пытаньне: як магло здарыцца, што ў працягу некалькіх год перавыдаваліся з рэкамэндацыяй Навукова-мэтадычнага камітэту Наркамасьветы і шырока распаўсюджваліся гэтыя варожыя нам кнігі. Дзе была бальшавіцкая пільнасьць органаў Наркамасьветы, дзе яго барацьба за сапраўдную бальшавіцкую гісторыю партыі і Кастрычнікавай рэвалюцыі? Зусім відавочна, што мы сустракаліся тут з праявамі таго гнілога лібэралізму, аб якім гаварыў тав. Сталін у сваім гістарычным лісьце ў рэдакцыю часопісу „Пролетарская революция“.

# ХРОНІКА

## Пра мерапрыемствы для разгортваньня краязнаўчага руху

### Пастанова Савету народных камісараў БССР

Пасьпяховае выкананьне плянаў сацыялістычнага будаўніцтва ў 4-м заключным годзе 1-й пяцігодкі і вырашэньне вялізарнейшых задач 2-й пяцігодкі і паскарэньне тэмпаў пабудовы сацыялізму, патрабуюць максымальнага разгортваньня масавай навукова-дасьледчай працы і ўцягненьня ў гэтую працу краязнаўчых арганізацый шырокіх мас працоўных.

Адзначаючы, што Цэнтральнае бюро краязнаўства і мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі ня справіліся з пастаўленымі перад імі задачамі і ня здолелі ўцягнуць у краязнаўчую працу шырокія працоўныя масы, Савет народных камісараў БССР пастанаўляе:

1. Прапанаваць Цэнтральнаму бюро краязнаўства і мясцовым краязнаўчым арганізацыям перабудаваць усю работу краязнаўчых арганізацый у кірунку поўнага падпарадкаваньня ўсяе краязнаўчае працы, канкрэтным плянам сацыялістычнага будаўніцтва кожнага раёну, прадпрыемства, саўгасу, калгасу і інтарэсам абароназдольнасьці краіны.

2. Паставіць галоўнай задачай краязнаўчых арганізацый разгортваньне масавай работы па ўцягненьні ў краязнаўчую работу працоўных мас, камсамолу, т-ва пралетарскага турызму і экскурсій, чырвонаармейцаў, студэнцтва, вучняў, вынаходцаў, рацыяналізатараў праз масавыя краязнаўчыя ячэйкі пры заводах, фабрыках, МТС, саўгасах, калгасах ВНУ і ВТНУ; школах.

3. Устанавіць наступную сыстэму краязнаўчых арганізацый ў БССР:

а) краязнаўчыя ячэйкі, як асноўныя першапачатковыя дасьледчыя арганізацыі на прадпрыемствах, МТС, саўгасах, калгасах, пры гаспадарчых установах ВНУ і ВТНУ, тэхнікумах і школах;

б) раённыя бюро краязнаўства пры раённых выканаўчых камітэтах і гарадзкіх саветах, выбраныя на раённых канфэрэнцыях па краязнаўстве;

в) Цэнтральнае бюро краязнаўства пры Беларускай акадэміі навук, выбранае краязнаўчай канфэрэнцыяй БССР.

4. Абавязаць Цэнтральнае бюро краязнаўства і раённыя выканаўчыя камітэты забясьпечыць сыстэматычнае разгортваньне краязнаўчай работы, падпарадкаваўшы апошнюю чарговым задачам сацыялістычнага будаўніцтва і наладзіўшы належнае кіраўніцтва гэтай працай.

5. Прапанаваць раённым выкананаўчым камітэтам аказваць матар'яльную дапамогу краязнаўчым арганізацыям у разгортваньні краязнаўчай работы арганізацыя досьледаў, экспэдыцый, выданьне раённых краязнаўчых зборнікаў і інш).

6. Даручыць Акадэміі навук і Камісарыяту асьветы пры складаньні пляну 2-й пяцігодкі прадугледзець адпаведныя мерапрыемствы для далейшага разгортваньня краязнаўчых работ; аказваць мэтадычную і інструкцыйную дапамогу ў разгортваньні сеткі краязнаўчых музэяў, бібліятэк і інш.

7. Адзначаючы, што навукова-дасьледчыя ўстановы не зварочваюць дастатковай ўвагі на разгортваньне краязнаўчага руху, абавязаць навукова-дасьледчыя ўстановы БССР увязаць сваю работу з работай краязнаўчых арганізацый і вызначыць для апошніх канкрэтныя заданьні, аказваючы мэтадычную і інструкцыйную дапамогу.

8. Даручыць Народнаму камісарыяту асьветы і Цэнтральнаму бюро краязнаўства забясьпечыць разгортваньне краязнаўчай работы у школах, забясьпечыўшы хутчэйшае выданьне краязнаўчых дапаможнікаў для школ, арганізацыю краязнаўчай работы асьветнікаў праз курсы, канфэрэнцыі і выкладаньне мэтодыкі краязнаўства у пэдагагічных установах.

9. Даручыць Беларускай акадэміі навук і Дзяржаўнаму выдавецтву Беларусі арганізаваць выданьне навукова-папулярнай і мэтадычнай краязнаўчай літаратуры, бібліяграфічных даведнікаў і дапаможнікаў для краязнаўчых ячэек.

10. Рэдакцыі газ. „Савецкая Беларусь" і раённаму друку сыстэматычна асьятляць работу краязнаўчых арганізацый.

11. Абавязаць Акадэмію навук і Народны камісарыят асьветы ўзмацніць кіраваньне як цэнтральнымі, так і мясцовымі краязнаўчымі арганізацыямі

12. Прапанаваць Белдзяржкіно пры ўдзеле краязнаўчых арганізацый павялічыць выпуск навукова-папулярнай і мастацкай кіно-фільмы, якая дэманструе прыродныя багацьці БССР і СССР.

Нам. старшыні Савету Народных Камісараў БССР А. Калнін.

Нам. Кіраўніка спраў Савету народных камісараў і Эканамічнага савету БССР Я. Элькін.

1 чэрвеня 1932 г.
№ 304
г. Менск.

# Арганізуючы момант удзелу „дзяцей ў арганізацыі жыцьця групы"[1])

**Мэтадычная запіска**

## Малодшая група

1. Першы арганізуючы момант „удзел дзяцей ў арганізацыі свайго жыцьця" для дзяцей малодшай групы гэта ёсьць першая ступенька ў новае жыцьцё, уступ ў колектыўнае грамадзае жыцьцё пасьля сям'і.

Арганізацыя першых дзён жыцьця дзіцяці ў дашкольнай ўстанове мае рашаючае значэньне на ўсе яго далейшыя паводзіны. Ад гэтых першых дзён залежыць, ці будзе дзіця імкнуцца ў дзіцячы сад, любіць яго, ці. наадварот, сад будзе для яго як нявпрыемная неабходнасьць. Ад першых дзён залежыць пытаньне, ці будзе кіраўніца аўтарытэтам для дзяцей, старэйшым таварышом і кіраўніком, аўладае яна групай ці не. Ад першых дзён залежыць і накіраванасьць далейшых паводзін дзіцяці.

Прыдаючы такое вялізарнае значэньне першым крокам жыцьця дзіцяці ў колектыве, кожная кіраўніца павінна з асаблівай адказнасьцю падыйсьці да гэтага моманту, павінна прадумаць кожны момант, кожную дробязь у арганізацыі асяродзьдзя для дзяцей, кожны занятак, кожнае свае слова да дзяцей.

Першы арганізуючы момант павінен быць праведзен так, каб дзеці з першых дзён адчулі стройнасьць колектыўнага парадку, хараство рытму колектыўнага жыцьця, каб уся акружаючая абстаноўка дапамагла дзіцяці прыстасавацца да гэтага рытму, засвоіць і падтрымліваць яго; вельмі важным момантам у такім выпадку зьявіцца арганізацыя асяродзьдзя, у якое прыдуць дзеці. Але каб належным чынам яго наладзіць, кіраўніца павінна перш за ўсё ведаць, з якога асяродзьдзя прыдуць да яе дзеці. Папярэдняе абсьледваньне сям'і і быту дзіцяці зьяўляецца неабходнай прадпасылкай для правільнага наладжваньня пэдпрацэсу.

2. Да прыходу дзяцей групавы пакой павінен быць падрыхтаваны належным чынам. Неабходна,

[1]) З тэй прычыны, што праграмы на асеньні квартал для дашкольных устаноў выйдуць з друку каля 15 верасьня, падаём тут арганізуючы момант для пачатку навучальнага году для малодшай, сярэдняй і старшай груп дзіцячага саду.

Дашкольная сэкцыя ДВС НКА.

каб пакой быў абсалютна чыстым. Павінны быць ў парадку расстаўлены сталы, крэслы, шафа для пасуды, з адпаведнай колькасьцю абедзенай і чайнай пасуды.

Умывальнік і вешалкі для ручнікоў і вопраткі павінны адпавядаць ўзросту дзяцей і знаходзіцца ў пэўным месцы. У асобным куточку ў парадку павінны быць разьмешчаны цацкі, прылады, будаўнічы матар'ял, грузавікі, скрыначкі, шпулькі, рознага разьмеру калёсікі, палачкі. На полачцы 2-3 кніжкі, лато, мазаіка, жывёлы з гумы, тут-жа павінен вісець малюнак на тэму „Дзеці гуляюць“.

Добра, каб быў наладжаны акварыўм з вадзянымі жывёламі, вакол якога групаваліся-б дзеці,

Усё павінна быць акуратна і прыгожа разьмешчана, каб дзеці, прышоўшы ў дзіцячы сад, адразу адчулі пэўны парадак. У цэнтральным месцы групы павінен быць зьмешчан партрэт Леніна або Сталіна.

3. Разам з гэтым неабходна, каб дзеці самі ўдзельнічалі ў стварэньні парадку, каб група адчувала адказнасьць за падтрыманьне, яго таму нельга, каб абсталяваньне групы было цалкам закончана: так праз некаторы час адзначаем з дзецьмі, што вешалкі не назначаны, што малюнкі негдзе хаваць і г. д. Вось гэтыя рэчы і робім разам з дзецьмі ў першы арганізуючы момант.

4. Нельга, каб адразу—з першага дня сабраліся ўсе дзеці бо:

1) кіраўніцы немагчыма ахапіць усіх адразу і азнаёміцца з імі;

2) сярод 20 дзяцей заўсёды знойдзецца 1-2, якія будуць першы дзень плакаць і гэтым расстрояць ўсіх дзяцей, таму неабходна сказаць бацьком у першы дзень прывесьці 8-9 дзяцей і з іх складаецца ядро, вакол якога будуць групавацца астатнія дзеці, якія прыдуць пазьней. У наступныя дні далучаецца па 2-3 дзяцей, за 5 дзён павінны ўліцца ўсе дзеці.

Як-жа вызначыць, каму з дзяцей прысьці ў які дзень. Пры абсьледваньні хатніх умоў кі, аўніца пытае ў маткі і сама зьвяртае ўвагу на тое, як дзіця падрыхтавана да наведваньня саду: ці вельмі імкнецца ў сад, ці, наадварот, баіцца: як дзіця наогул застаецца бяз маткі сярод другіх: з плачам ці спакойна, ці наведвала дзіця яслі і ці любіла наведваць іх; як дзіця сустрэла прыход кіраўніцы. Высьветліўшы гэтыя пытаньні, можна вызначыць, каму з дзяцей прыйсьці ў першы дзень, а каму неабходна ўліцца ў згрупаванае ядро дзяцей у наступныя дні.

Першыя 4—5 дзён даецца магчымасьць дзецям свабодна выкарыстоўваць матэр'ялы, якія зьмешчаны ў групе, а кіраўніца пазіраючы выяўляе вопыт дзіцяці іх веды і навыкі, іх уменьне арганізоўвацца ў калектыў, на аснове гэтага вывучэньня кіраўніца і складае свой плян работы і характэрыстыку групы. Роля кіраўніцы не павінна абмяжоўвацца назіраньнем і вывучэньнем.

Яна ласкавым словам і ўважлівымі адносінамі, пасільнымі запатрабаваньнямі арганізоўвае дзяцей.

З самага пачатку трэба ўстанавіць пэўныя правілы парадку і настойліва праводзіць іх. Напрыклад, у нас у садзе ўсё агульнае і трэба дружна разам гуляць, нельга адбіраць цацку, а папрасіць, трэба класьці рэчы на месца і г. д. Гэтыя правілы кіраўніца павінна добра прадумаць сама, каб ня блытаць дзяцей кожны раз іншымі запатрабаваньнямі і каб не перагружаць непасільнымі. Асабліва важна з самага пачатку дакладна вызначыць і цьвёрда праводзіць рэжым дзіцячага жыцьця; дзеці прывыкнуць рабіць усё ў пэўны час, прывучацца да парадку, і самі будуць падтрымліваць яго.

Калі ўсе дзеці прышлі, трэба прыступіць да заняткаў па арганізуючым моманце. Кіраўніца павінна цьвёрда памятаць, што, праводзячы тую або іншую работу з дзецьмі, трэба глыбока прадумаць, якія пэдагагічныя задачы дасягаюцца пры гэтым, і ў залежнасьці ад іх адпаведным чынам ствараць асяродзьдзе для дзіцячай дзейнасьці. Работы для работы быць не павінна. Кожную работу трэба падпарадкаваць вучэбна-выхаваўчым задачам. Намеціўшы сабе на дзень той або іншы занятак, у адпаведнасьці з праграмай кіраўніца павінна добра прадумаць, якія матэрыялы ёй патрэбны якой колькасьці, як іх разьмясьціць, як прыцягнуць і зацікавіць дзяцей, ці ўсе дзеці павінны прыняць удзел, калі не, то чым будуць заняты астатнія дзеці. Так, напрыклад, даецца дзецям работа-наклеіць малюнкі на папкі. Задача для кіраўніцы—навучыць дзяцей намазваць клей, правільна трымаць пэндзлік. Аб дасягненьні гэтай мэты яна і павінна клапаціцца ў часе арганізацыі данага працэсу. Таму павінна падумаць аб дастатковай колькасьці пэндзлікаў і малюнкаў, расставіць клей ў некалькіх банках так, каб дзецям было зручна даставаць яго, раскласьці анучкі для выціраньня. Асабліва ўважліва трэба аднесьціся да першых работ дзяцей, падпісаць, чыя работа (не задаючы дзецям на першых парах пытаньня, што ты нарысаваў, або зьляпіў, бо ў гэту пару ў дзяцей яшчэ працэсуальная дзейнасьць). Дзіцячыя работы трэба паставіць на віднае месца, каб уважлівымі адносінамі кіраўніцы падкрэсьліць дзецям значэньне іх работы, выклікаць ў іх уважлівыя адносіны да сваёй работы і работы другіх, заахвоціць да далейшай дзейнасьці. Калі дзіця выканала работу ня так, як трэба, кіраўніца не гаворыць, што гэта ня добра, а стварае ўмовы, каб дзіця, паўтараючы, навучылася.

З самага пачатку работы трэба даць дзецям установку наконт уважлівых і беражлівых адносін да рэчаў, адзначыўшы, што над імі працавалі рабочыя, і дзяржава траціць на іх сродкі. Неабходна прыцягнуць старэйшых дзяцей да арганізацыі жыцьця малышоў, з гэтай мэтай вызначыць сталыя дзяжурствы старэйшых дзяцей у малодшай групе. Спачатку старэйшыя дапамагаюць кіраўніцы, пасьля паступова дабравольна далучаюцца і малодшыя дзеці.

З самага пачатку трэба устанавіць правілы, як трымаць сябе за сталом, вызначать кожнаму дзіцяці месца, абставіць момант яды так, каб прыправідзеньні яго, як мага больш ажыцьцёвіць пэдагагічныя задачы, для гэтага неабходна, каб уся пасуда была прыстасавана, сарвэткі захоўваліся ў адпаведным месцы, каб за сталом дзецям ня прыходзілася шмат чакаць, каб яда была смачная і прыгожа падана.

## Зьмест работы

**1. Свабодная дзейнасьць дзяцей з матэрыяламі ў працягу 4-5 дзен.** Групавы пакой абсталяваны, як паказана ў мэтадычнай запісцы. Дзеці, прышоўшы ў сад, займаюцца чым жадаюць.

У гэты час кіраўніца выяўляе вопыт дзяцей, што іх цікавіць, як яны ўмеюць аб'яднацца ў калектыў і інш. (глядзі мэтадычную запіску).

У далейшым увесь матэрыял застаецца ў карыстаньні дзяцей; свабоднай дзейнасьцю дзеці заняты увесь час, не заняты арганізаванымі заняткамі і рэжымнымі момантамі.

**2. Арганізацыя пакою для мыцьця.** Да правядзеньня гэтага занятку неабходна падрыхтаваць наступнае: ручнікі, мыла, мыльніцы, малюнкі і значкі (усяго па колькасьці дзяцей у групе). Адзін малюнак для вывешваньня ў куточку.

Калі ўжо зьявіліся ў сад усе дзеці (4-5 тыдзень) кіраўніца ў часе мыцьця рук перад сьнеданьнем падкрэсьлівае, што цяжка знайсьці кожнаму свой ручнічок, можна іх пераблытаць, і прапануе зрабіць значкі. У часе арганізаваных заняткаў кладзе на стол усе малюнкі—значкі і прапануе кожнаму выбраць сабе і вывесіць над сваёй вешалкай. Затым на адпаведным месцы павесіць ручнічок і паставіць мыльніцу з мылам. Калі ўмывальныя прылады разьмешчаны,кіраўніца паказвае плякат-малюнак, які падрыхтаваны для пакою, дзе мыюцца; сумесна абгавараваюць зьмест гэтага малюнку і тут-жа ўмаўляюцца, як трэба сябе трымаць у часе мыцьця (кожнае правіла гэта пэдагагічная задача па фізвыху, намечаная кіраўніцай на даны арганізуючы момант, напрыклад: закасваць рукавы, не праліваць вады, выціраць суха рукі).

**3. Музычныя заняткі.** Для гэтага занятку трэба падрыхтаваць крэслы па колькасьці дзяцей і расставіць іх каля сьценкі. Пакой павінен быць вялікі, чысты і свабодны ад мэблі. Кіраўніца уводзіць дзяцей ў пакой і гаворыць: „усе ідзіце за мной," сама ідзе праз увесь пакой туды і назад 3 разы. Яна не пяе песенкі, а пляскае ў далоні. Часам падымае рукі і пляскае над галавой. Дзеці ідуць за кіраўніцай, хто як хоча, без групавога пастраеньня. Потым кіраўніца апускаецца ўніз, прысядае і гаворыць: „а цяпер усе селі". Чакае, каб усе дзеці прыселі. Устае і гаворыць: „а цяпер усе ўсталі". Дзеці выконваюць, што яна гаварыла. Паўтарае гэта два разы. Потым, стоячы на месцы, пляскае ў далоні і прапануе дзецям рабіць тое-ж Далей рассаджвае дзяцей на крэселцы і гаворыць: я прасьпяваю песенку, а вы ўсе ціханька паслухайце. Сьпявае песенку „Пятушок" (са зборніку „На летней площадке"), або якую-небудзь іншую, знаёмую дзецям. Паўтарае песенку яшчэ раз. І пытае ў дзяцей: пра што я сьпявала. Потым гаворыць, каб усе дзеці сядзелі ціханька, і сьпявае песенку зусім ціха. Пасьля яшчэ раз моцна нарэшцэ ўстае і ідзе на другі канец пакою і прапануе дзецям прыбегчы да яе. Паўтарае гэта тры разы. Потым выводзіць дзяцей з пакою пад плясканьне ў далоні.

**4. Прагулка у кветнік.** Для гэтага занятку неабходна падрыхтаваць вазачкі або баначкі для кветак. Сабраўшыся ўсёй групай, ідуць у кветнік паглядзець, якія там кветкі і набраць іх для ўпрыгожваньня пакою групы. У групе паставіць баначкі з вадой. Падкрэсьліваем зялёны колер лісточкаў.

**5. Гульні з вадой.** Прыгатаваць некалькі вялікіх місак або балеек, ваду і цацкі, што плывуць і што тонуць.

У некалькіх вялікіх місках кіраўніца ставіць ваду хатняй тэмпэратуры 15-16°, тут-жа расстаўляе бутэлечкі, кубачкі, леечкі, лодачкі, караблікі з паперы і дрэва, гутаперчавыя цацкі і мэталёвыя, што тонуць. Дзеці гуляюць слабодна. Пры гэтым кіраўніца сочыць, каб не разьлівалі ваду, каб гулялі дружна, дзяліліся цацкамі, выяўляе паводзіны дзяцей і іх арыентыроўкі.

**6. Маляваньне зялёнай фарбай.** Падрыхтаваць кавалкі паперы разьмерам пісальнага аркушу 5-6 баначак для малярнай фарбы, пэндзлікаў па ліку дзяцей; анучкі; тазікі з вадой для таго, каб пасьля работы памыць пэндзлікі.

Кіраўніца расстаўляе на стол фарбу, раскладвае пэндзлікі, раздае паперу і прапануе дзецям маляваць, хто што хоча. У часе маляваньня дзяцей роля кіраўніцы ня толькі ў тым, каб сачыць за ажыцьцяўленьнем задач, вызначаных у праграме на „130" (правільна трымаць пэндзлік, акуратна браць фарбу і інш.), а яшчэ ў тым, каб падбадзёрыць, заахвоціць дзяцей,прыслухоўвацца да іх размоў у часе работы. Калі дзіця заканчыць малюнак, кіраўніца падпісвае пад ім імя данага дзіцяці і кладзе малюнак у вызначанае месца для прасушкі. Пасьля работы прамываюць пэндзлікі і ставяць у баначкі ў гару воласам. Акуратна ў шафу зьмяшчаюць фарбы.

**7. Зрабіць папкі для малюнкаў.** Прыгатаваць папак па колькасьці дзяцей, малюнкаў-значкоў, мучны клей, пэндзлікі, анучкі для выціраньня.

Кіраўніца звярачвае ўвагу дзяцей на тое, што малюнкі ляжаць несхаваныя, ім трэба адпаведнае месца, каб ня корчыліся і ня пыліліся; умаўляюцца хаваць малюнкі ў папкі.

Кіраўніца з дапамогаю дабраахвотных дзяжурных раздае дзецям папкі і малюнкі. Дзеці змазваюць малюнкі клеем (трэба паказаць, які бок змазваць) і наклейваюць на папкі, складваюць у папкі свае малюнкі. Умаўляюцца малюнкі класьці ў папкі, а папкі на пэўнае месца.

**8. Гульні з пяском.** Прыгатаваць пясочную скрынку на дварэ (пясок змочаны), набор пясочніц, тачак, лапатак, савочкаў і інш.

Арганізавана ўсе ідуць да пясочнай скрынкі і пачынаюць гуляць з пяском.

Кіраўніца ўдзельнічае ў гульні, узбагачае яе, зацікаўлівае дзяцей, уносячы новыя моманты, (першы раз гульня з пяском даецца як арганізаваны занятак. У далейшым гэта будзе адзін з відаў свабоднай дзейнасьці дзяцей).

**9. Музычныя заняткі.** Прыгатаваць крэслы каля аднэй сьценкі. Увесьці дзяцей у пакой. Кіраўніца прапануе хадзіць за ёй каля самай сьценкі. Сочыць, каб дзеці выконвалі ўсё. Выстрайваць дзяцей яшчэ ня трэба, толькі сачыць за тым, каб ня штурхалі адзін другога. Кіраўніца гаворыць: „вось мы ходзім па вялікім пакоі, а цяпер па маленькім—ідзе ў сярэдзіну пакоя. Праходзіць два або тры разы, затрымліваецца

і пляскае ў далоні ў сябе над галавой, потым ўнізе, а потым перад сабой. Дзеці паўтараюць тое-самае. Мяняючы напрамак, кіраўніца не сьпяшаецца, чакаючы, каб усе дзеці пасьпелі паўтарыць за ёй рухі, і ўвесь час прыгаварвае: „цяпер ручкі ўверх, цяпер уніз, а цяпер перад сабою“ і так далей. Потым ходзіць па пакоі і сьпявае песенку, дзеці ідуць за ёй пад сьпеў. Усаджвае дзяцей на крэселцы, сьпявае тую-ж самую песьню і прапануе дзецям падпяваць.

Потым гаворыць: „я вам прасьпяваю новую песенку“. Сьпявае „Ладушкі“ са зборніку „На летней площадке“ палову песенкі. Растлумачвае, аб чым гаворыцца ў песенцы. Прапануе пагуляць пад гэтую песенку. Дзеці пляскаюць ціханька ў далоні, каб не заглушыць песьні. Потым усе паказваюць свае далонькі, ці чыстыя. Кіраўніца падымаецца, абыходзіць некалькі разоў па пакоі, дзеці за ёй—і выходзяць. Працяг занятак 10—12 мінут.

10 **Лепка.** Падрыхтаваць дашчэчак па ліку дзяцей, кавалкі добра прыгатаванай гліны, анучкі.

Кіраўніца прапануе дзецям закасаць рукавы і з дапамогаю дзяжурнага старэйшай групы і добраахвотных дзяжурных малышоў раздае дашчэчкі, кавалачкі гліны і прапануе ляпіць, хто што хоча. Работы дзяцей зьмяшчае на паўнае месца і падпісвае імёны дзяцей. Тут-жа, пры дзецях чысьценька выцірае сталы пасьля работы і абмывае дашчэчкі. Дзецям напамінае, каб асабліва старанна вымывалі рукі і ногці і выціралі ручнікамі толькі пасьля таго, як пакажуць кіраўніцы, што сапраўды няма на руках астаткаў гліны (гэта неабходна ў першыя разы, пасьля ўжо дзеці самі могуць сачыць, каб не запэцкаць ручнікі ў гліну).

11. **Гульня з мячом.** Усе дзеці выходзяць на веранду або пляцоўку і організоўваюць гульню з мячом, перакатваюць адзін ад другога (тут падкрэсьліваецца, што мяч круглы—шар і лёгка катаецца ва ўсе бакі).

Перакідаць адзін другому, падкідваць у гору, хто зловіць і інш. Пасьля дае некалькі мячоў для свабоднага карыстаньня (у далейшым гульню з мячом ня будзем уносіць у плян: гэты від работы, як і гульня з пяском, застаецца як сталы матэрыял для свабоднай дзейнасьці дзяцей).

12. **Разгляд кніжкі, карцінкі.** Кіраўніца падрыхтоўвае 3—4 аднолькавыя кніжкі, або розныя, але прыблізна на адну тэму. (Жыцьцё дзяцей у дзіцячым садзе) напрыклад: Мікаліс—„Детскій сад“; Гур'ян—„Яслі“, Праўдзіна—„Малыши и карандаши“, Зак—„Про ребят, про детскі сад“, Савёнак—„Разам ляпей“. Дзеці садзяцца групкамі, кіраўніца раздае кніжкі. Спачатку назірае, як яны выкарыстоўваюць дае заўвагі, калі гэта патрэбна, як трымаць кнігу; ня сьлюніць пальцы разгортваючы старонкі, не цягнуць да сябе, а так трымаць, каб усім было відаць; пытае ў дзяцей, што намалёвана.

13. **Прагулка у прыроду.** Організавана выходзяць на свой гарод, або на бліжэйшы суседні, там глядзяць, што расьце. Кіраўніца выяўляе, што дзеці ведаюць з гародніны.

14. **Маляваньне алоўкамі.** Падрыхтоўваем паперу і алоўкі, загадзя завостраныя і складзеныя ў скрыначкі. Спачатку ня робім ніякіх заўваг і ўказаньняў, а прапануем дзецям маляваць, хто што хоча, але калі ў каго з дзяцей аловак зламаецца, або прарвецца папера, кіраўніца тлумачыць, што папера парвалася, або карандаш зламаўся ад таго, што занадта націскаў алоўкам. Пры складваньні алоўкаў падкрэсьліваем, што іх нельга кідаць, а класьці спакойна і ў парадак, бо могуць паламацца.

15. **Музычныя занядкі.** Падрыхтаваць шапку з пятушыным грэбнем. Уводзім дзяцей у пакой пад песьню „Пятушок“. „Кіраўніца спыняе дзяцей, падымае рукі ўверх, дзеці павінны зрабіць тое-ж самае; адводзячы рукі ў бакі, і дзецям прапануе зрабіць рукі, як крыльлі і памахаць імі, як пятушок крыльлямі. Потым прапануе пабегаць па пакоі, расставіўшы рукі; праходзяць па пакоі пад песьню і ўсаджваюцца. Кіраўніца паказвае шапку і прапануе каму-небудзь з дзяцей пасьпяваць, як пятушок. Надзяе таму, хто хоча прадставіць пятушка, шапку на галаву і арганізоўвае гульню-інсцэніроўку па тэксту песенкі „Пятушок“ заканчвае занядкі, выводзячы дзяцей пад песенку з пакою.

16. **Адзначыць вешалкі разьдзявальнага пакою.** На кавалачках паперы малююць якія-небудзь малюнкі, адзнакі, або кіраўніца раздае малюнкі. Дзеці намазваюць клеем, ідуць у разьдзявальню і адзначаюць свае вешалкі малюнкам.

17. **Арганізаваная гульня.** Наладжваем гульню на знаёмства з імёнамі адзін другога, або іншую рухавую гульню (глядзі зборнік Кільчэўскай).

18. **Лепка.** Свабодная, як і ў першы раз.

19. **Гульня з вадой.** Свабодная, як і ў першы раз.

20. **Свабодныя работы па дрэву.** Прыгатаваць 8—10 малаточкаў (120—150 гр. вагой) скрыначку з цьвікамі ($1^1/_2$—2 сантымэтра даўжынёй), з шырокімі плешкамі; і рознага памеру дашчэчкі не таўсьцей 2—$2^1/_2$ см. з мяккага дрэва.

За сьнеданьнем умаўляемся з дзецьмі, што сёньня будзем працаваць з малаткамі, але малаткоў кожнаму ня хопіць, трэба будзе працаваць адным малаточкам двайм або траім дзецям, прыдзецца чакаць адзін другога, не адбіраць і не сварыцца, а лепш дапамагчы адзін другому.

Дзецям даецца ўвесь матэрыял для свабоднага выкарыстоўваньня.

21. **Прагулка ў парк, або фруктовы сад.** Выяўляем арыентыроўкі дзяцей ў прыродзе. Назіраем пасьпяваньне фруктаў.

22. **Расказваньне.** Савёнак—„Разам ляпей“, або Зак „Про ребят, про детскій сад“.

Дзеці садзяцца вакол кіраўніцы: ні на сталох, ні ў руках дзяцей і кіраўніцы не павінна быць ні кніжак, ні карцінак, ні інш. рэчаў, якія-б адцягвалі ўвагу дзяцей.

Да расказваньня кіраўніца павінна добра падрыхтавацца, каб жыва расказваць дзецям.

23. **Прыбіраньне пакою.** Прыгатаваць належную колькасьць анучак, шчотачак, або мачалак, мыла, вялікіх місак з вадой.

Дзеці разам з кіраўніцай і дзяжурным старэйшай групы мыюць гумовыя цацкі і некаторыя дрыўляныя (кружкі, пірамідь і інш.), вільготнай анучкай выціраюць сталы і крэслы.

**24. Гутарка.** На другі дзень пасьля ўборкі, сабраўшы дзяцей, гутарым аб тым, што крэслы, цацкі, гопратку і ўсё інш., што мы маем—зрабілі на заводзе рабочыя. У нас шмат заводаў, там працуюць шмат рабочых і работніц (указаць на некаторых дзяцей, вось Сімы тата робіць абутак, а Мані—крэслы, а мама Валі—панчохі і г. д.). Яны стараюцца, каб зрабіць як можна больш і лепш розных рэчаў, а мы павінны берагчы іх, не псаваць, не ламаць і ня рваць рэчаў, каб на даўжэй хапіла.

## Сярэдняя група

У часткі работнікаў ёсьць няправільная думка, што пры бесьперапынным годзе работы у дашкольных установах, для старэйшай і сярэдняй групы — гэты момант лішні.

Такая думка надзвычайна памылковая.

Неабходна падкрэсьліць зьмену пры пераходзе ў новую ўзростную групу, таму што

а) дзеці перайшлі ў другую групу, найчасьцей гэта зьвязана з пераходам у другі пакой; б) многія ўстановы выяжджалі летам у калёнію і абсталяваньне саду вывозілі; в) у некаторых былі вялікія перапынкі ў сувязі з рамонтам, або інш. прычыны; г) часта са зьменай груп— зьмяняецца кіраўніца.

Ды каб і ня было гэтых часта зьнешніх прычын, то самы факт пераходу дзяцей у старэйшую ўзростную групу, якая бязумоўна мае свае якасныя асаблівасьці, гаворыць за тое, што неабходна наладзіць жыцьцё дзяцей сумесна з імі ў новых больш складаных умовах.

Якасна сярэдняя група адрозьніваецца ад малодшай тым, што тут дзеці, прабыўшы год ва ўстанове, набыўшы пэўны вопыт, пазнаёміўшыся з жыцьцём і работаи саду, паступова падводзяцца да плянаваньня свайго жыцьця і сваёй работы да больш актыўнага ўдзелу ў ёй.

З другога боку, кіраўніцтва павінна памятаць, што работа сярэдняй групы базуецца на вопыце малодшай, і неабходна ўвесь час вяртацца да праграмы малодшай, групы, зьвяраць, наколькі ўсвоены дзецьмі тыя навыкі і веды.

Таму кіраўніцы перш, чым прапрацаваць і мэтадычную запіску і зьмест работы сярэдняй групы, неабходна добра азнаёміцца з мэтадычнай запіскай і зьместам работы малодшай групы.

Апроч таго ў распрацоўцы арг. момантаў для малодшай групы мы далі больш дасканалыя мэтадычныя ўказаньні, як арганізаваць той або іншы працэс і не паўтараем гэтага ў сярэдняй, затрымліваемся толькі на тых момантах, якія зьяўляюцца новымі для сярэдняй групы. Усё гэта выклікае неабходнасьць пільна пераглядзець матэрыял малодшай групы пры рабоце з сярэдняй і нават часам з старэйшай групай.

Абсталяваньне групы павінна быць такім, каб забясьпечыць пасільны ўдзел дзяцей у арганізацыі сваей групы, але ўсё ж ніякім чынам нельга перагружаць дзяцей, а даваць толькі тыя віды работы, праз якія мы можам выканаць тыя або іншыя выхаваўчыя задачы. Так да прыходу дзяцей, каб яны мелі вакол чаго групавацца, павінен быць абсталяваны гульнявы куточак, дзе зьмешчаны будаўнічы матэрыял, рухавікі, настольныя гульні, прылады для гульняў на двары: скакалкі, мячы пясочніцы і інш.

Неабходна таксама, каб быў гатоў гаспадарчы куток—мяцёлкі, савочкі, анучкі, тазікі для мыцьця пасуды, сьціркі,—усё павінна быць на месцы, каб дзеці, прышоўшы ў сад, маглі з першага-ж дня арганізавана ўдзельнічаць у гаспадарчым самаабслугоўваньні. Павінна быць падрыхтавана сталовая пасуда, сарвэтачкі, з вышытымі на іх імёнамі дзяцей.

У малодшай групе дзеці прывыклі рэгістравацца, і цяпер трэба ўнесьці рэгістрацыю праз некалькі дзён, як знаёмы від дзейнасьці, таму яна загадзя падрыхтоўваецца кіраўніцай. Розьніца толькі ў тым, што цяпер дзеці будуць вывешваць свае імёны. Кіраўніца на фанэрнай дошцы зробіць адпаведны малюнак і піша імёны дзяцей. Таблічкі для вывешваньня з імёнамі дзяцей трэба таксама зрабіць на фанэры, імі зручней карыстацца, яны ня псуюцца і лепш выглядаюць. Такія-ж таблічкі падрыхтоўваюцца для вывешваньня дзяжурных. Неабходна загадзя павесіць адпаведную таблічку з малюнкамі, куды дзяжурныя маглі-б павесіць свае імёны. Павінны дзеці таксама застаць на месцы партрэт Леніна і Сталіна.

Дзяцей сярэдняй групы мы паступова павінны ўцягваць да плянаваньня сваёй дзейнасьці. да больш актыўнага ўдзелу ў арганізацыі свайго жыцьця, таму мы пакідаем неабсталяваныя працоўныя куткі (глядзі зьмест работы).

Яшчэ ў малодшай групе дзеці перайшлі на чарговыя дзяжурствы, цяпер гэту справу з першага-ж дня працягваем, ускладніўшы толькі тым момантам, што ў абавязак дзяжурных уваходзіць абавязковае самастойнае накрываньне на стол, прыбіраньне са стала, мыцьцё чайнай пасуды. У гэтым арганізуючым момансе нам прыходзіцца вызначыць 2 працоўныя групы: санітарную і па доглядзе матэрыялу. Камісія складаецца з 2-3 дзяцей і выбіраецца прыблізна на 7-10 дзён.

У рабоце сярэдняй групы ў некаторых выпадках магчыма праводзіць два арганізаваных заняткі ў дзень, сочачы толькі за тым, каб адно з іх было рухавое, калі другое—сідзячае. Неабходна сачыць, каб дзеці ўвесь час на працягу свабоднай дзейнасьці былі на двары, і ўсе арганізаваныя заняткі, якія толькі магчыма, неабходна праводзіць на паветры.

## Зьмест работы.

**1. Агляд групы.** У першы дзень прыходу ў сярэднюю групу дзеці бачаць пакой, як паказана ў мэтадычнай запісцы. Да сьнеданьня сумесна з кіраўніцай аглядаюць пакой, намячаюць дзе павінны быць сталы і крэслы, дзе працоўныя куткі. Расстаўляюць сталы і крэслы. Пасьля сьнеданьня садзяцца, і кіраўніца пытае дзяцей: дзе хто быў летам, што бачыў. Разглядае адпаведныя кніжкі, або малюнкі.

**2. Абсталяваньне пакою для жыцьця.** Умывальнік і вешалкі павінны быць на месцы; павінны быць закуплены усе прылады для мыцьця. Дзеці да сьнеданьня расстаўляюць на месца кубачкі, шчоткі і мыла. Першы раз чысьцяць зубы шчоткамі (без парашку). Кіраўніца налівае кожнаму

гатаванай вады, паказвае, як трэба шараваць зубы: зьнізу уверх і з усіх бакоў; паказвае, як выпаласкаць рот, як памыць шчотку, як паставіць яе ў кубачку (шэрсьцю да гары). Усе вешалкі з прыладамі для мыцьця прыкрываюць марляй.

**3. Зраб ць значкі ў куточку для мыцьця.** Напамінаем дзецям, што каб ня зблытаць ручнікоў, шчотак і мыла, трэба зрабіць значкі. Кіраўніца загадзя рыхтуе на паперы імя кожнаму дзіцяці буйнымі друкаванымі літарамі і наразае адпаведнай велічыні картонныя таблічкі. Дзеці змазваюць таблічкі клеем, прыклейваюць свае імёны, разглядаюць, як кожнае імя пішацца, потым праколваюць шылам дзірачкі і вешаюць значкі на свае месцы. (Праколваць дзірачкі неабходна на дошцы, каб не псаваць сталоў).

**4. Разгляд і чытаньне кніжак і плякатаў.** Набыць кніжкі санітарна-гігіенічнага зьместу, напрыклад: „Боря в амбулатории"—ЗАК. „Три щетки"—КРАХМАН, „Девочка чумазая"—БАРТО і адпаведны плякат або малюнак. Дзеці разглядаюць, кіраўніца чытае, потым малюнак вывешваюць над куточкам для мыцьця.

**5. Арганізаваная гульня.** У гульні дзеці рухамі адлюстроўваюць тыя работы, якія назіралі летам.

**6. Нарэзаць паперы для прыбіральні.** Кіраўніца зварочвае ўвагу дзяцей на неабходнасьць акуратнага карыстаньня прыбіральняй, падтрыманьня там парадку і прапануе нарэзаць паперы. Паказвае, як роўненька скласьці паперу напалам, разрэзаць нажом і потым кожную палавінку яшчэ раз скласьці і разрэзаць.

**7. Сход дзяцей.** На сходзе падкрэсьліваем аб неабходнасьці падтрымліваць чыстату і парадак у дзіцячым садзе; аб неабходнасьці зьяўляцца чыстымі з дому; выдзяляем дваіх дзяцей для нагляду за чыстатой. На сходзе дзеці самі высоўваюць кандыдатуру таварышоў і галасуюць падняцьцем рук.

**8. Прагулка ў кветнік за кветкамі.** Усёй групай накіроўваемся ў кветнік паглядзець, як цьвітуць тыя кветкі, якія дзеці садзілі ўвесну. Там вырываем пустазельле, аглядаемградкі і бярэм кветкі ў групу (неабходна для гэтага дня падрыхтаваць баначкі і падстаўкі для кветак).

**9. Музычныя заняткі.** Кіраўніца ўводзіць дзяцей у пакой лінеечкай. Ходзіць па пакоі пад песенку „Ножками затопали", музыка Рахвергера. Кіраўніца сьпявае моцна і ходзіць вялікімі крокамі і сьпявае ціха і ходзіць маленькімі крокамі. Дзеці паўтараюць гэтыя рухі. Потым усаджвае дзяцей і прапануе кожнаму па чарзе сьпяваць імя. Найбольш яркі напеў паўтарае некалькі разоў, паўтараюць усе разам. Кіраўніца прапануе паслухаць песенку „Гэй, рабята, дружна". Потым гэту песенку інсцэніруе. Сьпявае толькі кіраўніца, дзеці падпяваюць. Арганізавана выходзяць з пакою.

**10. Маляваньне.** Кіраўніца дае малявальную паперу і папярэджвае, што трэба акуратненька скласьці і нарэзаць. Добра, каб для паперы былі падрыхтаваны адпаведнага разьмеру скрынкі, у якіх-бы заўсёды захоўвалася малявальная папера. Калі паперы нарэжуць, малююць алоўкамі на свабодныя тэмы.

**11. Зрабіць папкі для малюнкаў.** Кіраўніца падкрэсьлівае неабходнасьць захоўваць малюнкі ў парадку. Раздае з дапамогай дзяцей па 2 лісты тоўстай паперы або картону, палоску матэрыі. Дзеці намазваюць клеем матэрыю і наклейваюць на яе абодвы кавалкі картону. Склееныя такім чынам папкі ставім для прасушкі, а кіраўніца раздае напісаныя імёны падвойнымі друкаванымі літарамі. Дзеці заштрыхоўваюць рознакаляровымі алоўкамі і наклейваюць на свае папкі. Умаўляемся малюнкі заўсёды складваць на месца. У другі раз кіраўніца падрыхтоўвае ў скрыначках гатовыя квадрацікі і трохкутнічкі з каляровай паперы, ставіць на стол клей і пэндзлікі, паказвае падрыхтаваныя загадзя ўзоры самых прымітыўных арнамэнтаў на спалучаньне форм і колераў і прапануе дзецям акуратненька скласьці іх з трохкутнічкаў і чатырохкутнічкаў і наклеіць на папкі. Выбіраем рабочую тройку па даглядзе за матэрыяламі.

**12. Памыць з дзяцьмі сарвэткі і анучкі.** Дзеці падзяляюцца на 4 брыгады: адна мые, другая перамывае, трэцяя палошча, а чацьвертая разьвешвае.

**13. Прагулка ў прыроду.** З мэтай паглядзець як расьце пасаджаная ўвесну гародніна, вырываем пустазельле, траву аддаем трусікам.

**14. Музычныя заняткі.** Уводзім дзяцей пад песенку. Пад ціхую дзеці ідуць на наскох, а пад моцную—усёй ступой. Прывучаюцца па камандзе на слове „стой"-спыніцца. Бягуць хто куды хоча. На слова „сабярэмся"—зьбіраюцца каля кіраўніцы, ходзяць пад песьню спакойна, каб адпачыць. Садзяцца на крэселцы і гавораць колектыўны які-небудзь сказ.
Далей па чарзе сьпяваюць напеў „ля-ля-ля", або „так-так-так". Паўтараюць гульню „Гэй, рабята, дружна", пад песьню арганізавана выходзяць з пакою.

**15. Экскурсія на вытворчасьць.** Падкрэсьліваем з дзецьмі, што нам шмат чаго нехапае каб абсталяваць групу: ня зроблены скрыначкі, падстаўкі для алоўкаў, палічкі, куды ўсё гэта можна паставіць. Умаўляемся наладзіць сталярны куток. Каб паглядзець, як на ім працуюць і каб дастаць матэрыялу, накіроўваемся з дзецьмі ў сталярную майстэрню, або на дрэваапрацоўчы завод. У часе экскурсіі зварачваем ўвагу на табельную дашчэчку, дзе рэгіструюцца рабочыя, на станкі і машыны, бярэм адкідны матэрыял. Аб экскурсіі кіраўніца павінна загадзя дагаварыцца з адміністрацыяй заводу або цэху, выбраць бясьпечнае і спакойнае месца, дзе дзеці маглі-б назіраць найбольш даступны працэс вырабу, напр., зборку. Пасьля экскурсіі неабходна даць поўны час для адлюстраваньня атрыманых ураженьняў, стымулюючы дзейнасьць дзяцей адпаведнымі прыладамі: уносім сталярны станок, клей, цьвікі, малаткі, пілачкі, прапануем дзецям рабіць, хто што хоча.

**16. Абсталяваньне сталярнага куточка.** Падкрэсьліваем, што прынесены матэрыял і інструманты, а таксама зробленыя дзецьмі рэчы, трэба захоўваць у належным парадку. Кіраўніца прыладжвае палічку або шчыт, на якім дзеці разьмяшчаюць інструманты. Сартуюць і раскладаюць па скрынках матэрыял (вялікія скрынкі павінны быць падрыхтаваны, бо самі дзеці іх ня могуць зрабіць.

17. **Аплікацыя.** Свабоднае выкарыстоўваньне дзецьмі каляровай паперы, нажніц і клею.

18. **Зрабіць скрыначкі для пэндзлікаў, падстаўкі для алоўкаў і палічкі.** Кіраўніца падрыхтоўвае адпаведнага разьмеру дашчэчкі, шпулькі і інш. Арганізоўваць работу трэба так, каб былі заняты ўсе дзеці. Падзяляем дзяцей па двое, кожнай двойцы выдаем матэрыял для вырабу аднэй рэчы. Спачатку ўсе дзеці абчышчаюць ўсе дашчэчкі наждаком, пасьля адзін трымае, а другі зьбівае цьвічком або склейвае клеем. Дзеці ў рабоце чаргуюцца. Кіраўніцы неабходна добра прадумаць, які матэрыял спатрэбіцца кожнай двойцы дзяцей, загадзя падрыхтаваць яго. Трэба ўцягнуць дзяцей у плянаваньне працэсу пытаючыся, напр., колькі табе патрэбна шпулечак на падстаўку або дашчэчак на скрынку і г. д.

19. **Музычныя заняткі.** Дзеці ўваходзяць пад сьпеў, садзяцца і сьпяваюць „ножкамі затопалі", потым тое ж самае кіраўніца грае на роялі і пытае ў дзяцей: што гучыць мацней, голас ці рояль. Потым дзеці падпяваюць, пасьля падпяваюць і адначасова пляскаюць у далоні. Устаюць і маршыруюць пад гэтую-ж песенку. Праводзім гульню: дзеці ідуць гуськом (дзіцячы сад на прагулцы). На слова кіраўніцы „дождж" ўсе дзеці бягуць ў адно месца, паўтараюць ранейшую гульню „Гэй. рабята, дружна".

20. **Падрыхтаваць дашчэчкі для лепкі.** Кіраўніца дае невялічкія кавалкі фанэры (па дзьве дашчэчкі) і прапануе дзецям расьпілаваць іх па намечанай лініі. Потым адшліфоўваюць наждаком, праколваюць дзірачкі для вешалкі.

21. **Лепка.** Свабодная. Пасьля лепкі памыць дашчэчкі; павесіць.

22. **Заштрыхоўка контураў свайго імені для вешалкі.** Кіраўніца прыносіць на тоўстай паперы падрыхтаваныя для заштрыхоўкі імёны дзяцей. Апошнія штрыхуюць і наклейваюць на вешалку ў разьдзявальні.

23. **Прагулка ў парк з мэтай назіраньня праяў увосень.** Збор і засушка лісьцяў і травы для трусікаў на зіму.

24. **Разгляд кніжкі.** Разглядаюць кніжкі асеньняга зьместу, напр., „Золотые листья"-Энгель, „Лістапад"-Міровіч і інш.

25. **Маляваньне.** Жоўтай і зялёнай фарбай на тэму восень.

26. **Прыбраць пакой.** (Гл. работу 1-й групы).

27. **Арганізаваная гульня.** Праводзім гульню, якая адлюстроўвае жыцьцё дзіцячага саду. (гл. збор. гульняў Кільчэўскай).

## Старэйшая група

Задачай гэтага арганізуючага моманту для старэйшай зьяўляецца, па-першае, выявіць уменьні арыентыроўкі і ўстаноўкі, набытыя дзецьмі ў папярэдніх групах; па-другое—паглыбіць выхаваньне ў дзяцей арганізатарскіх і арганізацыйных здольнасьцяй, уцягнуць у плянаваньне сваей работы, пашыраць і паглыбляць раней набытыя веды.

Старэйшая група зьяўляецца вядучай ва ўсёй ўстанове. Сярэдняя будуе сваю работу ў шмат выпадках сумесна са старшымі, для малодшай-жа групы старшыя зьяўляюцца прыкладам і стымулам для дзейнасьці, таму кіраўніца, лічачыся з гэтым момантам, пры складаньні свайго рабочага пляну, павінна дагаварвацца з малодшымі групамі.

На абавязку старэйшай групы ляжыць адказнасьць за догляд жывёлін: кролікаў, кур, якія ёсьць у дзіцячым садзе. Таму неабходна дакладна абгаварыць, якую работу можна вызначыць дзецям і якая-павінна выконвацца дарослымі. Так карм еньне і нарыхтоўка корму даручаецца дзецям, як момант, які можна выкарыстаць для выхаваўчых мэт. Тут дзеці назіраюць, як рухаецца, як ёсьць жывёліна: вывучаюць, які харч ёй патрэбен. У дзяцей выхоўваецца адказнасьць за выкананьне абавязкаў, ўважлівыя адносіны да жывёлін і г. д. Нарыхтоўваючы корм, выкарыстоўваючы астаткі абедаў, траву і лісьця, дзеці навучаюцца да рацыянальнага выкарыстоўваньня адкідаў.

Такая ж работа, як чыстка клетак, утрымліваньне ў парадку памяшканьня жывёлін выконваецца выключна дарослымі.

Старэйшая група апрача ускладненьня матар'ялаў па ўсіх галінах работы адрозьніваецца асабліва тым, што тут сыстэматычна праводзіцца грамата.

Некаторыя элемэнты граматы ўнесены ужо ў сярэдняй групе (імёны дзяцей, словы, зьвязаныя з гульнямі). Але ў частцы ўстаноў першыя крокі вывучэньня граматы пачынаюцца ў старэйшай групе.

Для правядзеньня граматы і лічэньня можна карыстацца альбомам „Гудок" Мешанкінай і Савёнак на беларускай мове і кніжкай „Маленькія ўдарнікі"—Бенцман і Кульбак, на яўрэйскай мове, „Будзь гатоў" Александровай і Бенцман на яўр. мове. Да альбому „Гудок" ёсьць паясьняльная запіска, выдадзеная асобнай брашурай, ей неабходна карыстацца пры рабоце з „Гудком".

Работы па грамаце і лічэньню павінны ісьці побач з усёй работай групы-сыстэматычна.

## Зьмест работы

1. **Агляд групы.** Дзеці павінны застаць групу ў такім выглядзе: на месцы знаходзіцца мэбля, сталярны станок з некаторымі прыладамі, прыбіты вешалкі, расстаўлены шафы. Усё павінна быць у парадку і на месцы. Дзеці аглядаюць пакой і тут жа вызначаюць, дзе лепш наладзіць рабочыя куткі, што для гэтага патрэбна. Кіраўніца дае дзецям самастойна вырашаць, гэта пытаньне, але ўвесь час накіроўвае іх рашэньне своечасовай парадай. У гэтай рабоце выяўляе ўменьне дзяцей дагаварыцца паміж сабой.

2. **Гутарка дзяцей аб праведзеным леце.** Дзеці спакойна садзяцца, і кіраўніца пытаньнямі выклікае іх на гутарку аб тым, як правялі летні час, якую работу назіралі, якія бачылі сельскагаспадарчыя машыны, якім гульням навучыліся. Кіраўніца выяўляе арыентыроўку дзяцей ў летніх праявах прыроды і работы колгасу, дае для разгляду-адпаведныя кніжкі.

3. **Наладзіць куток для мыцьця.** На вызначнай для гэтай мэты вешалцы дзеці расстаўляюць кубачкі мыла, парашкі, падвешваюць шчотачкі ў футлярох. Потым заштрыхоўваюць таблічкі з

іменамі і адзначаюць імі сваю вешалку. Развешваюць ручнікі. У пяршыню даем чысьціць зубы парашком; кіраўніца паказвае, што браць парашку на шчотку трошку, што шараваць зубы трэба зьнізу ўверх і з усіх бакоў, што трэба добра прапаласкаць рот ад мелу, што шчотку трэба прамыць чыста, што трэба пакласьці шчотку ў футлярчык. Вызначаем дзяжурных на 10 дзён для догляду за кутком для мыцьця. У абавязак гэтых дзяжурных уваходзіць—штодзённы агляд дзяцей раніцой, спачатку сумесна з кіраўніцай, а пасьля паступова кіраўніца зьмяншае свой ўдзел.

4. **Напісаць плякат.** Дзеці наразаюць палоскі паперы, а кіраўніца намячае літары „Мый чыста рукі і рот“. Частка дзяцей змазвае клеем палоскі, другая пры ўдзеле кіраўніцы наклейвае літары на намечаныя лініі, трэцяя наклейвае на рамачку малюнак. Мэта заняцьця праверыць навыкі дзяцей ў галіне дзейнасьці. Плякат вывешваем ў куточку для мыцьця, там жа і зьмяшчаем у малюнак, на якім вывешваюць свае імены санітарныя дзяжурныя.

5. **Музычныя занятк**і. Расставіць крэслы ў адлегласьці адзін ад другога. Дзеці ўваходзяць па росту лінеечкай пад музыку, або песьню. Затрымліваюцца спачатку на слова кіраўніцы, а потым па сыгналу музыкі. Кіраўніца прапануе на моцную музыку, або песьню ісьці ўперад, а на ціхую ісьці сьпіной. Усаджвае дзяцей, і вучаць песенку. Кіраўніца дэрыжыруе, і сама дапамагае дзецям сьпяваць.

Праводзіць гульню: кожны з дзяцей запамінае сваё крэсельца. Па слову кіраўніцы, дзеці разыходзяцца па ўсім пакою, па сыгналу—кожны варочаецца на сваё месца. Паўтараем два тры разы. Працяг заняткаў 20 мінут.

6. **Работа ў кветніку.** Дзеці аглядаюць кветнік, прыводзяць яго ў парадак, заўважаюць, што некаторыя кветкі адцьвілі, на мейсцы іх зьявіліся насеньне. Зразаюць кветкі для групы.

7. **Экскурсія на дрэваапрацоўчы завод або швэйную фабрыку.** З мэтай паглядзець арганізацыю працы і набраць адкіднога матэрыялу. Адзначаем на экскурсіі, як гудзіць гудок, як рэгіструюцца рабочыя, як усе становяцца на работу, назіраем работу аднаго цэху; рух машын і бярэм адкідны матэрыял. Прышоўшы, ўспамінаем, што бачылі на заводзе, ўспамінаем гук гудка: для граматы ўносім слова „у-у-у“ (гл. альбом „Гудок“ стар. 6 і мэтадычную запіску для яго).

8. **Гульня дзяцей.** Стымуляваньне прыладамі вытворчасьці і словамі „завод“ „у-у-у-“.

9. **Зрабіць канвэрты для слоў.** Раздаем дзецям другую старонку з альбома „Гудок“, там паказана выкрайка канвэртаў, дзеці выразаюць і склейваюць яго. Падкрэсьліваем, што для склейваньня паперы патрэбен мучны клей.

10. **Наладзіць гаспадарчы куток.** Вырашаем з дзецьмі, куды зьмясьціць шчоткі, тазікі (сьцірачкі. Якія трэба яшчэ купіць гаспадарчыя прылады, дзеці вешаюць вешалку, убіваюць цьвічкі і разьмяшчаюць мыла, мачалку, шчоткі, савочкі і інш.

Вывешваем таблічку з адпаведным малюнкам, куды штодзённыя дзяжурныя зьмяшчаюць свае імёны.

11. **Шыцьцё.** Задача—навучыць дзяцей шыць уперад іголкай. Кожнаму дзіцяці даецца кароткая тоўсгаватая іголка, зацягнутая ніткай, і адпаведны кавалачак матэрыі. Дзеці шыюць і абрубліваюць сьцірачкі і анучкі для гаспадарчага кутка. Кіраўніца паказвае, як закласьці рубец, як шыць; кожнаму дзіцяці пачынае шоў. Пры гэтым выбірае з кавалачкаў матэрыі толькі палатно і паркаль. Неабходна сачыць, каб у кожным відзе работы прымалі ўдзел у аднолькавай ступені і хлопчыкі і дзяўчынкі, падкрэсьліваючы, што на заводзе працуюць усе разам.

12. **Грамата.** Вывучаюць слова „шылі (,„Гудок“ старонка 18). Дзеці замалёўваюць малюнак, заштрыхоўваюць слова, а адзін з малюнкаў са словам вывешваюць ў тым месцы, дзе мяркуем наладзіць куток шыцьця.

13. **Арганізаваць куток шыцьця.** Трэба зрабіць з дзецьмі палічку, скрыначку для гузікаў, скрыначку для напарсткаў, некалькі скрынак для кускоў матэрыі, падстаўку для шпулькі з ніткамі падушачку для іголкі. Кіраўніца арганізоўвае работу так: падрыхтоўвае ўсе састаўныя часткі для кожнай рэчы. Дзеці падзяляюцца двойкамі, і кожная двойка атрымлівае прыгатаваны матар'ял. Дзеці дагаварваюцца паміж сабой, як выканаць работу, якія патрэбны інструманты. Кіраўніца дапамагае парадай. Калі зроблены гэтыя рэчы, ўсё зьмяшчаецца на палічцы, зьверху вывешваецца малюнак са словам „шылі“. Потым дзеці сартуюць абрэзкі матэрыі па сорту і раскладаюць у асобныя скрынкі. Да кожнай скрынкі і іншых прылад кіраўніца робіць надпісы: „ніткі“, „іголкі“, „сукно“, „палатно“, „гузікі“, „нажніцы“. Адно слова наклейв е на скрыначку, а другое такое-ж на тое мейсца, дзе яно павінна стаяць. Словы пішам невялікіх разьмераў у выглядзе подпісу, гэтыя словы мы спэцыяльна ня вывучаем з дзецьмі (яны не заштрыхоўваюць іх, не складаюць у канвэрт), але сустракаючыся з імі ў рабоце дзеці усвайваюць іх. Такі-ж надпісы мы робім і на іншых прыладах.

14. **Расказваньне або чытаньне кніжак.** Выбраць кніжкі на тэму „Жыцьцё дзіцячага саду, напрыклад Зіменак—„Першы дзень ў садзе“, Готліб—„Шурик в детском саду“ і інш.

15. **Лепка.** Дошчачкі павінны быць, а калі іх няма, то дзеці падрыхтоўваюць як апісана ў сярэдняй групе.

16. **Наладзіць сталярны куток.** Дзеці разьмяшчаюць на шчыце прылады, робяць скрынкі, кіраўніца наклейвае подпісы: малаток, піла, нож, цьвікі, клей. Пры гэтым падкрэсьлівае, што для сталяркі патрэбен сталярны клей.

17. **Музычныя заняткі.** Дзеці пад музыку ўваходзяць лінеечкай ў пакой, маршыруюць. Рукі пакласьці на галаву і хадзіць на насках, рукі апусьціць ўніз і хадзіць на ўсёй ступні. Потым пры першых рухах сьпяваць ціханька, пры другіх голасна. Хадзіць павольна, высока падымаючы калені. Стоячы паўтараць песьню, прайсьціся пад песьню. Сесьці кожнаму на сваё месца. Кіраўніца кажа „Дружна разам мы ідзем, у дзецкі сад мы ўсіх завем“. Гэтыя словы колектыўна гавораць пад дырыжорства кіраўніцы Спачатку павольна, а потым хутка. Прапанаваць кожнаму з дзяцей па чарзе прасьпяваць гэтыя словы на свой матыў

